Штэйнер, І.Ф. Кот-ваявода: смяхотная штука. І.Ф. Штэйнер. – Мінск, 2015. –150 с.

У жартаўліва-саркастычным стылі апавядаецца аб дзіўнай гісторыі, што здарылася зусім нядаўна на Палессі, аб незвычайных учынках людзей, якія патрапілі ў зачараванае кола яе ўплываў. На новым этапе эвалюцыі ўзнаўляюцца класічныя традыцыі народнай смехавой культуры, якія сведчаць, што чалавек зусім не змяніўся за апошнія дзве тысячы гадоў, як і не змяніліся ягоныя жаданні і жарсці, мары аб шчасці і радасці, надзеі на лепшую долю, дзеля здабыцця якіх ён адважваецца на якую хочаш авантуру. Высновы аўтара пацверджаны трапнымі выслоўямі вялікіх філосафаў, найперш славутага Эразма Ратэрдамскага.

© Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015

© PDF: Камунікат.org, 2015

**Змест:**

***Ceterum censeo praefationem non esse scribendam – Дарэчы, я думаю, што прадмовы пісаць не трэба.***

Аднак усё роўна, у поўнай адпаведнасці з традыцыяй пасылаю *Lectori benevolo salute (Прывітанне добразычліваму чытачу).*

*Няма такога неразумнага пісьменніка, які не знайшоў бы падобнага да сябе чытача (Nullus tam imperitus scriptor est, qui lectorem non inveniat simile sui). Няма і такой паганай кніжкі, якая была б зусім бескарыснай (Nullus est liber tam malus, ut non aliqua parte prosit).* Менавіта з такой надзеяй і пускае ў свет аўтар свой опус.

Чым жа ён можа здзівіць людства? Усё ў свеце даўным-даўно сказана, і новага ніхто сказаць не здатны, бо яго не можа быць па волі вызначэння, пра што яшчэ гаварыў мудры Эклезіяст: *Что было, то и будетъ, и что дѣлалось, то и будетъ дѣлаться, – и нетъ ничего новаго подъ солнцемъ. Бываетъ нѣчто, о чемъ говорятъ: "смотри, вотъ это новое"; но это было уже въ вѣкахъ бывшихъ прежде насъ.*

Тэрэнцый сцвярджаў падобны тэзіс 2000 год таму, а колькі за гэты час сказана ўсім чалавецтвам. Мы тонем у бархане слоў, а калі спрабуем вылезці з яго, то яшчэ больш топімся. Невыпадкова О. Уайльд заявіў: *Большинство из нас – это не мы. Наши мысли – чужие суждения, наша жизнь – мимикрия, наши страсти – цитата.* Таму яшчэ раз паўторым: няма нічога сказанага, што не было сказана раней – *Nullum est jum dictum, quot non sit dictum prius.* Новае – гэта добра забытае старое, – сказала Роза Бартэн, мадыстка Марыі Антуанеты, калі паднавіла любімую сукенку каралевы. Надзею на выхад з падобнай сітуацыі падаў яе кампатрыёт А. Жыд: *Все давно уже сказано, но так как никто не слушает, приходится постоянно возвращаться назад и повторять все сказанное.* А можа лепш згадаць закон прафесара Тарантогі, які адкрыў Станіслаў Лем: *Ніхто нічога не чытае; калі чытае, нічога не разумее; калі разумее, адразу забывае.* Менавіта таму кнігі нараджаюцца з кніг, а не з жыцця. Тэкст – гэта тканіна з цытатаў, якія часцей за ўсё ўзяты (яўна ці таемна) не з індывідуальнага вопыту, а з бясконцых цэнтраў культуры, дзе яны ўжо выконвалі сваю вялікую місію.

Для калекі, што ідзе ў свет, трэба падпора, кастыль, мыліца. Для гэтага опуса такой падпорай становіцца векавая мудрасць людства, што жыло шмат гадоў таму і высновы якога надзвычай актуальныя для сённяшняга дня. Няма розніцы, будзеш ты назіраць за чалавечым жыццём сорак гадоў ці дзесяць тысяч, у эпоху

калясніцы або паравоза ці самалёта. Бо што ты ўбачыш новага? Людзі будуць заўсёды рабіць адно і тое ж, як ты не спрабуй змяніць іх. Хто бачыць цяперашні дзень, той бачыў усё, што існавала тысячагоддзі, і тое, што будзе існаваць вечнасць. І нічым яно не вылучаецца і не адрозніваецца, можа толькі дэкарацыямі да адзінага дзейства.

Абсурднае і непраўдападобнае ў рэальнасці сустракаецца гэтак жа часта, як і ў паганых раманах. А паколькі ў мастацтве не дзейнічае шостая запаведзь: *Поэт может воровать направо и налево и не испытывать при этом ни малейшего угрызения совести* (І. Бродскі), то *творчае запазычанне* толькі ўзбагачае і аўтара, і ягоны твор. Тым болей вялікія не пакрыўдзяцца. Асабліва славуты Эразм з Ратэрдама, які праславіў Дурасць, што кіруе цэлым светам. Бо з ягонай лёгкай традыцыі з'явіліся кнігі, абумоўленыя не сакральнымі дзеяннямі, не высокім, амаль што боскім прызначэннем мастацкага слова, як тое прынята лічыць апошнія дзве тысячы гадоў, і звычайным смехам. І нараджаліся яны не *под сенью* класічнай музы, кабеты эфірнай, узнёслай і рамантычнай, з адвечнай лірай у руках, а ўбачылі свет з ласкі зусім не звыклай, кардынальна адрознай ад папярэдняй, апякункі, якой так баіцца і пазбягае адукаванае чалавецтва, хоць у гэтых уцёках, як і ўвасабленні самой музы, нябачна прысутнічае адна і тая ж рука. Яны (кнігі) не імкнуліся зрабіць свет лепшым, бо разумелі, што гэта ім не ўдасца, яны проста хацелі паспачуваць чалавеку, што ў пагоні за недасяжнымі марамі траціць сваю чалавечнасць.

Нічога не мяняецца пад небам. Таму аўтар опуса не толькі выкарыстаў фрагменты славутага твора, але і зведаў самы магутны ўплыў згаданай усясільнай багіні, што праявіцца на розных узроўнях тэксту і перш за ўсё ў нястрыманым жаданні быць падобным да тых старажытных рытараў, якія лічылі сябе амаль роўнымі Богу, калі ўдавалася ім стацца *двуязычными и полагать верхом изящества пересыпать латинские речи греческими словечками, словно бубенцами, хотя это было совсем некстати. Если же не хватает им заморской тарабарщины, они извлекают из полуистлевших грамот несколько устарелых речений, чтобы пустить пыль в глаза читателю. Кто понимает, тот тешится самодовольством, а кто не понимает, тот тем более дивится, чем менее понимает их учености. Ибо для нашей братии весьма приятно бывает восхищение всем иноземным. А ежели попадутся среди невежей вольных слушателей люди самолюбивые, они смеются, рукоплещут и потряхивают ушами ослиными обычаем, дабы другие могли считать их сведущими. (Эразм Ратэрдамскі, "Пахвала дурасці").*

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

Пішам дзеля ісціны, сцвярджае большасць філосафаў і пісьменнікаў. Хоць падсвядома дамінуе ўсё ж такі жаданне дагадзіць натоўпу *(Ad captandum vulgus)*, бо і сярод чытачоў нашмат болей тых, хто чытае раманы і баечкі, а не філасофію Платона. Ды і вялікія не грэбавалі дробязямі і жартамі. Так, Эразм Ратэрдамскі ў сваёй "Пахвале Дурасці" сцвярджае: *Но пусть те, кого возмущает легкость предмета и шутливость изложения, вспомнят, что я лишь последовал примеру многих изрядных писателей. Сколько веков тому назад Гомер воспел Батрахомиомахию (вайну мышэй і лягушак), Марон – комара и выеденное яйцо, Овидий – орех? Поликрат написал похвальное слово Бусириду, Фаворин – Терсита и перемежающуюся лихорадку, Синезий – лысину, Лукиан – муху и блоху, Плутарх – диалог Грилла (які быў ператвораны ў свінню) с Улисом, Лукиан и Апулей – похождения осла и, уже не помню кто, – завещание свиньи.*

Таму *Vadetecum.* Ідзі за мною, дарагі чытач, у наш свет, дзе таксама здараюцца незвычайныя гісторыі, што нагадваюць тую, пра якую спяшаюся табе паведаміць.

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

## *I Dubia plus torquent mala –*
## *Невядомыя няшчасці вельмі трывожаць*

*Только благодаря глупости жизнь бывает сносной*

*Ежели поглядеть на наш мир с высоты, как Юпитер смотрит, по рассказам поэтов, скольких бед исполнена жизнь человеческая: жалкое и грязное рождение, мучительное учение, детство, подверженное стольким обидам, юность, обремененная стольким трудами, тяжкая старость, горестная необходимость смерти, целая рать болезней, множество несчастных случайностей и житейских докук. Повсюду мед отравляется желчью. Не стану уже вспоминать, сколько зла причиняет человек человеку. Бедность, позор, бесчестие, пытки, мятежи, предательство, злословие, тяжбы, обманы… Но я уже, кажется, начала, как это говорится, исчислять песок морской. Негоже рассуждать здесь о том, какими грехами навлекли на себя все эти люди или какой гневный бог осудил их рождаться для бедствий и скорбей. Воистину, всякий, кто поразмыслит как должно, никогда не осудит Милетских дев, сколь ни жалка явилась их участь. Но какие люди чаще всего налагали на себя руки, пресытившись несносными печалями жизни? Не те ли, которые ближе всего стояли к мудрости? Не говоря уже о Диогенах, Ксенократах, Катонах, Кассиях и Брутах, напомню здесь Хирона, который мог быть бессмертным, но предпочел смерть. Судите сами, что случилось бы, если б все люди были мудрецами: опять понадобился бы кусок глины, и вновь пришлось бы работать Прометею. Но я при помощи невежества, бездумья, забвения всех зол и надежды на лучшее будущее опаиваю людей медом блаженства и так успешно помогаю им в бедах, что никто не желает расставаться с жизнью, пока Парки не кончили своей пряжи. Чем меньше у человека причин дорожить существованием, тем крепче он за него цепляется и не подозревает даже, что такое пресыщение и тоска. (Эразм Ратэрдамскі, “Пахвала Дурасці”)*

Як кажуць разумныя людзі, гісторыя паўтараецца двойчы, прычым першы раз як камедыя, а затым… Дык хто ж яго ведае, хутчэй за ўсё таксама ў выглядзе камедыі. Ва ўсялякім разе, менавіта ўсё так і пачыналася і на гэты раз. Са смеху, вясёлага і бесклапотнага, са смеху, што так моцна, нібы цунамі, узрушыў люд паспаліты і саміх галоўных асоб. Ну і як было не смяяцца двум героям, калі яны разам і кожны паасобку патрапілі ў цэнтр увагі суседзяў, родзічаў і грамадскасці ў самым шырокім разуменні слова. Тым больш, што

развівалася дзейства вельмі і вельмі незвычайна, нібы ў класічных галівудскіх шэдэўрах. Спачатку папаўзлі чуткі, што да хаты аднаго з паважаных жыхароў пад’ехаў чорны шыкоўны лімузін, з якога выйшаў не менш салідны чалавек у чорным гарнітуры з камізэлькай, зашпілены, хоць і спякота, на ўсе гузікі, у лакаваных туфлях і цыліндры. Праўда, наконт апошняга не ўсе ўпэўненыя, хадзілі чуткі, што гэта проста здалося, бо паблыталі, відаць, са службай пахавання, якая перад гэтым прывозіла са сталіцы труну з целам вядомага камерсанта, што выказаў волю быць пахаваным на радзіме, у чым мясцовыя старажылы бачылі жаданне і на смерці сэканоміць. Такі ўжо жмінда быў.

Чорны незнаёмец спытаўся ў гаспадара, як яго завуць, папрасіў паказаць пашпарт, а пасля ўручыў бліскучы канверт, падпісаны вялікімі літарамі, цісненымі золатам. Тая ж карціна паўтарылася зусім побач, ля хаты яшчэ аднаго жыхара, які быў швагерам першага. Узмацніла сітуацыю і тая акалічнасць, што кожнаму з атрымаўшых канверт давялося распісацца ў асобнай паперцы, якую пасля чорны чалавек паклаў у засургучаваны пакет.

У натоўпе нехта, хутчэй за ўсё настаўнік у велізарных акулярах, загаварыў пра Моцарта, але прычым тут аўтар “Турэцкага марша”, славутай мелодыі, што была на мабільніку многіх, ніхто так і не зразумеў.

Не паспеў спрадвечны пыл вечнасці ізноў асесці на звыклую дарогу, як збянтэжаныя ўвагай швагры былі абкружаны з усіх бакоў раднёю, што імкліва рванула да іх, суседзямі, якія нецярпліва чакалі на сваіх дварах, і проста мясцовымі раззявамі, якім толькі падай штонебудзь цікавае і незвычайнае. Бо якія радасці трапляюцца цяперашняму месцічу? Ну хіба дробная сварка родзічаў ці подзвігі п’янтосаў, якіх столькі развялося, што і ўвагі на іх ніхто не звяртае. А раней, як пісаў Ул. Караткевіч, ён мог убачыць хоць пажар, які ахоплівае паўгорада, ці публічнае пакаранне смерцю злачынцы на галоўным пляцы. Цяпер жа ўсё змізэрнела, што зробіш – цывілізацыя. Хоць, як і ва ўсе вякі, болей за ўсё людзей і хвалюе тое, што абсалютна іх не датычыць. Праўду некалі сказала Мадлен дэ Пюнзье: *Любопытство – свойство детей, которые ничего не знают, и дураков, которым охота заниматься чужими глупостями.*

У страха вочы вялікія. Доўга не адважваліся дрыготкія рукі зламаць пячатку, але потым рашыліся: вочы баяцца – рукі дзейнічаюць. Папера, што ляжала ў канверце, не саступала яму па прыгажосці. На белым цісненым лісце з вадзянымі знакамі было выдрукавана надзвычай прыгожымі літарамі:

*Уважаемый господин Зять номер 1. Имеем честь пригласить Вас в головной офис для публичного оглашения завещания Вашей тещи Зборовской Адели Казимировны и юридического оформления вступления в наследство. Примите искренние уверения в глубочайшем уважении и почтении. Главный нотариус инюрколлегии…*

Унізе была гербавая пячатка і заліхвацкі подпіс.

Усе здзівіліся. Замоўклі. І ў глыбокай цішыні зусім недарэчным стаўся нервовы смяшок, якім адгукнуўся Зяць 2 і з якога вырас затым вялікі смех:

– І ў ва што там уступаць? Што там прымаць? Хату, якая стаіць толькі таму, што не ведае, на які бок упасці?

Пакуль ён згадваў цешчыну сядзібу, што знаходзілася амаль за дзвесце кіламетраў адсюль, яго падтрымаў расчараваны Зяць 1, спадзяванні якога растварыліся, нібы туман на лузе:

– Ці паламаны плот ля лазні над сажалкай, якая даўным-даўно зарасла лазняком і асакою… Там кракадзілы ўжо мабыць завяліся…

І таксама моцна ўздыхнуў.

– А што, цешча ваша памерла? – раздаўся голас суседкі, якая сама ўжо стаяла ў чарзе да могілак, таму вельмі цікавілася ўсім, што звязана з гэтым. Што ж зробіш, усе там будзем. Тым больш, як сказаў Лукіян, *несчастье ближнего нас утешает в наших несчастьях.*

– Не ведаю, – пацiснуў плячыма адзін. – Казалі неяк, што моцна хварэла. Але, здаецца мне, усё нармалёва. Ва ўсялякім разе ніхто нічога такога не казаў.

– І я не чуў, – уздыхнуў другі. – Ты даўно ў яе быў? – звярнуўся ён да швагера, якога не вельмі любіў, а таму адносіны паміж імі былі даволі нацягнутыя.

– Ды гадоў з пяць, не менш, – вымушаны быў прызнацца той. А потым, нібы ў апраўданне, заявіў даволі рэзка, тым больш, што людзі ўжо разышліся. – А чаго да яе ездзіць?

– А то! – чамусьці адразу згадзіўся Зяць 2. – Пенсія ў яе маленькая, калгасная, на салярку для майго мінівэна не хопіць. Ну і жрэ, каб яго, – згадаў ён свой аўтамабіль, якім ціхенька ганарыўся.

– Але ж ты ад яе раней не вылазіў, – не ўтрымаўся швагер. – Месяцамі сядзеў там. Асабліва летам ці восенню, калі ўраджай трэба было сабраць. І работа не замінала.

– Ды і ты не праязджаў міма, – вяла апраўдваўся сябрук па жыцці.

– Ой, – прымірэнчым голасам сказаў Зяць 2, фантазія якога плыла ў эфір. – От то былі часы. Варта было прыязджаць. Грыбы раслі

ад самой хаты, у сажалцы карасі з уюнамі плавалі, рукамі лавілі. Любата.

– Было ў яе чатыры каровы, – падключыўся Зяць 1, які загаварыў у стылі Марка Пола, хоць і сам пра тое не ведаў. Гэта будзе з ім здарацца у будучым, прычым не аднойчы паўторыцца. – Сем свіней, сорак гусей, паўсотні качак. Індыкі і фазаны, нібы паўліны, гулялі па двары, курэй дык і наогул не лічылі. Яны, як недзе ў Індыі, на іх прарадзіме, начавалі на ліпах, а ежу, як вераб'і, самі здабывалі.

– А цяпер, – махнуў рукою Зяць 2, палёт думкі якога раптоўна абарваўся.

– Праўда твая, – згадзіўся першы.

Яны задумаліся, а потым першы спалохана зашаптаў:

– Слухай, дык можа яна сапраўды памерла, калі гаворка ідзе пра завяшчанне…

– Ды не, – супакоіў другі, хоць сам у душы ўстрывожыўся, – нам бы паведамілі. Пазванілі б. Такі парадак. З гэтым цяпер строга. Нехта ж хаваць нябожчыкаў павінен. Дзяржава ўсіх не зможа дагледзець. Тут з жывымі не спраўляюцца.

– Праўду кажаш. Слухай, а цябе цешча болей любіла. Таму забірай сабе ўсё: і хату, і лазню, і сажалку, і яе самую. З кракадзіламі. Гы-гы…

Але другі з такой шыкарнаю прапановай не пагадзіўся:

– Не, мой дарагі. Ты заўсёды хацеў заняцца камерцыяй, адкрыць сваё дзела. Вось табе і карты ў рукі. Забірай цешчыну спадчыну разам з ёю, аграсядзібу зробіш, будзеш турыстаў прымаць. Спачатку сваіх, а потым заморскіх, якім усё адно дзе валачыцца. А тут экзотыка. Некранутая прырода, нібы ў Афрыцы. Разбагацееш, тады сам па свеце пабадзяешся, у Тайланд з'ездзіш, на сланах пакатаешся. – Зяць успомніў, як ён упаў з каня, пад ногі якому з канапель выскачыла свіння, і крыху засмуціўся.

– Лепш на вярблюдах ці аслах, не так страшна. Ведаеш, каб аграсядзібу зрабіць, трэба база, харчы найперш. А ў яе з ўсёй жыўнасці адзін толькі коцік застаўся.

– А як жа я пра Максіма забыўся, – успомніў таварыша цешчы па няшчасці, некалі маленькага і ласкавага коціка, названага так у гонар героя народных казак. – А ён хіба яшчэ жывы?

– Што з ім зробіцца? Гэта ж не чалавек. Каты наогул жывучыя, трывушчыя. Казалі, што жывы. Толькі цяпер яны і сядзяць удваіх на печы, баба і кот, нібы ў той казцы, адзін аднаго саграваюць, байкі баюць.

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

– Ты яшчэ скажы, што Максім ёй ловіць вараб’ёў і галубоў на абед, зайцоў падманьвае, каб схапіць ды стушкаваць у печы. Можа ён і нам прынцэсу знойдзе і здабудзе, – згадаў тую ж казку ягоны родзіч па шлюбнаму закону. – Зусім здурнеў ці што?

– Здурнееш тут. Знаеш, давай мы зусім ад той спадчыны адмовімся. А то мы за яе атрыманне і за падатак на ўступленне ў правы заплацім значна болей, чым заробім. Я гэта ведаю, – ён яшчэ раз прадэманстраваў сваю эрудыцыю.

– Зробім жэст добрай волі, як кажуць па радыё. Аддадзім усё на скарб паньства, як крычалі польскія мытнікі, калі канфіскавалі ў мяне кантрабандныя цыгарэты, – засмяяўся Зяць 2.

– Давай. Во будзе хохма: кот на скарб паньства, *в пользу государства*, а то яму ўсё мала. Такога яшчэ на свеце не было, – задаволена падхапіў калега. – Свойскую жывёліну падарылі, ад сэрца адарвалі.

– Га-га! Кот у карысць дзяржавы. І што яна, родная мая краіна, з ім рабіць будзе?

– Прыстроіць куды-небудзь. У нас ніколі нічога не прападае. А што ж такі здарылася з цешчай? Але Бог з ёю: заўтра ў гэтай інюркалегіі і даведаемся. А потым проста так і заявім: адмаўляемся.

На гэтых словах яны і разышліся, зусім не думаючы пра заўтрашні дзень, які, аднак, усё перавярнуў у іх жыцці. *Albo dies notanda lapillo – Дзень гэты белым каменьчыкам адзначу*, гаварыў за дзве тысячы гадоў да гэтага рымскі паэт Катул. Так і здарылася. Пра той дзень гаворка ішла доўгі час, абставіны пастаянна мяняліся, акцэнты ўзмацняліся, увесь час з’яўляліся ўсё новыя і новыя падрабязнасці, удакладненні, уводзіліся ў дзейства новыя персанажы, таму мы вырашалі падаць стэнаграфічную справаздачу з гэтага мерапрыемства, дапоўніўшы яе запісам з відэакамеры, зробленым у кабінеце інюркалегіі, які выкралі адтуль журналісты-пралазы. Яны сведчаць, што справа адбывалася так:

Пачуўшы ў першы раз тастамент, усе прысутныя, якіх сабралася вельмі багата, застылі ў самых неверагодна разнастайных, падчас нават пікантных позах. Ва ўсіх адняло мову; кожны імкнуўся выказаць нешта балючае, важкае і істотнае, жэстамі, мімікай, абліччам, скручаным тулавам.

Натарыус. Панове! Господа! *Lady and gentlemen!* Ну што вы так! *(разгублена, убок)* Такога яшчэ ніколі не здаралася ў маёй практыцы за апошнія тры дзесяцігоддзі найпаспяховейшай дзейнасці на ніве натарыяту.

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

Панове!!! Таварышы!! Господа! *(не так упэўнена, штучна кашляе)* Пачынаю спачатку. Яшчэ раз. *(звініць маленькім званочкам, стукае па шклянцы з вадою на стале. Прысутныя ажываюць і ціхенька, аглядаючыся на ўсіх і саміх сябе, моўчкі, нібы няўцямна, садзяцца на свае месцы, адкуль толькі што паўскоквалі і закамянелі ў нямой сцэне).*

Пачынаю яшчэ раз, па парадку. *Ab ovo*, як сказана ў аналах, гэта значыць законах “Рымскага права”, Jus romanum па латыні. *(керхае, папраўляе каўнерык).*

Прашу ўвагі. Зараз я буду паўторна агалошваць увесь тэкст тастаменту з самага пачатку, бо рэакцыя слухачоў пасля першага прачытання зусім, на мой погляд, неадпаведная. Таму заклікаю ўсіх яшчэ раз уважліва выслухаць і не ўпадаць у ступар, не ствараць нямой сцэны, як першым разам. Слухаем моўчкі, не перабіваем, эмоцыі, якія ўзнікнуць, старанна хаваем. Усе пытанні, заўвагі, пажаданні выказваць толькі потым, у самым канцы, пасля дэталёвага азнаямлення са зместам тастаменту. Хто будзе крычаць ці гігікаць, таго вывядзем. *(Потым ён ужо больш лагодным голасам запытаўся)*:

Можа каму-небудзь валяр’янкі накапаць ці лекара выклікаць?

*Аднак, як паказаў запіс відэакамеры, умяшанне медыцыны не спатрэбілася, бо усе ўдзельнікі нямой сцэны ажылі, прычым настолькі, што пачалі шаптацца між сабою, нешта мармытаць, задаваць пытанні, з падазронасцю паглядаючы на суседзяў, а потым на натарыуса. Галасы гучэлі з усіх бакоў, прычым адначасова:*

– А ці бываюць масавыя галюцынацыі?

– А ці правільна мы ўсё пачулі і зразумелі?

– А ці сапраўдны тастамент?

– А ці сапраўдны сам натарыус?

Натарыус. *(рэзка абрывае гамонку)* Сапраўдны! Сапраўдны! Усё сапраўдна! І дакумент. І сам натарыус *(прыўстае).* Вось і ліцэнзія *(паказвае).* Вось і сам тастамент. А вось і сапраўдная гербавая пячатка.

Другі зяць. А з нечым падобным вы сутыкаліся раней, ці можа чулі або чыталі ў сваім “Рымскім праве”?

Натарыус. *(гаворыць доказна, каб падкрэсліць сваю значнасць і схаваць яўную няўпэўненасць)* Шмат разоў. *Восо corpus juris vivilis і corpus juris Romani (ён ледзь узняў два талмуды ў саф’янавых вокладках, у якіх былі змешчаны кодэксы “Рымскага права”).* Што толькі не траплялася ў нашым жыцці, якія толькі дзівосы з намі не здараліся. А пра сусветную гісторыю я ўжо зусім маўчу. У “Сатырыконе” Петронія Еўмол выграшыў так: *Все, поименованные в*

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

*моем завещании, получат им даруемое при условии, что тело мое расчленив, съедят его на виду у народа.* Адна бабулька са сталіцы перапісала сваю кватэру самым блізкім людзям – Малахаву і Гузеевай, якія кожны дзень прыходзілі па тэлевізары ў яе дом, у адрозненне ад унукаў, што наведваліся толькі на пасху. А егіпцяне наогул пакланяліся жывёлам, а пажыралі людзей. І ўсё было па закону.

Першы Зяць нешта хацеў сказаць, нават устаў, але толькі ўздыхнуў, затым махнуў рукою і з выразнай роспаччу пачаў садзіцца.

Натарыус. *(узнёсла, пафасна)* Good gentle Romans! Romans! Friends! Countrymen! Lend me your ears! I come to bury, Caesar, not to praise him! (*ад хвалявання цытуе Шэкспіра, пасля чаго, зразумеўшы марнасць намагання, заявіў*: Што я раблю? Margeritas avte porcos – Метать бисер перед свиньями, *і рэзка знізіў пафаснасць.*

– Добра. Паколькі пытанняў няма, папрашу яшчэ раз цішыні і ўвагі. Я паспрабую паўторна растлумачыць сутнасць справы, бо тут мы па сутнасці маем дзела з двума завяшчаннямі, г.зн. тастаментамі. Слухаем першае*: Инюрколлегия с глубоким прискорбием сообщает, что в городе Лондоне скончался подданный ее королевского величества Адамович Иван Казимирович, 1922 года рождения, уроженец Гомельщины. Согласно последней воле усопшего, все личное движимое и недвижимое имущество, а также банковские счета на общую сумму 1,3 миллиона фунтов стерлингов…*

Далей не змог чытаць, бо яго заглушылі галасы:

– А прычым тут мы?

– Колькі, колькі?

– Дзе? Хто?

– Дзе? Колькі?

Натарыус. *(не зважаючы ўвагі, працягвае) завещаны его родной сестре Зборовской (в девичестве Адамович) Аделе Казимировне, которая вступила в наследство полгода назад.*

Першы зяць. Што? Мільёны? Цешчы?

Другі зяць. Што? Фунты? А якія суадносіны фунта і даляра?

Першы зяць. Паўгода… Шэсць месяцаў. І маўчала…

*Цішыня. Усе разгублена пазіраюць адзін на аднаго. Раптам ускокваюць зяці. Адзін са сведкаў потым сцвярджаў, што чуў песню з мультфільма “Мама для мамонтенка”: “Пусть мама услышит, пусть мама придет, пусть мама меня непременно найдет”. Аднак дакументальна гэтае сведчанне не пацверджана.*

Другі зяць. *(ускоквае)* Дзе мая любімая цешча? Не. Не цешча. Дзе мая родная мамачка?

Першы зяць. *(плачучы).* Хачу да мамы. Яна мне заўсёды была большай мамачкай, чым родная.

Другі зяць. Не дазволю. Я забіраю дарагую мамачку, Адэлю Казіміраўну, да сябе, бо ў мяне хата большая.

Першы зяць. Я забіраю дарагую мамачку да сябе, бо я яе люблю больш за ўсіх на свеце.

Галасы.

– Няхай жыве ў нас…

– На беразе рэчкі…

– Да нас, у нас дача харошая…

– Мы забярэм яе, мы таксама родзічы…

Натарыус. Гэта немажліва, бо яе тут няма. Супакойцеся. Гэта не канец справы, гэта далёка не ўсё.

Я сабраў вас усіх для таго, каб давесці да вашага ведама апошнюю волю шаноўнай пані Адэлі Збароўскай, якая перад ад'ездам на Захад дзеля жыццёва неабходнага, аднак у той жа час вельмі рызыкоўнага лячэння, вырашыла на ўсялякі выпадак распарадзіцца сваёй маёмасцю і зрабіць неабходныя даручэнні, таму прашу ўвагі. Яшчэ раз чытаю завяшчанне Адэлі Казіміраўны. *(усе змаўкаюць).*

Я, Адэля Збароўская, знаходзячыся пры поўным розуме і ў цвёрдай памяці…

Першы зяць *(не вытрымаў і амаль істэрычна спрабаваў перабіць аратара):* – Сумняваюся я вельмі. Нармальных цешчаў не бывае.

Натарыус. *(не звяртаючы ўвагі)* …з поўнай адказнасцю заяўляю: усю нерухомасць, якую мне перадаў мой нябожчык брат, царства нябеснае ягонай душы, уключаючы кватэру на галоўным праспекце сталіцы Брытаніі з пентхаўзам і гаражом на пяць аўтамабіляў, самі аўтамашыны, лецішча на возеры ў Шатландыі з відам на Лохнескую пачвару і з сасновым борам плошчай пяцьдзесят акраў, завод па вытворчасці макаронаў, вілу ў Ніцы…

Першы зяць. Ах ты, скнара, такія скарбы мела. А я якраз паўгода ва ўсіх пазычаю грошы на дабіты "Volkswagen".

Натарыус. *(не звяртаючы ўвагі, працягвае)* і іншыя больш дробныя аб'екты падзяліць наступным чынам…

Першы зяць. Толькі б мне… О, Божа, зрабі цуд.

Другі зяць. Толькі б мне… Пудовую свечку ахвярую, новую ікону і панікадзіла для сабора замоўлю…

Натарыус. …маёй памочніцы, супрацоўніцы сацыяльнай службы, а па-сутнасці дарагой сяброўцы Марусі, якая даглядала мяне з любоўю, а не па абавязку, пажыццёвая рэнта ў памеры дзесяці

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

мінімальных пенсій па краіне; пералічыць грошы ў неабходным аб’ёме на ўпарадкаванне могілак у роднай вёсцы, дзе мяне і пахаваць, на рэстаўрацыю царквы і школы там жа, адліўку новых званоў…

Першы зяць. І дзе ж яна так награшыла, што і званы новыя трэба?..

Другі зяць. Цыц! Могілкі – гэта святое. Тым болей для цешчы.

Галасы.

– А нам?

– І мы родзічы.

– І мы вас любім.

Натарыус. …унучкам на вучобу за мяжой і на пасаг. Усе астатнія грошы і маёмасць, пералічаная вышэй і згаданая ў дадатку, завяшчаюцца…

Першы зяць. *(не вытрымлівае, ускоквае)* Мне! Я болей за ўсіх любіў цешчу!

Другі зяць. *(не вытрымлівае, ускоквае)* Мне! Мяне мамачка больш любіла!

Натарыус. …Майму любімаму, дарагому кату Максіму, які, у адрозненне ад усіх прысутных, што сквапна ўслухоўваюцца ў гэтыя словы, любіў мяне проста так, без усялякай выгоды. Саграваў мяне на печы ад добрага сэрца, зусім не думаючы пра грошы, вілы і дачы з відам на кракадзілаў.

*Усе анямелі. Першымі ачомаліся Зяці.*

Першы зяць. Курва!

Натарыус. Што вы сказалі?

Першы зяць. Нічога. Гэта па-польску.

Натарыус. Я ведаю.

Другі зяць. Сцерва!

Натарыус. Што вы сказалі?

Другі зяць. Нічога. Гэта па-руску.

Натарыус. Я ведаю. Чытаю далей. Паколькі Максім не можа да канца зразумець і адразу распарадзіцца спадчынай, апекуном назначаю нашага мясцовага ветэрынарнага ўрача Пульхерыю Фемістоклаўну, якая лячыла Максіма, даглядала яго. І самае галоўнае – яна разумее ягоную мову, гэта значыць, зможа зразумець усе ягоныя жаданні і памкненні, а таксама дапаможа наладзіць кантакт з людзьмі. Таму завяшчаю вылучыць неабходную суму для набыцця сучаснай ветэрынарнай клінікі ў абласным цэнтры, каб даглядаць ката на высокім ўзроўні. Дарагім зяцям за іх любоў і клопаты, за сардэчнасць і ласку выдаць па дзесяць тысяч фунтаў на дробныя расходы. Прывітанне, зяцькі!

*Далей службы не змаглі расшыфраваць усе воклічы і стогны публікі, апрача плачу і скавытання зяцёў, што ірваліся з самай глыбіні душы. Вось чаму прагучэлі над гармідарам іх сінхронныя рэплікі:*

Першы зяць. Курва. Ты мяне заўсёды ненавідзела.

Другі зяць. Сцерва. Ты мяне ніколі не любіла.

*А потым, ужо ў цішыні, слова ўзяў Натарыус, які афіцыйна заявіў:* Тэстамент зроблены мною, старэйшым натарыусам імярэк, дата, месца, подпісы, пячатка, і набывае законную сілу з моманту агалошвання. *(Ізноў нямая сцэна, святло тухне, той жа самы сведка сцвярджаў, што гучала песня «Слушай, теща, друг родной»), аднак дакументальна і гэты факт не зафіксаваны, як і галашэнні прысутных. Але ў апошняе можна верыць.* Ploratur lacrimus amissa pecunia veris – Денег лишившись, рыдают и льют неподдельные слезы).


© PDF: Камунікат.org, 2015

## *II Asinus asinum fricat –*
## *Асёл трэцца аб асла.*

*Глупость – лучшая приправа попойки*

*Впрочем, многие мужчины, и прежде всего старики, более пьяницы, чем женолюбы, высшее блаженство полагают в попойках. Можно ли представить себе веселый пир, на котором отсутствуют женщины, – об этом пусть судят другие. Но совершено несомненно, что без приправы Глупости нам ничто не мило. Это до такой степени справедливо, что во всех случаях, когда подлинная, непритворная Глупость не увеселяет гостей, нарочно приглашают за плату наемного скомороха или смешного приживала, который забавными, т.е. глупыми, речами прогоняет молчание и скуку попойки. В самом деле, стоит ли обременять чрево всякой снедью, лакомствами и сластями, если при этом глаза, уши и дух наш не услаждаются смехом, играми и шутками? А для угощений этого рода я – незаменимая повариха. Кто установил все пиршественные обряды – избрание короля пира по жребию, здравицы, питье вкруговую, пение с миртовой ветвью в руках, прыжки, кривлянье? Не семь человеческих мудрецов? Нет, не ими, а мною заведено все это для блага человеческого рода. Свойство всех этих обычаев таково, что, чем больше в них Глупости, тем они полезнее смертным, ибо печальная жизнь не заслуживает названия жизни. А жизнь непременно будет печальна, ежели не изгонять рожденную вместе с нею тоску посредством всевозможных забав. (Эразм Ратэрдамскі, “Пахвала Дурасці”)*

Зяць 2 здзіўлена прыўзняў вочы: ногі прывялі яго да бара, што прывольна раскінуўся на высокім беразе ракі. І ў чарговы раз здзівіўся мудрасці будовы сусвету, дзе ўсё так згарманізавана, усё да ладу, і ў глыбокай цішыні рухаюцца планеты і зоркі, ткучы долю кожнаму індывідууму, што блукае па гэтым лепшым з сусветаў. Менавіта толькі такі вывад можна было прыняць за выснову ягонай трывалай вандроўкі, бо ён зусім і не думаў пра гэтае яскравае падраздзяленне *общепита,* якое прайшло складаную эвалюцыю ад сціплай “Закусочной” да заморскай “Таверны «Востраў скарбаў»”. Згадаем у дадатак яшчэ знамянальны факт, што на гэтым фундаменце да рэвалюцыі стаяла славутая карчма, якая і надавала непаўторнае аблічча ўсяму пасяленню.

У мястэчку пілі заўсёды, яшчэ з часоў неаліту, звесткі пра што захаваліся ў паданнях. Іншыя гарады згадваюцца ў летапісах толькі з

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

casus belli: або іх разбуралі, або яны ўдзельнічалі ў аблозе іншых. Мясцовы Краязнаўца, апантаная і неўгамонная асоба, даказаў, што першая згадка пра ягонае роднае паселішча звязана з судовым працэсам аб прыналежнасці карчмы, у якім, што ж то дзеецца, мясцовы селянін перамог шынкара і завалодаў пітвовай установай. Можа таму гэты выпадак і застаўся не толькі ў памяці здзіўленых суседзяў, але і ў пісьмовых крыніцах. Як бы там ні было, але з таго часу яна засталася цэнтрам рэгіёну. Тым болей, што ў блаславёныя далёкія часы карчма з'яўлялася не толькі тым, што мы цяпер уяўляем, пачуўшы ці вымавіўшы гэтае слова, але і своеасаблівым домам культуры, клубам. Ну можа не па інтарэсах, як клуб джэнтльменаў (які ж тут інтарэс), а праявай духоўнага жыцця жыхароў рэгіёну, дзе панаваў лозунг: *Onimum sine litteris mors est hominis vivi sepulture – Досуг без занятий наукой – это смерть и погребение живого человека.*

Тут знаходзілі месца і падарожныя, і мясцовыя людзі, якія ладзілі свае гульні і скокі, тут распаўсюджваліся асноўныя навіны навукі і рэлігіі, тут заключаліся дамовы, адзначаліся барышы, плакалі з няўдачы і радаваліся шчасцю. А яшчэ ў гэтым кодле распуства і крыўды, па сведчанні аднаго манаха, магла жыць і нячыстая сіла. Бо яшчэ раней, як пісалася ў газеце, тут было нейкае капішча. Што гэта такое, Зяць 2 не ведаў, але зразумеў, што нешта паганае і магутнае: невыпадкова ўсіх гаспадароў і загадчыкаў гэтай установы пры розных уладах (дарэмна яны страляліся і вешаліся) чакаў цяжкі лёс: або турма, або ўласны дыхтоўны дом.

Але хутчэй за ўсё выпадала і тое, і сёе, праўда, не заўсёды ў прамым парадку: дом→турма. Здаралася і наадварот. Што ўсім, тое і бабінаму ўнуку. Такі ж быў закон, які ніхто не намагаўся пераадолець. І цяперашні дырэктар зусім не марыў сысці з гэтага адвечнага шляху, бо з самага свайго прызначэння быў гатовы без прынукі, без гвалту, без кракадзілавых слёз засяліцца або туды або сюды, прычым згодны і без перасадкі. Такую долю высвецілі яму зоркі, што заўсёды міргалі над мястэчкам, паказываючы кожнаму з ягоных жыхароў толькі таму наканаваную дарожную карту.

*Куда может вести дорога, если она не ведет к храму?* Мала хто задаваўся гэтым пытаннем. Тым болей, калі ідзеш апостальскім ходам, г. зн. пехатою. Пачаткам вялікай дарогі для цяперашняй духоўнай установы і яе кіраўніка сталася фірмовая салата з авакада і крэветак пад назвай "Пацалунак мексіканкі", бо некаторым найбольш багатым кліентам прапаноўвалі пад яго заказваць тэкілу, што выраблялася на мясцовым вінным заводзіку (была невялічкая лінія), якую адкрылі замест разліву сітра: апошняе ўжо не карысталася

папулярнасцю ў эпоху *“Coca-cola”* і *“Sprite”*. Тэкіла таксама была так сабе, але хто ж мясцовага люду ведаў смак сапраўднай, зробленай з кактусаў, узгадаваных у сапраўднай пустэльні? Салата запраўлялася соўсам ліёнскім, зробленым у лепшых традыцыях еўрапейскай кухні. Прачытаўшы ў адрыўным календары заўвагу аб тым, што непаўторнасць кожнай страве надае менавіта соўс (па-французску), загадчык падзівіўся вялікай мудрасці цывілізаваных нацый і стаўся яе верным апалагетам. У тым жа календары ён вычытаў, што ў дарэвалюцыйнай расійскай арміі вышэйшым афіцэрам выдаваўся на сухі паёк паштэт з рабчыкаў. Пасля рэвалюцыі, калі славутых рабчыкаў паелі праклятыя буржуіны, было дазволена дабаўляць у паштэт каніну. Спачатку патрошку, потым у кухароў развязаліся рукі, і яны сталі рабіць дэлікатэс у суадносінах адзін да аднаго – на аднаго рабчыка адзін конь. А класічны смак зусім не змяніўся, што і засведчылі людзі.

Загадчык таверны творча выкарыстаў дасягненні еўрапейскай матэрыяльнай культуры. Спачатку ў заморскай страве авакада змянілі на родную рэпу ці агуркі (іх называлі для некаторых занудлівых кліентаў *побеги молодого бамбука*), а потым замест крэветак пачалі дабаўляць мяса мясцовых ракаў. Затым, палічыўшы і гэта непатрэбнай раскошай, звычайную мойву. Але ніхто так і не зразумеў, а таму і не ацаніў па належнаму поспехі мясцовых кулінараў: уся пікантнасць у соўсе. Заставалася адна надзея на цаніцеляў з органаў, кухароў ва ўніформе, што ніколі не драмалі.

Няма сумненняў, што ногі Зяця вяла нейкая магутная, пачварная, а таму такая неадольная сіла. *Не сама к табе прыйшла я, сэрца прывяло*, – круціўся у галаве радок з нейкай песенькі, што чуў па радыё. Так і ёсць. Мы проста цацкі ў руках магутных сілаў – падумалася б яму, калі б прывык думаць. Аднак гэты працэс быў ніяк не звязаны з хадою, бо ногі працавалі асобна, не слухаючыся зусім галавы. Ягоныя сябры смяяліся, што ён адначасова не можа ісці і лузгаць зярняты, г.зн. яшчэ не дасягнуў сугучча паміж разумовымі і фізічнымі працэсамі, але рухаўся ў гэтым кірунку.

Зяць 2 не памятаў, як выйшаў з інюркалегіі, дзе блукаў, як развітваўся з родзічамі (ды і ці развітваўся наогул), каго сустрэў на вуліцы па дарозе ў заклятае месца. Тое, што ён можа хадзіць на “аўтапілоце”, пацвярджала шматгадовая практыка: вельмі часта ён не памятаў, як вяртаўся з гасцей ці з сяброўскай складчыны. Аднак цяпер сітуацыя выглядала вельмі дзіўнай, бо ён быў цвярозым. Абсалютна. У дадатак яшчэ некалькі дзён, што было вельмі рэдка і, як аказалася, даволі шкодна для арганізму, які трапляў у складаную

сітуацыю, не ведаючы добра, як сябе паводзіць. Таму ён вырашыў і далей не выпрабоўваць долю і аддацца на волю яго вялікасці выпадку – куды крывая вывядзе. Усміхнуўшыся пірату, які яму падміргнуў адным вокам, смела штурхнуў моцныя дзверы з ілюмінатарам, за якім гуло заморскае жыццё. Яшчэ раз падзівіўшыся велічы і мудрасці *провидения*, увайшоў у змрочную веранду, што нагадвала палубу карабля, і амаль адразу супакоіўся. Родны, знаёмы да драбніц гул, нязменны чыннік падобных устаноў, адразу настроіў на адпаведны лад, такі блізкі і зразумелы душы і сэрцу. Непараўнальны ні з чым стук піўных куфляў, пах вэнджанай таранкі, салат з авакада з крэветкамі, хруст чыпсаў, звыклыя размовы сталіся тым камертонам, што вяртаў спляжаны мітрэнгай настрой і нервы ў адпаведнасць з вечным законам, аднаўляў парушаную гармонію сусвету. А калі ён заказаў куфаль піва, ракаў, а затым, пасля пэўнага вагання, і гарэлкі, бо, як казалі разумныя людзі, віно – самы гігіенічны напой, то яму ізноў захацелася жыць.

– І чаго ж гэта я гойсаў па свеце, нібы той пірат аднавокі, шукаючы скарбы, якія не палажыў. І Сібір прайшоў, і Маскву, і Варшаву. Ды так нічога і не знайшоў. А скарбы, аказваецца, былі тут, пад нагамі.

Згадаўшы піратаў, ён доўга думаў, ці была ў іх цешча. Не, відаць, яны самі грошы здабывалі. А потым яго разабраў жаль і ён пачаў пацііху шкадаваць і цешчу, і карсараў, а найперш сабе.

– Чаму ж я не кінуўся да яе паўгода таму, калі тэлефанавала яе апякунка і перадавала, што маці жончына, цяпер ён стаў успрымаць яе як сваю, тым болей, што долі іх абоіх былі так падобныя, слёзна просіць прыехаць. А потым і ліст прыслала, дзе пра нейкую спадчыну гаварыла, пра Англію з Вялікабрытаніяй. Я і чытаць і, тым болей, гаварыць не стаў. Думаў, звар’яцела старая. Крыша паехала, – ён задумліва пацягваў піва, міжволі прыслухоўваючыся да суседняга стала, дзе распавядалі анекдоты. – Збылася мара ідыёта пазбавіцца жончынай мацеры. Усё прапала. Усё прапала. А так хораша пачыналася, – ён кінуў позірк у люстэрка, адкуль на яго глянула нешта невыразна-пачварнае, у чым з цяжкасцю пазнаў сябе. А якія ж былі спадзяванні…

Раптам ён здзіўлена і трохі спалохана глянуў на бар-стойку, дзе ляжалі вараныя ракі: цэлая гара чырвоных членістаногіх заварушылася і ледзь не папаўзла на яго. Зяць не ведаў, што хітрыя афіцыянты пад горку вараных ракаў кладуць некалькі іх жывых суродзічаў, якія і ствараюць падобную карціну.

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

– Гора толькі рака красіць. Хаця ў Кітаі жывуць чырвоныя ракі. Няўжо яны так пагана жывуць, – па-філасофску падумалася яму. Бо галаву свідравала толькі адзіная думка: Што рабіць? Што рабіць? Што рабіць? А можа, гэта мне пакаранне за мае грахі. За тое, што ўвесь час ваяваў з гэтым дурнем, Зяцем 1, думаў, што якраз ён галоўная пагроза майму шчасцю і марам. Псоты яму ладзіў, плёткі распускаў, шкоднічаў паціху. І за што?

Яму стала так шкада сябе, свайго жыцця, такой надзеі і вялікага расчаравання. Грошы, грошы. Праклятыя грошы. Без іх нельга. Ніяк не абыдзешся. Іх яму не хапала ўсё жыццё. А яны – шостае пачуццё, без якога ўсе астатнія абсалютна непатрэбны. Грошы надзвычай карысная рэч, таму што даюць табе мажлівасць не рабіць таго, што ты не любіш рабіць. А чалавек не любіць нічога рабіць, адно толькі адчуваць сябе чалавекам. Грошы! Ну, не было, і Бог з імі. Можна і так існаваць. А тут паказалі, і назад забралі. Так толькі чорт у казках падманьваў люд паспаліты. Далі мажлівасць пабыць Напалеонам 30 секунд.

І ў гэтай самоце нават швагруся пашкадаваў. Першы раз у жыцці. Выпіў гарэлкі, сцебануў піва. Сталася спакайней, дыхалася вольна, смяротныя грахі ўжо не здаваліся такімі. Тым болей, недзе ў цемры гучала песня з "Народнага альбому":

*І болей ніколі ў жыцці да Рагойшы*
*Я не пайду. Лепш нап'юся ў Мойшы.*
*У простай звычайнай карчме местачковай,*
*Гарэлкі празрыстай, гарэлкі жытнёвай.*

– О, Божа! – амаль залямантаваў ён. – Вярні цешчу, дай ёй розуму.

Ён памятаў, што нельга двойчы ўвайсці ў адну і тую раку, як і нельга выпіць адну бутэльку двойчы. Ды і дзве не вып'еш два разы. Але так хацелася спадзявацца.

– Буду яе любіць і паважаць, мамачку маю. Каханку кіну, – тут ён крывіў душою, бо даўно пра гэта думаў і так. Ад яе болей клопату, чым насалоды. – і стану харошым, чалавекам буду.

– …А траву трэба збіраць толькі ў поўнач. І расце яна толькі ў Белавежскай пушчы і па нашых ярах, – да яго даносілася цэлая лекцыя Краязнаўцы, які праводзіў дэгустацыю з чарговай групай аматараў і перадаваў рэцэпт старадаўняй самагонкі. Падчас гэтых дэгустацый летапісец краю зусім уладзіў пячонку, а таму стаў Філосафам.

– Лухту вярзе, – лянiва падумалася зяцю. – Мая цешча без усялякiх загавораў такую гарэлачку гнала, што…

Ён не дадумаў да канца, слёзы градам пакацiлiся ў пiва.

– Ах, мамачка. І трэба такое прыдумаць, – ён схамянуўся, бо некаторыя на яго паглядвалi. Аказваецца, гэта ўсё ён гаварыў уголас, настолькi быў усхваляваны. Таму зрабiў выгляд, што клiча афiцыянтку, i голасна замовiў:

– Паўтарыць.

А потым, пацягваючы пiва, вырашыў:

– *Не всех моих дней солнце зашло.* Я так проста не здамся. Маю ж сiлу, розум, спрыт, сувязi нарэшце. Я свайго не аддам. Забяру, што мне належыць i не толькi.

– А што ты зробiш? Што ты можаш? – наглы пiрат з экрана смяяўся яму проста ў вочы. Ад такога нахабства Зяць збянтэжыўся, скруцiў дулю ў адказ:

– Вось табе. Ты са сваёй хеўрай планаваў, бегаў, страляў, але так i не здабыў скарбы, хоць iх i бачыў. Дзiрку ад абаранка табе. А я не толькi маю план, але i здабуду золата. План няхай i фантастычны, але верагодны i нават рэальны. Інакшым ён i не можа быць у гэтай сiтуацыi.

Раптам схамянуўся. Проста на яго поўз велiзарны рак.

– Цьфу ты, страшыдла, – спалохаўся ён, успомнiўшы лекцыю Краязнаўцы, што нячыстая сiла якраз i жыве ў карчме ў самых разнастайных аблiччах i толькi чакае спрыяльнага моманту, каб спакусiць прыстойнага чалавека. Ён адхiлiўся, але раптам нешта прасiяла ў галаве, нiбы блiснула маланка:

– А можа, сапраўды ў д’ябла папрасiць дапамогi. Душу аддаў бы, нават не задумваючыся. Бо навошта ж яна ў цяперашнiх варунках, калi мара згiнула?

І тут усё паплыло перад вачыма. Яму падалося, як нехта тымi ж самымi словамi, але чужым голасам паўтарае ягоны маналог:

– Ах, мамачка. І трэба ж прыдумаць такое.

Уздых i затым вальней палiлося:

– Я проста так не здамся. Не здамся. Ёсць сiлы, здароўе, сувязi, розум, спрыт. Я свайго не аддам. Забяру, што мне належыць. І нават болей.

Спалоханы Зяць глынуў гарэлкi: – Няўжо галюцынацыi? Аднак голас знiк, замест яго пачуўся чарговы досцiп сяброў за суседнiм сталом:

– Я не п’ю. І не налiвай.

– Ч-ч-чаму? Гавары праўду!


© PDF: Камунікат.org, 2015

– Вера не дазваляе.

– Рэлігія забараняе? Ты што, іўдзей ці мусульманін?

– Не. Вера. Жонка. 150 кг важыць, у магазіне грузчыкам працуе.

Потым гэта сціхла і ізноў пачулася:

– Душу несмяротную заклаў бы, калі б хто-небудзь купіў. Бо навошта яна мне ў цяперашніх варунках. З д’яблам здружыўся б, калі б ён толькі дапамог.

Голас даносіўся з суседняга аддзела, адгароджанага стылізаваным плотам.

– Няўжо д’ябал так хутка пачуў мяне? – здзівіўся Зяць 2 і зазірнуў за агароджу, мяркуючы ўбачыць пачвару з капытамі ў чырвонай накідцы, але там… сядзеў ягоны швагрусь, Зяць 1. Аслупянелыя родзічы па волі лёсу доўга глядзелі адзін на аднаго, а затым другі моўчкі працягнуў першаму руку, паціснуў яе. Такое бывае ў жыцці, сказаў бы Філосаф, бо вялікае гора заўсёды яднае людзей высакародных і пачцівых дзеля дасягнення велічных ідэй і іх ажыццяўлення. Як казаў Лукіян з Самасаты, *адзін доіць казла, другі падстаўляе сіта.*

Відаць, якраз у гэтую хвіліну кожны з шукальнікаў багацця паасобку, а затым у кампаніі зразумеў, што лепш страціць палову, чым усё. Тым болей, што Філосаф працытаваў ім тэзіс Грасіяна:

*Найти человека, что поможет снести злополучье. Не будь одинок, особенно в деле неверном, – не то весь ропот на тебя одного обрушится. Иные полагают, что захватили всю власть, ан присвоили-то себе все нарекания. Посему надо иметь человека, который который либо будет тебя оправдывать, либо поможет снести неудачу. На двоих трудней и Фортуне посягнуть и черни напасть. Разумный врач, оплошав в лечении, не оплошает в том, чтобы пригласить коллегу, дабы тот в качестве консультанта помог ему нести гроб. Бремя и брань не худо делить пополам, а в одиночку тяжесть неудачи удваивается, становится невыносимой.*

Наш сучаснік эксперыментальным шляхам прыйшоў да высновы, пра якую казалі і старажытныя людзі: *Адзін чалавек не можа быць дастаткова разумным – A Nemo solus satis sapit.* Таму далей кожны думаў сваё:

– Вазьму я ў хаўруснікі гэтага ёлупня, Зяця 2. Ён недалёкі, нават дурнаваты, але подласць і двурушніцтва, састаўныя якасці ягонай душы, спатрэбяцца ў гэтай найскладанай справе, – ласкава глядзеў швагеру ў вочы Зяць 1.

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

– А можа, узяць у хаўруснікі гэтага абармота, Зяця 1. Ягоная недалёкасць у спалучэнні з нахабствам і бесцырымоннасцю паспрыяюць агульнай задуме, – шчыра адказваў позірк *visavi*, чысты і бясклапотны.

– Слухай, – загаварыў Зяць 1. – Як сказаў наш Краязнаўца-Філосаф, каты любяць малако, але карову даіць не ўмеюць. Мы з табою разумныя людзі, але не спецыялісты у навуках, тым болей у эпоху вузкай спецыялізацыі. Трэба на самым пачатку параіцца з Натарыусам. Не можа быць, каб гэты кручкатвор з прадажнага племені (успомні, у яго насамрэч рукі даўжэйшыя, чым у звычайных людзей. Іх толькі такіх на работу і бяруць, каб грошы спрытней заграбалі) не знайшоў якую-небудзь зачэпку, каб паправіць сітуацыю.

– Цалкам з табою згодны, – радасна заківаў сябра. – Наш Філосаф гаворыў, што каты ў пальчатках не ловяць мышэй. Трэба зняць рукавічкі, закатаць рукавы. А пра Натарыуса ты дзела гаворыш. Не можа быць, каб гэты кручкатвор з прадажнага племені (і праўда ў яго нос даўжэйшы, чым у людзей, гэта для таго, каб лепей грошы чуць) не знайшоў спосаб вярнуць наша шчасце. Але трэба быць асцярожнымі, помніш, у школе вучылі на памяць:

Дзе ўнадзіцца юрыста,
Хату вычысціць дачыста.

– Што там чысціць, без нас раскрадуць, калі мы не будзем дзейнічаць. Не бойся. Давай рызыкнём. Хто не рызыкуе, той у хаце не начуе.

Выходзілі яны яшчэ не абняўшыся *(Здоровое недоверие – хорошая основа для совместной работы,* што яшчэ вусаты правадыр сцвярджаў), але добразычліва гаворачы між сабою, бо *Amicus nisi inter bonos esse non potest – Сяброўства магчыма толькі паміж добрымі людзьмі.*

Некалі яшчэ Сакрат здзіўляўся, што кожны лёгка скажа, колькі мае авечак, але не кожны можа адразу сказаць, колькі ў яго сяброў – настолькі яны патаннелі. Але гэтую праблему, здаецца, вырашыў прамудры Саламон: *Бедный ненавидим бывает даже близкими своими, а у богатого много друзей.*

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

## *III Philosophia est magistra vitae – Філасофія – настаўніца жыцця.*

*Жизнь человеческая – только забава глупости*

*И обратно, какое государство когда-либо приняло законы Платона или наставления Сократа? Что побудило Дециев удалиться в царство теней, что заставило Курция броситься в расщелину, если не суетная слава, обольстительная сирена, строго порицаемая нашими мудрецами? Что может быть глупее, говорят они, как пресмыкаться перед народом в качестве искателя должностей, снискивать посулами народное благоволение, гоняться за рукоплесканиями глупцов, радоваться приветственным кликам, позволить носить себя во время триумфа, словно знамя, на потеху черни, стоять на площади в образе медной статуи? Вспомните чванство громкими именами и почетными прозвищами. Вспомните божеские почести, воздаваемые ничтожнейшим людишкам, и торжественные обряды, которыми сопричислялись к богам гнуснейшие тираны. Все это глупее глупого. Для осмеяния этого нужен был бы не один Демокрит. Кто решится отрицать это? Но не из этого ли источника родились подвиги могучих героев, которых столькие красноречивые мужи превознесли до небес в своих писаниях? Глупость создает государства, поддерживает власть, религию, управление и суд. Да и что такое вся жизнь человеческая, как не забава Глупости? (Эразм Ратэрдамскі, "Пахвала Дурасці")*

*Глупцы все, кто глупцами кажутся, и половина тех, что не кажутся. Мир заполнило неразумие, а ежели на земле и встретишь крупицу мудрости, против мудрости небесной она – безумие. Но глупец величайший тот, кто себя таковым не считает, только других глупцами обзывает. Дабы быть мудрым, недостаточно мудрым казаться – тем паче самому себе; знает тот, кто не понимает, что другие понимают. Мир полон дураков, да никто глупости своей не замечает, даже не подозревает. (Бальтазар Грасіян, "Кішэнны аракул").*

Ён быў мясцовай славутасцю, ну, скажам, гарадскім вар'ятам, без якога цяжка ўявіць канкрэтны населены пункт. Сталася так, што заўсёды нават самая маленькая вёсачка павінна мець свайго дурня, якога ўсе ў душы паважаюць, якому многае было дазволена і найперш гаварыць шчырую праўду, як некалі блазны каралям. Некалі яны былі прыроўнены амаль да святых (няшчасныя – святыя), згадаем хоць

юродзівых. Цяпер усё змізернела, у тым ліку і глашатаі праўды і волі. Можа таму, што іх стала вельмі многа, у адрозненне ад правіцеляў.

Наш герой добра ўсведамляў сваё прызначэнне. Адштурхоўваючыся ад класічнага: *Не стоит город без святого,* ён казаў, што няма вёсак без дурня, як і кафедра літаратуры не ўяўляецца без паэта.

Ва ўсе часы магутная іронія аднаўляла тое, што разбураў пафас, а мы, славяне, вельмі схільныя да апошняга, як і да сантыментаў, а вось іроніі, асабліва ў адносінах да саміх сябе, не хапае. Таму Краязнаўца быў божэвільным самага высокага ўзроўню. Усё гэта давала падставы назваць яго якраз вар’ятам, а не дурнем, бо ён абіраў свой шлях свядома і быў не стыхійным, а разумным і, тым больш, адукаваным.

Што ж, мудрацоў за ўсю гісторыю чалавецтва налічваецца зусім мала. За апошнія тысячагоддзі на зямлі знайшлі толькі сем (не лічачы прамудрага Саламона), ды і то не ўсе з іх аднадушна залічаны да велічнага сонму. Пасля ўсё астатняе чалавецтва дарэмна намагалася ўцісnуць у велічны спіс яшчэ колькі дзясяткаў разумнікаў, якіх нашчадкі потым бязлітасна выкрэслівалі. Дурням ў падобных выпадках шанцавала болей: калі яны траплялі ў запаветны спіс, то практычна назаўсёды, ніхто іх адтуль не мог выпіхнуць. Гавораць, што ад вялікага да смешнага адзін крок, а вось назад, ад смешнага да вялікага, дарогі няма. Тым болей, што цяпер ад аднаго разумніка патрабуюць болей, чым раней ад сямі. Так што ўсё вельмі і вельмі суб’ектыўна і залежыць ад многіх рэчаў.

Наш Філосаф-Краязнаўца зусім не імкнуўся патрапіць у *long* ці нават *short* спіс кандыдатаў на несмяротнасць. Да разваг яго схілялі зусім іншыя абставіны. Ён лічыў, што няма ў чалавека іншае прычыны для філасофствавання, як імкненне да блажэнства – *Nulla est homini causa philosophidi, nisi beatus sit.*

Краязнаўца быў Філосафам, хоць афіцыйна яго так ніхто не называў. Але гэта было яго прызваннем, поклічам, службай. Можна быць паэтам у душы і пісаць паганыя вершы. А можна зусім не пісаць і заставацца пры гэтым паэтам. Бо хто сказаў, што паэт гэта той, хто рыфмуе словы. Паэт выяўляецца хутчэй за ўсё ў рухах, у манеры жыцця, ва ўспрыняцці свету і вызначэнні свайго месца ў ім. Так і філосаф. Сапраўдны, а не па службе, ці, не дай Божа, па адукацыі і дыплому.

Наш Краязнаўца вылучаўся знешне. Прыгожа апрануты, ён не быў падобны да Сакрата, які хадзіў босы на форум. Меў залаты кішэнны гадзіннік на ланцужку, які часта даставаў, слухаў чароўную музыку, што нагадвала яму пра бясконцы бег часу, а захопленым


© PDF: Камунікат.org, 2015

неафітам, яшчэ не знаёмым з ім, чытаў: “Павелъ Буре – поставщикъ двора его импѣраторского вѣличества” і ціхенька дадаваў – Сямейная рэліквія XVI стагоддзя. Іх прадаў мне мой дзед, калі паміраў.

Знаходзячыся пасярэдзіне плыні жыцця і добра ўсведамляючы непераадольны закон быцця, ён вырашыў, па прыкладу вялікіх папярэднікаў, пакінуць *памѣть о сѣбѣ не токмо в сокровищницахъ тлѣнныхъ, но и въ памѣте и животе нащадковъ.* (Ф. Скарына)

Як і ўсе філосафы, Краязнаўца быў нешчаслівы ў сямейным жыцці. Пасля таго, як яго кінула жонка, адмовіўся катэгарычна жаніцца яшчэ раз, заявіўшы, нібы Цыцэрон, што не зможа адначасова клапаціцца аб жонцы і філасофіі. Менавіта таму вырашыў прысвяціць жыццё людзям, якіх любіў і хацеў іх выправіць, хоць быў, як сапраўдны філосаф, упэўнены ў бескарыснасці падобных спробаў і нават існаванні падобнай ідэі. Людзі жывуць сваімі жарсцямі, за розум бяруцца толькі тады, калі паспрабуюць усе астатнія віды дзейнасці. Эрудыт і бібліяфіл, ён пачаў вайну з кнігамі, бо лічыў, што ад іх ідзе галоўнае зло. Нават стварыў тэорыю аб тым, што кнігі прыносяць шкоду і тады, калі іх не чытаеш. Эманацыя іх поля настолькі магутная, што пранікае нават праз бетон і шкло і трапляе ў галовы людзей непадрыхтаваных і тым самым наносіць арганізму шкоду.

Асабліва ён змагаўся з абыякавасцю мясцовага люду, жадаючы яму ўзбіцца на добрую сцежку. Трэба пазбаўляцца недахопаў, уласцівых землякам і родзічам тваім. Як вада, што цячэ па розная глебе, становіцца то чысцюткай, то руда-жалезнай, то сакавітай, так і чалавек залежыць ад спецыфікі краю, у якім нарадзіўся і сярод адметнасцей якога жыве.

Хібы глебы і клімату (мала сонца, доўгія зімы, неўрадлівая зямля, балота, смурод) уплываюць на цела і душу чалавека, таму насуперак усяму трэба расці і пазбаўляцца недахопаў. Кожнаму народу ўласцівы адпаведны прыродны недахоп, які заўважаюць суседзі, прычым са смехам альбо нават зларадна. А яшчэ могуць прыкласціся недахопы саслоўныя, рэлігійныя, фамільныя, узроставыя. А ў нас мала ёду і няма мора, што адмоўна ўплывае на інтэлект і сілу характару. Тым болей, ёсць народы, у якіх тыя, хто жадае нечага дасягнуць, павінны з’ехаць на чужыну. Бо тут у большасці зайздросцяць поспехам таго, каго ведалі з дзяцінства, хто ўзбіраўся на вышыню, ігнаруючы ўсе недахопы і пасткі. Тут чужое ў фаворы: ці то таму, што прыйшло здалёку, ці таму, што з’явілася гатовым, адштуканым. Толькі калі ён стане славутым на чужыне, то і тут

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

прымуць: *Благоволения перед статуей в алтаре нет у того, кто видел ее бревном в лесу.*

Як таленавіты гісторык краю, апісаў эвалюцыю п’янства ў мястэчку і ваколіцах, а таму прыйшоў да высновы, што тут заўсёды пілі, асабліва ў гады змагання з алкагалізмам і падчас сухога закону. Склаў кнігу ўсіх напояў за доўгія стагоддзі, дапоўніўшы іх падрабязнейшымі рэцэптамі і спосабамі вырабу. Як сапраўдны вучоны, не мог выпусціць гіпотэзу без практычнай экспертызы, таму ўсе вырабы праверыў на сабе *(Experimentum in proporio corpus vili* – эксперымент на ўласным малацэнным арганізме), што прывяло да катастрафічных вынікаў: кніга сталася бестселерам, зняважаны арганізм (паддоследная свінка ў дадзеным выпадку) адрэгаваў дыябетам і цырозам. Аднак не кінуў велічную справу служэння людзям і працягваў свае адметныя экскурсіі, на якія запісваліся аматары загадзя, амаль ці не за паўгода, на крайні выпадак квартал. Дэвізам яго даследаванняў быў афарызм Лютэра, якога ён паважаў: “Хто не любіць віна, жанчын і песняў, так дурнем і памрэ”. Тым болей, што хутка ты ўсё забудзеш пра ўсё, і ўсё, у сваю чаргу, забудзе пра цябе. А таму *всегда дозволено было безнаказанно насмехаться над повседневной человеческой жизнью, лишь бы это не переходило в неистовство.*

Менавіта таму заклапаціўся пра долю няшчасных зяцёў, якім раптам выпаў шанец і гэтак жа імкліва знік. Нібы з неба да іх спусціўся абаранак з макам і, як толькі яго заўважылі, знік за аблокамі. Ён узяўся за іх апеку, падказваў, дапамагаў, накіроўваў. А потым ён жа панапіхаў лацінскіх слоў у тэкст опуса.

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

## *IV Pereat mundus, bicet justitia – Хай згіне свет, але пераможа правасуддзе*

*Между учеными законоведы притязают на первое место и отличаются наивысшим самодовольством. Они усердно катят Сизифов камень, не переводя духа ссылаются на сотни совсем не идущих к делу законов, громоздят глоссы на глоссы, толкования на толкования, дабы работа их казалась наитруднейшей из всех. Ибо, на их взгляд, чем больше труда, тем больше славы. К ним присовокупить должно также диалектиков и софистов, породу людей говорливую, словно медь Додонская, и способную состязаться в болтовне с двумя десятками отборных баб. Впрочем, они были бы несравненно счастливее, если б словоохотливость не соединялась в них с чрезвычайной сварливостью. Они постоянно заводят друг с другом войну и в жару словопрений по большей части упускают из виду истину. И, однако, Филавтия делает их столь блаженными, что, заучив два-три силлогизма, они, не колеблясь, готовы вступить в бой с кем угодно по любому предмету. В упрямстве своем они непобедимы...*

*К врачам ближе всего законники-крючкотворы. Не знаю, право, быть может, даже их следует поставить на первое место. Во всяком случае, все философы единодушно называют это ремесло ослиным. И, однако, от решений этих ослов зависят решительно все – как важные, так и ничтожные сделки. Имения их умножаются, между тем как теолог, проникший во все тайны божества, жует волчцы и ведет войну с клопами и блохами. (Эразм Ратэрдамскі, “Пахвала Дурасці”)*

Кабінет Натарыуса вылучаўся сваёй планіроўкай: дзве амаль шкляныя сцены перасякаліся пад наздзвычай, як для грамадскай установы, вострым вуглом, што стварала дзіўную атмасферу ў памяшканні, спрыяла гульні святла і колераў. Менавіта таму гаспадар пакоя выглядаў у розныя поры дня зусім па-рознаму, у залежнасці ад таго, з якога боку падала на яго святло. Сам ён у душы быў акторам, таму шчодра выкарыстоўваў артыстычныя здольнасці ў сваёй штодзённай дзейнасці, дзе мог іграць ролю і слугі, і лорда, прычым з аднолькавым поспехам, зразумела, у адпаведнай сітуацыі. Спрыяў гэтаму бездакорны густ пры выбары адзення, а таксама выкарыстанне адпаведных масак, якіх у запасе былі дзясяткі, і кожная з іх імгненна займала сваё месца на ягоным аблічча (хутчэй, чым у самога Фантамаса). Дасканала авалодаўшы правіламі гульні,

якія часцей за ўсё ствараў сам, ён лёгка навязваў сваю волю клiентам, што заўсёды знаходзіліся ў трывозе, а то і адкрытым страху (дарога сюды нікому не здавалася лёгкай), а таму здаваўся ім двухаблічным Янусам, (садзейнічала таму і згаданая ўжо гульня з блікамі святла): спагадным і жорсткім, злым і ласкавым, што дазваляла значна павысіць ганарары.

Ён ведаў, што людзі, як і паліцэйскія, дзеляцца на добрых і паганых. Добрыя спяць лепш, чым паганыя, але апошнія атрымліваюць больш задавальнення ў той час, калі не спяць. Таму ён не аднойчы заяўляў, што з джэнтльменамі будзе двойчы джэнтльменам, з махлярамі – махляром у квадраце. Бо добра зведаўшы псіхалогію чалавека, засвоіў, што ніколі так не лгуць, як падчас палявання – на зайцоў, на жанчын, на выбаршчыкаў, на грошы. Але ўспрымаў усё пазітыўна: не было б паганых людзей, не было б і таленавітага юрыста. А ў юрыспрудэнцыі самае галоўнае – умець ужывацца з дурнямі, адэкватна рэагаваць на іх запатрабаванні.

Зяці з першай сустрэчы адчулі змяіны позірк слаўнага прадстаўніка юстыцыі, які ў глыбіні душы не чакаў вялікага прыбытку ад гэтых недалёкіх змагароў за цешчыны грошы, але кожную капейку ў чужой кішэні ён лічыў абразай для сябе, таму з нецярпеннем чакаў сяброў, што здружыліся і аб'ядналіся дзеля адзінай мэты. Зяці доўга ваганіся, аднак, не знайшоўшы іншага выхаду, вымушаны былі, па парадзе Філосафа, ісці на паклон да *гада*, як назваў яго адзін з іх. Праўда, яны крыху змянілі свой гардэроб, замест чаравікоў абулі лёгкія красоўкі, якія не вельмі пасавалі да яркіх гальштукаў.

Белую сарочку трэба апрануць два разы. Потым яна становіцца шэрай, таму насіць яе можна вельмі доўга. Але затое яна пасуе пад усе гарнітуры. Усё гэта натарыус ацаніў праз камеру, што вісела ў прыёмнай, адзначыўшы як станоўчы факт эвалюцыі чарговых прадстаўнікоў прыматаў, вельмі здольных да навучання. Разам з гэтым доўга такі пратрымаў сяброў у прылазніку, спрабуючы зусім іх расклеіць, бо яны не ведалі, куды дзець сябе ў прадчуванні страшэннага выраку. Ды і запрасіўшы ў кабінет, ён, павярнуўшы твар на захад, каб на ім з'явіліся ружовыя адценні, амаль не глянуў на кліентаў, бо не адрываў вачэй ад кампутара, дзе голыя дзеўкі гулялі ў пляжны валейбол паводле версіі *"Playboy"*. Ён не хацеў асабліва заглыбляцца ў гэтую справу, бо яшчэ да канца не ўсвядоміў, чый бок яму выгадней заняць.

*Когда вы просто излагаете ваше дело адвокату и спрашиваете его совета, он отвечает вам, колеблясь и сомневаясь: вы чувствуете, что ему все равно, поддержать ли вас или*

*противную сторону; но когда вы, желая подстрекнуть и расшевелить его, хорошо ему заплатите, не заинтересуется ли он вашим делом, не подзадорит ли это его? Его разум и его опытность примутся все более усердствовать – и вот уму уже начнет представляться явная и несомненная истина; все дело представится ему в совершенно новом свете, он добросовестно уверует в вашу правоту и убедит себя в этом.*

А таму пакуль вырашыў – хай усё ідзе так, як ідзе, і хай будзе, што будзе. Таму трэба, нібы таму сапраўднаму гаду, быць халодным і проста чакаць. *Терпение – это сад, где расцветают грядущие радости.* Праўда, можна аднечасова даваць парады, за якія не грэх узяць грошы. Аднак на ўсялякі выпадак яшчэ вытрымаў паўзу (ведаў, што самае галоўнае на сцэне, усё роўна ці палітычнай, ці тэатральнай – гэта ўмець памаўчаць строга дазіраваны момант), а тады звярнуўся да гасцей:

– Вітаю вас, панове! Будзем шчырымі. Я сам такі, і вас запрашаю да адкрытага дыялогу. Я ведаў, што вы прыйдзеце да мяне, бо такія, як вы, на ўсё пойдуць дзеля грошай. Калі ў чалавека няма грошай, то ён увесь час думае пра іх. Калі ж у яго ёсць грошы, ён думае ўжо толькі пра грошы. *Crescit amor nummi, quantum ipsa pecunia crescit – Любоў да грошай расце ў залежнасці ад росту колькасці грошай: чым болей грошай, тым большая любоў да іх.*

Ён замоўк і яшчэ раз абвёў гасцей суровым поглядам.

– А ты лепшы?! – хацелася крыкнуць тым у адказ, але яны змаўчалі. І добра зрабілі, а то было б як у класічнай сітуацыі, у якой усе спрэчкі вырашаюцца нязменным філасофскім выслоўем: “Сам дурань!” Тым болей, што з вопыту чалавецтва добра вядома: лепш маўчаць і здавацца дурнаватым, чым адкрыць рот і канчаткова развеяць усе сумненні.

Натарыус зразумеў іх патаемнае жаданне, згадаў, што каб стаць гаспадаром, трэба *изображать* слугу, і адразу ўзяў быка за рогі:

– Тады пераходзім да справы. Але перад гэтым гляньце на прайс маіх паслуг, магчыма, гэта вас схіліць да лаканізму, ну г.зн. каб не гаварылі многа, а адразу дакладна сфармулявалі свае просьбы і пажаданні.

– Гэта ў рублях? – спужана спытаў Заяц 1, калі ўбачыў прыгожы лісток з залацістымі лічбамі, які, каб узмацніць уражанне, ляжаў у саф’янавых вокладках, нібы меню супер дарагога рэстарана. – І чаму я ўцёк з бара? – зусім не да месца падумалася яму.

Натарыус грэбліва паморшчыўся і зняважліва буркнуў праз ніжнюю губу:

– Крыўдзіце.

А калі ён павярнуў твар на захад і блікі сонца зайгралі на ім халодным спектрам, зяцю падалося, што рукі, якімі быў перададзены прайс, сапраўды даўжэйшыя, чым у іншых людзей, і ён, спалоханы, міжволі прыцiснуў грошы ў кішэні летніка. Ягоныя манеры былі станоўча ацэнены немiргаючым позіркам.

– І праўда яго нос даўжэйшы, чым у звычайных людзей, – падумалася Зяцю 2. Невыпадкова ў профіль надзвычай падобны да чорта. Гэтае падабенства значна ўзмацнілася, калі пачуўся голас:

– Каб з’эканоміць вашы, а, значыць, у перспектыве і нашы грошы, не вельмі вялікія на дадзеную хвіліну, шчыра засведчу, што сітуацыя ў цэлым не вельмі радасная для ўсіх нас.

– Я так і думаў, – прамармытаў Зяць 2. – Чаго было перціся да гэтага нячысціка і плаціць яму яшчэ проста за канстатацыю факта.

Але прамаўчаў, не адважыўся сказаць уголас. Тым болей, са школьнага курса літаратуры ён памятаў, што Плюшкіна *розорила скупость.*

Затое не стрымаўся швагер:

– Гэта мы і без вас ведаем. Нам не трэба аналізаваць нашу сітуацыю, у гэтым можам разабрацца самі. Мінулае – задача для дзіцёнка, – набраўся ён адвагі. – Вы лепш падкажыце, што нам рабіць цяпер, – слёзна папрасіў ён, гледзячы на карціну “Гібель Пампеі” за спінаю гаспадара: – За намі не заржавее. Мы гатовы на ўсё. *Размеры нашей благодарности будут безграничны, в пределах разумного, конечно.*

– *И моей благодарности.* На ўсё згодны, – ускочыў Зяць 1. – Зробім, што скажаце. Даччын пасаг спушчу... Яна ў мяне красавіца. І так замуж возьмуць, без грошай.

– Па-першае, грошы завешчаны ёй, прычым на строга вызначаныя мэты, і вы не маеце права распараджацца імі. Па-другое, сумняваюся, што так усё добра будзе з кавалерамі. Хто цяпер глядзіць на мілы тварык ды стройныя ножкі. Толькі ў багацеяў не бывае непрыгожых дачок, а вы ўсе да гэтай катэгорыі яшчэ, на жаль, не адносіцеся. Памятаю, мы заключалі шлюбны кантракт у сталіцы, – пусціўся ён у згадкі. – Патэнцыяльны цесць гаворыць маладому шукальніку шчасця і паралельна рукі і сэрца маладзіцы:

– Маю дзвюх дачок. За адной пасаг – паўмільёна даляраў. За другой – мільён. Але ў яе маленькі недахоп – мае невялікі горб. Якую будзеш браць?

Жаніх падумаў і кажа:

– А з двума гарбамі ў цябе дачушкі няма?

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

Зяці спалохана глянулі адзін на аднаго:

– Не, у нас усё па совесці, сумленна. Мы без падману. Дочкі прыгожыя, пасаг аддадуць. Гарбоў няма.

– Добра, добра, – паблажліва супыніў іх Натарыус, – *Mundus vult decipi, ergo decipiatur – Свет жадае быць падманутым, няхай жа яго і падманьваюць.* Давайце да справы. Слухайце мяне ўважліва, бо два пытанні вы ўжо задалі. Цяпер маеце права толькі на адно за тыя грошы. Калі ж адразу не зразумееце адказ і будзеце перапытваць, то змушу заплаціць як за новую кансультацыю.

Кліенты спалохана заківалі галовамі і ўціснуліся ў крэслы, імкнучыся зрабіцца маленькімі і нябачнымі.

– Слухаем, слухаем, – разам прашапталі яны.

– Нам трэба аб’яднаць намаганні, – у душы юрыста абудзіўся азарт. – *Я да ты, да мы с тобой весь мир завоюем.* Існуе два варыянты. Проста чытаюцца толькі пасланні апосталаў: лаканічныя, дакладныя і зразумелыя, яны пісаліся без дапамогі раднікаў і экспертаў. Іншыя ж законы можна чытаць як хочаш. Галоўны пастулат рымскага права: *Cui prodes? Чыя выгада*? – Натарыус захадзіў па кабінеце. – Заўсёды ў дакументах можна знайсці зачэпку. Яшчэ раз гавару: толькі 10 запаведзяў напісаны лапідарна і зразумела, бо іх пісаў адзін Бог. Без спічрайтараў.

У “Рымскім праве гаворыцца”: *Legem fuvem esse oportet – Закон павінен быць кароткім.* Праўда, некаторыя дабаўляюць *quo facilius ab imperitis teneatur* – каб лягчэй запамінаўся тым, хто яго не ведае, але на самой справе каб не было злоўжыванняў. А людзі спецыяльна робяць памылкі. Напалеон распрацоўшчыкам канстытуцыі так і загадваў: “Пішыце коратка і блытана”. Значыць, так. Паколькі Максім не можа рэальна прыняць спадчыну і самастойна распараджацца ёю, то ўсім будзе кіраваць апякунка. Якраз ад яе залежыць далейшы лёс усіх грошай. Таму сяброўская парада: трэба зрабіць усё, каб яна схілілася да вас, бо той, каго яна болей палюбіць, і будзе мець найбольшыя шанцы.

– А яна маладая? Колькі ёй гадкоў? – запытаўся Зяць 1, які лічыў сябе спецыялістам па жанчынах.

– У жанчын не бывае ўзросту. Яны або маладыя, або старыя, – па-філасофску адказаў кручкатвор. – Што пра яе вядома: *Domi monist, lanam fecit, – Дома сядзела, воўну прала.* Гэта формула рымскага права, якая была лепшай хвалой узорнай гаспадыні. Жанчыны бываюць толькі ў двух іпастасях: непрыгожыя і з макіяжам. Хоць усё адносна. *Casta est, quat nemo rogatit –Целомудренна та, которой никто не домогался.* Гейнэ казаў пра адну жанчыну, што яна


© PDF: Камунікат.org, 2015

выглядае як Венера Мілоская: вельмі старая, без зубоў і з белымі плямкамі на жоўтай скуры.

– А што яна любіць? – не вытрымаў Зяць. – Чым займаецца? Што робіць, рабіла?

– Што можа любіць жанчына? Цяжка сказаць, бо гэтая істота ніколі не вылучалася розумам і тым болей логікай. Яна залежыць ад многіх рэчаў. Таму трэба вылучыць агульнае, уласцівае ўсім жанчынам, і прыватнае, уласцівае толькі канкрэтнай асобе. Інфармацыі ў мяне небагата: працуе ветэрынарам, любіць жывёл, дбае пра іх…

– Палескі Айбаліт, – чмыхнуў Зяць.

– Мажліва, мажліва. Захапляецца латынню. Ну, іх, ветэрынараў, як і нас, законнікаў, вучаць гэтай мове, каб выпісваць рэцэпты, а нам працягваць традыцыі рымскага права ў наш час, – узняў ён задоўгі як для чалавека палец.

Каб дурыць неграматных людзей, хацелася крыкнуць Зяцю, але ён стрымаўся. *Canis timidus, vebementius latrat quam mordet – Баязлівы сабака мацней гаўкае, чым кусае.*

– Дык вось. Яна вельмі любіць крылатыя лацінскія выслоўі, якія шчодра выкарыстоўвае ўсюды. Вельмі разумная, можа таму яшчэ незамужняя. Мае добры дом на перыферыі, але хутка пераедзе ў абласны цэнтр.

Зяці задаволена пераглянуліся.

– Другое. *In potential.* Патэнцыяльна што мы маем? – градзіраваў голас д'ябальскі паслужнік. – Звернем увагу на галоўнага персанажа нашай справы. Каты ў цэлым параўнальна нядоўга жывуць. Колькі зараз гадкоў Максіму – невядома, метрыкаў няма. Але калі паразважаць лагічна, то па чалавечых мерках ён ужо заслужаны пенсіянер. Тады не за гарамі і агульны ўдзел усяму жывому на зямлі: прыйдзе смяротны час і да ката. Таму спадчыну ў перспектыве можна перааформіць на нашчадкаў па першай лініі, – задаволена закончыў ён і абвёў позіркам слухачоў. Ён захапляўся падобнымі тырадамі, лічыў сябе адначасова і Коні, і Плявакам у час судовага працэсу. Шкада толькі, што аўдыторыя маленькая, ды і не вельмі адукаваная: гэтыя калхознікі не зразумеюць усёй значнасці сітуацыі і эрудыцыі служкі закону.

Аднак зяці ацанілі сказанае, бо паўскоквалі з крэслаў, не баючыся гаспадара.

– Чыіх нашчадкаў, каціных ці цешчыных? – перабіваючы адзін аднаго, загаманілі яны.

– А хто можа ведаць жаданні ката? А можа ён сам выбярэ сваіх нашчадкаў і аддасць ім спадчыну? – дабіваліся яны.

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

– Супакойцеся! Сядайце! Зрабіце міласць, памаўчыце. Я проста вам пералічваю варыянты. Сумленна і дакладна. А вы павінны выбіраць. Можа, кот Максім і зусім не збіраецца паміраць? Вы чулі пра Мафусаіла? Я так і думаў. Дык вось, Мафусаіл пражыў 969 гадоў. Так сказана ў Бібліі. Можа, і наш герой з такім доглядам і прафесійнай медыцынай будзе каціным Мафусаілам і пражыве 1000 каціных гадоў.

– А што ж тады рабіць? – зніякавелі хлопцы, у душах якіх хвіліну таму гуляла надзея.

Натарыус перачакаў шквал эмоцый і аргументавана сказаў:

– *Mihi res, non me rebes sub, ongere conor – Спрабую падпарадкаваць сабе абставіны, а не падпарадкавацца ім.* Таму трэба зрабіць Максіма цалкам юрыдычнай асобай з адпаведнымі дакументамі і паперамі.

– Гэта ж кот! Якімі дакументамі? Якімі паперамі? – вылупілі вочы хлопцы.

– Усялякімі. І чым болей, тым лепей. Трэба і пасведчанне аб нараджэнні, і атэстат ці дыплом навучальнай установы, і можа нават вайсковы білет.

– А хто іх дасць?

– Не ведаю, – сказаў Натарыус. – Калі Філіп, цар Македонскі, захацеў захапіць умацаваную фартыфікацыю, а лазутчыкі сказалі, што яна недаступная з усіх бакоў, той запытаў: “Няўжо так непрыступна зроблена, каб туды не прайшоў асёл з мяшком золата?”. Таму, калі гэта ўсё будзе здабыта, то можна лёгка перааформіць спадчыну на Максіма, а ён зможа ўласнаручна весці ўсе справы, афармляць тастаменты, заключаць любыя дамовы, падпісваць пагадненні і нават ажаніцца.

Зяці ізноў ускочылі:

– Хто? Максім? Кот?

Натарыус ізноў перачакаў атаку. Вытрымцы ягонай магла пазайздросціць анаконда.

– З юрыдычнага боку хоць вол. *In proporia persona.* Абы былі дакументы. *Quod non est in actis, non est in mundo – Чаго няма ў дакументах, таго няма ў свеце.* Конь рымскага імператара Калігулы засядаў у сенаце, і ніхто гэтаму ні разу не запярэчыў. Наколькі я ведаю з гісторыі юрыспрудэнцыі, афіцыйна толькі аслам забаранялася займаць кафедры ў сярэднявечных універсітэтах. Шкада толькі, што цяпер гэты закон не дзейнічае. Значыць што?! Кот пойдзе ў навуку? Не? І я так думаю. *Ex tempora.* Зыходзячы з запатрабаванняў сітуацыі, чаму б не заняцца, напрыклад, бізнесам?

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

Зяці ўжо не ўскоквалі, а толькі прашапталі:

– Каму? Максіму? Кату?

– Ну чаго вы знямелі? Былі ў нашым славутым гарадскім парку? – спытаўся кручкатвор у кліентаў. Тыя кіўнулі. – Бачылі помнікі над магіламі ўлюбёных сабак князя? Кіносема называецца.

– Угу, – ізноў кіўнулі тыя, бо гаварыць не маглі.

– Вось вам і "ўгу". А хто з людзей за гэтыя стагоддзі пахаваны ў парку? Ніхто. Вось вам і адказ. *Argumentum ad rem – Доказ у справу*. Я толькі тлумачу сітуацыю і паказваю вам выхад.

Здзіўленыя сябры з павагай слухалі аўтарытэта. Але сам Натарыус ледзь не сапсаваў усю справу.

– Ну, з аднаго боку гэта надзвычай перспектыўна. А вось з другога, – пачаў мямліць ён. Падобнае было ў ягоным характары, бо мог адначасова ставіць адну свечку архангелу Міхаілу, а другую – ягонаму дракону. Але на гэта раз у гэтым была ягоная памылка, якой не прамінулі пакарыстацца калегі.

– Трэба знайсці аднавокага юрыста, – вырашылі яны. – А то ўсе круцяць гэтыя круцялі: калі паглядзець з аднаго боку… Калі паглядзець з другога боку… А вы самі паслухаліся б гэтых парад?

– А яны і праўду гавораць, – падумаў натарыус. – Сапраўды, сярод палкаводцаў самымі адважнымі, хітраватымі і рашучымі былі Філіп (Македонскі), Антыгон і Ганібал – усе аднавокія.

А ўслых сказаў словамі Сальвадора Далі, якія міжволі вырваліся:

– *Дуракам угодно, чтобы я следовал тем советам, которые даю другим. Но это невозможно, ведь я же совсем другой.*

– Дык вось вы за каго нас лічыце! – ускіпеў заяц.

– Нічога я не лічу. Тым болей, *Dat veriam corvis, vexat censura colombos – К воронам милости – в суд, но он угнетает голубок.* Вы шмат пажылі на свеце і добра ведаеце: *Cui sit condicio sine pulvere poltae – У кого была бы возможность получить без труда сладостную пальму?* Я вышэй за ўсе гэтыя звадкі. Заплаціце, калі ласка, за кансультацыі, і ўсяго добрага, панове. Я думаю, мы яшчэ сустрэнемся. Калі ж узнікне патрэба складання новага тастаменту, г.зн. завяшчання, так вам будзе больш зразумела…

– Ад ката? – зноў не ўседзеў Заяц 1, але быў асаджаны рэзкім адказам:

– Хоць ад Бабы-Ягі ці нават ад чорта лысага. Паўтараю: калі ўзнікне неабходнасць афармлення новых папер, то не шукайце іншага натарыуса, а то яшчэ трапіце ў жоўты дом. А я ўжо ўсё ведаю і

за добрыя працэнты заўсёды да вашых паслуг. У любую пару дня ці ночы. Будзіце, не саромейцеся. Я сплю вельмі чуйна.

– Баішся грошы выпусціць з сваіх лап? – усклікнуў *visavi.*

– Грубавата. Але такая наша няўдзячная доля. Дапамагаеш людзям, худзееш, спрабуючы ім спрыяць. А ўдзячнасць адна… Але Бог вам суддзя. Вось вам мае візітоўкі. Тэлефануйце, мне самому вельмі цікава, чым усё гэта скончыцца. Будзе пра што ўнукам распавесці на пенсіі.

– Ты да яе не дажывеш, – буркнуў Зяць 1 сабе ў вусы.

Але ў натарыуса былі не толькі доўгі нос і рукі, але і вушы, таму ён добра пачуў зласлівы шэпт. Аднак тактычна прамаўчаў: дыпламату дай выспятка, і то ён зробіць выгляд, што нічога не адбылося. А ён быў яшчэ які дыпламат. Таму сказаў:

– Я жыву ў маленькім гарадку і, каб ён не стаў яшчэ меншым, буду жыць далей. Бачу, што вы *In pace leones, in proelio – cervi – Падчас міру – ільвы, у бітве – алені.* А думаеце, што ягняткі такія кроткія ў сілу сваёй натуры? Ды ў іх проста няма клыкоў і кіпцюроў. Таму падпарадкоўвайцеся агульнаму прынцыпу: няма зубоў – віляй хвастом. Але ўсё роўна. Рабіце што хочаце. Але! Дарэчы! Не раю вам, дарагія сябры, дапамагчы Максіму памерці ці знікнуць. Тастамент і гэта прадугледжвае.

Ён пагартаў паперы і голасна аб’явіў:

– Калі Максім прападзе, усе грошы пераходзяць у фонд міласэрнасці. Так што ў вашых інтарэсах, каб марэц не прыйшоў зімою, а кот не трапіў пад аўтамабіль ці хоць веласіпед. Гэта ўсё прапісана. Разам з тым памятайце, хто не чакае неспадзяванага, той не знойдзе патаемнага і схаванага. Ён паціснуў ім рукі і ўсклікнуў:

*Durato, et vosmet rebus servate secundis – Мужайтесь и храните себя для благоприятных времен.* Потым даў ім лісток, дзе быў надрукаваны трэці афарызм Грасіяна, і заявіў: Вось вам інструкцыя для змагання за шчасце:

*Действовать скрытно. Неожиданность – залог успеха. От игры в открытую – ни корысти, ни радости. Не объявляя своих намерений, возбудишь интерес, особенно там, где высота положения порождает всеобщие ожидания, окружает замыслы тайною и самой этой загадочностью внушает благоговение. Даже когда хочешь быть понят, избегай откровенности и не позволяй всем без разбору проникать в твою душу. Молчаливая сдержанность – святилище благоразумия. Огласить замысел – погубить его: тогда в нем загодя находят недостатки, а потерпит неудачу – окажется злосчастным вдвойне.*

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

Агаламошаныя зяці добра не памяталі, як заплацілі вялікія грошы, як падпісвалі нейкія паперкі ў пяці экзэмплярах, як потым заплацілі капейкі за паперу і ксеракс, як ледзь не заблукалі ў сутарэннях кабінетаў, з якіх усміхаліся д’яблікі з выявай слуг юстыцыі. Толькі на вуліцы, ля вялізнай лаўкі, крыху ачомаліся.

– У-у, злыдзень! Махляр! А ты яшчэ яго падмануць захацеў. Добра, што хоць усіх грошай не пазбавіліся, – нервова закурыў адзін.

– Не скажы, – згадзіўся сябра па няшчасці. – Аднак ён падказаў цікавую і перспектыўную думку: – Трэба паслухаць кручкатвора. Як ён сказаў: *Interdum stultis opportune loguitur – Падчас і дурні добрае падкажуць.* Паколькі мы кампанія адзіная, будзем дзейнічаць у двух напрамках. Я вазьмуся, як болей разумны і, галоўнае, прыгожы, за апякуна, г.зн. апякунку. У мяне з бабамі заўсёды ух… Колькі іх у мяне было.

Ён задумаўся, але і згадваць не было чаго. Бо ўсіх жанчын, што ён зведаў, можна было палічыць па пальцах адной рукі і засталося б яшчэ месца для новых ахвяр. Таму сцішана змоўк.

– Лады, – падтрымаў Зяць 2, хаця не быў згодны да канца з самахарактарыстыкай швагера. – А я вазьмуся за афармленне неабходных папер і дакументаў. Зробім усё на вышэйшым узроўні, атрымаем спадчыну і падзелім яе па-брацку. А ката будзем даглядаць разам. Ну і цешчу…

Ён выразна ўбачыў раскошную вілу, сад, маленькі домік з Максімам і яму стала так добра на душы. Светла-светла…

У свядомасці Зяця 1 праплыла велізарная сумка, напакаваная заморскімі грашыма, і ён, з цяжкасцю вяртаючыся ў рэальнасць, падтрымаў:

– Канешне. Канешне. Усё сумленна. Па совесці.

Гаварыў шчыра, бо не ведаў выслоўе Гегеля: *Совесть – это моральный светильник, озаряющий хороший путь; но когда сворачивают на плохой, то его разбивают.*

Але сказаў:

– А лепш усё падзяліць пароўну.

А потым зусім без філасофіі вырашыў, праўда, у думках:

– Хрэн табе ў вочы. Я сам зраблю апякунку сваёй каханкай і забяру ўсе грошы. Я ж зух у гэтай справе. Любую ўгавару. А затым… Жанчыну, што кахае, вельмі лёгка прымусіць рабіць тое, што падабаецца ёй.

Яго цалкам падтрымаў швагер, які выпраміўся і заявіў:

– Мы ж высакародныя людзі. У нас цешча са шляхты. Усё па совесці і па-брацку.

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

А сам падумаў:

– Я выпішу ўсе належныя дакументы і фіктыўна аддам дачку за Максіма. Гаварылі нядаўна, што адзін прахіндзей хацеў заключыць шлюб з нябожчыцай, пасадзіў яе ў сукенцы з вэлюмам у вазок і прывёз на рэгістрацыю. І толькі там у самую апошнюю хвіліну нешта западозрылі, бо шчаслівая маладая ківала не ў такт тэксту ўрачыстай цырымоніі. А наш патэнцыяльны жаніх яшчэ жывы. Так што праблемаў значна менш. Тым болей, што праблемы і ствараюцца для таго, каб іх вырашаць. Паскачаш тады, боўдзіла, – ізноў прачнулася нелюбоў да кампаньёна.

І раптам аднекуль, а такое здараецца ў падобных гісторыях, пачулася ўпэўненая музыка, што натхняла на барацьбу за шчасце.

Другі зяць не чуў песню, што неслася недзе з каштанаў, бо музыка гучала не для яго. Ён ужо прымяраў трохвуголку для сябе, бо яму хацелася асабістай радасці. Таму персанальна для яго ўзнікала іншыя мелодыя.

– Каму патрэбна гэтая рамантыка, гэтая беганіна за жанчынай, істотай недалёкай і неразумнай? Я буду спакушаць нешта значна большае, грамадскія інстытуты, я паспрабую правярнуць сапраўдную афёру. Лепшыя махляры мінулага мне пазайздросцяць, – думалася Зяцю 2. – Няўжо я дурнейшы за ката?

Але ўсю ідылію ледзь не сапсаваў чалавек, вельмі падобны да Натарыуса, які ўзнік невядома адкуль і тым самым яшчэ раз сцвердзіў сваю інфернальнасць. Нягледзячы на тое, што ён толькі падыйшоў сваімі ціхуткімі крокамі, ніхто не сумняваўся: чуў усё, што адбываецца ў душах і свядомасці змагароў за спадчыну. Ягоны голас даносіўся знізу, што стварала атмасферу несамавітасці і пагрозы, а таксама папярэджвала пра зусім непажаданыя вынікі змагання.

– Вашу энергію ды ў мірных мэтах. Будзьце, сябры, надзвычай асцярожнымі ў сваёй будучай барацьбе. Вы недаацэньваеце праціўніка, бо на самой справе ваяваць з катом – вельмі небяспечна. Каты, як ведаеце, ніколі нічога не просяць, яны проста бяруць тое, што ім трэба. Яны лічаць, што гэты сусвет створаны для іх, а людзі проста служкі іх прыхамацям. У адным горадзе навасёлы, як тое патрабуе звычай, першым пусцілі ў кватэру ката. Той адразу дзверы зачыніў, замкі памяняў, трэці год жыве сам, нікога не баіцца, дзвярэй не адчыняе, усіх пасылае, лаецца матам, нават на прыставаў, якія спрабуюць яго выселіць.

– Нічога сабе, – жахнуліся зяці. А потым адзін з іх, набраўшыся смеласці, спытаў:

– А як жа ён на вуліцу выходзіць, ці хоць на лесвічную пляцоўку?

– А чаго яму туды выходзіць, ён жа не чалавек? Навошта яму вуліца ці хоць пад’езд, дзе так лёгка сустрэцца з непрыемнасцямі? Праз фортку на лоджыю, адтуль на дах. Там гуляе сам, пентхауз зрабіў, канцэрты замежных музыкаў ладзіць. *Выше крыши* называецца, чулі? Во, гэта яго. І праводзіць міжнародны конкурс любоўнай лірыкі “Жарсці кахання”. Жыве і не тужыць, а ўсе яму служаць.

– Ды не, – спалохаўся Заяць. – Наш коцік абсалютна не такі. Гэта можа зрабіць толькі сібірскі, ці сіямскі. Або нейкі чаротавы кот, адным словам, каракал. А нашага я памятаю зусім маленькім. Ён рахманы, ласкавы, спакойны, бо з Палесся, з вёскі. Там ёду мала, каб быць актыўным. Ды і не можа кот ставіць перад сабою вялікія задачы, будаваць планы. Тым больш наш. Ён жа беларускі. Яго галоўная мара – добра выспацца і пад’есці, пад’есці – і добра выспацца. Каты наогул спяць па 16 гадзін і болей. І прачынаюцца толькі тады, калі ты лыжкамі забразгочаш. Некалі ён у марцы быў актыўным, а цяпер ужо і коткі не цікавяць.

– Ой, хто яго знае, – засумняваўся Заяць 2. – Не скажы, дружа. Я нядаўна глядзеў па тэлеку, што каты разумнейшыя за людзей, а не гавораць толькі таму, што баяцца, каб іх не прымусілі працаваць. Як арангутаны на Цэйлоне.

– Праўда, дарагі ты мой. Ката не запражэш, як сабаку, у сані, ды і на ланцуг не прывяжаш. Ён заўсёды блукае сам па сваіх толькі яму вядомых сцежках.

Яны зусім забыліся пра чалавека, падобнага на Натарыуса, але той сам нагадаў пра сабе.

– Я і кажу, і нават папярэджваю. Вось вам паведамленне з сёняшняй папулярнай бульварнай газеткі, – ён дастаў і перадаў ім ілюстраваны экземпляр *“Территории заблуждений”.*

Заяць узяў і пачаў чытаць:

*Охранники одной их тюрем на северо-востоке Бразилии задержали кота, который пытался доставить заключенным оборудование для побега. К телу животного клейкой лентой были прикреплены несколько полотен для ножовки и сверла, а также мобильный телефон с зарядным устройством. Это он проделывал неоднократно. Из тюрьмы кота выносили посетители. Теперь он передан в один из ветеринарных центров.*

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

У канцы чытання ён так спалохаўся, нібы ўбачыў ката ў вязніцы ў паласатай робе, і пачуў вырак, з якім кідалі звярам першых хрысціян: *Ad bestias*. Аднак яго супакоіў сябра:

– Ну не да такой ступені яны бандыты, як некаторыя людзі. Так, адзін мужык зладзіў свайго ката, завёз яго ў суседні горад і выпусціў на сметнік. Той праз два тыдні ціхенька вярнуўся дадому, не гвалтаваў, не скандаліў, не жаліўся, не пісаў, як ягоная жонка, заяву ў міліцыю.

Гэта крыху супакоіла шукальнікаў шчасця. Аднак на душы кошкі скрэблі, таму і забыўся класічны тэзіс: Не надавай вялікай увагі сённяшнім праблемам, заўтра цябе чакаюць новыя!

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

## *V Incidis in Scyllam cupiens vitare Charybdam – Ты сустракаеш Сцылу, жадаючы пазбегнуць Харыбды.*

*Ибо две великие преграды стоят на пути правильного понимания вещей: стыд, как бы наполняющий душу туманом, и страх, который перед лицом опасности удерживает от смелых решений. Но и от стыда, и от страха одинаково спасает вас Глупость. Лишь немногие смертные понимают, сколь выгодно и удобно никогда не стыдиться и ни перед чем не робеть. Если же рассудительностью называть способность правильно судить о вещах, то послушайте, молю вас, сколь далеки от того те, кто более всего похваляется этой способностью. (Эразм Ратэрдамскі, "Пахвала Дурасці")*

*Cave canem – Сцеражыся сабакі* – было выкладзена мазаікай у Пампеях. Некалі Петроній так спалохаўся надпісу, што аж самлеў, бо гэта быў заклік баяцца не канкрэтнага сябра чалавека, а наогул усялякай небяспекі. Напалоханыя зяці цэлую ноч не маглі заснуць: *Volute aegri somnia vanoc fingintur species – Словно сновидения больного, рождаются причудливые образы.* Хоць і спалі яны ў розных месцах ім прысніўся адзін і той самы сон: нібы да кожнага падыйшоў велізарны шэры шчур пацук, панюхаў іх і, зусім не баючыся, пайшоў прэч. Самае страшнае і пачварнае было ў тым, што ён тэпаў на задніх лапах, а доўгі агідны хвост цягнуўся за ім. А пасля поўначы, калі сны праўдзівыя сняцца *(Post medium noctem visis, cum somnia vera).*

Не дачакаўшыся ўзыходу сонца, бо яшчэ Сенека сказаў: *Nemo enim resistit sibi cum coeperit impelli – кто начал тревожиться, тому себя не сдержать*, досвіткам пабеглі да нашага Філосафа, каб з дапамогай векавой мудрасці супакоіцца. Але тут чакала расчараванне і новыя трывогі. Выходзіць, што не ўсім, хто рана ўстае, пан Бог дае. Спрыяе ён тым, хто ўстае ў добрым настроі і з чыстымі думкамі. Менавіта таму і Сафія на гэты раз нічым не дапамагла, можа таму, што *певчая птица поэзии, как и сова – птица мудрости, дает о себе знать только на закате солнца. Днем творятся дела, а в сумерки чувство и разум начинают отдавать себе отчет в совершенном.*

Краязнаўца сказаў, што Незнаёмец меў падставы, і прывёў яшчэ некалькі прыкладаў, якія амаль цалкам збянтэжылі шукальнікаў шчасця. Найперш ён расказаў 13 апавяданне (нічога сабе!) з кнігі Яна


© PDF: Камунікат.org, 2015

Баршчэўскага "Шляхціц Завальня", дзе гаворка ішла "пра чараўніка ад прыроды і ката Варгіна". Зяці спалохана слухалі:

*Аднаго разу пан Н. вярнуўся з горада і прывёз дадому ката. Дзе і як яго набыў – я не чуў, толькі ведаю, што кот той быў незвычайны. Калі пан занёс яго ў пакой і пасадзіў на падлогу, усе сямейнікі абступілі госця і здзіўлена глядзелі, як той паважна паходжваў па хаце, падыходзіў, варкочучы, да кожнага і з усімі быў такі ласкавы, быццам гадаваўся ў гэтым доме.*

*Пан Н. сказаў жонцы: "Глянь, Антося, які цудоўны кот, вялікі, поўсць блішчастая, увесь чорны, як вугаль, вочы гараць. Ды гэта сапраўдны кашэчы кароль Варгін".* (На Беларусі можна пачуць кароткую гісторыю, у якой кашэчы кароль завецца Варгін, пеўневы – Будзімір, мышыны – Поднор). *Прывёз я яго як найвялікшую рэдкасць".*

*Кот ускочыў на стол. Пані пагладзіла яго рукою, ён прымружыў вочы, выгнуў дугою чорную спінку і, муркаючы, паважна паходжваў па стале. Пані ўзяла на рукі: пекны, ласкавы кот быў ёй па душы.*

*Кот гэты атрымаў усялякія выгоды: піў смачнае малако, спаў на мяккай пасцелі, на кліч "Варгін!" бег да пані, бавіў яе, і ўсе ў доме яго любілі.*

*Прайшоў месяц, прайшоў другі. Кот быў фаварытам цэлага дому і жыў як сапраўдны кашэчы кароль. Але праз некалькі месяцаў усе сталі заўважаць нейкую перамену ў пані: у яе з'явіліся дзіўныя капрызы, ніхто не мог адгадаць, чаго яна хоча; нудная, неспакойная, сварлівая, карала без віны пакаёвак і лёкаяў, лаяла суседак, крычала на мужа; ва ўсім маёнтку адзін кот быў добры і шчаслівы.*

*"Што гэта такое? – думае сам сабе пан Н. – Такая нечаканая перамена ў Антосі.*

*Параіўся са старымі і дасведчанымі людзьмі. Усе пагадзіліся на тым, што пані хворая, бо часта плача, наракае, хапаецца за галаву, нібыта мучыць яе моцны боль, і падае на ложак. Хворай ніхто не мог дагадзіць. Толькі кот спакойна варкатаў ля яе.*

*"У яе напэўна спазмы, – сказаў пан. – Трэба клікаць доктара".*

*Прыязджае доктар, пасылае па лекі, лекі дарагія, выдаткі вялікія, а рады няма. Задумаўся доктар, не можа паставіць дыягназ, дык пан Н. запрашае яшчэ некалькі медыкаў. Сабраліся, пагаманілі між сабою, перамянілі лекі – але і гэта не памагло, бо ніхто з іх не мог зразумець хваробу.*

*Калі ўсе дактары з усёй сваёй навукай не далі палёгкі (хворая зрабілася яшчэ больш слабая і неспакойная), знаёмыя і суседзі параілі пану паслаць па Тамаша.*


© PDF: Камунікат.org, 2015

*“Тамаш, – казалі, – нарадзіўся з зубамі, умее ад прыроды лячыць сілаю слоў. Трэба верыць у таямніцы і цуды, хоць і не спасціг яшчэ іх чалавечы розум”.*

*Паслухаў пан Н. і паслаў па чараўніка.*

*Пані ляжала на пасцелі, каля яе сядзела паручнікава, што прыехала тым часам праведаць хворую; пакаёўкі стаялі ля дзвярэй, кожную хвіліну гатовыя выканаць загад, і чорны кот сядзеў, варкочучы, побач.*

*Заходзіць пан з Тамашом, кот глянуў на чараўніка агністым вокам, натапырыўся, пырхнуў і скочыў пад ложак.*

*Тамаш, гледзячы на хворую і мовячы свае таемныя словы, падышоў да яе. Пані, убачыўшы чараўніка, усхапілася ўгневаная з ложка і толькі раскрыла рот, каб нешта сказаць, як рой восаў выляцеў з яе вуснаў і разляцеўся па пакоі. Яны джалілі ўсіх і блыталіся ў валасах у людзей. Кот, жахліва ляментуючы, бегаў па сталах, кідаўся на вокны і сцены. Нарэшце схаваўся за грубкаю і пранізліва мяўкаў. Страх агарнуў усіх, пані ўпала на ложак. Чараўнік адчыніў дзверы, і ўся тая кусліваая жамяра знікла.*

*“Няхай цяпер хворая крыху адпачне, – сказаў Тамаш. – Праз колькі гадзін будзе зусім здаровая”.*

*“Скажы, Тамаш, з чаго пачаліся тыя страшныя пакуты мае жонкі? Адкуль і як у яе галаве завяліся тыя восы? Дактары не маглі вызначыць яе хваробу”.*

*“Няма тут нічога дзіўнага, – адказаў Тамаш. – Пані любіла бавіцца з катом, і ён сваім нячыстым babкатаннем (беларусы вераць, што жамяра ў галаве заводзіцца ад babкатання катоў) распладзіў у яе галаве, як у гняздзе, атрутных восаў”.*

*“Кот?! Варгін?! – закрычаў пан. – Ці можа такое быць? Такі пекны, такі лагодны звярок; усе яго любілі, і ўсё ў яго было.”*

*“Раю пану быць асцярожным. Каты, асабліва чорныя, маюць атруту.”*

*Сказаўшы гэта, ён узяў шапку і выйшаў з пакоя.*

*“Павесіць ката! – закрычаў пан Н., і гэты, поўны гневу загад, перапалохаў усіх. – Паклікаць сюды каго-небудзь, няхай выцягне ката з-за грубкі. Павесіць яго!”*

*“Сорам, – сказала пані паручнікава, – даваць веры чараўніку, які тут нас усіх сваім шарлатанствам падмануў. Хіба маглі ад гэтага ката нарадзіцца атрутныя восы ў галаве; не чыні, пан, такой жорсткасці – я яго забяру з сабою. Кот рэдкі, і ён у маім доме, пэўна, ніякае шкоды не ўчыніць.”*

*“Павесіць ката неадкладна!” – крычаў пан Н. у гневе.*

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

*Заходзіць у пакоі лёкай, шукае за грубкаю ката, але таго там ужо не было. Пан і лёкай агледзелі ўсе куты, глядзелі пад сталамі і пад ложкамі, шукалі за мэбляй і нідзе Варгіна знайсці не маглі. Дзверы і вокны былі зачыненыя, як ён уцёк? Стаяць здзіўленыя: кот знік нібы дух праклятый.*

А потым адна пані згадала пра ката:

*"Я не бачыла нічога пякнейшага, як той незвычайны звярок: чорны як вугаль, поўсць бліскучая, гладкая, мяккая – як аксаміт; касматы хвост як у собаля, вочы, поўныя агню, гараць, як свечкі; сам велізарны. О! Калі б магла дзе-небудзь такога ката знайсці – дорага заплаціла б за такую рэдкасць."*

і той адразу з'явіўся. І ўсё пачалося спачатку, пакуль не пазвалі чараўніка, які вылечыў дзяцей, якія захварэлі ад чараў істоты:

*Ён загадаў паставіць усіх дзяцей пасярод пакоя, а сам, наблізіўшыся да іх, прашаптаў таемныя словы.*

*Страх агарнуў усіх, хто глядзеў на гэта: з дзяцей сыпаліся нейкія дробныя страшныя і дзіўныя звяркі, накшталт жаб і мышэй, поўзалі па пакоі і шукалі сховаў у шчылінах, пранізлівы іх піск закладаў людзям вушы. З галавы ж паненкі Зосі вылятала матылі размаітых памераў і расфарбоўкі, мітусіліся пад столлю, а маці, гледзячы на гэта, дрыжэла ад страху і была як непрытомная. Тамаш, бачачы яе пакуты, махнуў рукою, і адразу зніклі матылі і ўсе пачвары.*

Ніхто, акрамя Вергілія, не сказаў так прыгожа і дакладна пра сустрэчу смяротнага са сферай пазарэальнага. Таму звернемся да цытавання класіка: *Obslupui sleteruntque comae et vox faucibus haesit – Я оцепенел, волосы мои встали дыбом, и голос замер в гортани.* Тое самае сталася і з нашымі героямі.

Але на гэтым іх пакуты не скончыліся. Краязнаўца працягваў мучыць сваіх слухачоў, і пачаў расказваць, як потым гэтае стварэнне трапіла да суседа, які думаў, што кот будзе апавядаць яму розныя гісторыі, аднак усё адбылося па-іншаму, бо змянілася і ягонае аблічча. Кот стаяў ля печы, натапырыўшы выгнутую дугою спінку, кашлаты хвост, як вужака, звіваўся на падлозе, вочы гарэлі, як два распаленыя вугельчыкі. А потым Варгін вырастае да сабакі і вые лютым дзікім голасам, ад чаго госці ўсе акамянелі і не змаглі гаварыць. А калі прыйшоў чараўнік, то кот выбіў аконную раму і схаваўся ў цемры.

Пакуль агаламошаныя зяці ўяўлялі падобны трылер, Краязнаўца дабіў іх аповедам пра пачвару з навелы Эдгара По "Чорны кот". Плутон, так звалі героя твора, быў надзвычай вялікі, прыгожы і ўвесь чорны, адрозніваўся выключным розумам.

Невыпадкова ўсе яго лічылі пярэваратнем, ваўкалакам. Кот да такой ступені здзекаваўся з гаспадара, што апошні амаль звар’яцеў і хацеў, як і герой апавядання Я. Баршчэўскага, павесіць паганую істоту. Але тая зрабіла усё, каб герой забіў сваю жонку. Спалоханы гаспадар пасля міжвольнага злачынства замураваў цела нябожчыцы ў сцяну, але так спяшаўся, што разам з трупам жонкі ў сцяну трапіў і кот, які сваім дзікім выццём і выдаў злачынце паліцыі. Служкі закону разбілі мур і іх вачам паўстала пачварная карціна. Апісанні *гнусной твари,* што сядзела на галаве забітай жанчыны, агаламошылі слухачоў.

Мала таго, ён жа ім паведаміў, што смерць, паводле кнігі мёртвых, паказваецца дзецям у выглядзе ката: гуманізм, што зробіш. Свет рабіўся ўсё страшнейшым, нашы шукальнікі шчасця пачыналі крыху пабойвацца, што ўвязаліся ў падобную авантуру. І чаго ім не хапала? Адразу згадаўся воўк са славутай казкі: калі б ён не зачапіў наравістую дзяўчынку ў чырвоным каптушку, то і да гэтага часу часу гойсаў бы сабе па лесе. Піражкоў яму захацелася, зайчацінка прыелася. *Sic transit Gloria mundi.* Пра зменлівасць Фартуны пісаў яшчэ Гарацый, бо што такое жыццё, калі гэтая непастаянная істота імгненна паварочваецца да цябе спіною?

Tu secunda marmora,
Locus sub ipsum bonus: et sepulcri
Immemor struis domos.

Ты ж готовишь мраморы,
Чтобы строить новый дом, когда м
Ждет тебя разверстая.

Тым болей, што якраз напярэдадні па тэлевізары перадалі сенсацыйную навіну: рыжы кот у аэрапорце Хабараўска залез у краму і з’еў марскіх дэлікатэсаў на 2000 даляраў, а потым знік. Рыжую морду зафіксавала камера. І цяпер таго шукаюць. Не, ніхто не збіраецца прыцягнуць да адказнасці: у ката еўра няма. А каб забраць да сябе новую зорку інтэрнэта.

Нешта падобнае здарылася і на Украіне:

*В колбасном цехе Харьковского мясокомбината бездомный кот съел колбасы на шесть тысяч гривен. Об этом рассказали в городском центре обращения с животными, передает АТН.*

*Кот забрался на склад колбасного цеха. К тому времени, когда его обнаружили охранники, животное успело попробовать колбасных изделий на шесть тысяч гривен, рассказали работники центра.*

*Кота поймали сотрудники комбината и принесли в приют. За любовь к колбасе коту дали кличку Балык. Сейчас ему ищут новых хозяев.*

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

Не лепшая сітуацыя і ў Азіі. Так, на японскім востраве Аошыма катоў у шэсць разоў болей, чым людзей. На 17 чалавек – болей сотні. Іх завезлі на рыбацкі востраў лавіць мышэй, а цяпер яны хутка выціснуць адтуль усіх. А ў далёкай Канадзе ды-джэй Deadmau5 купіў для свайго ката аўтамабіль Lamborgini. Прафесар Мяўінгтонс (Meowingtons) будзе цяпер самастойна катацца на мініяцюрнай версіі суперкара.

Цемра ішла з усходу. *Conscia mens ut cuique sua est, ita concipit intra Pectora pro facto spemque metumque suo – Какие кто сознает за собой деяния, такие надежды или страхи порождает это в глубине его сердца.* Жах панаваў над светам, розум патрабаваў спыніцца. Тое ж рабілася і з нашымі героямі. Але і вяртацца да разбітага карыта вельмі не хацелася. Грошы перш за ўсё, а потым слава. Тым болей, *Imperatorem stantem mori oportet* – Імператару належыць паміраць стоячы.


© PDF: Камунікат.org, 2015

## *VI Servus servorum Dei –*
## *Раб рабоў Божых*

*В жизни надо быть бдительным*

*Прежде всего тебе следует постоянно и всегда помнить, что человеческая жизнь (об этом свидетельствует Иов – воин весьма многоопытный и непобедимый) – не что иное, как непрерывная борьба, и простые люди, души которых мир-обманщик улавливает обольстительнейшими забавами, сильно заблуждаются. Они несвоевременно устраивают празднества, как если бы уже одержали победу; удивительно, сколь беспечно они живут – не иначе как в наипрочнейшем мире, сколь спокойно они безмятежно спят, когда на нас без конца нападает закованная в броню великая армия пороков, домогается нас всяческими способами, угрожает всяческими кознями. Вот наверху неусыпно поджидают твоей гибели гнуснейшие демоны, вооруженные против нас тысячью хитростей, тысячью способов навредить нам! Огнеметными стрелами, пропитанными смертельным ядом, они подбивают наши умы отказаться от возвышенного; для всего этого даже ни у Геракла, ни у Кефала не было никакого более надежного оружия, если не защищал их несокрушимый щит веры. И снова – справа и слева, спереди и сзади – нападает на нас этот мир, который – по слову Иоаннову – весь во зле лежит и потому враждебен и противится Христу. Способ отразить эту армию, конечно, непрост. Ведь она то в ярости разбивает оплоты души разными несчастьями, словно тяжелым тараном в открытом бою, то склоняет к предательству огромными, однако же пустейшими обещанями, а то нежданно подкрадывается тайно проложенными ходами, чтобы поразить нас – зевающих и беспечных. Наконец, внизу тот самый скользкий змей – первый предатель нашего покоя, то скрываясь в одного с ним цвета траве, то прячась в своих норах, извиваясь сотнями колец, не перестает преследовать по пятам единожды падшую женщину. Пойми, что женщина – это плотская часть человека. Ведь это наша Ева, через которую изворотливейшая змея совращает наш дух к смертоносным наслаждениям. С другой же стороны – будто мало того, что столько врагов грозят нам отовсюду, – внутри, в самой глубине души, к тому же враг более чем домашний, более чем родственный. Как ничего не может быть ближе его, так ничего не может быть опаснее. Вот здесь и пребывает этот ветхий и земной Адам, более привычный, чем согражданин, более упорный, чем враг, которого и валом сдержать нельзя, и выбить из лагеря невозможно. За ним надлежит*

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

*следить сотнями глаз, чтобы он как-нибудь не открыл демонам крепости Божьей. (Эразм Ратэрдамскі, "Зброя хрысціянскага воіна")*

Мястэчка М. вылучалася сярод суседніх буйных і не вельмі населеных пунктаў яшчэ і тым, што тут з сівой даўніны было двое могілак – праваслаўныя і каталіцкія, якія і засяляліся адэптамі адпаведнага адгалінавання некалі адзінай хрысціянскай царквы. Праўда, апошняе правіла паступова забылася, і сталася так, што прававернаму праваслаўнаму нябожчыку лепш ляжалася нават поруч з мусульманінам ці іўдзеем, а не братам ва Хрысце. І, адпаведна, наадварот. Але час браў сваё. Таму па-сапраўднаму хавалі паасобку прадстаўнікоў некалі братэрскіх канфесій у поўнай адпаведнасці з хрышчэннем ужо даўнавата. Нават па законах імклівага руху сучаснасці. І засталіся ў мястэчку старыя закінутыя могілкі ў розных канцах горада, аднолькава зарослыя хмелем і крушынай, з-за якіх ужо і не прадрацца чужому чалавеку і нават скаціне. Хораша сябе пачувалі тут толькі птушкі (такія спеўныя) і не менш жвавыя і паэтычныя яшчаркі. Казалі, што зрэдзь там бачыліся і вужы, але то хутчэй за ўсё показкі састарэлых бабуль, якія палохалі сваіх неслухаў-унукаў, што, нібы заваёўнікі старажытнасці, імкнуліся асвоіць новую тэрыторыю. Разам з тым яны, могілкі, не мелі права наракаць (зразумела, калі б змаглі) на сваю долю, бо былі яшчэ ў добрым стане ў параўнанні з яўрэйскімі, парэшткі якіх месціліся ля руінаў былой сінагогі (засталася толькі адна сцяна, якую празвалі мясцовай сцяной плачу, у якую замест просьбаў утыкалі *бычкі*). Цяпер тут толькі ліпелі некалі шліфаваных плітаў з незразумелымі люду паспалітаму літарамі, на якія здзіўлена-задумёна зыркалі козы, што раскошна пасвіліся тут, спавядаючы адвечную тугу сусвету. Што зробіш – *Vanitas vanitatum et omnia vanitas.*

У эпоху дэмакратыі і канфесійнай роўнасці ўсіх местачкоўцаў хавалі на адзіным кладовішчы, праўда, каталікі пісалі звыклае па латыні *RIP(Requiescat in pace)*, а праваслаўныя *Здесь покоится раб Божий* адпаведна па-руску. Прадстаўнікі іншых канфесій схіляліся да першай або другой традыцыі. Праўда, у межах адной сям'і яшчэ імкнуліся захаваць аднамоўе. Тым болей, што на некаторых помнічках поруч з крыжамі пачалі з'яўляцца і паўмесячыкі.

Паколькі ў мястэчку з дагістарычных часоў існавалі розныя могілкі, то, значыцца, а можа, наадварот, былі царква і касцёл, а таму, адпаведна, і бацюшка, і ксёндз.

Розніца дагматаў веры паміж праваслаўем і каталіцызмам не вельмі вялікая. З пункту гледжання архітэктуры заўсёды можна лёгка

вызначыць, да якой канфесіі адносіцца пэўны храм (зразумела, калі ён служыць той веры, у якой яго спраектавалі і пабудавалі, а не перарабілі потым).

Як непадобныя паміж сабою царква і касцёл, так і непадобнымі зусім былі і іхнія служкі. Бацюшка быў, зразумела, барадаты, з вусамі, з доўгімі валасамі, сабранымі ў куксу. Ксёндз – гладка паголены. Так і згадвалася показка дыпламаванага атэіста савецкіх часоў: Бога, зразумела, няма, але ўсё роўна наш барадаты лепшы, чым ваш паголены. (Мелася на ўвазе царкоўная іканаграфія). Бацюшка быў моцны, сапраўдны асілак, кадзіла ці крыж у ягоных руках здаваліся цацачнымі. Ксёндз быў худы і далікатны ў рухах. Айцец быў байкерам, ездзіў на дарагім матацыкле, наводзячы жах на мясцовых сабак (якія, праўда, хутка звыкліся з гэтым) і прыхаджанак сталага веку, што ніяк не асвоіліся і злякана хрысціліся, адскокваючы ўбок, калі божы служка з рокатам падлятаў да храма. Што ж, *o tempora, o mores*. Хрыстос прыехаў ва Іерусалім на асле, бацюшка ў храм на матацыкле. Ксёндз пад'язджаў ціхенька на спартыўным ровары, гаварыў нягучна, але заўсёды перамагаў у дыспутах, што дало падставу параўнаць яго з павуком, які ўблытвае ахвяру ў ліпкую павуціну, з якой не вырвацца. Адно іх яднала: не вельмі стараліся знайсці Бога. Лічылі, што Ён разумнейшы за іх: калі патрэбны будуць, Бог сам іх знойдзе. А пакуль рыхтаваліся да таго велічнага дня.

Паміж імі ішла барацьба за душы вернікаў, якіх катастрафічна станавілася меней, што, зразумела, адбівалася на ўсім духоўным жыцці. І ў гэтым змаганні выкарыстоўваліся ўсе сродкі. Бацюшка любіў жанчын. Нават была ананімка, што ён вывез на байку адну сімпатычную прыхаджанку ў лес, і, не здымаючы расы, а толькі загаліўшыся, амаль тры чвэрці гадзіны (цэлы ўрок) вёў дыспут зусім іншага кшталту: *Solus cum sola, in loco remote, non cogita vuntur orate "Pater noster" – О мужчине и женщине, встретившихся в уединенном месте, никто не подумает, что они читают "Отче наш"*. Невядомы аўтар допісу (хутчэй за ўсё нейкая пакрыўджаная настаўніца, на што намякалі астранамічныя асацыяцыі) асабліва *возмущался* тым, што бацюшка здзяйсняў грэх у аблачэнні. Гэта само па сабе, на думку пісакі, ператварала грэх у святатацтва. У Кансісторыі ж палічылі, што раса – гэта рабочае адзенне, а таму ніяк віны не абцяжарвае. Значна болей праваслаўных *блюстителей нравственности* ўразіла працягласць мілоснага акту (даўжыня прэлюдыі была адзначана асобна), менавіта таму палічылі, што абнародванне гэтага факту толькі прывядзе да нікому не патрэбнай рэкламы, а таму ўсю справу

спусцілі на тармазах. Праўда, вестка ўжо абляцела парафіі, і акцыі бацюшкі значна выраслі.

Спрабавалі знайсці грашкі і ў ксяндза. Бо ніхто не мог паверыць, што можна жыць без бабы. Таму за спіной распавядалі анекдоты, тыпу сустракаюцца бацюшка, ксёндз і рабін, дзе абавязкова прысутнічала прыгажуня без комплексаў. Тым болей, што ён быў падобны да манахаў, апісаных Эразмам, якія былі перакананы, *что наивысшее благочестие состоит в воздержании от всех наук, так что лучше даже вовсе не знать грамоты. Засим, читая в церкви ослиными голосами размеченные непонятные им псалмы, они пребывают в убеждении, что доставляют этим великую усладу святым.* А таксама падначвалі служку, згадваючы дыспут ксяндзоў: Ці дажывем мы да адмены цэлібата. Хутчэй за ўсё не. Але нашы дзеці дажывуць. А ўнукі – абавязкова.

Або згадвалі сяброўскую сустрэчу ксяндзоў 20, 30, 40 гадоў, дзе абмяркоўвалася праблема барацьбы з пахацімствам. Малодшы сказаў, што калі яго ахоплівае нястрыманае жаданне, ён кідаецца на мармуровую падлогу ў святыні і так ляжыць да таго часу, пакуль яно, жаданне, не знікне. Сярэдняму гэта ўжо не дапамагае, таму ён бічуе цела спецыяльнымі бізунамі, у якія ўплецены дрот. Старэйшы, якому ніводная з гэтых акцый не прыносіць выратавання, знайшоў самы просты выхад з выключнай сітуацыі. Як толькі жарсць становіцца невыноснай, ён уголас крычыць:

– Ганна, хутчэй бяжы сюды!

Аднак гэтыя праблемы, надзвычай актуальныя ва ўсе часы, зусім змізернелі на фоне фантастычных вестак пра не менш фантастычную спадчыну. Кожны служка боскі разважыў, а на які ж храм, нібы на Данаю, не раўнуючы, пральецца гэты залаты дождж, якой царкве будуць прадназначаны новыя званы ў гонар Боскай мудрасці і велічы, якую боскую *обитель* (*Пусть сей дом Домом молитвы нар*□*чется*) падрадзіліся рамантаваць. Як да гэтага паставяцца цяперашнія і будучыя нашчадкі новай багатыркі, ад дзейнасці якіх шмат залежыць. Таму прыезду зяцёў чакалі не менш візіту Меркаль у Грэцыю (ведалі, што-небудзь прывязе).

Зяці прыехалі ў новым аўто з вадзіцелем (прыйшлося наняць хлопца з суседняга пад'езда, бо ў аднаго правы адабралі за тое, што кіраваў пасля ўчарашняга застолля, а другі напярэдадні позна вярнуўся з гасцей і баяўся паўтарыць долю сябрука па шчасцю і няшчасцю). Народ жа ўспрыняў гэта зусім па-іншаму, убачыўшы ў падобным учынку рост аўтарытэту швагераў, што ўпэўнена ўзбіраліся па сацыяльнай лесвіцы (а можа нават ляцелі ў сацыяльным ліфце) у

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

той клас, пра які мараць героі гламурных часопісаў. Толькі ксёндз падумаў: *Ab equis ab asinos – Из коней в ослы.* А потым згадаў сатыру Гарацыя *Par nobile fratum* пра славутую парачку братоў, што сталіся ўзорам распусты і бяссэнсавай траты грошай, бо яны заказвалі на абед тушкаваных салаўёў. Але так думаў ён дарэмна, бо ў сяброў было ўсё яшчэ наперадзе.

Як і належыць прадстаўнікам аўтарытэтнай арганізацыі, Зяці нанеслі візіт і аднаму, і другому боку, пачаўшы з бацюшкі, якога якраз і знайшлі на могілках. Спрыяла гэтаму і класічнае *Летай иль ползай – Nos habebit humus*, што не толькі навейвала думкі пра вечнае, але і падштурхоўвала да неадкладнага дзеяння. Што зробіш. Варта толькі збудаваць храм госпаду, як д'ябал тут жа зробіць каплічку і пачне пераймаць паству да сябе.

Зрабіць такі візіт падштурхнула гісторыя аднаго родзіча, які, нарадзіўшыся на Спаса, быў запісаны праз пэўны час ды яшчэ са змененым імем на Иоанна Предтечу, г.зн. амаль праз тры тыдні, бо сакратар сельсавета ў гэты перыяд быў у запоі. Добра, што зарэгістравалі хрышчэнне ў царкве, і тое сталася аргументам у судзе, які і дазволіў вырашыць справу ў цэлым і аднавіць справядлівую дату і імя. Цяпер вырашылі зрабіць тое ж самае з Максімам, г.зн. запісаць заднім чыслом у царкоўных кнігах, што і параіў Філосаф.

Абодвум служкам была ў завуаляваным выглядзе расказана беларуская народная казка пра казла, які дапамог дзеду знайсці золата, і ўдзячны селянін пасля смерці сябрука адплаціў яму тым, што з дапамогаю грошай арганізаваў істоце прыстойнае пахаванне па ўсіх абрадах і на могілках. У першым выпадку галоўны герой паказкі быў праваслаўным, у другім – каталіком, але сутнасць гаворкі і асабліва яе мараль засталіся нязменнымі. Рэакцыя бацюшкі і ксяндза былі дыяметральна супрацьлеглымі – бацюшка ўскіпеў, гразіўся пакінуць на могілках саміх зяцёў, што, пазычыўшы вочы ў сабакі, лезуць да прадстаўніка самай справядлівай і правільнай канфесіі на свеце. Ксёндз больш далікатна прачытаў лекцыю пра розніцу духу і душы і даказаў уважлівым слухачам, што ў жывёл няма якраз галоўнага, з-за чаго яны і не могуць быць дапушчаны да царства нябеснага. Хоць ён згадаў, што Папа Рымскі Францішак у свой час адзначаў: дзверы Ватыкана ва ўсе часы адчыняліся для ўсіх, у тым ліку і для іншаземцаў. Святы Пётр хрысціў паганцаў, якія і не вельмі добра адносіліся да хрысціянаў. Таму, калі да нас прыляцяць марсіяне, зялёненькія, з вялікімі вушамі, як на дзіцячых малюнках, і папросяць іх ахрысціць, то мы не скажам "Не". Хто мы такія, каб зачыняць перад кімсьці дзверы? Тое ж самае і з братамі нашымі меншымі.

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

Гісторыі невядома, якія контраргументы прыводзілі апаненты ў гэтым высокім дыспуце (вядома, што *Philosophia ancilla theologie – Філасофія – служка багаслоўя*), але вынік аказаўся аднолькавым: прадстаўнікі тэалогіі прызналі выключнасць ката ў жывёльнай іерархіі (даўнюю сувязь гэтай істоты з хрысціянствам, катоў нават пускалі ў храм лавіць мышэй), успомнілі, што ён узгадваецца ў святой кнізе, праўда, усяго толькі адзін раз, а таму палічылі мажлівым (толькі мажлівым) вядзенне далейшых перамоў па праблемах, узнятых адэптамі новага кірунку.

Самым галоўным чыннікам была звычайная рэўнасць і зайздрасць: кожны баяўся, каб супернік не абышоў у таемных намаганнях. Бо самае крыўднае – гэта калі цябе пакідаюць у дурнях, а ты лічыў, што ўжо ўхапіў птушку шчасця за хвост. Абы не дасталася іншаму. Хай і мне не будзе, але толькі б не суседу.

Задаволеныя бакі разышліся ў вельмі добрым настроі, дамовіўшыся працягнуць сустрэчы на вышэйшым узроўні ў больш спрыяльных умовах і падтрымцы, якая вось-вось з’явіцца. Зяці задаволена паціралі рукі. Калі крэпасць згаджаецца на перамовы, то лічы, што яна напалову захоплена. Звычайна пад цытадэллю падразумяваюцца жанчыны, але ёсць і ўніверсальныя высновы. Але як тым ні было, Бог не павінен пакутаваць з-за дурасці сваіх служак.

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

### *VII Doctoribus atque poetis omnia licent – Вучоным і паэтам дазволена ўсё*

*Природа, создавшая с таким бдительным тщанием мошек, травы и цветы, могла и задремать и дать маху, когда творила человека, так что он один нуждается в науках.*

*Науки на погибель роду человеческому изобрел Тевт, этот злотворный гений. Отнюдь не будучи полезными для нашего блаженства, науки лишь вредят той цели, ради которой они якобы созданы, как это изящно и остро доказывает у Платона один умный царь.*

*Итак, науки, вместе с другими язвами человеческой жизни, появились на свете лишь по вине тех, от кого произошли и все прочие напасти, а именно демонов. На то указывает самое их название: демоны, правильнее даймоны, т.е. знающие. В золотом веке человеческий род, не вооруженный никакими науками, жил, следуя указаниям одной природы. Какая, в самом деле, была нужда в грамматике, когда у всех был один общий язык и искусство речи служило лишь для того, чтобы люди понимали друг друга? Какую пользу могла принести диалектика, когда не существовало несходных мнений? Есть ли место риторике там, где не ведется никаких переговоров? К чему знание законов при отсуствии дурных нравов, от которых, в том нет сомнения, родились хорошие законы? Древние люди были слишком богобоязненны, чтобы испытывать с нечестивым любопытством тайны природы, исчислять величину, движение и действие небесных тел. Они сочли бы кощунством желание смертного человека сделаться мудрее, нежели то предопределено его жребием. А безумная мысль исследовать то, что находится за пределами небес, никому и в голову не западала. Но по мере того как первобытная невинность золотого века начала клониться к упадку, злые гении, как уже сказано, изобрели науки, впрочем, на первых порах весьма немногочисленные и воспринятые лишь немногими. Впоследствии суеверие халдеев и досужее легкомыслие греков присовокупили сюда множество новых орудий умственной пытки, так что теперь одной грамматики за глаза хватит, чтобы обратить в сплошное мученье всю жизнь человека. (Эразм Ратэрдамскі, “Пахвала Дурасці”)*

Не адкладваючы надоўга задуманае, Зяць 2 адразу прыступіў да рэалізацыі велічнага праекта. План яго ж быў элегантным: зрабіць ката вучоным, г.зн. з дыпломам ці пасведчаннем аб адукацыі. А дзе ж

узяць такія паперы? Зразумела, там дзе вучацца. Толькі на чым спыніць свой выбар? Садзік ён адразу адкінуў: несалідна ды і дыпломы там не даюць. Толькі альбомы. І якая карысць ад апошняга, там красуецца толькі малеча з цацкамі ды краявідамі. Акрамя таго, туды была велізарная чарга і сунуцца ў гэтую ўстанову зусім не выпадала нават з маленькімі грамадзянамі, а то раптам кот. Ну, Максім не прапаў бы з дзецьмі, якія яго кармілі б і спаць лажылі. Але не! Нельга думаць пра прыватнае ў складаныя для грамадства эпохі.

Школу ён заўсёды аўтаматычна абыходзіў: далася ў знакі ў гады юнацтва. Таму найперш вырашыў наведаць філіял сталічнай прыватнай ВНУ, куды, па словах люду паспалітага, набіралі ўсіх жадаючых, бо са здольнасцей і мажлівасцей будучых абітурыентаў кіраўніцтва цікавіла толькі здольнасць плаціць грошы. Прычым не абы-якія і, галоўнае, у тэрмін. Можна нават і наперад. Народжанае праблiскам думкі жаданне наведацца ў храм навукі значна ўзмацнялася пасля ўчарашняй рэкламы па мясцовым ТВ, у якой паказвалі шчаслівыя твары тых, хто ўжо звязаў долю з гэтым яскравым узорам сучаснага менеджменту.

Праўда, Зяць ногі збіў, шукаючы той аазіс, дзе сеюць разумнае, добрае вечарам і падпольна. Ён некалькі разоў прайшоў міма будынка, дзе арандавалі памяшканне кіраўнікі філіяла, але не заходзіў туды, бо сумняваўся ў правільнасці выбару. У яго ўяўленні ўстанова адукацыі павінна была выглядаць як велізарны і прыгожы будынак, поўны святла і маладых галасоў. А тут толькі велізарная шыльда і некалькі пакояў, галоўны з якіх займаў рэктар. Зяць 2 распытаў, дзе той знаходзіцца, узяў візітоўку кіраўніка ўстановы, буклет і з гэтаю “зброяй” падняўся на мансарду, дзе знаходзілася рэзідэнцыя. Хол быў шыкоўна абстаўлены, усюды (Зяць зазірнуў ў суседнія класы). Насуперак прадчуванням шумелі кампутары, віселі плакаты (на адным з іх велізарнымі літарамі красаваўся зварот Л. Троцкага – “Грызіце граніт навукі маладымі зубамі”), гудзелі прынтары, ля якіх завіхалася некалькі працаўнікоў) Толькі не было нідзе студэнтаў. І гэта моцна здзівіла. Некалі ў юныя гады Зяць 2 спрабаваў сам стаць у іх шэрагі, але так напалохаўся шуму і наступу жадаючых здабыць веды, што рэціраваўся адтуль і нават не падаваў дакументы ў прыёмную камісію.

– Вось да чаго дайшоў прагрэс, – падумалася яму. – Навуку можна спасцігаць і ў цішыні, і нават не праяўляючы ніякіх намаганняў. Што зробіш, дыстанцыйнае навучанне, *веяние эпохи*. Веды сапраўды наймагутная сіла, іх эманацыя пранікае ў розум

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

чалавечы, як радыяцыя, нават на адлегласці, прычым незалежна ад таго, хоча той ці не.

Аднак доўга разважаць не прыйшлося, бо да яго накіроўваўся імпазантны мужчына (як пасля зразумеў – Рэктар), якому далажылі пра наведвальніка. Шырокім жэстам расчыніўшы дзверы, ён запрасіў госця ў кабінет, прапанаваў крэсла, што вельмі ўразіла наведніка. Рэктар (гэты факт дзівіў усіх, хто ўпершыню трапляў сюды) быў апрануты ў сярэднявечны гарнітур вучонага, для чаго былі апдаведныя прычыны. Некалі Мальер гаварыў: *Когда говорит человек в мантии и шапочке, всякая галиматья становится ученостью, а всякая глупость – разумной речью.* Кіраўнік добра засвоіў гэтую адметнасць чалавечай натуры, таму ён не пратэставаў, калі да яго звярталіся так, як у Сярэднявечча: *Rector magnificus – Ректор великолепный.* Даспадобы быў і яшчэ больш узвышаны зварот: *Rector magnificentissimus – Великолепнейший ректор.* Так і падпісваў усе паперы. Што зробіш? Традыцыі трэба шанаваць. Тым больш даукацыйныя.

Ёмка ўсеўшыся, Зяць 2 скасіў вочы на цэдлік і, адкашляўшыся, пачаў:

– Шаноўны пане акадэмік…

Але тут жа ягоную ўступную ціліпку перабілі:

– На жаль, афіцыйна я пакуль толькі дацэнт.

– Але ж у вашай візітоўцы…, – зяць пакруціў у руках бліскучы квадрацік.

– У афіцыйным статусе я дацэнт. Акадэмікам *honoris causa* я з’яўляюся ў віртуальнай акадэміі даследавання паранармальных з’яў.

– Якіх-якіх? Ненармальных? – здзівіўся наведнік.

Рэктар цяжка ўздыхнуў:

– Яшчэ Арыстоцель лічыў, што мозг створаны для ахалоджвання крыві і абсалютна не ўдзельнічае ў працэсе мыслення. Гэта і цяпер справядліва ў адносінах да многіх. Што зробіш з такім людам, які не ведае простых тэрмінаў? А ты хацеў іх ашчаслівіць.

Ён папракнуў свае маладыя жаданні, потым крыху засумаваў, але адразу звычна супакоіўся, ухваляючы сябе за належны выбар, зроблены шмат гадоў таму. Яшчэ ў аспірантуры яму ў рукі трапілася кніга “Пахвала дурасці” Эразма Ратэрдамскага, якая настолькі ўразіла, што змяніла кардынальна будучы лёс. Асабліва запомніліся развагі пра вучоных і іх ролю ў грамадстве. Многія пастулаты вялікага гуманіста ён вывучыў на памяць:

*Но возвращаюсь снова к благополучию дураков. Прожив с великой приятностью жизнь, не отравленную страхом и*

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

*предчувствием смерти, они переселяются прямо в поля Елисейские, дабы забавлять там своими шутками скучающие души праведных. Сравним теперь жребий какого угодно мудреца с участью глупого шута. Вообразите, ради пущей противоположности, человека, который все детство и юность свою провел в усвоеньи наук, который потратил лучшую часть своей жизни в непрестанных бдениях, заботах, трудах, а в прочие годы не вкушал никаких наслаждений, неизменно бережливый, бедный, печальный, хмурый, к самому себе взыскательный и суровый, другим тягостный и ненавистный, бледнолицый, тощий, хилый, подслеповатый, преждевременно состарившийся и поседевший, до срока расставшийся с жизнью. Впрочем, не все ли равно, когда он умрет? Ведь он и не жил вовсе. Вот вам прообраз совершенного мудреца.*

Менавіта тады ён вырашыў, што не трэба сябе цалкам аддаваць якой заўгодна справе, бо і сам далёка не ўсё ўзяў ад жыцця. Ён раз і назаўсёды махнуў рукою на навуку, аднак помніў перафразаванае выслоўе М. Някрасава: *Ученым можешь ты не быть, но кандидатом быть обязан.* Скампіляваўшы цагліну дысертацыі, якая мела двух апанентаў і ні аднаго чытача (а зараз яе паспяхова дагрызалі мышы), ён атрымаў жаданую ступень і зрабіўся даволі паспяховым функцыянерам ад навукі. Цяпер жа кіраваў філіялам прыватнай сталічнай ВНУ, вядомай тым, што была даччынай арганізацыяй яшчэ больш аўтарытэтнай замежнай навучальнай установы, назву якой можна было вымавіць толькі з піятэтам.

Зусім неадукаваны чалавек можа абакрасці адзін вагон, а выпускнік з дыпломам можа ўкрасці цэлую чыгунку. Вось чаму дзеля росту навуковага аўтарытэту звязаўся з грамадскай арганізацыяй па вывучэнні незразумелых тайнаў, дзе і стаўся акадэмікам, пра што сведчыў велізарны, ці не на паўсцяны дыплом у прыгожай рамцы з чырвонага дрэва. Цяпер ён быў перакананы: навука павінна быць вясёлай, захаплядьнай, простай. І такімі ж павінны быць вучоныя. Бо пра гэта пісаў славуты Эразм:

*Если рассудительность прежде всего сказывается в деловой сноровке, то кто, спрошу я, имеет право притязать на почетное звание человека рассудительного: мудрец ли, который частью по излишней совестливости, частью по душевной робости ничего не решается предпринять, или на все дерзающий дурак, не сдерживаемый ни стыдом, которого не имеет, ни опасностью, которой не сознает? Мудрец обращается к древним писаниям и выискивает в них разные бесполезные тонкости. Дурак, напротив того, постоянно вращаясь в самой гуще жизни, тем самым*

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

*доказывает истинную свою рассудительность. Это ясно видел, вопреки своей слепоте, еще Гомер.*

Таму ён паблажліва глянуў на кліента і добразычліва пачаў тлумачыць:

– Ну, як вам расказаць, каб вы зразумелі. *Big foot* што-небудзь вам кажа? – Але, глянуўшы яшчэ раз, зразумеў, што тут трэба *pons asinorum* (мост для аслоў, asліны мост), г.зн. сродак, які дапаможа пераадолець праблему непаразумення:

– Ну, снежны чалавек, лахнеская пачвара, талеркі лятаючыя, зомбі, вампіры…

Убачыўшы мосцік, Зяць 2 радасна ўсклікнуў:

– А-а-а. Ну канешне, я па тэлеку глядзеў нешта падобнае. Кажуць, што снежнага чалавека бачылі пад Мазыром. З бабай і дзіцёнкам. Праўда, потым высвятлілі, што гэта былі дачнікі, якія адзічэлі за сезон на лецішчы без тэлевізара і газет і вярнуліся ў дагістарычную эпоху. “Вій” Гогаля глядзелі? Ой, якія жахі! А ведзьмы дык на кожным базары сядзяць, ды і жонкі ў большасці чараўніцы.

Удзельнікі высокаінтэлектуальнага дыспуту крыху памаўчалі. Але зусім нядоўга, бо эмоцыі патрабавалі выхаду.

– Ой-ой, – Зяць 2 з захапленнем глядзеў на вучонага. – Які ж вы разумны, калі ў гэтай… хер… гм… хмарні разбіраецеся. Гэта ж якія мазгі трэба мець, каб распазнаць усё, што не бачна простым вокам.

Гаспадару ўсё відавочна спадабалася: *Как бы ни была груба лесть, в ней непременно по крайней мере половина кажется правдой.* Таму ён падумаў:

– Вось гэта трэба люду, а не нейкія там чорныя дзіры і вялікі выбух. Аднак схаваў усмешку:

– Што ёсць, тое ёсць. Але вернемся да нашай суровай рэальнасці, размовы аб паралельных сусветах пакінем на потым.

Па праўдзе кажучы, гэтыя размовы так абрыдлі даследчыку, што яго ўжо калаціла, калі чуў пра паранармальныя з’явы, але трэба было цярпець для формы і нават прасоўваць праблему.

Людзі створаны так, што даступнае, зразумелае большасць зусім не цэніць: іх захапляе толькі неўсвядомленае, неспасцігальнае. Вартым уяўляецца тое, што дорага каштуе: яго будуць усхваляць, хоць і зусім не разумеюць. Выказвай болей добрага разумення рэчаў, больш вучонасці, чым трэба, каб выйграць ва ўяўленні суразмоўніка. Але трэба памятаць пра меру і крыху падладкавацца пад апошняга. Толькі з разумнымі будзь на роўных, а для большасці неабходна набіваць цану. Дзеля гэтага трэба трымаць субяседніка ў

напружанасці, прымусіць спазнаваць сябе, каб не засталося часу вынесці прысуд. Людзі хваляць многіх, а спытай, за што хваляць, ніхто толкам і не растлумачыць: недасягальнае ўсхваляюць як таямніцу, а ўсхваляюць толькі таму, што навакол чуюць хвалу. А для гэтага ўсё падыдзе, бо яшчэ вялікі фізіёлаг Іван Паўлаў заявіў: *Сущность научной работы – в борьбе с нежеланием работать.* Таму кіраўнік спытаў:

– Якія ў пана праблемы? Людзі, што рэкамендавалі вас (ён узняў палец, *Ipse dixit*) проста так, тым больш абы каго, пасылаць да нас, вучоных, не будуць.

Зяць 2 і забыўся, што прасіў аднаго таварыша, які хваліўся знаёмствам з Рэктарам, зрабіць пратэкцыю. Але не вельмі спадзяваўся на гэта. І правільна зрабіў, бо Рэктар выбраў падобны тактычны прыём, сам сябе пераконваючы ў сваёй значнасці і ў тым, што людзі, паводле звычаю, шукаюць выхад на ягоную асобу.

– Хачу, – пачаў ужо смела Зяць 2, які добра арыентаваўся ў абставінах, – свайго блізкага і дарагога родзіча ўладкаваць у вашу багадзельню… цьфу, богаўгодную ўстанову, – хоць самому пасля знаёмства з матэрыяльна-тэхнічнай базай ВНУ здавалася больш верагодна і адэкватна карыстацца першым тэрмінам. Ён глянуў на паперку, – у вашую *alma mater*, цьфу, дастала гэтая заморская тарабаршчына.

Рэктар пацінуў плячыма:

– Не бачу ніякай праблемы. Нашы дзверы заўсёды і для ўсіх адкрыты, не, наўсцяж адчынены.

– Рады чуць, – павесялеў зяць, пачуваючы сабе вальней.

– І я, – кіўнуў таму вучоны. – Вельмі рады. У наш завочны філіял оксфардска-маскоўскага каледжа імя Дарвіна-Маклухі-Маклая прымаюцца самыя разумныя і парыхтаваныя абітурыенты, якія, зразумела, могуць аплаціць поўнасцю і ў строга акрэсленыя тэрміны кошт навучання плюс расходы на бібліятэку, лабараторныя заняткі, інтэрнет, перасылку заданняў, кансультацыі, суразмовы, праверку работ, інтэрнат.

Зяць 2, ківаючы галавою падчас пераліку, раптам спыніўся:

– Інтэрнат яму не трэба. Ён жыве вельмі выгодна. У яго ўласны катэдж, а ў перспектыве замак.

– Такі парадак, – строга сказаў адміністратар, не залюбіўшы, што яго пераблі.

– Раз так, то згода, – заківаў далей галавою просьбіт.

Задаволены гаспадар пакою працягваў:

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

– Плюс дабрачынныя ўзносы на барацьбу з метэарытамі і каметамі, з глабальным пацяпленнем і пагрозаю новага ледавіка.

Зяць ізноў перастаў ківаць. Пра пацяпленне ён чуў, толькі ўчора па тэлевізары казалі пра парніковы эфект. Цёплы павеў клімату наглядна паказвалі на жаночай бялізне: калі на пачатку стагоддзя прыгажуні насілі рэйтузы, затым панталоны, то цяпер яны абыходзіліся маленькімі трусікамі ці нават стрынгамі. У ледавік верыў таксама, бачыў чукчаў і аленяў. Чуў і анекдот па тэме. Пецька прылятае да Чапаева і крычыць: "Гальфстрым замёрз!". Васіль Іванавіч спакойна адказвае: "Я ж казаў яўрэяў у дазор не ставіць!". Але разам іх, лёд і спёку, уявіць не мог пры ўсёй сваёй прастаце:

– Дык сёе ці тое?! – паспрабаваў ён удакладніць.

Рэктару падобная самадзейнасць зусім не спадабалася, таму рэзка спыніў наіўныя спробы дакапацца да ісціны, у пошуках якой актыўныя брыгады з усяго свету дзялілі не першы мільярд грошай. А тут казус: *Sus Minerva docent – Свіння Мінерву вучыць.* Ён глянуў на візіцёра, нібы на катлету, якую ён не заказваў, але афіцыянт прынёс па ўласнай ініцыятыве.

– І сёе, і тое! Папрашу пана гэта запомніць. У нас – сур'ёзная багадзельня… цьфу цяпер на вас. Сур'ёзная навуковая ўстанова, – паправіўся ён.

– Прабачце, – прыўзняўся зяць. – Я гатовы заплаціць усе ўзносы. Магу і кніжкі якія-небудзь купіць і карты, і прылады. Калі трэба, канешне. Звіняйце.

Рэктар задаволена працёр рукі. Невыпадкова яму сёння гараскоп абяцаў фінансавы поспех, пра што і сведчыў Меркурый у Альдабаране.

– Ого! Гэта добры жэст, – ён задумаўся. – Тым болей не бачу ніякіх праблемаў з залічэннем новага здольнага аматара ведаў.

– Ведаеце, – пачаў мнуцца Зяць 2. – Будучы ваш студэнт нядаўна атрымаў вялікую спадчыну, зараз праводзіць інвентарызацыю здабытай гаспадаркі, шукае сябе ў актыўным бізнесе. Таму проста фізічна не зможа хадзіць на заняткі і своечасова здаваць іспыты. – Ён ледзь не зайшоўся ад смеху, бо ўявіў Максіма з кніжкамі ў лапах. Таму сілаю прымусіў сябе працягнуць маналог. – Ды і нервовая сістэма ў яго зусім разладжана, без валяр'янкі заснуць не можа.

– Ой, усе мы цяпер такія ўзбуджаныя, – паспагадаў Рэктар прыватнай вну. – Я, напрыклад, сам кроплі прымаю, хоць і не валяр'янавыя. А грошы ён можа ўнесці цалкам за ўвесь перыяд навучання?

Зяць ганарова выпраміўся ў крэсле і з гордасцю заявіў:

– Хоць зараз. Скажыце толькі, куды і колькі.

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

Ён сам здзівіўся, адкуль у яго голасе з’явіліся падобныя ноткі, чаму раптам выскачыла рыфма, бо ў дадзеную хвіліну нагадваў вялікага князя, што сваёй міласцю раздае падарункі васалам.

Рэктар гэта адчуў падсвядома. Менавіта таму з павагай адказаў:

– Я з кожным імгненнем пранікаюся ўсё большай і большай сімпатыяй да нашага будучага, не, ужо цяперашняга студэнта. Не сумняваюся ў яго вялікіх здольнасцях і велізарных перспектывах.

Зяць адчуў, што размова пайшла на роўных, таму ужо з пэўным апломбам заявіў:

– І не сумнявайцеся. Вам пашанцавала.

– Згодны. А на які факультэт ён хоча? У нас шэраг спецыяльнасцяў і спецыялізацый: аленеводства ў тундры, дрэсіроўка мядзведзяў, тэхнічнае забеспячэнне свойскіх жывёл, турызм у экзатычныя краіны, эканоміка, арганізацыя святаў і карпаратываў.

Зяць прыўзняў брыво, пачуўшы пералік. Але потым апусціў яго і, не даўшы да канца зачытаць спіс, сказаў:

– Няма розніцы. Нам патрэбен толькі дыплом. Зразумела, мы маглі б яго купіць і ў падземным пераходзе, але…

Зяцю згадаліся гісторыі пра спецыялістаў, што працавалі зусім без пасведчанняў аб адукацыі. Лазар Кагановіч, які метро будаваў, меў толькі даведку аб завяршэнні першага класа пачатковай школы, а які быў размах у чалавека. А ў цэлым адукацыя і навука толькі шкодзяць людству, пра што і гаворыць Эразм: *Итак, если среди ученых счастливее других те, которые состоят в наиболее близком родстве с Глупостью, то кольми паче счастливы люди, воздерживающиеся от всякого соприкосновения с науками и исполняющие веления одной природы, которая никогда не заблуждается, если только мы не попытаемся перешагнуть за положенные человеческой доле границы. Ненавистна природе всякая фальш, и всего лучше бывает то, что не искажено никакой наукой.*

– Ваша праўда. А ў цэлым вы зрабілі абсалютна правільны выбар, – кіраўнік філіяла разрадзіў маўчанне. – У нас можа і крыху даражэй, але затое зусім легальна, з гарантыямі. Не трэба ехаць па размеркаванні ў Хвойнікі. А ў якасці бонусу – вялікія перспектывы. Можна пасля атрымання дыплома паступіць у магістратуру, затым аспірантура, абарона дысертацыі… Ён ведаў справу, бо раней, на пачатку творчай кар’еры, сам прадаваў дыпломы ў пераходах.

Зяць ізноў чмыхнуў, уяўляючы, як Максім уздымаецца па кар’ернай лесвіцы, нібы цыган па драбіне на неба; як кот, стоячы на задніх лапах, прымярае шапачку і мантыю, а таму адразу не пачуў:

– Дык якую спецыяльнасць абралі?

Зяць, згадаўшы аленяў і сланоў з экзатычных краін, спалохаўся, што могуць туды паслаць студэнта на практыку, таму асцярожна прапанаваў:

– Калі вам усё роўна, то давайце гуманітарную, яна ў наш час нікому не патрэбная, таму і прыдзірацца да папераў ніхто не будзе.

Рэктар працягнуў яму руку:

– *Litterae humaniores.* Як велічна гучыць! Без гэтых навук няма людзей. Гуманітарны – гэта значыць чалавечны. Не сумняваюся ў чалавечнасці студэнта. Таму магу прапанаваць культуралогію. Напрыклад, этнаграфія плямён канібалаў Акіяніі ў тыпалогіі з еўрапейскай традыцыяй: адметнасці кухарства.

Зяця аж сцепанула, бо ён убачыў яркі касцёр з вялікім чыгуном і звязанымі ахвярамі непадалёку, але кіўнуў галавою. Узрадаваны Рэктар, баючыся выпусціць ініцыятыву з рук, хуценька, каб кліент, не дай Божа, не перадумаў, падвёў вынікі:

– Значыць, дамовіліся. Заўтра прыносьце усе дакументы і даведкі, я скажу сакратарцы.

Зяць доўга муліўся, а потым запытаў:

– А нічога, што сярэдзіна навучальнага года?

Атрымаўшы адказ, што не бачыць у гэтым праблемы, яшчэ памуліўся:

– А калі не ўсе паперы гатовы?

На гэта рэктар крыху стомленым голасам параіў пачынаць з аплаты, прынесці найперш квітанцыю ці перадаць грошы яму і ён усё аформіць сам, а паперы і неабходныя даведкі можна прынесці пазней. Зяць зразумеў усё з паўслова і перадаў канверт з вялікай удзячнасцю і паклонам:

– Гэта вам кампенсацыя за клопаты і турботы, за тое, што адабраў столькі хвілін у вялікага акадэміка ненармальных навук.

Рэктар спачатку хацеў пакрыўдзіцца і паправіць – паранармальных, але убачыўшы грошы – (*Argumentum argentarium – грашовы довад* самы магутны ва ўсе часы), паслаў усё да д’ябла. Ён даўно аддаў перавагу матэрыяльнаму перад *жаждой суетной славы,* якой людзі абавязаны навукамі і мастацтвамі. І нават памкнуўся абняць Зяця 2, але стрымаўся.

– Высокія людзі, што зробіш, – зноў узняў ён вялікі палец угору, – не памыліліся ў вас, вы вельмі добра ўсё разумееце і схопліваеце на хаду.

Акрылены падобным развіццём падзей, незвычайны кліент наважыўся папрасіць паскорыць працэс навучання і дазволіць здаць усе экзамены экстэрнам у самы кароткі тэрмін.

– Завочна на завочным, – хмыкнуў акадэмік. – Гм… Ёсць і такі варыянт, але ён яшчэ эксперыментальны, а таму… гм… гм… патрабуе пэўных выдаткаў.

Заяць 2 урачыста заявіў, што за гэтым справа не стане, таму яны паціснулі адзін аднаму рукі, нібы цыганы пасля продажу каня-дахадзягі. Што зробіш, той, хто гаворыць на мове грошай, будзе зразумелым у кожнай краіне і кожным кабінеце.

Затым рэктар здагадаўся спытаць прозвішча будучага свяцілы навукі. Заяць успомніў народную казку, якую чыталі ім у дзяцінстве, і смела назваў:

– Максім Глінскі-Папялінскі. У яго слаўная радаслоўная, наш герой са шляхты.

Рэктара гэта здзівіла не менш, чым *big foot* яго візаві, і ён спытаў, ці мае іх новы студэнт герб, на што атрымаў станоўчы адказ, хоць давераная асоба ката-студэнта і не ведала добра, што гэта такое. Тады гаспадар, абяцаючы гарантыі і цвёрдую падтрымку, дастаў з сейфа каньячок, наліў сабе і добраму чалавеку ў вялікія фужэры. На дадзены момант яго дэвізам было: *Не упускайте случая делать добро – если это не грозит вам большим ущербом. Не упускайте случая выпить – ни при каких обстоятельствах.* А ўрэшце рэшт гэты свет не створаны для разумных. Яго зрабілі для ўпартых і цвёрдалобых, у галаве якіх не бывае болей адной думкі адначасова.

Інтэлігенты, падумалася Заяцу, а п'юць з такіх вялікіх чараў. Але выпіў ён з вялікім задавальненнем, бо справа, здаецца, рушылася. Ён паабяцаў, што ягоная ўдзячнасць не мае межаў, але потым дапоўніў, што ў межах разумнага, доўга расказваў удзячнаму слухачу такога высокага рангу пра сябе, пра Максіма, ляпаў новага сябрука па плячы. Аднак калі Рэктар па-сяброўску прапанаваў і яму стаць студэнтам, паабяцаўшы прыняць на любы факультэт і курс і нават са скідкай у аплаце, ён не паддаўся. Дапіў каньяк (добра выхаваныя людзі адыходзяць з прэзентацый галоднымі і цвярозымі) і шчыра сказаў:

– Я за, і нават супраць. А ў цэлым не. Катэгарычна. Вярнуцца б у маладыя гады – з задавальненнем. Вось калі б вы са сваёй паранармальнасцю зрабілі машыну часу і адкацілі з маіх плячэй гадоў з дваццаць. Было б здорава. А проста дыплом мне не патрэбен. Тым болей гуманітарны.

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

Ён інтуітыўна разумеў, што адукацыя шкодная для ўсіх, бо яна, як сказаў адзін разумны чалавек, схіляе да п’янства. Тым болей, што вну развівае ўсе здольнасці, нават дурасць. А таму для ўзняцця настрою ён згадаў анекдот пра мужыка, які, страціўшы ўсё, вырашыў павесіцца. Але, узняўшыся з пятлёй на шыі на табурэтку, заўважыў з вышыні недапітую пляшку на шафе і недапалак пад ёй. Таму выпіў змесіва, запаліў і, ужо спакойна скруціўшы вяроўку, падумаў:

– А жыццё наладжваецца.

Трэба сказаць, што ніколі чалавек не задаволены сваёй доляй: *Optut ephippia bos piger, optut arare cabillus – Лянівы вол хоча хадзіць пад сядлом, а конь – араць.*



© PDF: Камунікат.org, 2015

## *VIII Casta est, quam nemo rogivit – Цнатлівая тая, якую ніхто не пажадаў.*

*Некий муж, рожденный для дел правления и потому одаренный крупицей разума, необходимой для поддержания мужского достоинства, обратился однажды ко мне за наставлением, по своему обычаю, и я тотчас же подала ему совет, достойный меня: сочетаться браком с женщиной, скотинкой непонятливой и глупой, но зато забавной и милой, дабы она своей бестолковостью приправила и подсластила тоскливую важность мужского ума. Ведь не зря и сам Платон сомневался, к какому разряду живых существ, разумных или неразумных, подобает отнести женщину, поскольку глупость есть неотъемлемое свойство ее пола. Ежели женщина даже захочет прослыть умной, как она ни бейся, все равно останется вдвойне дурой, словно бык, которого, рассудку вопреки, ведут на ристалище, – ибо всякий врожденный порок лишь усугубляется от попыток скрыть его под внешней личиною добродетели. Права греческая пословица, говорящая: обезьяна всегда останется обезьяной, если даже облечется в пурпур. Так и женщина вечно будет женщиной, иначе говоря – дурой, в какое бы обличие она ни нарядилась. Но я все же не считаю женщин столь глупыми, чтобы обидеться на мои слова. Ибо я сама женщина и имя мое – Глупость. Ежели поразмыслить как следует, то ведь женщины обязаны мне тем, что они без всякого сравнения счастливее мужчин. Начнем с внешней красоты, которую они справедливо ставят превыше всего на свете и с помощью которой самых гордых тиранов подчиняют своей тирании. Чем объясняется отталкивающий и дикий внешний вид мужчин, их волосатая кожа, их дремучая борода, весь этот облик преждевременной старости, который они таскают на себе без малого всю свою жизнь? Все это не что иное, как пороки мудрости, тогда как пухлые щеки, тонкий голос и нежная кожа женщин вечно подражают юности. Засим, к чему стремятся женщины в этой жизни, как не к тому, чтобы возможно дольше нравится мужчинам? Не этой ли цели служат наряды, притиранья, омовенья, дорогие безделушки, благовония, раскраска лица, подрисовка глаз, искусственные увеличения телесных округлостей и тому подобные уловки? Чем привлекают они к себе мужчин, как не глупостью? Чего не позволяют им мужчины во имя сладострастия? В глупости женщины – высшее блаженство мужчины. Этому, конечно, не станет прекословить тот, кто вспомнит, какую чушь привыкли*

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

*нести мужчины в любовных беседах и какими только глупостями они не занимаются, лишь бы сделать женщину более податливой. Теперь вы выдите, из какого источника проистекает любовь, первое и главное наслаждение жизни. (Эразм Ратэрдамскі, “Пахвала Дурасці”)*

*Каб дасягнуць поспехаў у гэтым свеце, недастаткова проста быць дурнем, трэба мець яшчэ добрыя манеры.*

*Вальтэр*

Пульхерыя Фемістоклаўна жыла цяпер у новым сусвеце. Хутчэй за ўсё менавіта так у старажытнасці ўяўлялі перанясенне ў рай. Відаць, так адчувалі сабе героі цудадзейных казак, што з вясковай хаты траплялі у царскі палац, дзе за імі клапаціліся легіёны служак і памочнікаў. Яна параўнала сваю былую вясковую ветлякарню, што мясцілася ў маленькім будыначку, дзе зімою замярзала нават вада, і цяперашні элегантны будынак, і ўшчыкнула сябе, каб яшчэ раз пераканацца, што не спіць. Але калі б і хацела яна заснуць, то ёй гэта не ўдалося б, бо цягам дня тэлефон разрываўся, прычым званілі мужчыны і ніводзін з іх не гаварыў пра ветэрынарную справу. (У мінулым жыцці ўсё было з дакладнасцю наадварот). Ды і праходу ёй не давалі, што раней ніколі не здаралася. Мужчыны цяпер сустракаліся ёй на кожным кроку, і ніхто з іх, як раней, не адводзіў вочы, з элементам сарамлівасці гледзячы некуды ўдалечыню, нібы яна была са шкла, а елі жыўцом.

Жанчына звычайна разумнейшая за мужчыну, але свой розум накіроўвае на тое, каб мужчына гэтага не заўважыў. Так бяспечней жыць. Хаця пра самцоў, як яна называла мужчын, ніколі добра не думала. Як ветурач, добра ведала: *Мужчины относятся к разряду животных, которые постоянны разве только тогда, когда с ними плохо обращаются.* Таму і не вельмі здзівілася метамарфозам, бо добра памятала славутае папярэджанне *Timeo Danaos et dona berentes – Бойцеся данайцаў, нават калі яны дары прыносяць.*

І як у ваду глядзела. Так, сёння, калі яна прыйшла на працу, то ля прахадной убачыла шмат разнастайных пакункаў і скрынак, якія былі акуратна складзены. Выкліканы ахоўнік далажыў, што нейкі чалавек ужо чацвёрты дзень наладжвае сапраўдную аблогу лякарні, дапытваецца пра яе, цікавіцца звесткамі, што яна любіць, чым займаецца ў вольны час, дзе жыве, з кім праводзіць час, ці мае кавалера і г.д. А сёння служба дастаўкі перадала спецыяльна распрацаванае меню для кармлення Максіма і прывалакла бананы, ікру, шапманскае, і сказала, што для ката.

– Што? Бананы для ката? Шампанскае Максіму? – не вытрымала яна, на што атрымала пісьмовае пацвярджэнне, якое пачыналася фразай: “Для павышэння ўзроўню гемаглабіну ў крыві і ўзняцця тонусу падчас дэпрэсіі, звязанай з пераездам і адрывам ад звыклага соцыума, і істотнага развіцця разумовых здольнасцей”. Прыйшлося згадзіцца, што ў гэтым маюць патрэбу ўсе, і загадаць пацягнуць пакункі на склад, дзе захоўваліся прэпараты. Пульхерыя Фемістоклаўна зацікавілася незнаёмцам з нетрадыцыйным густам, аднак зусім зніякавела, калі пачула ад аховы, што той наняў аркестр, каб гралі Максіму калыханкі, і нават прыносіць жывых мышак, праўда, звязаных за хвасты. Яна ізноў засумавала, згадала бацьку, якога дзядуля назваў Фемістоклам, а той у сваю чаргу – дачку Пульхерыяй, бо, узрадаваны з’яўленнем дачушкі, усё крычаў *“Mater pulhra, filia pulchrior” – Маці прыгожая, дачка найпрыгажэйшая.* І, мабыць, сурочыў, бо адзіначка вырасла зусім не Венерай, і амаль не цікавіла супрацьлеглы пол ні ў юнацтве, ні ў гады студэнцтва. Ад адзіноты прыйшлося налягаць на навуку, вось тады яна і палюбіла па прыкладу бацькі чаканную рытміку старажытнай дасканалай латыні. І гэтае захапленне сталася не проста хобі, а спосабам жыцця, якое яна параўноўвала з парнаскім побытам лацінян (зразумела, у яе ж уяўленні). Але авёс расце зусім не па Гегелю. І яна тужліва ўздыхнула, прычым зусім не па лякарні: ні па сучаснай, ні тым болей па ранейшай.

Акрамя таго, служба аховы далажыла, што да яе на прыём дабіваецца той самы чалавек, што прывёз напярэдадні бананы і шампанскае. І нягледзячы на тое, што літаральна некалькі хвілінаў таму яна катэгарычна забараніла ўпускаць у памяшканне назолу, раптам загадала яго прапусціць. (О, жанчына! Імя табе – непастаянства! Няма ў свеце нічога больш нестабільнага, чым адмова жанчыны). Зяць уляцеў узрадаваны, акрылены, з букетам кветак, якія ўрачыста ўручыў ёй і пры гэтым галантна пацалаваў руку. Што зробіш, такі закон: калі кот хоча злавіць мышку, ён прыкідваецца мышшу.

– Ад усяго сэрца вітаем вас у новай прыгожай клініцы, да стварэння якой і мы прыклалі руку. І не толькі.

Зусім збянтэжаная Апякунка доўга не ведала, куды прыладзіць раскошны букет, а таму толькі ківала:

– Дзякуй, дзякуй!

Але нарэшце запыталася:

– А вы хто?

Зяць 1 зрабіў выгляд, што нічога не чуе, нібы цецярук на такавішчы, і ўзнёсла працягваў:

– Дарагая вы наша! Глыбокапаважаная пані Пульхерыя Фемістоклаўна! – Ён ведаў, што імя чалавека – самы салодкі і самы істотны для яго гук, прычым на любой мове і любога паходжання.

– *Ave*! Я вельмі рады вас бачыць. А з якой радасцю і захапленнем называю ваша імя, якое так глыбока характарызуе вашу адметную асобу і тым самым і бацьку вашага, Фемістокла. Я градзірую гэтыя гукі, бо нездарма ж казалі мудрыя – *nomen est omen.* Я захапляюся Вамі, вашым розумам і здольнасцямі. І гэта з першага знаёмства. Прыродай так зроблена, што *Ex unque leonet – Па кіпцях пазнаеш ільва.* Ён падглядваў у шпаргалку, падрыхтаванасцю Філосафам.

– *Ex auribus asinum – А па вушах – асла!* – рэзка адказала доктарка, але потым схамянулася: – А вы на самой справе ведалі майго бацьку? Ён жа пражыў зусім нямнога, ды і то на раёне, – не паверыла слаўная прадстаўніца вялікага роду.

– А памяць пра яго захоўваюць удзячныя нашчадкі, якія ўсе любяць латынь. І асабліва я.

– А вы сапраўды латынь любіце? – не ведала гаспадыня, што рабіць з такім незвычайным госцем.

І тут ледзь не здарыўся першы канфуз, бо Краязнаўца навучыў Зяця 1 зусім не падцэнзурнаму выслоўю, якім жартаўлівыя студэнты збівалі напружанне ад празмернай вучобы. Добра, што Апякунка гэтага не пачула, бо не разумела воклічаў Зяця 1, які спрабаваў спалучыць лінгва лаціна з істотнай часткаю каня.

– Не паверыце, жыву ёю. Лічу, што больш дасканалай і ўзвышанай мовы не было на свеце і, зразумела, не будзе, бо ніводная з існуючых ці мёртвых гаворак не змагла спалучыць выключны лаканізм і глыбінную мудрасць. Згадаем, як гучыць мудра і велічна: *Mens sana in corpore sane – У здаровым целе здаровы дух,* – ён пераможна аглядаўся, чакаючы захапленне ад тырады, якую ён так доўга рыхтаваў і зубрыў.

Але рэакцыя была зусім іншай. Апякунка, якая ўжо проста кінула букет на стол, сказала:

– У Ювенала…

Убачыўшы здзіўлена прыўзнятыя бровы і шырока адкрытыя вочы аматара латыні, паўтарыла ментарскім тонам:

– У Ювенала. Паэт такі быў у старажытным Рыме, гэта выслоўе гучыць крыху інакш: *Orandum et ut sit mens sana in corpore sane –*

*Трэба маліцца, каб у здаровым целе з’явіўся здаровы дух.* Таму, відаць, і вам неабходна падправіць...

Зяць 1 вырашыў падыграць жанчыне-ментару, таму пачціва схіліўся:

– Дух ці здароўе, дазвольце ўдакладніць?

Аднак тая не падтрымала гульні і зусім сур’ёзна адзначыла:

– А гэта вы павінны самі ведаць, бо мы заўсёды адчуваем патаемную схільнасць да таго, чаго нам не хапае.

Зяць 1 шчыра ківаў, нібы конь на летнім лузе, толькі адмахваўся зусім не ад аваднёў, а ад празмерна мудрых слоў, якія кусалі і лезлі ў вушы і вочы не горш за слепакоў. Таму, забыўшы ўсе падрыхтаваныя фразы, узбіўся толькі на адну верную сцяжынку, што можа прывесці да сэрца ці душы жанчыны, пачаў яе хваліць:

– Вы такая разумная, такая адукаваная, такая… хоць усё жыццё маеце пастаянны клопат з жывёлай, так сказаць скаціну лечыце…

Размова збівалася на анекдатычную, што даволі чыста бывае, калі сустракаецца чалавек паспаліты з ветэрынарам, дзе абыгрываюцца самыя неверагодныя сітуацыі.

Апякунка, трапляўшая ў іх у час вучобы, аўтаматычна працягвала:

– І што вас трывожыць, што вам баліць?

Зяць падскочыў і з усмешкай заявіў:

– Цаню ваш глыбокі і тонкі гумар… Як вы здагадаліся, што я ваш кліент? Я працую, як конь, ем як свіння, стамляюся, як сабака. Пашкадуйце мяне, я такая худобіна.

На што атрымаў аперкот, ад якога доўга не мог ачомацца:

– Калі вы так загаварылі, то і я скажу ў адпаведным стылі. Гумар падобны пенісу: чым танчэйшы, тым менш каціруецца.

Зяць ачомаўся і захапіўся гульнёй:

– Успрымаю ўсё як дасканалы жарт. Магу і сам распавесці анекдот па гэтай праблеме. Слухайце. – Ён выйшаў на палас перад сталом, нібы на сцэну і пачаў ліцэдзействаваць. – Заходзіць ветэрынар да ўрача і ў адказ на звыклае пытанне: “Што баліць?” – незадаволена бурчыць: “Калі я заходжу ў хлеў ці ў клетку да сваіх пацыентаў, то я не пытаюся, што ў іх баліць, а проста стаўлю дыягназ і пачынаю лячыць”. Зрабі і ты так. Урач, падумаўшы, дае калезе *по братьях наших меньших* нейкія пігулкі, штосьці піша на паперцы і развітваецца. Ветэрынар выходзіць, разгортвае рэцэпт, а там напісана: прымаць тры дні, калі не дапаможа – прырэзаць. Што

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

скажаце? – хацеў захіхікаць ён. Аднак пачуў зусім нечаканае, ад чаго адразу расхацелася смяяцца:

– Скажу, што нават веданне латыні (хаця я ў гэтым моцна сумняваюся) не перашкаджае некаторым асобам заставацца асламі.

Заяц змоўк, пачаў інтэнсіўна згадваць чарговае выслоўе і нарэшце ўспомніў:

– *Dura lex, sed lex.*

Апякунка здзіўлена ўсклікнула:

– Вау!? І што тады ў гэтым выпадку *dura*?

Заяц 1, доўга не думаючы, выпаліў:

– Не ведаю дакладна. Але, відаць, дура і ёсць дура. Хоць у нас, хоць у лацінян. Яны ўсюды, прабачце, аднолькавыя.

У гэты момант ён быў зусім падобны да Гогаля, які маліўся так: “Госпадзі, Божа мой, за што такая пошасць на нас, грэшных. І так шмат усялякай нечысці на свеце, а ты яшчэ і жанчын напладзіў”. Таму ён зусім не здзівіўся, калі пачуў:

– *Dura* па латыні – суровы. Але гэта так, мімаходзь. Дык што ў вас там за праблемы? Толькі без дуры па-руску. Тым болей, што *дура, по-русски говоря, не такая уж и дурра.* А вось дурань – гэта зусім іншая справа.

– Не, – спалохана залямантаваў Заяц 1. – Я вельмі люблю жанчын і вельмі высока цаню іх розум. – Заяц чуў, што калі б Бог прызначыў бы жанчыне быць паннай мужчыны, то стварыў бы яе з галавы, калі б рабою – то зрабіў бы з нагі, але паколькі назначыў ёй быць сяброўкай і роўнай мужчыне, то стварыў яе з рабра. Гэта так. І ў той жа час самая недалёкая жанчына справіцца з разумным мужчынам, але з дурнем паладзіць толькі самая разумная. А як ёй не быць разумнай, калі ўвесь час ваявала з дурнямі.

Таму пачаў ныць:

– Вось з-за гэтай любові і захварэў. У мяне (ён глянуў на паперку), *Febris erotica*!

– Што? – не паверыла вушам Апякунка. – Любоўная трасца паводле студэнтаў-недавучак і фальклору гімназістаў з палавымі праблемамі. А прычым тут ветэрынарная служба?

– Яшчэ Пушкін гаварыў, што кот, як ходзіць налева, заўсёды расказвае казкі. Я і хацеў пагаварыць пра казкі, пра любоў. – Заяц 1 дастаў з дыпламата шампанскае і цукеркі.

Здзіўленая ўрачыха вылупіла вочы:

– А можа ў вас зусім не *Febris erotica* (калі такі тэрмін афіцыйна існуе), а *Delirium tremens*, г.зн. белая гарачка ці проста ягамосць сеў на белага каня?

– Ды што вы, што вы, – амаль залямантаваў Зяць 1, спалохаўшыся, што план заляцання-спакушэння рушыцца канчаткова. – Пашкадуйце мяне, я хоць і такая худобіна, але не п’ю. Зусім.

– Бачу. І ацаніла. Тым болей, як урач па скаціне.

– Праўда, праўда, – заківаў узрадаваны Зяць 1. – Не п’ю зусім. Сёння ўжо пяты дзень як завязаў. Не ўжываю зусім, прынцыпова.

– А чаго ж тады лухту вярзеце? – пырснула ад такой шчырасці лекарка.

Збянтэжаны Казанова, на жаль, не згадаў, што, паводле А. Чэхава, *Язык – враг людей и друг дьявола и женщины – Lingua est hostis bominum amicusque diabolic et feminarum. (Вялікі пісьменнік сам зрабіў выслоўе на латыні, дасталі відаць яго кабеты).*

– Ад кахання. *Закаханыя ўсе вар’яты – Amantes – amentes,* – усклікнуў Зяць і ўрачыста прачытаў: – *Est mollis blamma modullas Interra, et facitum vivit sub pectore vulust – Тонкий пламень снедает самые кости, и живет под грудью тайная рана.* А гавару лухту ад дурасці, што вырастае з любові. А каханне кіруе светам, нават зоркамі і планетамі. Я доўга думаў, што рабіць? Змагацца з каханнем ці пакарыцца яму? Ён дастаў паперку: *Уступить ли огню, охватившему нас, или сопротивлением зажечь его? Уступим! – Груз, который несешь с покорностью, становится легким.*

– А хто ў Рыме насіў цяжары, калі ніякіх машын не было? – з’едліва спытала Пульхерыя. – Ці не вашы родзічы?

Спалоханы Зяць замармытаў, згадваючы, якія ягоныя продкі маглі жыць у сталіцы свету. Таму і не пачуў:

– *Asinus glorisus – Асёл-хвалько.*

А можа, не захацеў пачуць, бо змог бы зразумець толькі першае слова.

– Лепш я забягу заўтра. Добра? Ну вось і ладненька. Заўтра я ізноў буду ў вас. Што вам прынесці? – па-змоўніцку падміргнуў ёй. Але, пачуўшы кароткае – “Вон!”, мігам рэціраваўся. Таму і не пачуў злоснае: “Венік свой забяры!”, і не пабачыў, як букет кветак, які каштаваў амаль тры бутэлькі гарэлкі, стукнуўся ў дзверы. Але ён быў рады – пачатак пакладзены. А *ссоры влюбленных – возобновление любви – Amantium irae anoris intergratio est.*

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

## *IX Populus me sibilat, at mihi plaudo – Народ мяне асвіствае, але я сам сабе пляскаю ў ладкі.*

*Значительно менее обязаны мне поэты, хотя по свойству своего ремесла целиком принадлежат к моей партии. Ведь поэты, как говорит пословица, – вольный народ, все дело которого в том и состоит, чтобы ласкать уши глупцов разной чушью и нелепыми баснями. И, однако, своим празднословием они не только сами надеются купить бессмертие и вживе уподобиться богам, но и другим то же сулят. Филавтия и Колакия водят дружбу с этим сословием более, чем с каким-либо другим, и вообще нет у меня поклонников постояннее и вернее.*

*Из той же муки испечены и те, кто стремится к бессмертной славе посредством издания книг. Все они очень многим мне обязаны, особливо же те, которые марают бумагу разной чушью, ибо кто пишет по-ученому и ждет приговора немногих знатоков, не опасаясь даже таких судей, как Персии и Лелий, тот кажется мне более достойным сожаления, нежели зависти. Поглядите, как мучаются такие люди: прибавляют, изменяют, вычеркивают, переставляют, переделывают заново, показывают своим друзьям, затем печатают лет эдак через девять, все еще недовольные собственным трудом, и покупают ценой стольких бдений (а сон всего слаще), стольких жертв и стольких мук лишь ничтожную награду в виде одобрения нескольких тонких ценителей. Прибавьте к этому расстроенное здоровье, увядшую телесную красоту, близорукость, а то и совершенную слепоту, бедность, зависть, воздержание от всех наслаждений, раннюю старость, преждевременную кончину и еще многое в этом роде. И наш мудролюб мнит себя вознагражденным за все эти тяготы, ежели похвалят его два-три таких же ученых слепца. Напротив, сколь счастлив сочинитель, послушный моим внушениям. Он не станет корпеть по ночам, он записывает все, что ему взбредет на ум, хотя бы даже собственные свои сны, ничем не рискуя, кроме нескольких грошей, истраченных на бумагу, зная заранее, что чем больше будет вздорной чепухи в его писаниях, тем вернее угодит он большинству, то есть всем дуракам и невеждам. Что ему за дело, ежели два-три ученых, случайно прочитавших его книгу, отнесутся к нему с презрением? Что значит голос немногих умных людей в этой огромной и шумной толпе?*

*Стоит ли поминать здесь служителей свободных искусств? Им всем так близка Филавтия, что иной скорей откажется от отеческого достояния, нежели признает себя лишенным таланта. Таковы в особенности актеры, певцы, ораторы и поэты, из коих, кто невежественнее других, тот и нахальнее в своем самомнении, тот громче хвастается и больше пыжится. Но по губам и салат: чем бездарней такой человек, тем больше у него почитателей, ибо значительное большинство людей, как уже сказано, заражено глупостью. Невежда и сам собою доволен, и другие им восхищаются, а кто стремится к истинной учености, добываемой великими трудами, бывает стыдлив и застенчив и ценится лишь немногими. (Эразм Ратэрдамскі, "Пахвала Дурасці")*

*Так жили поэты – и каждый встречал*
*Другого надменной улыбкой.*
*А. Блок*

Убачыўшы чарговага наведніка, Сакратар рэгіянальнага аддзялення саюза пісьменнікаў памкнуўся схавацца, аднак не паспеў, таму са скрухай у чарговы раз пашкадаваў сябе і пракляў уласную долю: і кабінет маленькі, і шафы дробныя, і тапчан недарэчны – нідзе не схаваешся ад назолы. І, самае галоўнае, сакратаркі няма. А ён так спадзяваўся, калі атрымліваў гэтую пасаду і кабінет.

– Не паложана, – заявілі ў бухгалтэрыі.

Ух, мымры! А такія былі надзеі, што ўрэшце рэшт і ён зведае таго шчасця, што выпадае герою ў галівудскіх кінафільмах. Асабістая сакратарка – гэта не толькі прэстыж, гэта сімвал узлёту, росту, аўтарытэту, самапавагі. Бо яна, прыгожая і без комплексаў, не толькі адгоніць непатрэбных валацугаў, што швэндаюцца абы-дзе, але і зможа абнадзеіць, суцешыць, прыгалубіць. Няхай бы і друкаваць не ўмела. Галоўнае, каб была прыгожай, статнай. Сцэна з гарэма паплыла перад вачыма! Ён султан, а яна дэманструе танец жывата…

З зайздрасцю згадаліся і показкі пра сталічны часопіс, рэдакцыя паэзіі якога знаходзілася на першым паверсе звычайнага дома. Дык вось, супрацоўнікі гэтага аддзела, жахаючыся велізарных чэргаў жадаючых ашчаслівіць грамадскасць сваімі опусамі і опускуламі, што асабліва павялічваліся амаль у геаметрычнай прагрэсіі восенню і вясной, страціўшы ўсялякую надзею *Ab hoeclis segregare oves – Аддзяліць авец ад казлішчаў*, г.зн. графаманаў ад талентаў, проста зачыняліся, вылазілі праз вакно і шлі шпацыраваць па шумных вуліцах горада, дзе нельга было сустрэць паэта. А ён жа

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

знаходзіцца на дзяржаўнай сдужбе, не пра сябе дбае, а пра літаратурны працэс, пра людзей, схільных да творчасці, пра іх маральнае аблічча. Бо *что мешает писателю? Выпивка, женщины, деньги, честолюбие. А также отсутствие выпивки, женщин, денег, честолюбия.* (Э. Хэмінгуэй). І тут трэба навесці парадак. Жалезны, жорсткі, справядлівы.

Сакратар зараз знаходзіўся пад уплывам натхнення, яго раптоўна наведала Муза. Ён, звычайны вясковы хлопец, скончыў філфак, аднак не захацеў вяртацца ў палескую вёску, ігнаруючы школу і долю Лабановіча. Як вядома, усе пісьменнікі нараджаюцца на перыферыі, а паміраюць у сталіцы. Чаму ж яму быць выключэннем, тым болей, што ўжо пісаў вершы пра басаногае дзяцінства, нясмелае каханне, вялікія мары і спадзяванні хлопца, што ўступае ў вялікае жыццё, дзе яму адкрыты ўсе дарогі: *Scribimus indocti doctique poemata passum – Мы, ученые и неученые, походя сочиняем стихи.* Таму прыстроіўся ў раённую газету, адкуль і зрабіў неблагі кар’ерны скачок, прызямліўшыся ў сакратарскім крэсле (шкада, што без сакратаркі). Сугучча слоў, амаль рыфма *(Ты – рыбачка, я – рыбак, Ты – марачка, я – марак)*, яму спадабалася, бо адно не ўспрымаецца без другога. Працаваў Сакратар даволі плённа. Гаварылі, што ён, нібы Светоній, *Composit et De vita sua octo volumina, magis inepte fuam – Сочинил также восемь книг о своей жизни, написанных не столько безвкусно, сколько бестолково.*

Цяпер ён ужо забыўся і пра вёску, і пра газету, дзе кіраваў сельгасаддзелам, але зараз пісаў раманы пра жыццё сяла, што стаяла на скразняках эпох, пра тую Атлантыду, якая назаўсёды беззваротна знікае ў акіяне часу, і толькі ягоны твор стане нерукатворным помнікам сыходзячай натуры. Адным словам, мы прысутнічалі пры цудзе, калі *Nescioquid majus nasitur Iliada – Нараджаецца нешта больш вялікае, чым “Іліяда”.* Тым болей, што і быў ужо падабраны адпаведны эпіграф: “*Себе любимому посвящает эти строки автор”,* запазычаны ў паэта-гарлана.

На дадзены момант ён пісаў пра першы выхад маладога хлопца, што становіцца гаспадаром, на сенакос. Апісаўшы размашыстыя пракосы маладога дзецюка, што адважна валіць росныя травы і адначасова захапляецца прыгажосцю навакольнай прыроды, ён не толькі паказаў, як ім любуецца родная матка, але і ўвёў нечаканую інтрыгу. За хлопцам, што скінуў сарочку і застаўся толькі ў адных портках, цікавала яшчэ адна гераіня твора – маладая чарнабровая ўдава, якая сваім тэмпераментам дачасна звяла мужа ў магілу і цяпер знаходзілася ў стадыі пошукаў: сачыла за новай

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

ахвярай. Удавіца ў дадзенае імгненне цікавала не за касою, а з захапленнем ацэньвала і любавалася мускуламі хлопца. Пісьменнік яскрава ўбачыў план спакусы, ён ужо амаль уявіў дзеянні гераіні, яе ласкавыя словы і неадольныя рукі, кволы хлопцаў супраціў, што будзе задушаны ў зародку, і фінал любошчаў, пасля якіх новаспечаныя каханкі будуць удыхаць водар п’янкага сена, а месяц, засаромеўшыся, схаваецца за хмару.

– Сцэна, – падумалася аўтару, – геніяльная, на прэмію, несумненна, пацягне, у хрэстаматыі ўвойдзе. *Эта штука посильнее “Фауста” Гёте, любовь побеждает смерть,* – працытаваў ён уголас класіка, вядомага, праўда, болей працамі па мовазнаўстве.

Аднак стройныя рады вобразаў разбіліся на друзачкі нечаканым візітам.

– Яшчэ адзін непрызнаны геній, – амаль з нянавісцю падумаў пісьменнік, убачыўшы перад сабою не *ладна абсталяваны грудны сектар* (А. Мрый) удавы (о, цюкнула яму, трэба развіць вобраз павучыхі “чорная ўдава”, якая пасля мілосці з’ядае партнёра), а вясёлае аблічча Зяця 2. Яшчэ прамудры Саламон сцвярджаў, што *веселое сердце дѣлаетъ лица веселымъ, а при сердечной скорби духъ умирает.*

– Ну, і што вы хацелі? – няласкава, але ў межах прыстойнасці запытаўся ён. – Што ў вас? Раманы, п’есы, вершы?

Чорт бы вас усіх пабраў, падумалася яму. І хто прыдумаў гэтую ўсеагульную павальную адукацыю, якая шкодзіць культуры больш, чым п’янства. Было ж некалі пару літаратараў-класікаў, дзясятак масцітых творцаў, і хапала на ўсю краіну. Трэба выдаць закон, які не дазваляў бы пісаць без дазволу. Забаранілі ж мы выступаць ім дзе захочуць і друкавацца без нашай згоды.

Некалі Апалінэр у эсэ “Смерць паэта” пісаў, што кожнага, хто падазраецца ў складанні вершаў, неабходна адразу адправіць на электрычнае крэсла. Мантэнь яшчэ раней заклікаў: *Следовало бы иметь установленные законами меры воздействия, которые обуздали бы бездарных и никчемных писак, как это делается в отношении праздношатающихся и тунеядцев. В этом случае наш народ прогнал бы взашей и меня, и сотни других. Страсть к бумагомаранию является, очевидно, признаком развращенного века. Писали ли мы когда-нибудь столько же до того, как начались наши беды? А римляне до того, как начался их закат?*

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

– Што? – не зразумеў Зяць 2. – Які раман? Я чалавек прыстойны, шашняў сабе не дазваляю. Толькі з жонкаю жыву, – збрахаў ён. – Ніякіх раманаў.

– А што ж вы пішаце? – памякчэў літаратар.

– Нічога не пішу. Не люблю я пісаніны. Лепш па телефоне, або так пры сустрэчы за куфалем піва, – апраўдваўся наведвальнік, які лічыў, што трэба берагчы лес. А таго, хто хоча выдаць сваю пісаніну, адправіць на лесанарыхтоўкі: няхай сам валіць дрэвы для вытворчасці неабходнай паперы.

– Не можа быць, – ніяк не верылася ў шчасце майстру слова. – Маніце. Прызнавайцеся. Ну, вы паэт, празаік, драматург? Ці, можа, не тут сказана, крытык?

– Не. Барані Божа. Я Зяць. Нумар 2. У маёй цешчы яшчэ адзін ёсць, ну, мой швагер, мы з сёстрамі жанатыя, добрае боўдзіла. Нумар 1. А я дык нумар 2. Так яна нас называла, каб не паблытаць. Той, мажліва, гаворыць і выглядае, як дэбіл. Але вы не павінны сумнявацца: ён, ну, мой родзіч, сапраўдны дурань.

– Слава Богу. Хоць адзін прыстойны чалавек за апошні месяц. І нічога не пішаце? Нічога-нічога? І ў юныя гады не пісалі? – Сакратару ніяк не ўяўлялася, што ёсць людзі, якія зусім не маюць жадання, убачыўшы аловак і чысты аркуш паперы, адразу сапсаваць яго. Таму ён падазрона яшчэ раз глянуў на наведвальніка:

– А што тады хацелі ў нашым саюзе? Можа, дзвярыма абмінуліся?

– Ды не. Я да вас ішоў. А хачу я, – ён дастаў паперку, напісаную Філосафам, – увайсці ў ваш апякунскі савет, каб падтрымаць культуру на гэтым складаным этапе эвалюцыі грамадства.

Калі б гэта сказаў марсіянін, інжынер чалавечых душ так бы не здзівіўся. Аднак перад ім стаяў рэальны чалавек. Таму ён зморшчыўся, але прамаўчаў. Затым падазрона спытаў:

– А што вы хочаце ўзамен? – ціхенька-спуджана спытаўся творца, нібы ўбачыў Мефістофеля, які прыйшоў па ягоную душу і ўжо распачаў гандаль.

– Нічога. На альтруістычных пачатках. Задарма. Бо я з дзяцінства ўзгадаваны на лепшых узорах роднай літаратуры і сусветнай класікі, – Зяць глянуў у паперку, падрыхтаваную Філосафам.

– Яно і відаць. *Осел знает ясли господина своего, а издатель знает нравы своей публики,* – прабарматаў Сакратар і махнуў рукою. Ён любіў у сваіх тэкстах цытаваць класікаў. Праўда, ягоны спосаб цытавання адрозніваўся ад прынятага тым, што ён ніколі не ставіў двукосся. *“Кавычки для идиотов”,* – гаварыў яшчэ М. Святлоў.

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

– Чарговы вар’ят, які начытаўся кніжак. Праўду мелі нашы продкі, калі не давалі чытаць кнігі каму папала. Вось Валенса, экс-прэзідэнт Польшчы, заявіў, што не прачытаў за жыццё ніводнай кніжкі. І кіраваў людзьмі і краінай. Яшчэ Платон гаварыў, што гора для дзяржавы, калі кіраўнік займаецца філасофіяй. А гэта, відаць, нейкі наркаман. Бо хіба ж разумны чалавек у наш час можа такое гаварыць? Разумны чалавек вершы складаць не будзе. Кнігі пішуць дурні, а яшчэ большыя іх чытаюць і робяць жыццё паводле кніжак. Але дурні бываюць і карыснымі. Такія тыпусы заўсёды сустракаліся, ва ўсе эпохі ў велізарнай колькасці, бо ў нашай галактыцы больш за ўсё вадароду і дурняў. Так сказалі разумныя людзі. І гэта праўда. А можа і якая выгада перападзе з іх. Чаму ўсё толькі людзям?

Сакратара ізноў ахапіла крыўда, бо мара пра цудоўную сакратарку рэальна адплывала, быццам воблачка з ягонага рамана пра касца і ўдаву, якая ўжо бессаромна купалася ў рэчцы без сарочкі, наводзячы жах на аднавяскоўцаў і будучых чытачоў. Любуючыся дасканалым пупком гераіні, лаўрэат у перспектыве праслухаў пытанне незвычайнага наведвальніка, таму наўдачу сказаў:

– Уступіць у наш саюз могуць толькі творчыя асобы, якія маюць публікацыі ў салідных выданнях і некалькі кніжак, самае меншае тры. Прычым выдадзеных у дзяржаўных выдавецтвах.

Ён задумаўся:

– І чаго яны лезуць? Саюз не з гумы, і так у яго паўзуць і жук, і жаба, і кракадзіл. А потым рэзка запытаў: – У вас ёсць кніжка? Уласная.

На ягонае здзіўленне, Зяць 2 не стушаваўся, наадварот, усміхнуўся, успомніўшы песеньку пра Мішку са зберкніжкай. Таму смела сказаў:

– Ёсць. І не адна. Называецца ашчадная, зберкніжка. Вельмі тоўстая. Прычым на замежнай мове. Англійскай. З надпісам “Божа, зберажы каралеву”.

Сакратар узняў вочы на *visavi*:

– На якой мове – гэта не істотна. Мы ж інтэрнацыяналісты, не замыкаемся ў нацыяналістычных каморах. Хоць на амерыканскай. Абы толькі змястоўнай была і магла даць адказ на актуальныя запытанні грамадства і асобы.

Зяць не зразумеў сутнасць запатрабаванняў, але заківаў:

– За гэта не хвалюйцеся. З гэтым усё ў парадку.

Сакратар і не збіраўся хваляваццa, бо любіў чалавецтва і ненавідзеў людзей. Ён зразумеў: гэты прахіндзей зможа ўсё, у тым ліку і стаць пісьменнікам, напісаць хоць тузін кніжак. Якіх захочаш.

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

Некалі Аляксандр Дзюма старэйшы здзівіў увесь Парыж, а разам з тым і сусвет, заваліўшы іх раманамі, апавяданнямі, гістарычнымі хронікамі. Ён збудаваў тэатр, у якім кожны дзень ставілі спектакль па ягонай новай п'есе. Сучаснікі не маглі разгадаць сакрэт гэтай пладавітасці. А ларчык проста адчыняўся. На мэтра працавалі літаратурныя негры, якія і стваралі шэдэўры па загадзя падрыхтаваных лекалах. З тых часоў заўсёды на біржы працы тоўпяцца дзясяткі творцаў, здольных прыгатаваць адносна здаровую і лёгкаўжывальную страву для сну і духоўнай летаргіі. Хай гэты прадукт будзе не новым і тым болей геніяльным, але разумная задума і прыстойны стыль выкладання гарантуюцца. У наш час такіх кухараў – не злічыць, імя ім легіён. Таму справа вырашаецца вельмі проста – ствараецца праект, у якім талковыя людзі прадвызначылі ўсё: менеджары па продажы знайшлі лакуну на рынку, крэатар абдумаў ідэю, кастынг правядзе былы сачыніцель, мастак аформіць серыю: ад ідэі да рынку – два крокі. Галоўнае – гучны псеўданім (Данцова, Марыніна) і рэклама, рэклама. Згадаем хоць рэкламную акцыю каньяку *"Шустовъ"*.

Запусціўшы свой завод, крэатыўны кіраўнік набраў некалькі дзясяткаў маладых людзей і разаслаў іх па еўрапейскіх сталіцах. І вось у самыя дарагія рэстараны Парыжа, Бруселя, Берліна заходзяць шыкоўна апранутыя арыстакраты у элеганцкіх строях з бездакорнымі манерамі, і заказваюць самыя дарагія стравы. І ўсе просяць каньяк "Шустовъ". Ніхто з рэстаратараў і не чуў пра падобны напой. Але калі заказы не спыняліся на працягу тыдня (хлопцы крывілі губы, калі чулі, што такога напою няма ў рэстаране і ішлі ў іншы), то праз дзесяць дзён камівяжоры прывезлі некалькі скрынак жаданага пітва, зрабіўшы яго папулярным у Еўропе. А потым наладзілі сталыя пастаўкі, і каньяк заняў сваю нішу. Тое самае цяпер робіцца з кніжкамі, кінафільмамі, карцінамі. Самае галоўнае – сцвердзіць, што перад намі геніяльны твор, не пазнаёміўшыся з якім ты не можаш лічыць сябе інтэлігентным чалавекам. А дурняў ля мастацтва ў працэнтных адносінах намнога болей, чым у рэальным штодзённым жыцці. Таму для рэкламы ўсё згадзіцца.

Нібы чуючы ягоныя думкі, Зяць 2 заявіў:

– А прозвішча ў нас прыгожае, гучнае, шляхоцкае.

– Ну, назавіце, – Сакратар чакаў многага, але пачуў выбуховае:

– Глінскі-Папялінскі.

– Сапраўды?! – пісьменнік недаверліва бліснуў вачыма. – Добрае прозвішча. І псеўданім не трэба шукаць.

– Тым болей. Нам трэба, каб наш новы літаратар стаў членам вашага саюза. Усе ўзносы будзем плаціць своечасова, асобна за

членскі білет. Заснуем фундатарскі фонд, дапамога маладым. Прэзентацыі. Падарожжа ў калгасы і заводы ў пошуках новых тэм і герояў.

– Гэта малавата. Нароблены багаж у прэтэндэнта слабаваты. А як паглядзяць там, – сакратар узняў палец угору. – Хаця каму цяпер трэба літаратура, прыўкраснае пісьменства? Што цяпер пісьменнік у грамадстве? Раней гэта быў прарок, нешта сярэдняе паміж цюленем і клоўнам.

Зяць 2 зразумеў усё па-свойму. Самакапанні ў глыбіні псіхікі творцы яго абсалютна не цікавілі. Ён быў практыкам:

– Давайце па-дзелавому. Вы мне – членскі білет для будучага пісьменніка, я для вас – сродкі для выдання вашай новай кнігі.

Па сутнасці, паўтарылася сцэна, якую некалі ўвасобіў Марцыял у эпіграме, дзе Вергілій звяртаецца да славутага Мецэната, сябра і пакравіцеля паэтаў: *Sint Mecenates, non derunt Marones – Былі б толькі Мецэнаты, у Вергіліях недахопу не будзе.*

Нечаканая прапанова так уразіла будучага лаўрэата (вясёлая ўдава ўжо зусім распранулася, прадчуваючы хуткі выхад на вялікую сцэну), што ён аж падскочыў, забыўшы пра ўсе праформы:

– Здорава! Згода! А гарантыі? – раптам засумняваўся ён, і, пачуўшы ціхенькае: “Толькі скажыце, куды і колькі”, прашаптаў “Мне, асабіста”. А ўголас працягваў:

– А як жа хочаце атрымаць білет: індывідуальна на офісе, ці ўрачыста, на сходзе? Мы, эстэты, любім, каб усё было прыгожа: і сам білет, і спосаб яго ўручэння. І каб публіка была.

– Ну, гэта не так ужо важна. Хаця не, пачакайце, – у галаве Зяця 2 забурліла новая ідэя, што настойліва шукала сабе выхаду. – Мы хутка будзем праводзіць навуковую канферэнцыю, таму можам усё гэта зрабіць на вельмі прыстойным узроўні, сярод значнай колькасці гледачоў.

Ідэя Сакратару вельмі спадабалася: ён любіў прысутнічаць на розных прэзентацыях (публіка любіць хадзіць на сустрэчы з пісьменнікамі, бо спадзяецца, што глядзець на іх прыемней, чым чытаць іх опусы), піць шампанскае, рабіць рамантычны задуменны погляд, які, як ён лічыў, так прыцягальна дзейнічае на маладзенькіх дурнаваценькіх паэтак, якіх потым можна спакусіць. Гэта ўжо не вясковая ўдава, а вышэйшы свет, дзе можна і з ільвіцай пасябраваць. І не толькі лунаючы ў аблоках. Яму ўжо не хацелася адпускаць такога прыемнага ва ўсіх адносінах госця. Таму прапанаваў:

– А давайце мы на ўзор згаданых кухароў ад літаратуры напішам кнігу пра вашага слыннага родзіча. Прааналізуем ягоныя

творы: У мяне ёсць на прыкмеце харошы крытык са сталіцы, за двайны ганарар параўнае вашага пратэжэ з Шамякіным, а калі запросім сюды на тыдзень, то і з самім Шэкспірам. Згадаем факты ягонай біяграфіі, аформім хораша, маляўніча, на фінскай паперы.

– А што, цікава, цікава… – задумаўся Зяць 2. – Цэлая кніга пра Максіма. Якая яшчэ патрэбна легалізацыя? Кожнаму тыцнеш ў рукі і вось табе дакумент. Але як жа напісаць..?

Між хаўруснікамі наладзіўся той узровень узаемадзеяння, калі словы асабліва не патрэбныя, усё спасцігаецца на падсвядомым узроўні. Таму на маўклівае пытанне аднаго другі моўчкі адказаў:

– У якім жанры вы б хацелі ўвасобіць задуму?

Аднак тут сістэма ўзаемапаразуменняў дала першы збой, бо адзін з парацыпіентаў аказаўся не на ўзроўні, таму пайшоў пусты запыт:

– Што?

– Ну, жанр, – правайдэр хацеў вярнуць узровень сістэмы ў ранейшы рэжым, – раман, паэма, мадрыгал, санет?

Пытанне “А што гэта за звер?” канчаткова дабіла сістэму. Што зробіш: кожны слухае толькі тое, што разумее.

Але спробы не канчаліся:

– Ну як вам растлумачыць? Санет – гэта форма верша, у якой чатырнаццаць радкоў… Карацей кажучы, два катрэны і дзве тэрцыны, – згадаў творца. – Зразумела?

– Угу. А яшчэ якія? Назавіце паіменна…

– Ну, балада, п’еса, песня.

– А. Гэта тыпу: *“Кис-кис: вот и вся музыка. Мяу-мяу: вот и все слова”.*

– Ну, нешта падобнае. *Жил да был черный кот за углом.*

Але гэта не спадабалася заказчыку. Яму захацелася нешта іншае, сур’ёзнае, глабальнае. А песенькі, прыпеўкі, дрындушкі – гэта дробязі. Бо і сам Зяць любіў мурлыкаць песеньку абы пра што, нават напяваць арыі ў душы.

– Давайце што-небудзь іншае.

– Можна жыццяпіс. Біяграфію. Маляўнічую. Вялікую.

Другому зяцю гэтая ідэя вельмі спадабалася.

– Во-во! Давайце біяграфію. Карцінкі, фота, колер. Цвёрдая вокладка.

– Ну, тыпу *Былое и думы*, *Воспоминания и размышления*, *Роздум на апошнім перагоне*, *Начныя ўспаміны.* Ну і колер, канешне, ілюстрацыі.

 © PDF: Камунікат.org, 2015

– Згода! Вось я ў дзяцінстве чуў казку “Каток – залаты лабок” пра вусатага героя, які здзяйсняў жаданні людзей. Вось такое і зрабіце.

Сакратар не чуў пра коціка, што дапамагаў усім, у іхняй вёсцы казак не распавядалі, рэальнае жыццё было страшней за казачнае, але прапанаваў сустрэчны варыянт.

– Давай як у Льва Мікалаевіча – *Детство, Отрочество, Юность.*

Зяць 2 задумаўся:

– Пра гэта, відаць, ніхто не памятае. Нават сам герой. Ды і не вельмі гэта цікава. Там нічога новага няма. Ён стаў асобай, ваяводай толькі зусім нядаўна.

Сакратар не здаваўся:

– Гм… Тады пачнем са сталасці, раскрыем адметнасць асобы на піку творчага ўзлёту і поспехаў. А дарэчы, хто ён, наш герой – філосаф, кіраўнік высокага ўзроўню, падарожнік, алігарх?

– І тое, і другое, і трэцяе. Усяго патроху ў ім намяшалася: і філосаф, і бадзяга, і чалавекалюб. А ў кнігу ўключыце паболей здымкаў, ілюстрацый, слоў паменш. Хто ў наш час чытае? Многія ўжо і развучыліся, або і не ўмелі. Карацей кажучы, пішыце, што хочаце, галоўнае, каб кніжку было прыемна ўзяць у рукі. Толькі адна ўмова – выдаць пад ягоным прозвішчам.

Новыя сябры доўга яшчэ гаманілі, выпілі кавы з каньяком, потым каньяку без кавы, потым тое, што прынёс запаслівы Зяць 2. Што ж, не заўсёды нацягвае свой лук Апалон. Трэба адпачыць і вялікім. Падчас разрыўкі дамовіліся пачаць работу адразу, не цягнуць ката за хвост, тэрмінова скласці перспектыўны і бягучы план рэалізацыі ідэі. Пратакол аб намерах вырашылі не падпісваць, бо, па-першае, ужо фізічна не маглі сфармуляваць пункты плану, па-другое, сваю дамову вырашылі захаваць у таямніцы, бо грошы і ўсё, што з імі звязана, любяць цішу. Калі развітваліся, Сакратар парэкамендаваў свайму сябруку зайсці да славутага мясцовага архіварыуса і геральдыка ў адной асобе. Гэтыя словы Зяць 2 вымавіць, канешне, ужо не змог. Сакратар доўга тлумачыў, як разумець іх, гаварыў пра генеалагічнае дрэва, якое трэба скласці. Потым махнуў рукою і ўсё распісаў на паперцы: куды пайсці, каго знайсці, што сказаць, як заказаць генеалагічнае дрэва, у якой форме. Развітваліся радасна, шчыра. Будучы лаўрэат, згадаўшы прымаўку Эразма. *(Если никто другой тебя не хвалит, ты правильно поступишь, сам похвалив себя),* расказваў пра свае поспехі, чытаў старонкі спакушэння касца і па бліскучых вачах удзячнага слухача, ягоных выразах *курва, сцерва,*

недвухсэнсоўных уздыхах зразумеў, што дасягнуў жаданага. Ён ужо не сумняваўся, што пра долю лепшых старонак ягонага рамана можна сказаць словамі вялікага Гарацыя: *Nocturna versate manu, versute diurno* – *Перелистывайте их днем, перелистывайте и ночью.*

Народ любіць літаратуру, што б там не гаварылі, – прыйшоў да глыбокіх высноў расчулены аўтар. І таму самы лепшы крытык – наш чытач з глыбінкі жыцця, а не з тусоўкі. Дарэмна, падумалася яму, некалі ён так шчыра цытаваў Хадасевіча: *Люблю людей, люблю природу. Но не люблю ходить гулять. И твердо знаю, что народу Моих творений не понять.*

– Люд розны бывае, уздыхнуў ён, падумаў і вырашыў гэты вызначальна-рэвалюцыйны тэзіс абнародаваць на бліжэйшым сходзе пісьменнікаў рэгіёна. Ён не вельмі любіў *Genas irritabile vatum* – *Раздражительное племя поэтов)*, пра што раней сказаў Джордж Мур: *Литературное течение составляет пять или шесть человек, которые живут в одном городе и люто ненавидят друг друга.*

Але яго грамадзянскі і пісьменніцкі абавязак штурхалі да дзейнасці. Тым болей, усе мы нясём адказнасць за таго, каго прыручылі. Яму хацелася бегчы хутчэй да стала і пісаць, пісаць, пісаць.

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

## *X Quaerenda pecunia primum, virtus post nummos – Перш за ўсё трэба шукаць грошы, потым мараль.*

*Зато, без всякого сомнения, из нашего теста испечены того сорта люди, которые любят рассказы о ложных знамениях и чудесах и никак не могут досыта наслушаться басен о призраках, лемурах, ларвах, выходцах с того света и тому подобной невидали; и чем более расходятся с истиной эти небылицы, тем охотнее им верят, тем приятнее ласкают они слух. Не для одного препровождения времени рассказываются эти басни – бывает от них и выгода, особливо священникам и площадным краснобаям. Нужно здесь помянуть и тех, кто внушил себе глупое, но приятное убеждение, будто стоит человеку поглядеть на статую или икону Полифема-Христофора – и смерть не грозит ему в тот день; или, что, прочитав перед статуей св. Варвары некую молитву, он воротится цел и невредим с поля боя; или, что, ставя в известные дни свечки св. Эразму, он вскорости сделается богачом. Из св. Георгия люди эти создали себе нового Ипполита или Геракла, на его коня, благоговейно украшенного драгоценной попоной с кистями, они только что не молятся; стараясь заслужить его расположение, они то и дело подносят ему подарочки, а медным шлемом святого клянутся даже короли. А что сказать о тех, которые, якобы искупив свои грехи пожертвованием на церковь, безмятежно радуются и измеряют срок своего пребывания в чистилище веками, годами, месяцами, днями, часами – без малейшей ошибки, словно при помощи клепсидры или математической таблицы? Что сказать далее о тех, которые верят в волшебные амулеты и наговоры, выдуманные каким-нибудь благочестивым обманщиком для потехи или выгоды ради, и тешат себя надеждами на богатство, почести, наслаждения, избыток во всем, вечно цветущее здоровье, долгую жизнь, бодрую старость и, наконец, место в царствии небесном поближе к самому Христу? Впрочем, попасть туда они рассчитывают возможно позже: когда, мол, пресытятся всеми наслаждениями здешней жизни, тогда и променяют ее на райское блаженство. Все это настолько глупо, что даже я готова устыдиться, и, однако, этому верят не только грубые мужики, но и наставники церкви. Вполне уместно будет сказать и о том, что каждая область заявляет притязания на своего особливого святого; каждый чествуется особыми обрядами, каждому из них приписываются особые способности: один исцеляет от зубной боли, другой искусно помогает роженицам, третий возвращает*

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

*украденные вещи, этот спасает при кораблекрушении, тот охраняет стада, и так далее в том же роде. Перечислять всех подряд было бы слишком долго. Существуют также святые, оказывающие помощь во всех случаях жизни, такова в особенности богородица-дева, которую простой народ чтит даже более, чем ее сына.* (*Эразм Ратэрдамскі, “Пахвала Дурасці”*)

*Предрассудки – несущие опоры цивилизации*
*Філосаф*

Зяць 1 доўга сядзеў у кабінеце, задрапаваным усім чырвоным. Чырвоным было святло, што лілося са столі і сценаў, чырвонымі былі жалюзі, замкнутыя навек, чырвонымі былі дываны і накідкі на чырвоных крэслах. Вочы стамляліся ад велізарнай дамінанты ўсяго аднаго колеру з вялікай палітры божага святла, чаму спрыяла ў немалой ступені і абсалютная цішыня, якая настолькі апанавала пакоем, што нават простае варушэнне здавалася каменепадам. Тым болей, што пратрымалі яго там не меней за чвэрць гадзіны. За гэты час ён згадаў усе астатнія этапы свайго зямнога жыцця. Калі нарэшце крыху збянтэжанага наведвальніка ўпусцілі ў вялікі пакой да галоўнай вядзьмаркі, ён быў ужо добра ўзбуджаны і, як вол даўбню, чакаў развязкі. Спрыяла гэтаму, што і сам пакой, дзе адбывалася дзейства, яшчэ больш ўражваў: у паўзмроку, на гэты раз чорным, можна было ўбачыць чэрап на каміне і выявы кажаноў, што калыхаліся ад подыху паветра, над ім; на стале стаяў бліскучы круглы шар, на які паклала руку маладая кабета ўся ў чорным. У абсалютнай цемры свяціліся толькі яе белыя-белыя зубы (пры ўсмешцы ці гаворцы) і не менш алебастравыя рукі. Яна пільна агледзела пранікнёнымі вачыма чарговага кліента і не менш строга спытала:

– Ну, і што вас да мяне прывяло?

Гэтае пытанне і ўзарвала Зяця 1, які так і шукаў разрадкі ад празмеранага напружання. Хацеў сказаць: *Плодитесь и размножайтесь*, як гаварыў бацюшка, але крыху іншымі словамі. Аднак ён стрымаўся і вырашыў паступова рашуча выказаць сваё кіпучае незадавальненне. Таму яхідна (*In cauda venenum – Яд у хвасце!*), як здалося яму, спытаў:

– Гэта ўсё тваё? – і паказаў на дыпломы, граматы, пасведчанні ў залацістых рамках, а таксама махнуў у бок папярэдняга пакою, дзе іх вісела яшчэ болей. Варожка задаволена ўсміхнулся і напускная строгасць крыху згладзілася:

– Я патомная гадалка-варожка і прадказальніца ў сёмым калене. Сапраўдны член Еўразійскай акадэміі парапсіхалогіі акультных навук, бачылі там дыплом. Самы вялікі, той, што ў золаце. А тут проста атэстаты і дыпломы, сведчанні перамог у конкурсах. Маё мастэрства і талент так высока цэняцца ўсюды, што мая слава і вядомасць пашыраюцца амаль на ўвесь свет. Пакуль што толькі стары. Але… Але…

– Ух ты, – усклікнуў заяц. Аднак не зразумела было, ці гэта вокліч захаплення ці яшчэ чаго іншага.

Задаволеная варажбітка вырашыла “дабіць” кліента:

– Таксама я з’яўляюся ўдзельніцай шматлікіх семінараў і сімпозіумаў па чорнай і белай магіі, дзе шчодра дзялюся вопытам і пераймаю дасягненні сваіх калегаў з розных краін.

Відаць было, што Зяцю 1 карціць спытацца пра нешта больш істотнае. Але ён доўга вагаўся, перш чым нарэшце запытаў:

– Скажыце, а гэты дар перадаецца па спадчыне?

На што адразу атрымаў адказ:

– Зразумела, што так. Прычым толькі па жаночай лініі, па кудзелі. Усе мае бабулі, прабабулі, пра-пра-пра былі патомнымі варожкамі і знахаркамі. Прычым такімі магутнымі, што дзейнічалі пры княскіх ці нават каралеўскіх дварах. Некаторыя з іх цудам вырваліся з лапаў інквізіцыі, інакш былі б спалены на кастры. Вось як.

– Шкада! – усклікнуў Зяць. – Шкада, што і заходняя пунктуальнасць дапускае збоі.

– Што вы бармочаце? – не залюбіла вядзьмарка. – Што вам шкада?

– Я кажу, што калі вы такая разумная і пранікліваая ўнучка Бабы-Ягі, то навошта пытаецеся, чаго я хачу, што мяне да вас прывяло?

Цяжка што-небудзь прадказаць, асабліва будучыню. Нездарма яшчэ Цыцэрон заяўляў, што ўжо даўно ніхто не верыць навінам з Дэльфаў, дзе жыў вялікі аракул. А што ў наш час? Неяк Зяць 1 глядзеў па тэлеку перадачу пра змаганне экстрасэнсаў і яго надзвычай уразіла просценькае пытанне, чаму гэтыя прадказальнікі, якія, як тое сцвярджаюць самі, ведаюць будучыню, не могуць загадзя сказаць, хто з іх пераможа. Вось у іхняй вёсцы было два браты, і адзін з іх казаў, што заўтра будзе пагода, а другі сцвярджаў, што будзе дождж, і абавязкова нехта з іх угадваў. Вось гэта прадказальнікі. Таму ён і павысіў голас, звартаючыся да кабеты:

– І няма чаго пытаць. Ты павінна была яшчэ за дзвярыма спазнаць мяне і, не пытаючыся больш нічога, даць параду ці правесці

адпаведны сеанс, дапамагчы ў маёй справе. Шкада, што ў нас не было сваёй інквізіцыі, а то спалілі б тваіх бабуль і цябе не было б, такой прыгожай і разумнай. А можа ты па-іншаму на мужыкоў уздзейнічаеш?

– Супакойцеся, а то зараз зраблю так, што ваш чэлес заспявае пеўнем, – яна зрабіла некалькі рухаў у напрамку да яго мужчынскай годнасці, і, калі спалоханы Зяць адхіснуўся ад страху (так і каплуном можна стаць), спакойна працягвала:

– Знайшоў мне біном Ньютана. Дык што там здагадвацца ці варажыць, усе прыходзяць да мяне або па каханне, або па грошы, зрэдку па здароўе.

Традыцыя звароту да чорных сілаў у мясцовага люду існавала заўсёды, нягледзячы на пашырэнне хрысціянства. Здарылася так, што ў свядомасці народу мірна ўжываліся сімвал апошняга і рэшткі паганскага светаўспрымання. Таго, што А. Багдановіч назваў *пережитком древняго миросозерцания у белоруссов.* Зяць не вучыў тэорый, але ведаў затое, што да гэтага часу люд паспаліты верыць у д’ябла, у чорта і русалак, у нячысцікаў і чараўніц. Таму дзейнасць варожкі ніякіх пытанняў не выклікала, аднак захацелася б удакладніць ці прымусіць яе збянтэжыцца.

– І што вы можаце даць *страждущим* дабра і праўды?

– Калі заплаціце, то ўсё, а найперш надзею і спадзяванні. Веру ва ўласныя сілы і дапамогу, бо чалавеку можна толькі тады дапамагчы, калі ён таго захоча. Мы толькі падсаджваем на першы сук, а далей сам-сам-сам узбірайся на дрэва.

Складаныя словы падсвядома выклікалі ў кліента іншыя асацыяцыі, але ён ашчэрыўся:

– Усяго? Толькі надзеі і спадзяванні? За такія грошы?

Аднак дарэмнымі былі ягоныя намаганні збіць з тропу прафесіянала:

– А вы што думалі? Надзея дарага каштавала ва ўсе часы, бо гэта – рухавік прагрэсу, з якога ўсё і пачынаецца. Хоць некаторыя сцвярджаюць, што канец ужо зараджаецца ў самім пачатку, яны, пачатак і канец, перапляліся, нібы ногі Мэрылін Манро.

Зяцю ўявіліся надзвычай дасканалыя пераплеценыя ногі галівудскай прыгажуні, прычым настолькі яскрава, што аж закружылася галава. І ў гэтым ён пабачыў вынік уздзеяння ведзьмы. Аднак тое мроіва доўга не працягнулася: запрацаваў прынтар і вентылятар.

– Цьфу, – падумалася яму, – і тут філосаф. Куды ж толькі ад іх прамудрасці схавацца?

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

– З чарапамі і косткамі па-іншаму і нельга. Пра гэта нас вучыць дыялектыка Маркса, – угадала, як падумалася Зяцю, ягоныя думкі, варажбітка, якая на самой справе проста прачытала па губах.

– Таксама мне Гамлет мясцовага разліву. Дзе толькі ад вас падзецца? Мне не сентэнцыі па філасофіі, а вынік трэба. Або хоць працэс які, а то адна гаварыльня. Знайшоўся яшчэ адзін Настрадамус, якому прыпісваюць прадказанні ўсяго, што адбылося. А ніводнай будучай падзеі з ягоных катрэнаў не вычытана. Філасофстваваць пра ўчарашні снег у нас могуць усе: і палітыкі, і бандыты. Ды я і сам майстар памудрагеліць пасля літру віскі і клешняў смачных амараў дзе-небудзь на Гаваях.

Зяць ні разу нідзе не быў, ні на адным курорце, аднак пасля многіх камедый, што бачыў па тэлеку, яму падалося, што ён усё ведае лепш за сапраўдных турыстаў. Таму голас ягоны падчас аповеду быў настолькі ўпэўненым і пераканаўчым, што варожка паверыла і выразна змяніла тон:

– Ну, у такім выпадку, – пасля памаўчала і заявіла: – Ну, што ж вы адразу не сказалі, што вы *vip*-кліент? А ў цэлым, не люблю, калі на маю брахню адказваюць брахнёй. Несумленная канкурэнцыя.

На гэта задаволены Зяць адзначыў, што павінна была сама здагадацца, бо шляхетнага пана відаць па халяўках, а мужчыну сапраўднага можна пазнаць, нават калі ён голы. Новага багацея падвялі да стала, усадзілі, раскінулі карты, якія называліся вельмі мудрона “Таро” і пачалі ў чатыры вокі вычытваць таямніцу, схаваную і заклятую. Паціхеньку клубіўся дым, які зусім не пах, толькі крыху павейваў ладанам, але надаваў дзейству адчуванне містэрыі. Зяцю было прыемна, хоць адчуванне трывогі не знікала. Чамусьці згадвалася заліхвацкая песня харошага паэта Л. Дранько-Майсюка пра цыганку, што спёрла ў аўтара чырвонцы, і таму давялося ў роспачы абдымаць таполю. Зрабіўшы шэраг пасаў, варожка ўявіла сябе крыху збянтэжанай, бо заявіла:

– А вось цяпер я не вельмі добра зразумела сітуацыю. Венера ў сузор’і Меркурыя, гавораць зоркі: Жарсць і золата. Тут і грошы, і любоў.

Зяць адразу абудзіўся.

– Чаго не зразумела? Абсалютна правільна. І тое, і сёе. Любоўныя грошы ці грашовае каханне, як вам даспадобы. Так заўсёды бывае. Вунь наш Аўдзей так любіў Тэклю, але замуж браць зусім не хацеў. А калі ёй раптам цётка падарыла машыну, то любоў імгненна вырасла да велізарных памераў, і ён адразу ажаніўся. А то

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

цягнуў тры гады. То прыходзіў, то сыходзіў, а цяпер жыве ў яе і нікуды не збіраецца. І ніхто, акрамя жонкі і машыны яго не цікавіць.

Калі Зяцю 1 расказалі, што ў старажытным Рыме былі гарусьнікі, якія гадалі па ўнутраных органах ахвярных жывёл, то ён толькі рассмяяўся, бо ў іхняй вёсцы заўсёды вызначалі па касе (селязёнцы) толькі што заколатага кабана, якая будзе зіма, і адчуў гонар за сваю маленькую радзіму. Праўда, ён не ведаў цытату з трактата Цыцэрона “Аб гаданні”: *Удивительным кажется, когда гарусник не смеется, увидев гарусника; но еще удивительнее, как вы, встречаясь друг с другом, можете удержаться от смеха.* Але, відаць, розум, які хоць раз зведаў паразу, заўсёды мае схільнасць да *суеверий.*

Варажбітка яшчэ раз глянула на карты:

– Тады ўсё зразумела… Я неяк ад гэтага адвыкла, бо цяпер звычайна просяць *albo-albo*. Але ўсё роўна, што ж на першае месца ставіць – грошы ці каханне?

Зяця гэта задэрнавала:

– Вы як маленькая. Канешне, грошы. З вашай мудрасцю і дыпломамі ды яшчэ пытацца. Гляньце на мяне ўважліва, – тая сапраўды пaглядзела. – Хіба ж я падобны на семнаццацігадовага дурня, закаханага ў шчочку не менш дурнаватай асобы супрацьлеглага полу? Трэба грошы! І толькі грошы. Будуць грошы, будзе каханне. Памятаеце, уз’язджае цыганская брычка на мост. Той правальваецца, і брычка з усім дабром падае ў раку. Цыганка ратуе дзяцей, а цыган крычыць – хапай сала, будзе сала – будуць дзеці. Так што толькі грошы, але – праз каханне, у тым ліку і праз пячонку, а не толькі праз тое, пра што вы падумалі.

Варожка па-філасофску ўздыхнула і ўдакладніла:

– Гэта тыпу шлях да сэрца мужчыны праз ягоны страўнік?

Зяць згадзіўся, але адзначыў, што цяперашнія жанчыны ведаюць і больш кароткую і надзейную дарогу. А да жаночага сэрца шлях ідзе праз вушы, якія любяць брыльянты. І расказаў некалькі гісторый пра шчаслівае каханне, да якога прывялі грошы. Пахваліў усходнія народы, дзе бацькі зводзяць дзяцей і благаслаўляюць грашыма, не дазваляючы маладым неразумным асобам рабіць такія ўчынкі самастойна.

Варожка ківала, згаджаючыся, што грошы заўсёды ідуць да грошай, менавіта таму беднякі бяднеюць, а багатыя – багацеюць. І прывяла нават выслоўе Ламаносава: *Сколько в одном месте убудет, столько же в другом присовокупится*, чым канчаткова дабіла кліента. Добра, што яна не згадала рымскага паэта Марцыяла, які 2000 год

таму сказаў: *Грошы цяпер даюцца толькі багацеям.* А потым спытала, ці не прынёс ён фота і некаторыя рэчы будучай ахвяры, на што зяць па-змоўніцку згодна кіўнуў. Убачыўшы фатаграфію, яна доўга цмокала языком, нешта шаптала, зяць пачуў толькі: “Спалохацца можна, пакіну кліентаў пужаць”, а потым загадала:

– Давай грошы. Тут у нас на першым паверсе крама, дзе прадаюць *сопутствующие товары.* Трэба сёе-тое купіць і буду пачынаць сеанс.

Зяць добра ведаў згаданую ўстанову, бо яму ўжо ўсунулі свечку за трыццаць даляраў. Раней усё было танней. Варажылі па кнізе Вяргілія, а затым па Псалтыры. Адкрывалі на пэўнай старонцы і чыталі. А яшчэ лепей, калі папугай ці малпа выцягвалі з капелюша цыдулкі з прадказаннямі будучыні.

Цяпер Варожка сказала, што трэба заплаціць 33300 расійскіх рублёў, каб купіць 33 бараны, завезці іх у Іерусалім і прынесці ў ахвяру на Святой зямлі. І тады моцны зарад энергіі вырашыць усе праблемы ў любой частцы свету і для любога кліента. Затым загадала ўтробным голасам: “Сядзі і маўчы, толькі слухай, калі што, ківай, ды глядзі, не брыкніся. Калі будзеш траціць прытомнасць, падымі левую руку. Будзь пільным перад абліччам нейкай магутнай незразумелай сілы, якая можа простым намаганнем знішчыць цябе ці пацягнуць з сабою ў іншы сусвет”.

*Horesco dictu – Трепещу, рассказывая об этом.* А як было Зяцю. Загарэўся крышталёвы шар, дым значна пачарнеў і стаў пахнуць нечым халодным, святло паступова прападала з усё паскоранай частотнасцю, потым раздаўся ўдар і ўсё знікла ў цемры. Невыносна запахла баўтунамі, г.зн. серай, першай галоўнай прыкметай д’ябла. Пасля пачалося чаргаванне святла і змроку, слых ірвалі гукі дзіўныя і страшныя, затым раздаўся трэск, удары, успыхнулі бліскавіцы. У цемры загучаў пачварны голас, які чытаў фрагмент з балады Яна Баршчэўскага:

*Ценіцца над кнігай пража*
*З неспасціжных словаў, рухаў,*
*Крэсліць кола, штосьці кажа,*
*Кліча з пекла ўладцу духаў,*
*Кажа: “Раз непалахлівы,*
*Роспач зніме як рукою.*
*Тут вось чорны кот мурклівы.*
*Забірай ката з сабою.*
*Кроч дарогай – ля дарогі*

*Ёсць капліца, што ўчарнела,*
*Да капліцы без трывогі*
*Кроч і ў дзверы грукай смела.*
*Хтосьць адчыніць дзверы сцяты,*
*Дасць далонь – не прэчся ў спудзе,*
*На далонь ямуката ты*
*Пакладзі, чакай, што будзе.*
*Рупся, бо як заспявае*
*Певень, духі згубяць змогу”.*

Потым усё сціхла і магутны бас загрымеў:

– Гора ўсім, хто жыве на зямлі.

Раптам у цемры Варожка зашаптала на самае вуха, моцна казычачы напружанае цела сваімі валасамі:

– Будзем купляць бараноў?

Зяць хацеў згодна кіўнуць, але раптам у тумане ўбачыў вясёлую морду калегі, які крычаў: “Купі толькі 32, бо адзін баран ужо ёсць”. Таму знайшоў сілы прасіпець:

– Не.

Варожка не засмуцілася:

– Добра, будзем выкарыстоўваць мясцовы матэрыял. Слухай уважліва:

– Трэба ноччу забіць чорнага казла і яго крывёю асвяціць магілу маладога наўца, г.зн. нябожчыка, пакойніка, затым сем разоў у самую страшэнную пору прыходзіць туды і шаптаць пацеры. Табе будуць перашкаджаць мерцвякі, якія перагародзяць дарогу, совы, жабы, рапухі і ўсялякая нечысць. Але ты не павінен баяцца, тым больш паказваць свой страх. Тады магія спрацуе. Яна будзе тваёй. Уся сіла цёмная табе дапаможа, стане тваім паплечнікам.

Ціхенька развейваўся дым, крышталёвы шар зацьмяўся. Бліснуў у цемры, варожка, што падчас сеансу ператварылася з дасканала апранутай прыгожай кабеты ў нейкую ўскудлачаную фурыю, не менш басавіта спытала:

– Чуў?

Той праз сілу выдыхнуў “ігі” і спрабаваў стрымаць ногі, што выбівалі чачотку.

– Цяпер, – ізноў схілілася да яго растрэпанаю галавой, – ні ў якім разе нельга спыняць дзейства. Мы запусцілі магутны механізм, і калі спынімся на паўдарозе, духі жорстка пакараюць нас. Могуць нават забраць нашы душы ўзамен. Мы так рызыкуем. Пойдзеш сам на могілкі і зробіш самастойна ўсе абрады? Гавары. Толькі не ўздумай

даць ход назад. Сёння ж ноччу ідзі на магілу самагубцы. Інакш заўтра можаш не прачнуцца. Пойдзеш? Ці даручыш гэта зрабіць нам?

– Вам, вам, – спалохана прасіпеў Зяць, якога найбольш уразіла згадка пра ката. – І тут кот. Нідзе без яго не абысціся.

Варожка ўздыхнула, паказала суму, якую трэба плаціць за клопат, рызыку, жыццё ўвогуле. У дадатак яна сказала, што ў ягоным атачэнні пасяліўся энергетычны вампір, які смокча жыццёвыя сокі з блізкіх, нібы вуж малако ў каровы, а гэта надзвычай небяспечна, бо можна страціць не толькі сілы, але і само жыццё. Варожка нават назвала прыкметы гэтай пачвары, у якой наш герой пазнаў свайго родзіча. Гэта ўжо зусім дабіла яго, бо ніводнае пачуццё не перадаецца гэтак імкліва, як антыпатыя, і гэтак жа моцна ўздзейнічае на чалавека. Прыйшлося доўга да яго звяртацца, каб вярнуцца да жыцця. Але сяброўка цёмных сілаў справу сваю ведала. Калі Зяць разлічыўся дрыжачымі рукамі, яна па-змоўніцку, як блізкі чалавек, спыталася імя ахвяры.

– Апякунка, – спалохана прасіпеў Зяць і, пачуўшы грэблівае: “Што ты вярзеш?”, дабавіў больш голасна: “Пульхерыя Фемістоклаўна”.

– Што ты яшчэ пра яе ведаеш?

Сказаў, кім працуе, што любіць латынь і жывёл, а не мужчын, якія яе чамусьці абыходзяць. Варожка, не выходзячы з трансу, заявіла:

– Пашанцавала табе. Зоркі выстраіліся вельмі спагадна. Таму зачарую ўсіх на грошы, на вялікія грошы, можа, і мне што-небудзь перападзе. А будуць грошы, тым болей вялікія, то і любоў знойдзецца. Таксама вялікая. Вучы латынь, дурань. *Ora et labora – Маліся і працуй.*

Усё пакрылася дымам, нібы туман прыпоўз з балота. Зяць паціху развітваўся з жыццём, але не здаваўся. *Quid non mortalia pectora cogis, Auri socra fames – К чему не склонишь ты смертные души, проклятая страсть к золоту?*

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

## *XI Labor est etiam ipse voluptas – Праца сама па сабе – насалода*

*Из животных всего счастливее те, которые не знают никакой дрессировки*

*Посмотрите далее на любую другую породу живых существ: всех счастливей те, которые не знают ни учения, ни дрессировки, но живут исключительно по закону природы. Кто блаженнее пчел? Кто более их достоин удивления? А они даже не обладают всеми нашими телесными чувствами. Какой зодчий сравнится с ними в сооружении построек? Какому философу удалось учредить столь совершенную республику? А вот, с другой стороны, лошадь: чувствами своими она вполне подобна человеку и уже давно стала его походным товарищем, зато и делит с ним все бедствия. Во время состязаний и на войне она стыдится быть побежденной. Она напрягает все силы для победы, пока не падет наземь вместе с седоком. Не говорю уже о зубчатых удилах, изощренных шпорах, стойлах, подобных темницам, хлыстах, плетях, путах, тяжести всадника и вообще обо всей трагедии рабства, на которую она добровольно себя обрекла, потому что стремится, подражая могучим мужам, отмщать своему врагу. Сколь предпочтительнее образ жизни мушек и птичек, подчиняющихся одной природе! Лишь бы люди не преследовали их своими западнями. Птицы, попавшие в клетки, вскоре привыкают болтать человеческим языком и теряют весь блеск своей природной красоты. Настолько все, созданное природой, выше всего, подделанного искусством! Не нахожу достаточно похвал для этого петуха Пифагора, который последовательно был философом, мужчиной, женщиной, царем, простолюдином, рыбой, лошадью, лягушкой и даже, сколько помнится, губкой, и решил в конце концов, что никого нет несчастнее человека, поскольку все остальные животные довольствуются теми пределами, в которые их заключила природа, и лишь он один пытается раздвинуть границы своего жребия. (Эразм Ратэрдамскі, “Пахвала Дурасці”)*

Ужо значна болей упэўнены ў сабе, ладна апрануты Зяць 2 смела зайшоў у мясцовае бюро па працаўладкаванні. Цяпер ён ужо не звяртаў увагі на абсталяванне, інтэр’ер, болей не палохаўся швейцараў у галунах, яго не бянтэжылі далікатна-абыякавыя супрацоўніцы, што з уяўнай заклапочанасцю і вымучанай усмешкай спрабавалі даць рады праблемам чарговага кліента. Таму, відаць, да яго і не кінуліся людзі, што відавочна працавалі не тут, а проста бавілі

час у чаканні адпаведнага кантынгенту. Яны ацанілі важны ўпэўнены выгляд чарговага кліента і не наважыліся зачапіць яго. А некаторы час таму, калі ён заходзіў сюды за кампанію з сябрам, то іх адразу абступілі вярбоўшчыкі, соўкалі ў рукі нейкія паперы, запрашаючы на будаўніцтва і на Каўказ, і ў Сібір, і на Алімпіяду. Зразумела, рабочымі. І таму будаўнікамі ці на цагельню, прычым абяцалі залатыя горы.

Нічога не змянілася ў свеце за апошнія тысячагоддзі, толькі квітнела краіна мараў, дзе *Flumina jam lactis, jam flumina nortaris ibant – Рэкі цяклі малаком, цяклі нектарам.* Але тады, наслухаўшыся абяцанак, амаль падпісалі цыраграф. А затым ледзь вырваліся ад вярбоўшчыкаў, бо спалохаліся аўтобусаў, што чакалі сваіх ахвяраў.

Ён не быў такім адукаваным, як ягоны швагер, які пасля курсаў мог сказаць па латыні: *Aspire nudetis males – Палюбуйся голымі ягадзіцамі.*

Таму сказаў проста, як гавораць у народзе:

– У с…ку пацалуйце. Яшчэ на Аляску завязеце ці ў які-небудзь Гандурас. Я хачу прыносіць карысць толькі Радзіме.

А цяпер да яго тыя адэпты райскага жыцця нават і не падышлі. Яны не маглі ўявіць новага кліента рабочым, бо знешнасць ягоная стала кардынальна іншай. *Quantum mutatus ab illo – Як ён змяніўся ў параўнанні з ранейшым.*

Самі ж супрацоўніцы бюро таксама не праяўлялі ніякай цікавасці да новага чалавека: яны сядзелі за шклянымі дзвярыма і адчайна рабілі выгляд, што гэта іх зусім не датычыцца. Найбольш смелым і настойлівым паказвалі на стэнд і кампутар – маўляў, там усе звесткі: уключай, націскай кнопку насупраць тваёй спецыяльнасці і электроніка выдасць табе поўную інфармацыю пра наяўнасць вакантных пасад у горадзе і рэгіёне ці вобласці. Ды і дзеля каго было выходзіць: на дэфіцытныя пасады кандыдатуры ўжо даўно былі знойдзены, а на будаўнічыя ніхто не хацеў ісці, тым больш з’язджаць недзе на край свету. Зяць згадваў, як ягоны калега, што хацеў падзарабіць на пенсіі, меў гутарку з прадстаўніком службы па працаўладкаванні:

– Што ўмееце рабіць? – пытае чыноўніца.

– Магу быць фермерам, сеяць, жаць, даіць кароў, у далёкім дзяцінстве гэта рабіў, і прычым няблага.

– На дадзены момант гэта не патрэбна, усюды ўкаранёна аўтаматыка, – чыноўніца катэгарычна адмаўляе.

– Магу быць пастухом, пасвіць свіней, гадаваць авечак, – не сунімаецца знаёмы.

– У нас усе вегетарыянцы, – чуе ў адказ.

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

– Магу працаваць паштальёнам, насіць лісты, – ціхенька раскрывае таленты кліент.

– У гэтай прафесіі няма будучыні, усе даўно перайшлі на электронную пошту.

З тым і пайшлі яны дадому, Зяць 2 і ягоны сусед, былы настаўнік, пенсіянер, жыццёвы і творчы вопыт якога так нікому і не спатрэбіўся. А ў зале засталіся чакаць усмешкі фартуны самыя стойкія: адзін уфолаг, фатограф НЛА, спецыяліст па сексуальных адносінах канібалаў палінезійскіх астравоў, дыетолаг, што важыў 150 кг і ўсім прапаноўваў дыету для рэзкага пахудзення.

Таму Зяць 2 доўга не мудрагеліў і смела падышоў да ціхамірнай, як яму падалося, кабеты ў гадах, што весела разгадвала красворды. Тая зрабіла выгляд, што яго не заўважыла, але наш герой ужо быў іншым: ён спакойна чакаў. А. Чэхаў некалі пісаў, што *перемена жизни к лучшему, сытость, праздность развивают в русском человеке самомнение, самое наглое.* Відаць, і ў беларускім таксама. Кабеціне не дапамаглі і ўказальныя жэсты-накіраванні да стэндаў і кампутараў, таму ёй прыйшлося пакарыцца настойлівасці незвычайнага кліента:

– Слухаю Вас, што Вы хацелі? – і, пачуўшы адказ, агаламошана ўзняла броўкі, пад якімі хаваліся прыгожыя некалі вочкі:

– Што? Што? Вы звар’яцелі? Паўтарыце, а то ў мяне са слыхам нешта здарылася.

– Ці няма ў Вас якойсьці работы для ката? – паўтарыў Зяць 2. – Кот харошы, паслухмяны і, самае галоўнае, няп’ючы. Абсалютна. З дзяцінства не п’е, зусім, нават валяр’янку. Прынцыпова. Такая ў яго планіда.

Апошняе зусім дабіла бедную прадстаўніцу выканаўчай улады, якая дарэмна спадзявалася даседзець да пенсіі ў ціхім, як ёй казалі, калі ўладкоўвалі, закуточку. “Не ўдалося”, – мільганула думка перад тым, як яна ледзь не спаўзла з крэсла. Але ўтрымалася, бо мела вопыт чыноўніцкай дзейнасці, а там здаралася і не такое, бо ўладкоўвалі Бог яго ведае каго, прычым страшнейшых за ката, яна згадала гады працы ў серпентарыі, як ласкава называла жаночы калектыў адной установы. А дзіўны наведвальнік працягнуў выразку з газеты, дзе чорным па белым было напісана:

*Британский премьер-министр наконец завел крысолова*

*История мышеловства и крысоловства на Даунинг-стрит насчитывает не один десяток лет - коты в резиденции британского правительства "служат" уже давно. Первым Главным мышеловом в доме главы кабинета министров Великобритании (Chief Mouser to the*

*Cabinet Office) считался кот по кличке Казначей Билл, который жил при премьере Джеймсе Рамси Макдональде. Билл, правда, недолго оставался на своем посту - всего лишь в течение 1924 года.*

*Затем на Даунинг-стрит появился кот по кличке Питер, который прожил в резиденции 17 лет, успел половить мышей во время Второй мировой войны и познакомиться с несколькими премьерами, в том числе и с самим Уинстоном Черчиллем. Потом был Питер II и даже Питер III, но настоящей звездой мышеловства на Даунинг-стрит, 10 стал кот по кличке Хамфри.*

*Хамфри знают все. Во всяком случае, все британцы. Этот кот "работал" штатным борцом с грызунами с 1989 по 1997 годы. Животное успело застать трех премьер-министров - Маргарет Тэтчер, Джона Мейджора и Тони Блэра. Кстати сказать, по традиции, у "даунингстритовского" кота нет официального хозяина - он не принадлежит конкретному премьеру и считается служащим государственного учреждения.*

*Так вот, госслужащий Хамфри, названный в честь героя сериала "Да, господин министр", начал свою карьеру на Даунинг-стрит, 10 еще при "железной леди" Тэтчер. Он стал преемником кота по кличке Уилберфорс, который дорого обходился бюджету, хотя за работой ни разу замечен не был.*

*Когда Хамфри подобрали на улице, ему было около года. Как только он переехал в премьерскую резиденцию, он тут же приступил к ловле крыс и мышей и делал это исправно в течение восьми лет. За время "службы" на посту главного мышелова Хамфри стал настоящей звездой и даже, как и полагается знаменитости, успел стать жертвой недобросовестных журналистов - в 1994 году кота несправедливо обвинили в том, что он разорил гнездо малиновок.*

*После того как Хамфри ушел в отставку, специалиста по отлову грызунов на Даунинг-стрит не было в течение десяти лет. Преемницу главного мышелова, черно-белую, как и Хамфри, кошку по кличке Сибил, заселили в резиденцию главы британского правительства в 2007 году, когда премьером был Гордон Браун.*

*Сибил пробыла на посту главного мышелова недолго - в 2009 году государственная питомица скончалась. После смерти кошки на Даунинг-стрит почему-то не завели нового ловца мышей, и избранный премьером Дэвид Кэмерон некоторое время оставался "бескотовщиной".*

*Однако в 2011 году в крысолове возникла острейшая необходимость. Этого следовало ожидать - здание резиденции главы*

*британского правительства достаточно старое, и грызуны с удовольствием в нем живут и размножаются. В январе один из таких незваных обитателей дома номер 10 попал в кадр новостного выпуска BBC News.*

*Политический обозреватель телерадиовещательной корпорации вел репортаж от дома Кэмерона, а тем временем рядом с порогом резиденции появилась крыса, которая, не стесняясь камеры, прошмыгнула вдоль двери. На следующий день британская пресса устроила Кэмерону настоящий разнос в связи с тем, что он вовремя не обзавелся котом.*

*Усугубила ситуацию еще одна крыса, появившаяся в репортаже телеканала ITV. Но представители премьер-министра и после этого оставались равнодушными к сложившимся обстоятельствам и даже заявляли, что, мол, Кэмерон пока не собирается заводить кота на Даунинг-стрит.*

*Но 25 января премьер сдался. Пресс-служба главы правительства заявила журналистам, что новому коту, почетному 11-у мышелову Даунинг-стрит, 10, быть. Кота пообещали присмотреть в одном из самых известных британских приютов для бездомных животных Battersea Dogs and Cats Home.*

*В середине февраля все и произошло. Правительственная делегация отправилась в приют, чтобы забрать из него нового борца с грызунами. В итоге выбор государственных мужей пал на бело-полосатого кота по кличке Ларри, который прежде был обычным бездомным животным. Сотрудники питомника рассказали, что у Ларри безупречная для крысолова биография: жил на улице и сам добывал себе еду.*

*В общем, 15 февраля новый крысолов переехал на Дауниг-стрит. Дэвид Кэмерон заявил, что очень доволен появлением кота в доме (между прочим, премьеру уже предлагали переименовать животное и дать ему кличку Уинстон - в честь Черчилля), и отметил, что его старшие дети очень любят кошек и поэтому ужасно рады новому полосатому другу.*

*Сам Ларри, судя по фотографиям, сделанным в день его прибытия в резиденцию, абсолютно спокойно отнесся к переезду и даже успел продемонстрировать свои охотничьи навыки. Во время съемок репортажа о себе самом он поцарапал журналистку все того же ITV Люси Мэннинг - ту самую, съемочная группа которой застала на Даунинг-стрит крысу. В общем, проявил характер. Теперь осталось лишь изловить всех крыс и мышей, мешающих жить премьеру и его коллегам.*

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

Зяць 2 глядзеў у чыстыя вочы кабецiны і дабіваў яе дробным гаварком:

– Я таму і звярнуўся да вас, бо вы такая прыгожая і разумная, можа знойдзіце месца для нашага Максіма.

І працягнуў у акенца шампанскае і цукеркі. Па шматгадовай звычцы чыноўніца аўтаматычна прыняла пакет, але потым рашуча пхнула яго назад. Але тут ужо ўпёрся кліент і адпіхнуў падаянак да жанчыны. Гэтая тузаніна крыху развеяла напружанне, і чыноўніца, упэўніўшыся ў тым, што мае справу з вар'ятам, можа нават маньякам, які вельмі добра ўсё прадумаў, палічыла за лепшае згадзіцца і нібыта пашукаць працу новаму суіскальніку прафесіі. А потым настолькі асмялела, што нават запытала, у якой сферы пажадана будучая праца, і пачуўшы адказ: "Зразумела, у ахове", папрасіла некаторыя біяграфічныя дадзеныя і кантактны тэлефон. А на запыт: "Чые?" упэўнена заявіла: "Таго, хто хоча ўладкавацца на працу". На тым і разышліся.

Праз пэўны час чыноўніца піла шампанскае з цукеркамі, якія ніяк не давалі ёй магчымасці змірыцца з тым, што гэта не сон.

– Не, – вырашыла яна, – грошы грашыма, а здароўе – галоўнае. Пайду я лепш на пенсію.

Зяць 2 весела ішоў па вуліцы, разважаючы, што кот – універсальная істота. Аднак гэтая ўніверсальнасць можа прывесці да таго, што ён і свіннёю можа стаць. Яму згадалася дачка, якая, атрымаўшы заданне ў школе вывучыць байку Крапівы "Кот на лаўрах", не дэкламавала яе, а выконвала як рэп, з-за чаго ўсе сямейнікі, у адрозненне ад дзяўчыны, вывучылі вершык на памяць:

У хаце ад мышэй вялікі неспакой,
І каб пазбавіцца ад прыкрасці такой,
Цімох набыў Ката,
Каток удаўся – любата:
Вясёлы, жвавы, дападкі.
За ноч, калі святло пагасне,
Абыдзе ўсе куткі.
Як толькі мыш дзе шасне,
Ён – тут як тут,
І мышцы той ужо капут
У вострых кіпцюрах.
Так на мышэй нагнаў ён страх,
Што ў хаце стала ціхата…
І адпачынак для Ката.
Ад Цімаха Кату пашана,

Ад гаспадыні – ласка:
На снеданне яму смятана,
Кусочак добры мяска.
Кот на выгодзе раздурэў,
Ён растаўсцеў і раздабрэў
І стаў не Кот – Кацішча.
Яму ўжо цяжка ўзлезці на гарышча.
Пакуль Цімох Катом сваім хваліўся,
Зноў мышы ў хаце завяліся,
Але іх піску Кот нібы не чуе:
На печы ён і днюе і начуе.
Сядзіць, наставіўшы вусішчы
І вылупіўшы ліхтары, -
Хоць ты партрэт з яго твары.
Не меўшы сораму ні крышку,
Патрэбаваў, каб штодзень мышку
Яму давалі на абед.
Каб, з'еўшы, ён з прыемнасцю ўявіў,
Што сам яе злавіў.
Бязглуздзіца, якой не бачыў свет,
Але давалі, здабывалі.
Каб гонар і прэстыж Ката падняць вышэй,
Сам Гаспадар лавіў яму мышэй
На кухні і ў падвале.

– Нічога, Максіме, – думаў наш герой, – пакуль цябе ўзняла фартуна. Ты – ваявода ў сваім племені, ды і ў нашым таксама. Але пабачым, што будзе далей. Стаў бы ты лепш падобным да героя казкі “Каток – залаты лабок”. Той не пра сябе думаў, а пра людзей, найперш пакрыўджаных і зняважаных. І нёс ім простыя радасці:

*Жыў дзед з бабай. Былі яны вельмі бедныя: ні насіць няма чаго, ні варыць.*

*Вось баба і кажа дзеду:*

*– Вазьмі, дзеду, тапарок, паедзь у лясок, сьсячы дубок, завязі на рынак, прадай і купі гарчык мукі. Сьпячом хлеб.*

*Сабраўся дзед, паехаў у лясок, пачаў секчы дубок. Выскачыў з дуба каток – залаты лябок, залатое вушка, срэбранае вушка, залатая шарсьцінка, срэбраная шарсьцінка, залатая лапка, срэбраная лапка.*

*– Дзед, дзед, што табе трэба?*

*– Ды вось, каточак, мой галубочак, паслада мяне баба ссекчы дубок, завезьці на рынак, прадаць і купіць гарчык мукі на хлеб.*

*– Едзь, дзед, дахаты: будзе ў вас мука!*

*Прыехаў дзед дахаты, ажно ў яго мукі повен засек!*

*Сьпякла баба хлеб, сама наелася, дзеда накарміла ды кажа яму:*

*– Ня шкодзіла б цяпер і заціркі наварыць. Ды солі няма. Вазьмі, дзеду, тапарок, паедзь у лясок, стукні ў дубок, ці ня выскачыць каток -- залаты лабок: папрасі ў яго солі.*

*Узяў дзед тапарок, паехаў у лясок, стук у дубок!... Выскачыў каток – залаты лабок, залатое, вушка, срэбранае вушка, залатая шарсьцінка, срэбраная шарсьцінка, залатая лапка, срэбраная лапка.*

*– Дзед, дзед, што табе трэба?*

*– Ды вось, каточак, мой галубочак: хлеб ёсьць -- солі няма!*

*– Едзь, дзед, дахаты: будзе соль!*

*Прыехаў дзед дахаты, ажно ў яго солі цэлая дзежка стаіць! Наварыла баба заціркі, сама наелася, дзеда накарміла ды кажа яму:*

*– Ня шкодзіла б цяпер і капусты паспытаць. Вастры, дзеду, тапарок, едзь у лясок, стукні ў дубок, ці ня выскачыць каток -- залаты лабок: папрасі ў яго капусты.*

*Навастрыў дзед тапарок, паехаў у лясок, стук у дубок!...Выскачыў каток – залаты лабок, залатое, вушка, срэбранае вушка, залатая шарсьцінка, срэбраная шарсьцінка, залатая лапка, срэбраная лапка.*

*– Дзед, дзед, што табе трэба?*

*– Ды вось, каточак, мой галубочак: хлеб ёсьць, соль ёсьць -- капусты няма!*

*– Едзь, дзед, дахаты: будзе капуста!*

*Прыехаў дзед дахаты, а ў яго капусты поўная кадушка!*

*Баба кажа:*

*– Ай, як добра! Вось каб цяпер яшчэ сальца... Мы б з табою капусты наварылі, сальцам закусілі б. Не палянуўся, дзеду: вазьмі тапарок, паедзь у лясок, стукні ў дубок, ці ня выскачыць каток -- залаты лабок: папарасі ў яго сальца.*

*Узяў дзед тапарок, паехаў у лясок, стук у дубок!... Выскачыў каток – залаты лабок, залатое, вушка, срэбранае вушка, залатая шарсьцінка, срэбраная шарсьцінка, залатая лапка, срэбраная лапка.*

*– Дзед, дзед, што табе трэба?*

*– Ды вось, каточак, мой галубочак: просіць баба яшчэ сальца да капусты.*

*– Добра, дзед, едзь дахаты: будзе ў табе сала!*

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

*Прыязджае дзед дахаты, а ў яго сала цэлы кубелец!*

*Рады дзед, рада баба. Сталі яны жыць ды пажываць, дзецям казкі казаць.*

*І цяпер жывуць, хлеб жуюць, капустаю з салам закусваюць.*

*Вось вам казка, а мне абаранкаў вязка.*

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

## ***XII Pecuniae oboediunt omnia – Грашам усё падпарадкоўваецца.***

*Сказанное о дружбе применимо и к браку, который есть ведь не что иное, как союз между двумя людьми на всю жизнь. Боже бессмертный, сколько было бы повсеместно разводов или чего похуже, если б мужья и жены не скрашивали и не облегчали домашнюю жизнь при помощи лести, шуток, легкомыслия, заблуждения, притворства и прочих моих спутников! Да и много ли вообще заключалось бы браков, если б жених благоразумно осведомлялся, к каким играм привыкла задолго до свадьбы эта столь нежная и стыдливая на вид отроковица? И сколь недолговечны были бы уже заключенные браки, если б деяния жен не оставались неведомыми вследствие небрежности или бестолковости мужей! Все это заслуга Глупости. Ее одну благодарить надо, если жена по-прежнему любезна мужу, муж любезен жене, если в доме царит мир и семейная жизнь продолжается. Над рогоносцем смеются и какими только не честят его именами, когда он стирает поцелуями слезы своей прелюбодейки. Но насколько лучше так заблуждаться, нежели терзать себя ревностью и наполнять жизнь свою трагедиями! (Эразм Ратэрдамскі, “Пахвала Дурасці”)*

*Дорогу крылатому Эросу.*
*А. Колонтай*

Не дачакаўшыся вынікаў варажбы і чараўніцтва, раз’юшаны Зяць 1 вырашыў звярнуцца да больш рэальных, але не менш магутных сілаў, пра якія ён прачытаў у рэкламным буклеце і на велізарным бігбордзе. Там абяцалі знайсці мужа ці жонку за мінімальна кароткі тэрмін, або спалучыць сэрцы людзей, якія яшчэ не ведаюць, што так моцна кахаюць адно другое. Таму ён упэўнена пайшоў да вялікай залы, дзе прытулілася фірма “Дары Гіменэя”, чуючы ў сэрцы славутую арыю *Пою тебе, Бог Гименей*, асабліва градуючы тую частку, дзе *Венера предлагает чертоги свои.* Праўда, яго крыху бянтэжыла пераклічка згаданай назвы з загалоўкам аднаго зборніка мясцовага гумарыста, якая гучала як “Карчы Гіменея”. Іншая кніжачка гэтага ж аўтара называлася “Местачковы секс”, і там усё было ўвасоблена зусім не так, як у маляўнічым праспекце на васковай паперы. Аднак, набліжаючыся да ўяўна-віртуальнага алтара, ён пачуў песеньку, якую па-заліхвацку напявала жанчына сярэдніх гадоў

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

даволі прыстойнай знешнасці. Бляск яе вачэй сведчыў, што далёка не ўсе лепшыя імгненні ейнага жыцця ў даволі блізкім мінулым:

– *И трудяся день-деньской, продолжаем род людской. Грех холостым быть, Без супруги, без подруги…*

Музыка вясельнага картэжу заўсёды нагадвае ваенны марш перад бітвай. Невыпадкова опус “Шэсце на эшафот” быў напісаны маладым Берлёзам раніцай у дзень свайго вяселля.

Зацікаўлены Зяць 1 падумаў, што лепш бы яна спявала “Аддала мяне мамка, дзе я не прывычна”, таму, вырашыўшы перарваць спеў сучаснай Сірэны, весела схіліў галаву:

– *Коли козак співа, душа його плачэ* – кажуць нашы браты-ўкраінцы, – успомніў ён. – Вітаю чалавека, якому пагана на душы, калі іншым добра…

Кіраўніца сардэчнай установы здзіўлена глянула на візіцёра, але, звыклая за гады працы да ўсяго, толькі паціснула плячыма.

– Не зразумела?.. Што, што? Дзе тут казакі?

– Як вам растлумачыць, каб да вас дайшло? Ну, халасцяку заўсёды добра жывецца, радуецца ён свету беламу. Вось таму яго і хочуць усе ажаніць, захамутаць, каб і яму было пагана. Гэтак, як і ўсім.

– Халасцяк жыве, як кароль, а памірае, як сабака. Жанаты жыве, як сабака, а памірае, як кароль. Такая доля чалавечая, – пафіласофску заявіла Сваха, і дзіўна было чуць падобныя выслоўі ў доме, дзе злучаюцца душы і сэрцы. – Бо калі не ісці на дробныя ахвяры, то зусім знікнуў бы род чалавечы. Трэба свядома нешта дробнае страціць, тую ж уяўную свабоду, дзеля вялікай і высакароднай мэты. А наогул, трэба розум, каб рабіць дабро і сеяць любоў, дурні на гэта не здольныя.

– Дзіўная логіка, – не стрымаўся Зяць 1. – Калі і свабоду і само жыццё ўспрымаюць як дробязь. Што ж больш вартае, жыццё соцыуму ці індывіду?

– Не збівайце мяне з панталыку, – махнула рукою Сваха. – На месцы зніклага жыцця павінна з’явіцца новае. Цябе нарадзілі, і ў свой час адплаці тым самым: нарадзі яшчэ некалькі чалавек. А то Рэйган некалі сказаў, што за легалізацыю абортаў выступаюць галоўным чынам тыя людзі, якія ўжо паспелі нарадзіцца.

– А калі я не магу, – пачаў пратэставаць Зяць 1, бо яму здалося, што яго збіраюцца выкарыстаць, нібы таго бычка на лузе.

Сваха, відаць, і чакала падобнага пытання, бо вельмі бадзёра адрапартавала:

– А вось тут мы і прыходзім на дапамогу. Нерашучым усяляем упэўненасць, нямоглым – сілу, недалёкім – розум і спрыт. Выконваем

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

самыя экзатычныя заданні. Адна прасіла знайсці жаніха з мільёнам даляраў з умовай, што ён аддасць палову грошай да замужжа і гарантуе, што памрэ на працягу года.

– І што? – спытаў Зяць.

– Шукаем, – упэўнена заявіла Сваха. – І ўжо з'явіліся перспектыўныя варыянты.

– А якія ж гарантыі? – пачухаў галаву кліент. – Усе толькі абяцаюць. Колькі ўжо мне гаварылі, абнадзеілі, колькі грошай ляснула, а карысці – зусім ніякай.

Зяць 1 згадаў паход да варожкі, кансультацыі ў Натарыуса, і яму стала сумна. Жывеш, як жолуд на дрэве, або згінеш, або свіння з'есць. І ніхто табе не паспагадае, глядзяць толькі як на лоха, якога трэба хутчэй аблапошыць. Абяцанкі-цацанкі, а дурню радасць. І нашто мне тыя, што народзяцца. Толькі дзяліся з імі грашыма. Ды і ці будуць яны тады: *Умрешь, похоронят как не был на свете.* І ніхто цябе нават не згадае.

– Не сумнявайся, дарагі, – Сваха ўзяла яго руку. – Ды тымі, хто здабыў шчасця сямейнага жыцця з маёй дапамогай, можна цэлы мікрараён засяліць.

– Няўжо цэлы мікрараён? – не паверыў Зяць. – А што ж тады робяць дзяржаўныя ўстановы, міліцыя і школа, – дапоўніў ён, зусім не разумеючы, прычым тут апошнія.

Сваха зноў не здзівілася, а таму весела зашчабятала, беручы кліента пад лакаткі:

– Нават райцэнтр. Невялічкі, канешне. У дадатак – у нас вельмі вялікі працэнт шчаслівых шлюбаў і ўсяго толькі 10% разводаў, калі ў цэлым па рэгіёне – 50.

Зяць 1 з надзеяй глянуў на жанчыну. Ён хацеў сказаць, што развод яго таксама цікавіць, і вельмі прычым, і ў перспектыве ён з радасцю далучыцца да той запаветнай дзясяткі. Аднак гэта пасля. Найперш трэба любою цаной заключыць шлюб. І дзеля гэтага ён пойдзе на ўсё. Ягонае маўчанне Сваха ўспрыняла як згоду на далейшыя дзеянні, таму ўжо амаль па-сяброўску прытуліла кліента да пляча і па-змоўніцку прашаптала:

– Ёсць кандыдатура ці нам пашукаць? – яна падвяла яго да стала, дастала альбомы, паклала перад ім. – Наогул, я за гендарную роўнасць. Лысыя і пузатыя мужчыны павінны жаніцца на лысых і тоўстых жанчынах. Але ж вам падавай мадэлек, – яна грэбліва глядзела на суіскальніка шчасця, – Вось айчынны тавар, вось з блізкага замежжа, вось з Захаду і Усходу. Там жа і расцэнкі паслуг на ўвесь працэс – ад знаёмства ў фэйсбуку ці рэальнага і да Загса.

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

Зяць паслухмяна ўзяўся за разгляд фота. Спачатку гэта рабіў механічна, а потым захапіўся і пачаў старанна вывучаць прапановы на любы густ і кашалёк, адзначаючы паасобныя нумары, спадзеючыся вярнуцца да іх потым, у больш спрыяльнай сітуацыі. "Як шкада, падумаў ён, што доля пасылае нам грабянец, калі валасоў ужо амаль не засталося". Але настолькі захапіўся працэсам, што толькі з другога разу пачуў прапанову паглядзець абранніцу па відэа, што і зрабіў з вялікім задавальненнем.

– Няўжо столькі ладных жанчын на свеце, якія не знайшлі свайго шчасця? – думалася яму. – Дзе тут вышэйшая справядлівасць?

Зяць 1 быў вялікім чалавекалюбцам, хоць і добра ведаў, што жанчына ніколі не бывае задаволенай да канца, бо гэта такое стварэнне, якое заўсёды нечым пакрыўджана і зняважана. Яно, стварэнне, ніколі не цэніць здабытае, а нястомна шукае свайго жураўля ў небе. Аднак хутка прыйшлося перастаць марыць: ён успомніў, што ўжо існуе аб'ект зацікаўленасці, будучая ахвяра, як гаварыла варожка (цьфу на яе), і патрэбны намаганні, каб авалодаць ім, аб'ектам значыць. Цяжка ўздыхнуў, бо згадалася старадаўняя беларуская паказка:

*У Сярэднявеччы існаваў такі звычай: калі кагосьці вялі на шыбеніцу, а дзяўчына з натоўпу кідала на яго свой рантух (верхнюю хустку), то асуджанаму даравалі жыццё, вызвалялі і адразу жанілі са збавіцельніцаю.*

*Дык вось, усё так спачатку і адбывалася. Эскартуюць нейкага маладога ды прыгожага злачынца да месца пакарання. У злавеснай працэсіі і кат, вядомы ўсім Якуб. Вакол сотні цікаўных. Раптам з натоўпу выскоквае баба не першай маладосці і кідаецца са сваім рантухом да таго асуджанага малойца. Ён жа, як угледзеў, што за фартухом чакае яго, закрычаў спалохана: "Пане Якубе, хутчэй да шыбеніцы!".*

Пра гэта ўсё ён і прызнаўся шчыра і бескампрамісна. Сваха выслухала яго без эмоцый, а затым заявіла:

– За гэтым не стане. Вырашым тваю праблему. Заплаціць, канешне, прыйдзецца, бо мы падключым і псіхолагаў, і службу аховы, і дэтэктываў, і сакрэтныя органы, але поспех гарантуем. Галоўнае, каб кліент быў крэдытаздольным.

Атрымаўшы пацвярджэнне сур'ёзнасці намераў і абавязковага ганарару, яна адразу павесялела і адкрыта запыталася:

– Жанчыны ўсе падраздзяляюцца на дзве катэгорыі – жанчыны і (не) жанчыны. Твая да якой адносіцца?

– Хутчэй за ўсё да апошніх, – вырашыў патэнцыяльны жаніх. – Хоць і ў гэтым я сумняваюся.

– Гэты ўжо лепш, – падумала Сваха. – Значыць, як ехаў, так і падсеў. Толькі ці ўсвядоміла гэта, ці такая ж фанабэрыстая? Падобны факт значна ўскладняе і адначасова значна спрошчвае задачу.

– А ці любіць яна ўладу? – запыталася потым служка Гіменея.

– Яшчэ як, – згадаў *pan młody* у перспектыве.

– Правільна, – працягвала Сваха. – Усе жанчыны па сваёй прыродзе схільныя кіраваць. Кожная жонка зробіць для мужа ўсё, за адным выключэннем: яна ніколі не перастане крытыкаваць яго і выхоўваць. Калі нават не атрымаецца, не кіне сваіх спроб. Жанчына, якая не можа кіраваць сваім абраннікам, – курыца, а тая, што не хоча кіраваць ім, – святая. А кур у нас значна болей, чым святых.

– Ой праўда, чыстая праўда, – згадаў Зяць 1 свой мілосны досвед.

Сваха яшчэ кінула фразу, відаць вычытаную з буклета:

– Праўда, адны жанчыны імкнуцца стаць каралевай свету, калектыву, установы, інстытута, а іншыя – царыцай толькі ў ложку. Твая да якіх адносіцца?

– Да першых, – смела заявіў суіскальнік, хаця пакуль не ведаў, як павядзе сябе выбранніца ў шлюбнай пасцелі і ці вельмі яму хочацца туды трапіць.

– Што за дурныя традыцыі: да пасагу дабаўляць і нявесту? – думалася яму. Ён згадаў яшчэ адну сярэднявечную беларускую показку:

*Калі ў аднаго гаспадара памерла жонка, а затым хутка здохла карова, то ўсе суседзі сталі яго суцяшаць і прапаноўваць не адну кандыдатуру ў спадарожніцы жыцця на выбар. Той слухаў і адказаў: “Вельмі вам удзячны за вашы парады. Але бачу, лепей страціць жонку, чым карову. Бо на месца нябожчыцы падсоўваеце мне капу дзяўчат, а вось каб хоць адзін прапанаваў жывёліну”.*

Але прыйшлося вярнуцца да рэчаіснасці:

– Нешта па тваіх адказах, блытаных і няўпэўненых, я пачынаю яе ўяўляць у нейкім дзіўнаватым абліччы. Фота ёсць? А то нам трэба ўпэўніцца, што аб’ект належыць менавіта да класа жанчын, бо ў адваротным выпадку ў нас зусім іншыя расцэнкі.

– Па пашпарту, – спалохана заявіў Зяць 1, – яна жанчына, ва ўсялякім разе, пол жаночы. Сам бачыў. Вось дакументы, копія, праўда.

– Не ведаю, але тут, відаць, прыйдзецца даплочваць. Праўда, пакуль не ўпэўнена, хто каму: ты мне ці я табе. Бо здараецца ў такіх

выпадках, што запатрабаванні бываюць мінімальнымі – хоць за вала, абы дома не была. І, наадварот, каралеўскія, калі падавай толькі Кіркорава ці Калдуна. Пытаю яшчэ раз: грошы маеш? Мая кантора, як ты сам убачыў, сур’ёзная, працуем у асноўным з замежнікамі. Бярэм аплату толькі “зялёнымі”, бо зарэгістраваны на Мальце.

– Нічога не пашкадую, усю гаспадарку спушчу, крэдытаў набяру пад самы высокі працэнт. Толькі дапамажыце: давядзіце да фіналу.

– У сэнсе да вянца? Ці хоць да Загса? – удакладніла Сваха.

– Найперш да ложка.

– Няўжо ты такі нягеглы, – падумалася Свасе, – што сам туды дарогу не знойдзеш? Ды ў гэтым кірунку ў наш час гасцінец пракладзены, выбрукаваны, кілімамі засцелены і ярка асветлены. Там і сляпы не заблудзіць. Відаць, нешта тут крыецца таямнічае і незразумелае.

Прыгажосць, на жаль, заўсёды неабходна жанчыне. Якімі б яна не была надзелена высокамаральнымі якасцямі і вартасцямі, мужчына іх не заўважыць, калі знешнасць ім не адпавядае: пачуццёвасць адыгрывае выключную ролю ў каханні рыцараў. Для жанчын прыгажосць намнога істотней за розум, таму што мужчынам лягчэй глядзець, чым думаць, тым болей, што сярод іх намнога болей дурняў, чым сляпых. У той жа самы час знешняя прыгажосць уплывае на ўнутраны свет, і таму адлюстроўваецца ў вачах. Таму гэта не фізічная з’ява, ці, хутчэй, не толькі фізічная, але і падсвядомая, падспудная. І гора той, у каго яно адсутнічае. Таму яшчэ Авідзій вучыў:

*Смелее, красотки! Чиста лишь та, которой не ищут,*
*Кто попроворней умом, ищет добычу сама.*

Аднак выгляду не падала і паглядзела строга, бо ў такі момант патрэбна суровасць, каб рыбка не сарвалася з зазубца, чарвячка на якім яна ўжо не толькі добра пажавала, але і заглынула. Трэба было толькі акуратна падсекчы, каб будучая здабыча не крутанулася і не пайшла гойсаць у акіяне вольнага прадпрымальніцтва.

– Запаўняй анкету, плаці аванс і думай, калі зробіш вяселле, афіцыйнае ці ў крапіве: хутка ж пост.

– Не можа быць! – вочы заблішчэлі надзеяй.

– Плаці, а то ад шчасця галаву згубіш і забудзеш разлічыцца, – трымала рэй ключніца ад раю на зямлі. Тым болей, яна ведала, што ў бедных прасіць лягчэй, чым у багатых.

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

– Азалачу! Дапамажыце толькі, – лямантаваў жаніх.

– Усе вы так гаворыце. А потым, калі зловіце жар-птушку за хвост, і следу ад вас не застанецца. Вядома ж, мужчыны.

Падобнай знявагі Зяць 1 не мог перанесці. Ён выпраміў спіну, бо ўжо ўяўляў сябе ў строі жаніха, і заявіў:

– Я не такі. Прашу не блытаць з вашымі дробнымі кліентамі. Я высакародны, са шляхты. Звык плаціць. У нас, арыстакратаў, гонар на першым месцы. А грошы – драбяза.

– Ну-ну! Пайшлі, абмазгуем гэтую справу, не можа быць, каб я што-небудзь не прыдумала. Графінь замуж аддавала, маркізаў жаніла (колькі іх цяпер развялося), а цябе, – зняважліва аглянула на кліента – арыстакрата… Калі баба авечка, то як бы леў ні круціўся ля яе, яна ўсё роўна будзе чакаць барана. А цяпер павяду цябе ў краіну шчасця. *Cris amet qui nunqua amavit, quiqu amavit, cris amet. – Пусть завтра полюбит тот, кто никогда не любил, и тот, кто любил, пусть завтра полюбит*, – прачытала яна з буклета.

Зяць 1 выйшаў на шырокі прастор вуліцы з шчаслівай усмешкай: *будущее светло и прекрасно.* Хаця нешта трывожыла душу. Яму ўсё карцела спытаць, а ці сама Сваха замужам? Ці знайшла сабе спадарожніка жыцця? Бо вельмі часта *Qui sibi semitram non sapuint, alteri monstant viam – Тыя, што не змогуць знайсці сцежку для сябе, паказваюць іншым дарогу.*

## ***XIII Sine prece, sine pretio, sine poculo – Без просьбы, без хабару, без п'янкі.***

*Как ни тороплюсь я, не могу, однако, обойти молчанием тех, которые хоть и не отличаются ничем от последнего прохвоста, однако кичатся благородством своего происхождения. Один ведет свой род от Энея, другой – от Брута, третий – от Артура. Повсюду выставляют они скульптурные и живописные изображения своих предков, исчисляют прадедов и пращуров, вспоминают старинные фамильные прозвища, а ведь сами недалеко ушли от бессловесных истуканов. Это, впрочем, не мешает им чувствовать себя как нельзя лучше – при любезном содействии Филавтии (Самолюбия). Но еще находятся дураки, готовые приравнять этих родовитых скотов к богам!*

*Зачем, впрочем, говорю я о тщеславных глупцах того или иного сорта, когда Филавтия чудеснейшим образом повсюду создает множество счастливцев? Иной уродливее обезьяны, а самому себе кажется Ниреем. Другой, начертив кое-как при помощи циркуля три кривые линии, мнит себя Эвклидом. Этот в музыке – что осел, играющий на лире, и поет не лучше петуха, оседлавшего курицу, а полагает себя вторым Гермогеном. Есть, впрочем, еще один, без всякого сомнения приятнейший, род помешательства, – когда господа тщеславятся дарованиями своих слуг, как бы своими собственными. Таков, например, был трижды счастливый богач, описанный Сенекой. Желая рассказать забавную историю, он имел у себя под рукою рабов, подсказывавших ему имена собственные. (Эразм Ратэрдамскі, "Пахвала Дурасці")*

Доўга шукаць Архіварыуса і Геральдыка (дзве палавінкі цэлага) не прыйшлося – амаль усе ў вялікім доме ведалі гэтую адметную асобу, у якой ужываліся дзве іпастасі, што часцей за ўсё сябравалі між сабою, спрыялі, узбагачалі адна другую, а зрэдзь, праўда, і варагавалі, нават ваявалі, і гэта было надзвычай экзатычна і адметна. Ён вылучаўся знешне – быў невысокі, вельмі худзенькі, меў, аднак, пшанічныя вусы – доўгія, з завіткамі ўгору, што сведчыла, паводле ягонай тэорыі, пра высакароднае паходжанне. Доўгія вусы ён часта пагладжваў, асабліва калі гаворка вялася пра важныя рэчы: пагодзе на бліжэйшыя дні, падзенні нораваў у моладзі, сварках з жонкаю. Больш ні з кім не сварыўся, *ибо из всех глупостей человечества любовь есть самая сильная.* Ён зусім не згадваў славутага шляхціца

пазамінулага стагоддзя, які даказваў старажытнасць свайго роду не гістарычнымі довадамі пра ваенныя подзвігі ці ўдзел у перабудове краю, а судовымі пратаколамі, у якіх на працягу трох стагоддзяў былі запісаны скаргі на разбой і злачынствы ягоных продкаў і выракі суда, у адпаведнасці з якімі многія з іх былі адпраўлены на шыбеніцу, калі, зразумела, не былі проста так забітыя ўзлаванымі суседзямі. Апрача таго, ён карыстаўся вялікай папулярнасцю сярод пэўнай часткі насельніцтва, што раптоўна захацела знайсці свае карані і даказаць *urbi et orbi*, а найперш самому сабе, што маюць продкаў калі не сярод князёў і графаў, то як мінімум са шляхты. Сам наш герой спрыяў пашырэнню падобных настрояў як з агульнага спартыўнага інтарэсу, так і з прычыны таго, што толькі *Assini exi quo pabulo vivunt – Ослы удовлетворяются скудным кормом*, а інтэлігентны чалавек непадобны да гэтай істоты, якой патрэбны толькі трава, бізун і груз: *Cibus, onus et virga asino*.

Шчаслівае спалучэнне, два ў адным (Геральдык і Архіварыус) – гэта заўсёды поспех, гэта ўдача, гэта перамога – такі слоган паўтараў ён усюды. Менавіта таму ўсе жадаючыя атрымлівалі неабходныя граматы і прывілеі, што пацвярджалі паходжанне пэўнай асобы ад слаўнага героя ці грамадскага дзеяча. Падобныя традыцыі былі закладзены яшчэ ў антычнасці. Так, выскачкі, якія не мелі знатных рымскіх продкаў, любілі выводзіць свой род ад этрускіх. Нават славуты Мецэнат грашыў гэтым. А вось што пісаў Мантэнь: *В наше время я не видел ни одного человека, достигшего прихотью судьбы исключительно выского положения, который не обретал бы немедленно новых родовых званий, его отцу неизвестных и взятых из какой-либо знаменитой родословной; и легко понять, что незнатные фамилии особенно охотно идут на подобную подделку. Сколько у нас во Франции дворян, заявляющих права на происхождение от королевского рода! Я полагаю – больше, чем тех, которые на это не притязают.*

А вось наш сучаснік не саступаў легендарнай літоўскай шляхце, што вяла свой выток ад славутага Палемона. Так, лічыцца, што калі Атыла аблажыў са сваім войскам Рым, то ўсе разбегліся, куды вочы бачаць. А якраз Палемон узяў пяцьсот высакародных сем’яў шляхты і прыплыў у вусце ракі Нёман, адкуль тыя разышліся па зямлі, пасяліліся там і пачалі размнажацца. Так што ўся літоўская (у гістарычным разуменні слова) шляхта мае крэўную сувязь з самымі старажытнымі дваранскімі родамі Еўропы.

З тых часоў на нашых землях развялося столькі прадстаўнікоў дваранства, што і злічыць нельга, а ў працэнтных адносінах да

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

астатняга люду паспалітага яе значна болей, чым ва ўсіх суседніх краінах разам узятых. І няхай шляхціц жыў звычайным сялянскім жыццём *(у гэты дзень я высакародна араў поле)* у хатцы, не вельмі падобнай да палаца. аднак ён заставаўся прадстаўніком вышэйшага саслоўя. Успомнім старадаўнюю показку:

*У нейкім сяле, дзе пражывала адна збяднелая шляхта, гаспадыня-шляхцянка паслала сваю дзеўку-прыслугу да суседкі-шляхцянкі з просьбай пазычыць мяшок. Тая адказала: “Кланяйся сваёй пані і перадай прабачэнне, што мяшка пазычыць не магу, бо адзін мяшок накінуў на сябе старэйшы сын і пагнаў свіней у поле, пад другім – спіць малады паніч, а больш мяшкоў няма”.*

У жыцці гэтых людзей пачуццё ўласнай годнасці, незалежна ад матэрыяльнага стану, дамінуе. Для іх найперш – гонар. Гонар за сябе, сваіх родных, слаўных продкаў, сярод якіх можна было сустрэць і такіх:

*Сустрэліся раз шляхціцы на сваім сейміку, і зайшла ў іх гаворка пра старажытнасць роду кожнага з прысутных. Што толькі не навыдумлялі яны, каб перасягнуць адзін аднаго! Пераможцам стаў той, што прывёў наступны доказ: “Ехаў я аднойчы на кані полем. Раптам бачу, як з неба спускаецца белы-белы воблак, а з яго выходзіць… Маці Боская. Я саскокваю з каня і падаю перад ёю на калені, скінуўшы шапку. А яна на гэта” “Устань, дарагі кузен!”.*

А вось цяпер, дзякуючы апантанаму аматару, кожны з ахвочых за зусім невялікія грошы мог прасачыць вытокі сваёй фаміліі *ab ovo*, ад вытокаў. Прычым заўсёды ўгадваў пажаданні кліентаў. Так, для аднаго знайшоў дакументы, дзе сцвярджаліся неваенныя подзвігі продка, а судовыя пратаколы, у якіх былі запісаны скаргі на разбой і злачынствы ягоных прадзедаў, і выракі судоў, паводле якіх многія з іх былі адпраўлены на шыбеніцу, калі да гэтага не былі забітымі ўзлаванымі суседзямі.

Зяць 2 добра вывучыў усё, што напісаў яму новы сябра на паперцы, правёў дадатковыя кансультацыі з Філосафам, таму быў няблага падкаваны ў праблеме і мог весці навуковыя дыспуты амаль на адным узроўні з прафесіяналамі. Вось чаму ён пачаў гаворку без усялякай прэамбулы:

– Пане Геральдык, – з двух назоваў ён выбраў першы, бо баяўся запнуцца на Архіварыусе. І ўбачыўшы ласкавую ўсмешку пад раскошнымі вусамі (можна зразумець французжанак, што сцвярджалі: пацалунак без вусоў як яда без солі), узяў быка за рогі:

– Мне патрэбна генеалагічнае дрэва. – Але, пачаўшы жвава, замоўк, спатыкнуўся… – І герб.

Двулікі аж расцвёў, нібы нечаканы візіцёр падараваў яму велізарную бутэльку каньяку ці паведаміў пра выйгрыш у латарэі. Зяць 2 усміхаўся ў адказ яшчэ ласкавейшай усмешкай, шчыра і ад душы.

– А для каго, дазвольце пацікавіцца? – яшчэ шырэй бліснулі зубы пад вусамі.

– Для слаўнага прадстаўніка дзелавых колаў, які плённа працуе на ніве роднай гаспадаркі. Ён вельмі заняты, бізнес, ведаеце, перамовы, гастролі, ой, сімпозіумы, нарады, справы адным словам. Мяне ўпаўнаважыў заняцца ягонымі жаданнямі. – Зяць шпарыў як па пісаным, ён адчуваў, што злавіў патрэбны настрой, знайшоў адпаведны падыход, зразумеў, што тут, у гэтай сітуацыі, кіруе ён. А як гэта прыемна кіраваць, якая насалода! Бо да гэтага ён кіраваў толькі каровамі на лузе, ды і тыя не вельмі слухаліся такога дробнага начальніка. А голас міжволі набыў адпаведныя ноткі:

– Нам трэба гэтае дрэва з адпаведнымі дакументамі, з граматамі, выпіскамі з архіваў. І зрабіць гэта ўсё на велізарным палатне, каб можна было на сцяну павесіць. І, зразумела, аформіць прыгожа. Рамку залатую, лакіраваную. Самае галоўнае, каб красіва было. А ўсе даведкі ў вялікую папку, прадубліраваць, каб пад рукою заўсёды ляжалі.

Архіварыус на дадзены момант у двулікай асобе дамінаваў, выйшаў на першы план, бо гэта быў ягоны профіль. Тут, трэба сказаць, назіралася даволі цікавая сітуацыя. Гавораць, што ўсялякае раздваенне асобы вядзе да шызафрэніі. Наш герой яшчэ спрабаваў пазбегчы гэтага. Але, як і ўсім, хто спрабаваў спалучыць два аблічча, не заўсёды ўдавалася. Глянуўшы на кліента, ён пачаў думаць: сапраўды шукаць нешта неабходнае ці абмежавацца ўжо даўно гатовымі матрыцамі і схемамі, у якіх патрэбна толькі замяніць адпаведныя прозвішчы і званні. Прыгледзеўшыся да Зяця, вырашыў, што і шукаць нічога не будзе. Праўда, трэба сёе-тое крыху ўдакладніць. Спяшацца не варта, *Festina lente*, велічныя справы не церпяць мітусні:

– А з якіх слаёў паходзіць наш ганаровы заказчык?

– Што за слаі? – Зяць 2 недаўменна глянуў на вучонага. Краязнаўца яму пра гэта нічога не гаварыў. Хаця трэба памятаць, калі на тваё пытанне адказвае філосаф, ты перастаеш разумець, што ты спытаў.

– Ну, хто ягоныя продкі: шляхта, сяляне, купцы? – здзіўлена ўдакладніў вусаты.

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

Зяць 2 уявіў сабе Максіма, згадаў этапы ягонага жыцця: бесклапотнае дзяцінства, жарсці юнацтва, змучаную старасць. Таму рашуча сказаў:

– Са шляхты ён паходзіць. Ягоная гаспадыня шляхцянка. – Па рэзкім позірку спецыяліста па радаслоўнай зразумеў, што ляпнуў нешта не тое. Аднак адразу зарыентаваўся і сказаў, што ягоны давярыцель заўсёды быў гаспадаром, а не служкай. Ён нікому нічога не падаваў, а яму падносілі. І гэта была чысцюткая праўда.

Архіварыус у асобе нашага Януса паціху пачаў саступаць Геральдыку, які ўжо спрабаваў наладзіць допыт кліенту, аргументавана лічачы, што паколькі суіскальнік звання паходзіць са шляхты, то павінен як мінімум мець гучнае прозвішча і герб. З прозвішчам было прасцей. Пачуўшы гучнае Глінскі-Папялінскі, Геральдык ужо зусім не сумняваўся ў правамоцнасці падстаў кліента на высокі тытул, хоць гэты чыннік далёка не галоўны. Таму варта перайсці да абмеркавання выявы самога герба.

Зяця 2 ужо другі раз пыталіся пра гэта, але ён баяўся адказваць, таму пачаў прасіць удакладніць, што шаноўны пан падразумявае пад падобным тэрмінам. Гэта крыху здзівіла спецыяліста, але ён звык хаваць здзіўленне пад вусамі, таму нагадаў, што гербы заўсёды малявалі на шчытах рыцараў. У кожнага была свая выява: лось, тур, змей, воўк, падкова, меч, замак. Узрадаваны зяць усклікнуў:

– А-а! Ды я іх сотні ў кіне бачыў. Не. Нам такія страшэнныя звяры не падыходзяць. Нам што-небудзь з сямейства кашэчых.

Ён задумаўся на хвілінку, а потым махнуў рукою.

– Давайце тыгра і мыш. Або рысь.

Усё было лагічна. Ну не можа быць на гербе кот. Што за рыцар з катом на тарчы? Яшчэ хто-небудзь працытуе: *Князь по полю едет верхом на коте* замест *на коне*. Хі-хі. Ды яго ўсе засмяюць. А вось тыгр – гэта здорава. І сіла, і адвага, і заморскае паходжанне – тры ў адным. Адразу відаць гісторыю роду. А мыш – не шкодзіць. Бо кот любіць мышэй.

З такою логікай не паспрачаешся. Менавіта таму бакі знайшлі кансэнсус. Але раптам Геральдык запытаўся пра поле. Зяць 2 у чарговы раз не зразумеў вучонага выслоўя, таму, здзіўўшыся пытанню, пачаў гаварыць пра калгаснае поле, што належыць усім. Аказваецца, поле на гербе абазначае колер: чырвоны, белы, сіні, жоўты. Зяць доўга не думаў і выбраў белы колер малака, бо ўсе каты любяць гэты прадукт, зроблены самой прыродай. Таму ён так і заявіў пра асноўныя складнікі будучага герба новаспечанага шляхціца –

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

тыгр, мыш, малако. Цяпер вусаты задумаўся, бо доўга не мог ўцяміць, якім жа законам геральдыкі мусіць адпавядаць гэты герб. Аднак жаданне кліента – закон для навукі. Тым болей, што з гербамі наогул велізарная блытаніна. Пра што пісаў той самы Мантэнь. Яму, праўда, было лягчэй, бо меў уласны, з залатымі трыліснікамі, на якіх дамінавала ільвіная лапа, якая трымала шчыт, перасечаны чырвонай палоскай.

Потым яны доўга дамаўляліся. Калі з грашыма згаварыліся параўнальна хутка, то тэрміны выканання задання выклікалі ў заказчыка непакой. Геральдык узнёсла расказваў, з якімі цяжкасцямі яму прыходзіцца сустракацца, нагадваў пра колькасць заказаў, пра камандзіроўкі ў сталічныя архівы і за мяжу, кансультацыі ў вядучых вучоных, распрацоўку дызайна, кансерватызм мастакоў. Праўда, пасля трохразовага павялічэння ганарару і выдачы авансу наяўнымі купюрамі з выявамі яе вялікасці каралевы тэрміны выканання задання скараціліся з шасці месяцаў да трох дзён. Архіварыус стукаў кулаком у грудзі і завяраў, што паедзе ў сталіцу з цэлым штатам супрацоўнікаў (ён працаваў адзін), дызайнерам і мастакамі (ён быў адзіным і ў гэтай сферы) і вырашыць праблему толькі з-за вялікай павагі да ганаровага госця, які мае такое высакароднае паходжанне і слаўных продкаў. Урэшце рэшт пагадзіліся.

Але раптам выканаўцу зацікавіла, а дзе ж знаходзілася радавое памесце шляхціца? Яно павінна было быць у чалавека з такім прозвішчам. Зяцю 2 было растлумачана, што пад гэтым падразумяваецца рэзідэнцыя продкаў, замак або крэпасць. Той пачаў уяўляць мур велічнай забудовы, дзе павінна была жыць шляхта, але чамусьці згадалася толькі печ, на якой так любіў бавіць час Максім. Прычым печ не ў хаце, як тое павінна быць, а самотная печ у голым полі, а на ёй цешча і кот. Ад замілавання ў яго выкацілася адна горкая слязінка. Таму ён махнуў рукою і, нібы старажытны пясняр пра Рым, сумна прамовіў:

– На Палессі печ, на Прыпяці замак, – Голас ягоны трымцеў, нібы сам стаяў на месцы разбуранай Троі. Таму гэта прагучала ўзнёсла і велічна, нібы *Civis romanes est – Я рымскі грамадзянін.*

Зразумеўшы ўсё па-свойму, Геральдык запытаў:

– А не трэба даказваць, што замак Печ збудаваны ў адзін час з Іерусалімам? Не?! Ну і цудоўненька. Абмяжуемся XVI стагоддзем. Зробім для дарагога кліента ўсё, што трэба. Але трэба дэвіз да герба, гучны, кароткі, ёмкі.

– Выберацe самі, – папрасіў новаспечаны рыцар.

– Магу прапанаваць *Experto credite – Верце дасведчанаму* або Primus inter pares – *Першы сярод роўных.*

Пасля нядоўгага роздуму *прымус* быў забракаваны, не хапала яшчэ керагаза ў велічнай справе, затым адкінуты і першы. Вырашылі пакінуць *Nil admirati – Не здзіўляцца нічому.*

Развітваючыся, Зяць яшчэ раз нагадаў:

– Толькі каб усё было красіва. Абавязкова намаляваць печ, тыгра, мыш, стрэлы, бо наш шляхецкі род вельмі старажытны. Калі атрымаецца на ўзроўні, прыгожа і магутна, герб я на аўтамабіль перанясу. А можа, і печ пасаджу на калёсы, размалюю яе і буду, нібы Ямеля, раз’яджаць па горадзе: “Па майму хаценню, па майму вяленню”. І ўсё адбудзецца, усё здзейсніцца. Я ўсяго даб’юся, усё здабуду. Буду самым, самым. Хай усе зайздросцяць. Будуць гаварыць: зяць – князь. Ух, як здорава. Я з гербом. Усе здохнуць ад зайздрасці.

Гавораць, што арыстакратам стаць вельмі проста, бо чалавеку з нізоў лягчэй адаптавацца ў вышэйшым сацыяльным асяроддзі, чым наадварот, намнога прасцей. Яшчэ Эразм пісаў: *Если ты не будешь хорошим игроком в азартные игры, дельным картежником, бездельным волокитой, бесстрашным петухом, смелым расточителем, мотом и наживателем долгов, а затем не будешь украшен французской коростой, – вряд ли кто поверит, что ты – рыцарь*. А наш герой мог усе прыступкі адолець вельмі лёгка, бо значную частку з іх ужо пераскочыў.

Зяць тут жа пакляўся, што ў гэтых справах не пасароміць слаўных прадстаўнікоў роду. Задаволены і зусім шчаслівы двулікі Янус правёў дарагога госця да самых дзвярэй і ўсё ўгаворваў заказаць партрэты продкаў. Абяцаў зрабіць вялікімі, у поўны рост, у бліскучых рамах. Глядзіцца – вачэй не адарваць. І 100 працэнтнае падабенства з заказчыкам.

Аднак Зяць 2, згадаўшы, колькі грошай ён ужо патраціў, вырашыў не рызыкаваць: (*Crescentem seguitur curs pecumiam – Расце багацце, растуць і клопаты*).

Пра гэта і расказваў славуты Эразм. Таму, хто ўсё купляе, мажліва прыйдзецца ўсё прадаць. А куды ты потым тыя партрэты сунеш, калі задума лясне, бо ў кожнага наступнага суіскальніка звання, хоць гэта і зусім не абавязкова – свае продкі. Уласныя.

– Галерэю арганізуем пасля, калі спадчыну атрымаем цалкам. І бібліятэку купім. І музей наладзім. І парк культурны.

На тым і развіталіся, моцна задаволеныя адно адным, хаця Геральдык падумаў: *Ты застанешся аслом на векі вякоў – Asinus manebis in sacula saeculorum.* Але ў цэлым яму шчыра хацелася

сказаць: *Dignus est intrare – Можа быць дапушчаны, варта ўступіць,* як некалі благаславілі лекара-бакалаўра званнем доктара ў славутай камедыі Мальера. А ў цэлым, тытулы – толькі ўпрыгожванні. *Титулы – украшения глупцов, великим людям достаточно своего имени* (Фрыдрых Вялікі). На могілках сапраўды вялікіх людзей напісана адно імя. Толькі той, хто не ўпэўнены ў сіле і моцы ўласнай вартасці, нагрувашчвае надмагільную пліту пералікам пасад і званняў. А ў цэлым імкненне да славы і пашаны ёсць не што іншае, як чарговая праява клопату ўсясільнай Пані: *Сплошь да рядом два помешанных смеются друг над другом к обоюдному удовольствию. Нередко даже увидите, как тот, чье безумие сильнее, смеется гораздо громче того, в ком еще сохранился остаток здравого смысла.*

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

## XIV Cuncta denique spectata quae etiam in femina nox operit – Нарэшце было паказана ўсё тое, што нават з жанчынай хавае ноч.

*Прежде всего – что может быть слаще и драгоценней самой жизни? Но кому обязаны вы возникновением ее, если не мне? Ведь не копье Паллады, дщери могучего отца, и не эгида тучегонителя Зевса производят и умножают род людской. Воистину, сам отец богов и владыка людей, сотрясающий Олимп единым своим мановением, откладывает порою в сторонку трезубые свои молнии и обличье титана, столь страшное небожителям. Волей-неволей напяливает он, подобно актеру, чужую личину, когда овладевает им столь привычное для него желание делать детей. Стоики полагают, что они всего ближе к богам. Но дайте мне тройного, четверного, дайте, если угодно, тысячекратного стоика, – я докажу, что и ему придется в подобном случае отложить в сторону если не бороду, знамя мудрости, общее, впрочем, с козлами, то свою хмурую важность и свои твердокаменные догматы, придется расправить морщины на лбу и покориться сладостному безумию. Утверждаю, что ко мне, лишь ко мне одной, должен будет взывать этот мудрец, ежели только возжелает стать отцом. Впрочем, почему бы мне, по обычаю моему, не изъясниться еще откровеннее? Скажите, пожалуйста, разве голова, лицо, грудь, рука, ухо или какая другая часть тела из тех, что слывут добропорядочными, производит на свет богов и людей? Нет, умножает род человеческий совсем иная часть, до того глупая, до того смешная, что и поименовать-то ее нельзя, не вызвав общего хохота. Таков, однако, источник, более священный, нежели числа Пифагоровы, и из него все живущее получает свое начало. Скажите по совести, какой муж согласился бы надеть на себя узду брака, если бы, по обычаю мудрецов, предварительно взвесил все невыгоды супружеской жизни? Какая женщина допустила бы к себе мужа, если бы подумала и поразмыслила об опасностях и муках родов и о трудностях воспитания детей? Но если жизнью мы обязаны супружеству, а супружеством – моей служанке Анойе, то сами вы понимаете, в какой мере являетесь моими должниками. Далее, какая женщина, единожды попробовавшая рожать, согласилась бы повторить этот опыт, если б не божественная сила спутницы моей Леты? Не во гнев будь сказано Лукрецию, сама Венера не посмеет отрицать, что без моей чудесной помощи все ее могущество не имело бы ни силы, ни действия. Итак, только*


© PDF: Камунікат.org, 2015

*благодаря моей хмельной и веселой игре рождаются на свет и угрюмые философы, чье место в наши дни унаследовали так называемые монахи, и порфироносные государи, и благочестивые иереи, и трижды пречистые первосвященники, а за ними и весь этот рой поэтических богов, до того многочисленный, что самый Олимп, сколь он ни обширен, едва может вместить такую толпу. (Эразм Ратэрдамскі, “Пахвала Дурасці”)*

Зяць 1 быў надзвычай здзіўлены і ўражаны, калі да яго ў камору, якую ён выпрасіў у каменданта лячэбніцы для складвання харчоў і лекаў, пастукала маладая прыгожая асоба. Ён доўга не мог ачомацца і зразумець, чаго хоча ад яго гэтае чароўнае стварэнне. А тое, пацешыўшыся здзейсненым эфектам, прайшло міма ашаломленага Казановы мясцовага разліву і, какетліва пакручваючыся, нарэшце сказала:

– А я да вас. Па аб’яве.

Зяць 1 ніяк не мог паразумець, настолькі ўразіла яго кідкая прыгажосць нечаканай госці, што адразу ўзяла лейцы ў свае рукі:

– Якой яшчэ аб’яве? – і, аблізаўшы высушаныя губы, дадаў: – Слухаю Вас уважліва.

Бялянка не разгубілася. Яна прывыкла да такой рэакцыі мужчын на яе знешнасць і манеру паводзін. Таму моўчкі схілілася над сумачкай, доўга там нешта шукала, а потым урачыста выцягнула газету і з радасным ускрыкам “Ну вось яна” пачала чытаць. Прычым з усмешкай і выразнай інтанацыяй, нібы паслухмяная вучаніца, чым выклікала яшчэ большую пажадлівасць:

– “Салідны сімпатычны кот, здаровы і энергічны, шукае маладую зграбную сяброўку для ўцех і з магчыма-верагоднай перспектывай працягу свайго племені”. Гэта ж, мне здаецца, прамая прапанова рукі і сэрца, пададзеная так арыгінальна і яскрава. Выключнае жаданне стварыць сям’ю дзеля нараджэння і выхавання дзяцей. І дзе ж гэты сімпатычны нястрыманы мужчына, якога я ўжо амаль кахаю? – Яна абвяла позіркам пакойчык.

Зяць 1 адчуў сябе як вуж на патэльні: увесь скурчыўся і засіпеў. Ён успомніў, што вырашыў даць падобную аб’яву, а Філосаф аформіў яе не груба, як звычайна ў газетах – шукаем для вязкі котку, а творча, паэтычна. Яму захацелася, каб у Максіма з’явіўся законны сынок, так, на ўсялякі выпадак. Папярэджваў жа даўгарукі юрыст пра небяспеку знікнення галоўнага героя. Ды і каб сам Максім не знік у пошуках нявесты, а то прыйдзе марац, злезе кот з печы, ганімы

асноўным інстынктам, і шукай ветру ў полі… А так раз – і новы Максімка, а растуць жа яны ого як хутка.

Але ж ён ні ў якім разе не чакаў падобнай рэакцыі на яго задуму. Такая кошачка. Ён яшчэ раз аблізнуўся (*слюнные железы получают решительную отставку во время полового возбуждения, отсюда – пересыхание горла, губ, хриплость голоса вследствие ненормальной сухости головых связок (П. Сарокін),* закашляўся і ледзь прасіпеў:

– Дзякуй, дзякуй, што адгукнуліся.

Бялянка весела ўсміхнулася і жартаўліва крутанулася:

– А дзе ж аб’ект маёй пажадлівасці, дзе ён, таямнічы і загадкавы містэр Х ці можа Ху?

Зяць усё думаў, што яна гаворыць пра ката, таму падтрымаў ігрывы тон:

– На месцы, там, дзе яму і трэба быць. А дзе ж сяброўка нашага мачо? Нешта я яе зусім не бачу.

Бялянка перасмыкнула плячыма, яшчэ раз крутанулася, пагладзіла Зяця 1 па руцэ і какетліва бліснула вачыма:

– А вы паглядзіце ўважліва.

У яе голасе звінелі грошы, сказаў бы класік. Але для яе поспеху у мужчын ёсць дзве іншыя прычыны, і цяпер яна цвёрда і какетліва стаіць на іх. Палескі паэт Павел Шруб пісаў *шрубаэкспромты,* сярод якіх варта прыгадаць адзін, бо добра ілюструе сітуацыю:

*І розум лепшай маладзіцы*
*Крыху ніжэй ад паясніцы…*
*Але яна ім гэтак круціць,*
*Што ў спрэчцы з ёю і мудрэц*
*Хвіліну ўпоравень пабудзе*
*і адчувае свой канец…*

Зяцю засляпіла, ён нідзе нічога не бачыў, акрамя спакушальніцы.

Бялянка, круцячыся, лёгка ўсміхнулася:

– Прабачце, а кот – гэта вы?

– Як я?! – усклікнуў дбайнік пра кашэчы род.

– А дзе ж тады суб’ект будучага шчасця? – усмешка бялянкі не была ўжо такой яркай.

– Ах, дык вы да Максіма, – махнуў рукою адвержаны каханак. – Цікава, цікава. – Яго фантазія пачала працаваць, бо згадаў выслоўе Марка Твэна: “Калі б чалавека злучылі з катом, то гэта палепшыла б чалавека, але пагоршыла б ката”. Ён пачаў уяўляць чалавека-павука,

чалавека-муху, чалавека-ката. І таму не адразу пачуў, як Бялянка жалілася:

– Там, у аб’яве, імя не напісана. Ды гэта ж не так і важна, як звацць таго “ката”. Ды і ці кот ён наогул. Для мяне самае галоўнае, каб быў здаровы і багаты, і пры тым сапраўдны джэнтльмен.

Пры слове джэнтльмен Зяць 1 адразу падцягнуўся і сказаў:

– Я ведаю, хто такі джэнтльмен.

Бялянка адказала, што і яна ведае: гэта чалавек, які, спатыкнуўшыся аб ката, называе яго катом. Мясцовы Дон Жуан пачаў хваліць яе розум, яе зграбнасць і элегантнасць. Ён прызнаўся, што таксама джэнтльмен, бо наведвае культурныя курсы, дзе іх вучаць хадзіць, гаварыць, правільна есці і піць і заляцацца да прыгожых жанчын. Такіх выкшталцоных і разумных, як яна.

На гэта Бялянка адказала, што калі жанчыну хваляць за розум, значыць, акцыі яе ўпалі вельмі нізка, а справа ўвогуле паганая. Зяць у сваю чаргу паказваў, як ён умее запрашаць жанчыну, наліваць віно, гаворыць тосты, а пасля прапанаваў паспрабаваць сябе ў ролявых гульнях і задаў ёй лагічную загадку:

– У якой руцэ інтэлігент павінен трымаць бакал з віном, калі правай ён схапіў сасіску са стала?

Госця ведала толькі адно, але галоўнае: усе мужыкі – слабакі, а джэнтльмены… і гаварыць на хочацца. Пра гэта згадвала яшчэ “жалезная” лэдзі Маргарыт Тэтчэр. Але сказаць пра гэта яшчэ раз наша прыгажуня мела поўнае права, бо і сама, нібы гераіня сатыры Петронія Кварціла, не памятала тых часоў, калі была цнатліўкаю.

Але наш арыстакрат не сунімаўся. Ён сказаў, што джэнтльмен – гэта чалавек, які, калі ягоная жонка што-небудзь выпусціць з рук, піхне і яе, каб той было лягчэй падняць выпушчанае. А потым ізноў задаў пытанне: “Што гаворыць джэнтльмен, калі выльe віно на сукенку дамы?” – Нічога, бо ў яго яшчэ адна бутэлька схавана.

Бялянка толькі дзівавалася на іскрамётныя рухі спакушальніка, які, нібы факір, дастаў бутэльку віна, адкаркаваў яе і пачаў наліваць іскрысты напой у фужэры, што з’явілася зусім нечакана: крыху засмучаная госця толькі і змагла выдыхнуць: “Ваў!”. А затым яшчэ задаў загадку з ралявых гульняў. І, не пачуўшы адказу, сам рассмяяўся.

Узбуджаны Зяць заявіў, што джэнтльмен – гэта мужчына, які ніколі не адмовіць жанчыне ў дапамозе, нават калі ведае, што сексу ў іх не будзе. На што абаяльная *visavi*, паспытаўшы салодкага напою, і, зусім супакоіўшыся, седзячы ў зграбным фатэлі, па-філасофску заявіла назіраннямі з уласнага вопыту:


© PDF: Камунікат.org, 2015

– А мне ўсё роўна, бо, як сказаў вялікі Эразм з Ратэрдама, ноччу ўсе коткі аднолькавыя. А “каты”, дапоўню, тым болей. А наогул, ці не пара нам перайсці да справы. А то нейкія каты… Я іх баюся. Наогул, трэба баяцца мужчынаў, а не катоў. Бо мужчына – гэта двухногая істота з шасцю лапамі. Гэта павук, што ўблытвае безабаронную істоту ў павуціну пажадлівасці і граху.

Што было потым, грамадству не вядома. Не ведаем і мы, хоць гісторыі засталіся шматлікія факты, якія могуць выклікаць не вельмі пажаданыя асацыяцыі. Заяць 1 адчуваў бы сябе зусім няблага ў параўнанні з калегамі: кожны мужчына хоць на хвіліну марыць пабыць Напалеонам, у тым ліку і на любоўным фронце.

Але нас болей хвалюе дзіўная доля жывёлаў, вымушаных жыць разам з чалавекам. Так, певень з дыялогу рымскага пісьменніка Лукіяна, жывучы сярод людзей, навучыўся гаварыць па-чалавечы, што спрыяла ўзнікненню самых незвычайных сітуацый, бо пярнаты герой стаў такім блізкім да чалавека. У свой час вялікі філосаф Платон убачыў нешта агульнае паміж людзьмі і свойскай птушкай, што спрыяла ўзнікненню самых незвычайных сітуацый, бо пернатага героя стаў такім блізкім да чалавека, і даў вызначэнне, якое мела велізарны поспех: “Чалавек ёсць жывёліна з двумя нагамі, без пер’яў”. Дыяген абскуб пеўня і прынёс яго ў школу, усміхнуўшыся: “Вось чалавек Платона”. Пасля гэтай акцыі да вызначэння было дабаўлена: “І з шырокімі пазногцямі”. Пазбыўшы з людзьмі, і жывёлы становяцца добрымі псіхолагамі. Так, мядзведзь, папрацаваўшы тры гады з цыганамі ў вандроўным цырку, не мог пайсці ў зімовую спячку: баяўся за свае рэчы і веласіпед.

Як вядома, усе жывёлы роўныя, аднак некаторыя з іх больш роўныя, чым іншыя. Зусім нядаўна *пять котов и кошек получили звания героев от финской ассоциации фелинологов.*

*Героями объявили тех котов, которые помогли спасти человеческие жизни, предотвратить приступы болезни у людей и за прочие "значимые поступки". Интересно, что четыре из пяти награжденных - обычные беспородные коты, и только одна кошка может похвастаться родословной.*

*Например, кот Симба спас своего хозяина от возможной смерти. Когда его владелец спал, Симба вдруг прыгнул на кровать, и начал, громко мяукая, бить человека лапами. Когда это не помогло разбудит хозяина, Симба укусил мужчину за ухо. Когда хозяин, наконец, проснулся, то понял, что ему нехорошо. Мужчина, страдающий диабетом, измерил уровень сахара в крови и понял, что этот показатель упал почти до критической отметки. Если бы кот*

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

*не разбудил хозяина, тот бы просто потерял сознание во сне, и мог умереть.*

*Заметим, что награждение котов-героев планируют сделать традиционным.*

З мастацкай літаратуры, галоўным чынам антыўтопій, добра вядома, што чалавек – зусім не апошняе слова прыроды. І таму, калі ён перастане развівацца, забудзе свой Боскі пачатак і пачне служыць толькі жарсцям, то вельмі хутка страціць усё, што здабыў за тысячы гадоў эвалюцыі. Свойская свіння за два пакаленні вяртае аблічча далёкага продка – дзіка: вырастаюць іклы, яна пакрываецца шэрсцю. А чалавек з вянца прыроды пераўтвараецца ў служку больш прадвінутых жывёл – саламандраў, малпаў, дэльфінаў.

Асабліва ў гэтым плане пашанцавала аслам, якія цалкам замянілі мужчынаў у адпаведных сітуацыях, пра што бліскуча распавёў згаданы ўжо Лукіян з Самасаты, затым Апулей, а потым і славуты Вальтэр у сваёй "Арлеанскай нявінніцы". Прычым даўгавухія настолькі дасканала зрабілі гэта, што ўсе былі ў захапленні. Так, адзін асёл піў віно, еў мяса, таньчыў і любіў жанчын. А калі ён ператварыўся ў прыгожага хлопца, то каханка адвергла яго: *Клянусь Зевсом, я любила не тебя, а осла твоего, и с ним, а не с тобой, проводила ночи; я думала, что ты сумел спасти и сохранить единственно приятный для меня великий признак осла. А ты пришел ко мне, превратясь из этого прекрасного и полезного существа в обезьяну*.

Вядома, як адна антычная варожка ператварыла свайго палюбоўніка, што глянуў на іншую кабету, у бабра; шынкара – у жабу, каб кваканнем клікаў гасцей; суддзю – у барана, і той дагэтуль у гэтай велічнай іпастасі вядзе ўсе судовыя справы. Гераіня балады Б. Лесьмяна песціла гада, заклікаючы яго не пераўтварацца ў каралевіча. Можна стварыць цэлую анталогію літаратурных твораў, дзе жанчыны аддаюць перавагу жывёлам перад мужчынамі.

А вось што робіцца ў наш час:

*Суд Аргентины признал права человека за орангутаном*

*Суд в Аргентине признал, что проживающая в зоопарке Буэнос-Айреса самка орангутана незаконно лишена свободы. Согласно вынесенному решению, должно быть отпущено на волю. Защитники обезьяны требовали признать за орангутаном Сандрой некоторые права человека и на этом основании освободить ее из неволи. Если решение судей не будет оспорено, обезьяну переведут в заповедник в Бразилии, где она сможет жить в условиях большей свободы.*

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

*В основе правовой коллизии лежит вопрос о том, является ли животное «вещью» или «личностью».*

*В сентябре суд в штате Нью-Йорк отклонил аналогичное требование об освобождении из неволи шимпанзе, посчитав, что она является собственностью своего владельца.*

*Юристы из аргентинской Ассоциации профессиональных адвокатов за права животных доказывали, что в философском смысле Сандра является личностью, пусть и не человеческой. Как «нечеловеческая личность», обезьяна страдает от незаконного лишения свободы.*

*В ноябре они подали жалобу об освобождении орангутана, требуя прекратить «неоправданное заточение животного», вероятно, обладающего когнитивными способностями.*

*Газета «Racion» писала: «Это откроет путь на волю не только для человекообразных обезьян, но и для самых высокоразвитых животных, которые несправедливо и произвольно лишаются свободы в зоопарках, цирках, аквапарках и научных лабораториях».*

*Аргентинские судьи несколько раз отклоняли жалобу, но в конце концов прислушались к доводу о том, что Сандра обладает некоторыми правами, подлежащими защите.*

*Сандра родилась в 1984 году в зоопарке в Германии, в сентябре 1994 ее привезли в Буэнос-Айрес. Выставленная на всеобщее обозрение в вольере, она не раз пыталась скрыться от людских глаз. В случае же, если решение судьи не будет пересмотрено, обезьяну переселят в частный заповедник в Бразилию, где она сможет жить в менее стесненых условиях.*

А вось яшчэ дзіва дзіўнае, што творыцца ў розных кутках зямлі:

*Федара Пресс World писал, что 74-летний бразилец женится на своей козе Кармелите, поскольку никакая женщина не вписывается в его требования: старик хочет, чтобы его жена не тратила деньги в торговых центрах, не приставала к нему с разговорами и не могла забеременеть.*

А вось што дзеецца на іншым канцы свету:

*Как писали Дни.ру, 18-летняя Мангли Мунда, жительница деревни в восточной Индии, вышла замуж за бездомную собаку Лугоси Спайдер.*

Ну і, нарэшце, вельмі блізкае да нашай тэмы:

*Жительница Лондона Барбарелла Бухнер, отчаявшись встретить мужчину своей мечты, связала себя узами брака с двумя котами. Как пишет Metro, такое решение 48-летняя британка*

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

*приняла после того, как рассталась с мужчиной. Отношения пары продолжались семь лет, но закончились болезненным разрывом.*

*Котов взяла из приюта. Сайт, помогающий людям, которые хотят связать себя узами брака с домашними питомцами, выдал сертификат, подтверждающий ее отношения с котами, которых повезла на Канары. Избранников зовут Лугоза и Пауке и женщину не волнует, как ее родственники отнесутся к такому браку. Она поняла, что коты для нее значат больше, чем просто домашние питомцы, подобранные коты сделали ее сердце счастливы. Проведя медовый месяц на острове Лансероте (Канарские острова), в знак вечной любви Барбарелла вытатуировала у себя на ноге инициалы своих питомцев.*

Ніхто не ведае, чым скончылася гэтая сустрэча. Нават мы хоць настойліва спрабавалі заглянуць у дзірку ад ключа. І ў гэтых спробах прапусцілі галоўнае. Амаль ніхто не заўважыў, што па тэлеку паказвалі пікет жанчын, якія патрабавалі зменаў у кодэксе аб шлюбе, што дазвалялі б свойскім жывёлам, калі ў іх на разлікавым рахунку не менш мільёна даляраў, жаніцца з жанчынамі.


© PDF: Камунікат.org, 2015

## *XV Macte animo, generose puer, sic itur ad astra. – Хвала табе, шляхотны хлопча, так ідуць да зорак.*

*Глупость немедленно сама себя выдает*

*Но есть ли какая-либо нужда говорить об этом? Разве чело мое и лик не довольно свидетельствуют о том, кто я такая? Ежели бы кто даже решился выдать меня за Минерву или за Софию, мое лицо – правдивое зеркало души – опровергло бы его без долгих речей. Нет во мне никакого притворства, и не изображаю я на челе того, чего нет у меня в груди. Всегда и всюду я неизменна, так что не могут скрыть меня даже те, кто пытается присвоить себе личину и титул мудрости, кто разыгрывает обезьян в пурпуре и ослов в львиной шкуре. Пусть притворствуют как угодно: торчащие ушки все равно выдадут Мидаса. Неблагодарна, клянусь Гераклом, та порода людей, которая всего теснее связана с моей партией, а между тем при народе так стыдится моего имени, что даже попрекает им своих ближних, словно бранною кличкой. Эти глупейшие из глупцов хотят прослыть мудрецами и Фалесами, но можно ли назвать их иначе, как морософами. (Эразм Ратэрдамскі, “Пахвала дурасці”)*

Здзяйсняючы праменад па горадзе, Зяць 2 наткнуўся на стракатую шыльду з вялікім надпісам “Партыя ММР”. Зацікаўлены незвычайнай абрэвіятурай, якую ён ніяк не мог самастойна разгадаць, вырашыў зайсці і разабрацца на месцы. У былыя часы ён, зразумела, абышоў бы *сие заведение*, ды і наогул яго б не заўважыў. У апошні час гэта ўжо была не навіна: партый з’явілася многа, *хороших и разных.* Таму калі на пачатку працэсу перабудовы яны яшчэ абуджалі нейкую цікавасць, то цяпер на іх ніхто не звяртаў увагі. Добра, калі яшчэ гэта партыя тыпу *аматараў піва*, ці прыхільнікаў і абаронцаў свабоды папугаяў. Тое ж самае робіцца ва ўсім свеце. Палітыкі ўсюды аднолькавыя: яны абяцаюць зрабіць мост там, дзе і ракі зусім няма і ніколі не было. Сярод палітыкаў так мала жанчын толькі таму, што так цяжка рабіць макіяж адразу для двух твараў. Палітык не павінен быць вельмі разумным. Надзвычай разумны палітык бачыць, што большасць задач, што стаяць перад ім, зусім нельга вырашыць.

Аднак у гэтай шыльдзе нешта было такое, што прыцягнула ўвагу нашага героя. Знайсці патрэбнае памяшканне аказалася зусім не так лёгка. Зяць 2 абышоў тры паверхі, дзе ён чаго толькі не ўбачыў: ніколі нават не здагадваўся, што мноства самых

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

разнастайных установ існавала ў ягоным горадзе. Збіўшы ногі і локці ў цесных пераходах, Зяць 2 нарэшце наткнуўся на тое, што шукаў, аднак перапытаў у маладога дзецюка ў салідным гарнітуры (яны нейк усе падобныя між сабою, дзівіўся ён):

– Добры дзень. Скажыце, куда я трапіў?

Дзяцюк, звыклы да падобных пытанняў, і, не будучы ўпэўнены, што візіцёр накіроўваўся якраз да яго, запытаў у сваю чаргу:

– А куды вы цэліліся?

Убачыўшы на твары візіцёра непаразуменне, паспяшыў заявіць:

– Жарт. Гэта значыць, што ці каго вы шукалі?

Уся тайна палітыкі заключаецца ў тым, каб ведаць час, калі гаварыць, і ведаць час, калі трэба памаўчаць. Дзяцюк спрабаваў насіць трусы Уінстана Чэрчыля, г.зн. быў паслядоўнікам вялікага палітыка, які некалі гаварыў пра сябе, што *При каждой глупости своей ссылается на Канта.* З многіх ягоных выслоўяў найперш запомніў адно: *Не бяжы, калі можна стаяць; не стой, калі можна сядзець; не сядзі, калі можаш ляжаць.* Таму і не шукаў прыгод на сваю галаву. Акрамя таго, ён ведаў, што калі ў цябе шкура танчэйшая, чым у насарога, у палітыцы табе рабіць няма чаго.

Зяць 2 даволі выразна, каб зразумелі, што ён і сам не любіць жартаваць, і іншым не дазволіць, узнёсла ўзняўшы палец, адчаканіў:

– Партыю ММР. Мы-мы-ры.

– Тады вы добры стралок, што значыць – вы трапілі ў яблычак, бо знаходзіцеся якраз у офісе партыі ММР.

– Слава Богу, – уздыхнуў з палёгкай Зяць 2. – Можна прысесці? – пераступіў парог святліцы. – Ногі збіў, вас шукаючы. Тут гэтых партый, нібы восенню апенькаў на трухлявым пні. І ўсе спакушаюць перспектывай, блізкай і не вельмі, але ж заўсёды абавязкова вясёлай, радаснай, шчаслівай. Так і хочацца ў гэта верыць. Аднак я выбраў толькі вас.

Агаломшаны падобнай тырадай, дзяцюк у гарнітуры, які прадставіўся і назваўся Лідэрам партыі, правёў госця да тапчана, усадзіў яго беражліва, быццам шкляную вазу, наліў вады з графіна і з радасцю еў візіцёра вачыма, нібы чакаючы, што той дастане з шырокіх кішэняў трусіка ці што-небудзь больш істотнае і экзатычнае.

Класічны палітык наогул да такой ступені не прымае на веру свае словы, што заўсёды здзіўляецца, калі іншыя разумеюць яго літаральна. Ніхто з іх не ведае, якая частка нават таго, што ён

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

гаварыў – праўда. Так ён і слухаў наведвальніка, спрабуючы за словамі знайсці прычыну прыходу дзіўнаватай асобы.

– Надзвычай вам удзячны за ваш візіт. Але, дазвольце запытацца, чаму ж усё такі абралі нас? – Ён памятаў выслоўе, што якім уражліва разумным можа быць палітык праз дзесяць гадоў пасля таго, як трэба было быць разумным, таму асцярожнічаў. У свой час У. Чэрчыль сказаў, што дэвіз брытанцаў – бізнес, нягледзячы ні на што. Таму ён шчыра заявіў:

– Вы разумны чалавек, бо адразу разабраліся, хто з усіх гэтых, – ён махнуў рукой, – змагаецца за народнае шчасце, а не за ўласны дабрабыт. І што вам падказала правільны кірунак, хто прывёў да нас?

Сумленне і чэснасць – найлепшая палітыка. Зразумела, калі вы не можаце пераканаўча ілгаць. Зяць проста, шчыра сказаў, што яму вельмі спадабалася назва Мур-мур-мур, праўда, далей ён не расказаў, чаму ў яго ўзніклі такія дзіўныя, як для старонняга воку, асацыяцыі.

Лідару такая трактоўка абрэвіятуры ягонага выпеставанага дзецішча выразна не спадабалася. Аднак, узгадаўшы выслоўе Чэрчыля, што дыпламат – гэта чалавек, які двойчы падумае, перш чым нічога не сказаць, ён вырашыў не псаваць адносіны з патэнцыйным прыхільнікам партыі, што толькі знаходзіцца на шляху станаўлення. Таму далікатна паправіў:

– Не мур-мур-мур, прычым тут коткі? Што, па-вашаму, МУР – гэта піск кашэчы, а не маскоўскі ўгалоўны росшук? А Эм-Эм-Рэ, г.зн. Маладэмакратычны маладіберальны рух. Для маладых партыйцаў – Мэтанакіраваны моладзевы рух. Вось, вазьміце праграмы і азнаёмцеся з імі.

Зяць, глянуўшы на стос папераў, замахаў рукамі і нагамі:

– Не, не і яшчэ раз не! Катэгарычна! Яшчэ лідар самай вялікай на свеце партыі Мао сцвярджаў, што не трэба чытаць шмат кніг. Па дарозе да вас мяне ўжо некалькі разоў пераймалі і амаль сілком прымушалі знаёміцца з іх перспектыўнымі планамі. Я столькі начытаўся і наслухаўся, што падумаў і пра стварэнне ўласнай. Але тут убачыў вашую шыльду і вырашыў забегчы. Мяне праграма не цікавіць, вельмі ўжо назва імпануе.

Небывалая таўшчыня праграмы сведчыла пра тое, што яе старонкі так і застануцца некранутымі. Відаць, на гэта і разлічваў аўтар.

У свой час Чэрчыль сказаў: “Калі вы вырашылі забіць чалавека, нічога не каштуе быць ветлівым”. Лідар расплыўся ва ўсмешцы: ускочыў, пачаў тэзісна расказваць пра грамадска-палітычныя ўмовы развіцця супольнасці і задачы партыі па мабілізацыі творчых сіл для

іх рэалізацыі. Палітык павінен умець прадказваць, што адбудзецца заўтра, праз тыдзень, праз месяц і праз год. А потым растлумачыць, чаму гэта не адбылося. Выказаўшы шмат кампліментаў Зяцю 2, што ківаў зусім не ў такт, слухаючы аратара, прапанаваў таму стаць членам перадавога атрада ў барацьбе за шчасце людзей і ператварэнне нашага краю ў сучаснае Эльдарада, перад якім усе азіяцкія тыгры і драконы эканамічнага развіцця свету паўстануць дробнымі яшчаркамі, прычым без хваста, і тым больш падобнымі да хамелеона. Нічога не зразумеўшы пра драконаў, пра якіх натхнённа спяваў Лідэр, як і пра тыграў, тым больш пра хамелеона, які, як ён чуў, гадуецца толькі паветрам, Зяць 2 збіў трыбуна ціхім пытаннем:

– А колькі ў вашай арганізацыі чала… кх-кх, членаў.

Лідэр запнуўся, пачырванеў, а потым запытальна паглядзеў на візіцёра:

– А чаму пана гэта трывожыць? Такія дадзеныя тайна, таму мы іх не абнародваем.

Зяць 2 шчыра папярэдзіў дзецюка, каб той не палохаўся, бо ён проста баіцца, што калі ўступіць у гэтую партыю, то павялічыць колькасць членаў роўна ўдвая. Узбуджаны аратар у адказ парыраваў, што ён вельмі цэніць востры гумар паважанага пана, але не дазволіць зневажаць самабытную і паважаную партыю, якая мае слаўныя традыцыі, добрую гісторыю і вялікую будучыню. Бо гэта партыя зусім не тапчаннага тыпу, а ў зусім блізкай перспектыве стане аж парламенцкай і будзе несці адказнасць за долю народу. Чым болей лідар заліваўся, тым болей Зяць 2 пераконваўся ў тым, што так і ёсць: сябры гэтай партыі ўсе змогуць змясціцца на гэтым тапчане поруч з ім. Таму ён вольна раскінуўся, выцягнуў ногі, выпіў шклянку вады, пашкадаваўшы пры гэтым, што ў фужэры з віскі яна куды смачнейшая. Затым у чарговы раз перабіў аратара, бо пачуў справаздачу пра чарговыя ветракі, якія трэба ўцюхаць народу:

– А пасведчанні ў вас ёсць, іх выдаюць членам партыі?

Той замоўкнуў, зрабіў незадаволены выгляд і, падумаўшы, сказаў "Крыўдзіце. Мы ж сур'ёзная арганізацыя". Потым адчыніў сейф, пабразгаў нечым шкляным і дастаў прыгожы, ціснёны золатам на чырвоным узор білета. Зяцю 2 гэта ўсё надзвычай спадабалася, таму ён роўным голасам заявіў, не слухаючы заўвагі, з якімі хацеў выступіць Лідар.

– Ого! Сапраўды, узровень неблагі. Добра. На гэтым завяршым дэбаты. Мая давераная асоба хоча ўступіць у вашу тапчанную таемную арганізацыю Мур-Мур і ўнесці першы ўзнос. Гэтага хопіць? – напісаў на паперцы лічбы.


© PDF: Камунікат.org, 2015

Лідар глянуў, падумаў і ўздыхнуў, як некалі Зяць у Натарыуса:

– Гэта ў рублях?

Цяпер настала пара крыўдзіцца Зяцю, які таксама згадаў пра даўгарукага збіральніка грошай:

– Забіжаеце.

Аднак вульгарны выраз зусім не збянтэжыў Лідара, наадварот, ён выразна змяніўся, як знешне, так і ўнутрана, пачаў свяціцца нейкай унутранай энергіяй, забегаў каля Зяця 2, дастаў з сейфа віскі (ён памятаў выслоўе Чэрчыля: *Я извлек из выпивки больше, чем выпивка из меня*), таму наліў яму і сабе.

Заклікаю, дарагі чытач, не думаць пра яго пагана. А што п’е ў такую пару, то ён творча развівае традыцыі. Калі ў Чэрчыля пыталіся, чаму ён пражыў столькі, той радасна заявіў: *У маладосці я прыняў рашэнне не піць ні кроплі да абеду. Цяпер, калі я ўжо не малады, я трымаюся прынцыпа – не піць ні кроплі алкаголю да снедання.* Пасля дыскусіі, закусіўшы лімонам, наш аратар ужо па-сяброўску звярнуўся да госця, якога стаў лічыць вялікім і ганаровым. Тым болей, у інструкцыях гаварылася: той, хто хоча дасягнуць поспеху ў палітыцы, павінен трымаць сваё сумленне пад пастаянным кантролем.

– Дык можа шаноўнаму пану, прабачце, не маю гонару ведаць імя па бацьку нашага ганаровага з гэтай хвіліны сябра, недастаткова проста быць звычайным шарагоўцам у атрадзе змагароў за светлую будучыню. Можа ў яго больш амбітныя запатрабаванні? А давайце мы яго ўвядзем у склад рады, а потым, можа быць, кааптуем у само кіраўніцтва. А як, дарэчы, прозвішча нашага будучага лідара?

Зяць адкашляўся і прыўстаў над столікам, прыўзняўшы ўгару шклянку з віскі:

– Глінскі-Папялінскі.

Гэты карцінны ўздым і выдых, і асабліва гучнае прозвішча зрабілі вялікае ўражанне:

– Прозвішча вельмі запамінальнае, а гэта ў палітыцы надзвычай істотна. А для нашай справы жыццёва актуальна. Праўда, трошкі яно адметнае ў іншым плане, не для ўсіх рэгіёнаў падыходзіць, акцэнт крыху насцярожвае. Але нічога. Ёсць і пэўныя плюсы. А можа мы яго абяром намеснікам? Якія ягоныя арганізатарскія здольнасці, фактура? А голас? Выступаць умее? Трэба пагадзіцца, што гэта надзвычай істотна ў тых справах, дзе патрабуецца публічнасць.

Зяць 2 адказаў, што з гэтым усё ў парадку, хваляваცца не трэба, бо ягоны пратэжэ і выгляд мае, і характар, і можа пастаяць за сябе. Ён успомніў, як маленькі Максім падрапаў яго, калі пасля застолля захацелася навучыць коціка плаваць у сажалцы. Аднак

вырашыў, што пакуль няхай застаецца радавым членам. Паступова агледзецца, прывыкне, а там можна падумаць і пра кар’ерны рост. Ён папрасіў толькі пасведчанне, прыгожае, яркае. А ўручыць прапанаваў урачыста, на канферэнцыі, каб і ў прэсе з’явіўся рэпартаж з цырымоніі.

Так і дамовіліся ганаровыя ўдзельнікі саміту. А потым пачалі развітвацца, бо высокія людзі доўга ў гасцях не заседжваюцца.

Лідар папрасіў у Зяця 2 даць больш падрабязныя звесткі пра новага партыйца для таго, каб запоўніць анкету і само пасведчанне, а таксама фатаграфію, каляровую, вялікую. А калі на пытанне пра тое, як будуць плаціць членскія ўзносы – гатоўкай ці праз банк, і атрымаўшы адказ – “Як хочаце”, ён зусім расчуліўся і ледзь не кінуўся абдымацца, згадваючы праз кожную хвіліну, які ж сёння цудоўны дзень. На радасцях ён усё ж такі спрабаваў уручыць Зяцю 2 праграму партыі, але, сустрэўшы рашучы адпор, зміры́ўся з гэтым і проста сказаў:

– Як сабе хочаце. Ну і не трэба. – Ён не настойваў, хаця ў майстэрстве ўкладваць максімум слоў у самую малюпасенькую думку яму не было роўных.

Аднак урачыста паабяцаў прыйсці на канферэнцыю і выступіць там з дакладам. На тым і разышліся, і ніхто не думаў, што будзе далей. “Мы самі ствараем сабе цяжкасці, якія потым паспяхова пераадольваем”, – ацаніў Зяць 2 сваю дзейнасць словамі Уінстана Чэрчыля.

Зяць 2 ішоў хадою чалавека, які сумленна зрабіў сваю справу.

– Ну, Максіме, – думалася яму. – Будзеш ты грамадскім дзеячом. А чаму б і не? Вунь таго рыжага ката, што з’еў дэлікатэсаў на 60 000 расійскіх рублёў, аддалі ў мясцовы хакейны клуб, а камуністы Пецярбурга запісалі яго ў сваю партыю: калі нельга насіць партрэты змагароў за народнае шчасце, то хай хоць вобразы істот, што змагаюцца з засіллем іншародных страў і тым паказваюць свой патрыятызм, саграваюць людзей падчас акцый змагання за нашу і вашу свабоду: *К великим делам и стремленье почетно бывает.*


© PDF: Камунікат.org, 2015

***XVI Aequam memento rebus in arduis servare mentem – Імкніся захаваць сілу духу і ў складанейшых абставінах.***

*Не стану пускаться в дальнейшие подробности. Полагаю, что вам и без того должно быть ясно, сколь великую отраду доставляет и отдельным смертным, и всему человечеству вообще моя Филавтия, с которой весьма схожа ее сестра – Лесть. В самом деле, Филавтия есть не что иное, как самообольщение. Льсти другому, и это будет Колакия. В наши дни лесть почитается чем-то постыдным. Но так судят только те люди, для которых названия вещей имеют больше значения, нежели самые вещи. Они полагают, что лесть несовместима с верностью. Но они заблуждаются: даже животные служат примером обратного. Кто льстивее пса? И кто его вернее? Существует ли животное ласковее белки, и кто так легко, как она становится другом человека? Или, быть может, для совместной жизни с людьми более пригодны суровые львы, свирепые тигры, неистовые леопарды? Есть, правда, зловредный вид лести, при помощи которого коварные насмешники доводят несчастных до гибели. Но моя Колакия рождается от добродушия и простосердечия и более сходствует с добродетелью, нежели суровость и угрюмство, столь несносные и докучливые, по слову Горация. Такая лесть ободряет упадших духом, увеселяет печальных, возбуждает расслабленных, будит оцепенелых, больных исцеляет, свирепых умягчает, любящих сближает, сближенных удерживает в единении. Она подстрекает отроков к усвоению наук, ласкает старцев, под видом похвал и без обиды увещевает и научает государей. В общем, исключительно благодаря ей каждый становится приятнее и милее самому себе, а ведь в этом наивысшее счастье. Поглядите, как услужливо два мула почесывают друг другу спины. Не в этом ли состоит главная задача красноречия, еще в большей степени медицины и всего более поэзии? Лесть есть мед и приправа во всяком общении между людьми. (Эразм Ратэрдамскі, “Пахвала Дурасці”)*

З урокаў Філосафа і курса культурных лекцый Зяць 1 зразумеў, што жанчына родам з Венеры, а мужчына – з Марса, таму яны ніколі не паразумеюцца да канца, аднак вывучаюць адзін аднаго з вялікай цікавасцю і настойлівасцю. Праўда, цяпер галава ў яго пайшла кругам, бо ніяк не мог спалучыць у нешта адзінае ўсе рэцэпты і парады. Ён адкінуў прапановы В. Ерафеева тыпу: *Чем хуже баба,*

*тем лучше надо поддать* і ў той жа час не згаджаўся з антычнай мудрасцю: *Non cuivis homini contingit adire Corinthum – Не кожнаму чалавеку ўдаецца патрапіць у Карынф,* г.зн. дарагое не ўсім даступна. Падчас сваёй атакі ён, па-першае, зусім перастаў ужываць алкаголь, і, па-другое, зусім не збіраўся, як некалі Дэмасфен, плаціць дзесяць тысяч драхм *за раскаянне*, г.зн. за ласкі карынфскай гетэры Лаіды, якая славілася сваёй прыгажосцю і абаяльнасцю, а таму яе маглі здабыць толькі самыя багатыя мужчыны, што з'язджаліся з усёй Грэцыі.

Разам з тым ён паслухаўся парады Філосафа, што трэба мяняць прынцып залётаў, бо нельга весці вайну па захопу крэпасці адзіным чынам – найперш гвалтоўнай лабавой атакай, трэба з розумам выкарыстоўваць і самыя разнастайныя спосабы. Правілы разумных – ісці супраць правілаў, інакш ніколі не дасягнеш мэты, не здзейсніш задуманае.

Адной з галоўных умоў апошняга з'яўляецца ўпэўненасць у станоўчым выніку, удалым фінале, дзе канец – усяму вянец. Дзейнічаць трэба толькі ў тым выпадку, калі не сумняваешся. Бо калі нават у распале жарсці розум сумняваецца, то калі жарсць сціхне, ён (розум) назаве твой учынак дурасцю. Праўда, як пісаў Ф. Дастаеўскі, *разум подлец, оправдает, что угодно.* Таму самае галоўнае: нельга ўпускаць у дзеянні няўпэўненасць, нельга вагацца, сумнявацца.

Разам з тым трэба ўмець хаваць свае думкі і пачуцці. Толькі дурні бываюць праўдзівымі, бо праўда – спадарожнік віна і дзяцінства. А на самой справе хвала за праўдзівасць належыць Дурасці. Усе ведаюць, што дурны і па-дурному гаворыць. У мудрацоў два языкі. Адзін гаворыць праўду, другі – тое, што адпаведна часу і абставінам. Іх справа – пераствараць чорнае ў белае, з адных і тых вуснаў выпускаць па чарзе то холад, то жар, адно хаваць у сэрцы, іншае выяўляць у гаворцы. У дурня што ў сэрцы схавана, тое і на аблічча напісана і з языка зрываецца.

Разумная думка была і пра змену прыёмаў змагання, што дазваляе адцягнуць увагу праціўніка, асабліва калі той варожа настроены. Не трэба заўсёды трымацца загадзя выпрацаванага плану – аднастайнасць дапамагае разгадаць, папярэдзіць і нават разбурыць задуму. Лёгка падбіць качку, якая ляціць проста, а не мяняе напрамак палёта. Трэба заўсёды рабіць крок, якога не чакае супернік. Тым болей нельга станавіцца слупом ля брамы Фартуны і моўчкі чакаць, калі яна зверне на цябе ўвагу і вырашыць усе твае справы. Трэба самому лезці наперад, дзейнічаць смела і актыўна, змагацца самастойна, толькі тады схопіш шчасце за хвост і падлізешся да яго,

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

выпрасіш ласкі і спагады. Stillicidi casus lapidem cavat – Кропля камень разбівае.

І да кожнага і ў кожную хвіліну трэба падбіраць свой ключык. Адны філосафы падбіраюць замкі да адмычак, а звычайнак чалавек дзейнічае ў адпаведнасці з законамі. Якраз у гэтым і заключаецца мастацтва кіраваць людзьмі, улічваючы іх прыродныя схільнасці. Усе людзі – ідалапаклоннікі, бо для аднаго кумір – карысць, золата, для другога – слава, для ўсіх астатніх – насалода, раскоша. Шукай першааснову, і хутчэй за ўсё гэта будзе не высокі ідэал, а звычайная рэальная жарсць, бо людзей простых і тым болей паганых, значна болей, чым высакародных.

А вось каб вызначыць гэта, трэба пускаць, кідаць і адбіваць пробныя стрэлы, якімі правяраюцца намеры, а таксама даследуюцца тайны сэрца. Праўда, як ты ні плануй, усё роўна трэба згадзіцца з Фрыдрыхам Вялікім, што ў гэтым няшчасным свеце Яго Вялікасць Выпадак выконвае тры чвэрці работы. Тым болей у адносінах да жанчын, імя якім – непастаянства. Што можна добрае сказаць пра гэтых істот? Невыпадкова нават Байран, які ўсхваляў іх у сваіх паэмах, у дзённіках пакінуў вельмі негатыўныя ацэнкі жаночага полу.

І трэба памятаць, што *Namque hoc tempore obsequit amicos, veritas odium parit – В наше время лесть порождает друзей, правда – ненависть.* Асабліва калі гаворка ідзе пра жанчын.

Разам з тым, здабыць жанчыну – усё роўна, што залезці на абрывістую скалу, таму на іх могуць дастацца толькі арлы або паўзуны. Глянь на сябе і падумай, якім табе чынам лягчэй здзейсніць гэты подзвіг. Мужчыны – істоты выключна нелагічныя. Яны нясуць жанчынам шакаладкі і пірагі, а потым скардзяцца, што яны таўсцеюць. Купіце ім брыльянты – і яны будуць зіхацець.

На гэты раз Заяць 1 рашуча змяніў тактыку змагання за руку і сэрца кабеты. З велізарнага досведу чалавецтва ён добра ўсвядоміў, што толькі штурм і націск дапаможа яму ў гэтай велічнай справе. Смеласць аднолькава часта выцякае з адчаю і надзеі: у першым выпадку няма чаго губляць, у другім можна выіграць усё. Менавіта таму збянтэжаны Рамэа саступаў месца. Атэла, які, праўда, яшчэ не збіраўся душыць абранніцу, але меў рашучыя намеры. Жанчына падобная да крэпасці, якую можа захапіць толькі знянацку, паралізаваўшы яе волю і тым самым пазбавіўшы магчымасці абараняцца. Гэта ўсё наш сучасны Казанова добра прадумаў. Выбраўшы імгненне, калі служба аховы адлучылася на хвілінку, уляцеў у кабінет Апякункі і кінуўся ў ногі. Ён закаціў вочы і голасна крыкнуў:

– Ратуйце! Толькі ад вас залежыць маё нікчэмнае жыццё. Прыўкрасная Пані, у вашых руках маё шчасце. Толькі вы можаце вырашыць адвечнае… Быць ці не быць для рэальнай чалавечай істоты…

Заяц 1 хацеў было заплакаць, але ў апошняе імгненне перадумаў, згадалася яму цешча, што з усмешкай за ім сачыла. Аднак і гэтага хапала, каб зрабіць фурор. Апякунка раптам ускочыла з-за стала, спалохана замітусілася па пакоі, марна спрабуючы выклікаць ахову. Зразумеўшы бесперспектыўнасць намаганняў, ледзь прасіпела:

– Што з вамі? Ад каго вас ратаваць? За вамі гоняцца? Прычым тут я і мая клініка?!

Яна паціху супакойвалася і голас яе набіраў звычайную цвёрдасць, упэўненасць і рашучасць. Зразумеўшы, што ёй ужо нічога не пагражае, яна выпраміла спіну і прыняла адпаведную паставу. Пульхерыя Феміcтоклаўна ніколі не патрабавала, каб людзі былі ласкавыя з ёю. Гэта пазбаўляла ад абавязку падабацца ім.

Заяц адчуў, што дасягнуў жаданага: здзівіў і спалохаў аб'ект захаплення, таму рэзка змяніў тактыку:

– Мяне гоніць каханне, і ндзе на свеце мне няма спакою. Я, – тут ён глянуў у паперку, што не прайшло незаўважаным з боку асаджанай крэпасці, – Меджнун, сімвал усіх закаханых на зямлі, якіх злая доля гоніць па свеце, пакуль высакародная міласэрная смерць не завяршыць іх пакуты.

Няма сумнення, што ў XIX стагоддзі аўтар гэтага маналогу бліскуча прайшоў бы кастынг на замяшчэнне вакантнай пасады героя-любоўніка ў правінцыйным тэатры. Гэта ўсё Апякунка ацаніла імгненна, таму не толькі не толькі супакоілася, але нават заўсміхалася:

– А, гэта вы, стары вар'ят. Значыць, паколькі вы Меджнун, то я –Лейла.

Заяц 1 паслухмяна заківаў галавою, хоць добра і не зразумеў сітуацыю:

– Лейла, Лейла. І Джульета. І Наташа. І Ганна. І Алеся. І Паўлінка.

Ён пералічыў цалкам імёны усіх чароўных жанчын, што змог успомніць, таму далей працягваў:

– Вы сімвал кахання. Чыстага, узвышанага, велічнага і беззапаветнага. Малюся за вас, бо толькі вы зможаце мне вярнуць надзею.

Супакоеная крыху Апякунка ізноў захваляваалася. Што ж, непрыгожы тварык і паганая фігура дапамагла многім жанчынам трапіць у рай. А тут узнікае спакуса; такія пертурбацыі, якія могуць кардынальна змяніць далейшы лёс:

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

– І даўно гэта з вамі?

Адказ залунаў імгненна, нібы стрэл бізуна.

– Вечарам будзе восем дзён.

Пульхерыя Фемістоклаўна ўздыхнула з палёгкай:

– Значыць, справа сур’ёзная.

– Вельмі, вельмі. Сур’ёзней не бывае.

– Асёл назаўсёды, – думалася ўрачысе, але кліенту згадала: – Згодна з вамі. Хвароба сэрца страшней за эболу. Бо нават вострае рэспіраторнае захворванне вылечваецца за тыдзень ці нават за сем дзён. Дык што ў вас? – вярнулася яна да звыклага тону.

Зяць замітусіўся, што было зусім недарэчы ў дадзены момант. Ён згадаў, як Ю. Лужкоў, экс-мэр Масквы, характарызаваў перамовы з японцамі: *Прежде, чем лечь в постель, надо познакомиться. Поэтому давайте сначала познакомимся, но выскажем намерение, что мы ляжем в постель.*

– Я і кажу, што мяне адолела хвароба – каханне. А як казаў вялікі Пушкін, *болезнь любви неизлечима.*

Апякунка з’едліва ўсміхнулася, нібы Мефістофель:

– У гэтым плане вы выглядаеце зусім здаровым. Калі не ўлічваць іншы аспект вашай бурнай дзейнасці.

– Што? Кажыце, не цягніце, заклінаю вас. *Промедление смерти подобно,* – устрывожыўся мясцовы Казанова.

– Гэтая хвароба сапраўды невылечная. Бо яна закранае тое, чаго ў вас зусім няма і, як мне здаецца, ніколі і не было.

Зяць 1 сур’ёзна спалохаўся, а таму шчыра пачаў прасіцца:

– І што ж гэта такое? Што звалілася на маю галаву? Гаварыце, не мучайце. Лепш жахлівы канец, чым бясконцы жах. Не хавайце праўды. Можаце гаварыць нават на латыні, я цяпер цудоўна разумею гэтую дасканалую мову. Магу нават ехаць у Лацінскую Амерыку і гаворыць там з лацінянамі.

Аднак Апякунку гэта не ўразіла:

– Не трэба. Я скажу па-нашаму, як некалі Крапіва: сумленне ў вас няма. Таму і хвароба называецца звычайна: *Прайдзісветус вульгарыс.*

– Дзякуй вам, дарагая, за ваш розум і дасведчанасць. А ў знак падзякі за бліскучы дыягназ дазвольце вас запрасіць сёння на спатканне, на рандэву значыць. Улічваючы вашу непрадказальную натуру, я прапаную вам філармонію і рэстаран. Выбар за вамі, хоць я раю схіліцца да варыянта апошняга, бо там іграюць лепшыя прадстаўнікі першага. А можна і сёе, і тое, два ў адным. І віно, і

 © PDF: Камунікат.org, 2015

мастацтва. Бо ў філармоніі не наліваюць, я быў там. Буфет нікуды не варты.

Зяць імкнуўся ўзмацніць напор і націск, таму не даў Апякунцы магчымасці ўсё добра ацаніць на месцы. Выйшаў упэўненым крокам з кабінета, на хаду ўзмацніўшы ўражанне энергічным маналогам, у якім ужо гучэлі інтымныя ноткі:

– *Vale, matrona!* Да сустрэчы вечарам, адгаворак не прымаю. Запрашальныя білеты ў аховы.

Сапраўды, праз некалькі імгненняў прыгожыя, цісненыя срэбрам канверты ляжалі ў яе на стале. Можна прывесці каня да вады, але не прымусіш яго піць. Што зробіш. Можна прывесці дурня да культуры, але не прымусіш яго думаць. Калі Апякунка пачала папракаць ахоўнікаў за неналежнае выкананне даручаных абавязкаў, тыя пачалі актыўна абараняцца, бо гэты (доўга шукаліся адпаведныя словы, таму так і засталося *гэты*) зусім не дае працаваць. Учора прыцягнуў кальмараў, чырвонай рыбы, старога віна ў павуціне і заплеснелага сыру “Ракфор”, які выкінулі адразу, бо, відаць, пакуль яго везлі з Францыі, ён заплеснеў зусім. Гаворыць, што трывожыцца за здароўе Максіма, які катастрафічна худзее. Тады захвалявалася Пульхерыя:

– Што, сапраўды так? Чаму мне не дакладвалі?

Але яе супакоілі, што ўсё ў поўным парадку. Кот ляжыць на ложку, стылізаваным пад печ, на падушках з гагачага пуху, каб не было алергіі, меню састаўлена з улікам самых перадавых рэкамендацый дыетолагаў. Сам ён толькі есць і спіць: ужо нават хадзіць добра не можа. Калі яму *гэты* прынёс жывых мышак, звязаных за хвасты, ён нават на іх і не глянуў, хоць тыя і бегалі па ім, толькі муркаў задаволена. Пульхерыя Фемістоклаўна слухала справаздачу з усмешкай, але калі пачула, колькі кот важыць, спалохана перапытала:

– Колькі? Колькі?!

Пачуўшы, што дванаццаць кіло і пяцьдзесят грамаў, рашуча заявіла:

– *Copia ciborem sabcilitas animi impeditur – Избыток пищи мешает тонкости ума.* Перастаньце здзекавацца з маўклівай істоты, а то хутка таварыства аховы жывёлаў падасць на нас у суд. Памятаеце падобную справу ў Англіі?

– Але ж там свінню перакармілі. Прычым да такой ступені, што прыйшлося, згодна з загадам пракурора, купляць для няшчаснага стварэння бегавую дарожку, – спрабавалі апраўдацца супрацоўнікі клінікі. Але іх пасіўныя спробы былі рэзка спынены:

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

– А хоць і вярблюда, бо гэты карабель пустыні ўяўляецца больш інтэлігентным у адносінах да яды ў параўнанні нават з чалавекам. А тут мы маем справу з катом, нашым блізкім сябрам. Ён жа гадуецца разам з намі і ведае пра нас усё добрае і не вельмі. І звычкі нашыя, не заўсёды прыстойныя, пераймае. Вы ў прыродзе бачылі ільва ці хоць рысь з пузам? Вось-вось.

Усе весела засмяяліся. Пачаліся згадкі пра долю жывёлаў, што вымушаны жыць з чалавекам. Прычым дыскамфорт звездваюць як той, так і другі бок. А. Чэхаў пісаў, што добраму чалавеку павінна быць сорамна і перад сабакам. Хаця хто яго ведае, што ён сказаў бы цяпер, калі б пачуў, што Ванг Сіконг (Wong Sikong), сын кітайскага мільярдэра Вана Цзяньліня, купіў для свайго сабакі Ван Кеке гадзіннікі Apple Watch на пярэднія лапы. Сабака думаў, што мог бы насіць і чатыры гадзіннікі, бо ў яго ёсць яшчэ дзве заднія лапы, аднак спыніўся на двух – гэта якраз адпавядае ягонаму статусу. Для тых, хто не пакутуе ад комплексаў непаўнавартасці, паведамім, што кошт кожнага гадзінніка, пакрытага золатам і са спартыўным бранзалетам, складае 14 318 даляраў. А цяпер вырашылі жыць так, каб не чырванець перад катом, бо калі да яго адносіцца па-чалавечы, то можа здарыцца ўсялякае. Кажуць, што з усіх жывёл толькі чалавек умее смяяцца, хоць для гэтага ў яго найменш прычын. Як казаў генерал Лебедзь, *Смеется последним тот, кто стреляет первым.*

А калі жывёла навучыцца ўсміхацца. Што ж тады будзе? Ці не паўторыцца тая сітуацыя, калі будуць гаварыць: “Чатыры нагі – добра, дзве – пагана”. Разгорнуцца спрэчкі, усе пачнуць крычаць і біцца, тады і зразумець нельга будзе, дзе *homo sapiens*, а дзе проста свіння. І стане мудрасцю быцця суіснаванне чалавека і звера. І што будзе тады з нашай культурай? А. Эддзінгтон сцвярджаў, што *армия обезьян, барабаня по клавишам пишущих машинок, могла бы написать все книги библиотеки Британского музея.* Адна толькі надзея: дзякуючы Інтэрнэту, дзе друкуюцца мільёны сучасных малпаў, мы цвёрда ведаем, што гэта здарыцца ой як не хутка.

У клопатах пра Максіма Апякунка і забылася пра заляцанні старога кавалера. Наогул, яна лічыла, што існаванне мужчынскага полу зусім непатрэбна, за рэдкім выключэннем, калі трэба правесці вакцынацыю кароў ці перацягнуць скрынкі з лекамі. Тым болей, што наперадзе былі новыя выпрабаванні.

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

### XVII An nescis, mi filli, quantilla prudential mundus regatur? – Сыне мой, хіба ты не ведаеш, як мала трэба розуму, каб кіраваць светам?

*Счастье зависит от нашего мнения о вещах*

*Печально бывает заблуждаться, – говорят мне. Но ведь жить без заблуждений еще печальнее. Весьма неразумны те, которые полагают, будто в самих вещах заключается людское счастье. Счастье зависит от нашего мнения о вещах, ибо в жизни человеческой все так неясно и так сложно, что здесь ничего нельзя знать наверное, как справедливо утверждают мои академики, наименее притязательные среди философов. А если знание порой и возможно, то оно нередко отнимает радость жизни. Так уж устроена человеческая душа, что более прельщается обманами, нежели истиною. Ежели кто потребует от меня наглядных и убедительных примеров, я посоветую ему посетить храм или общественное собрание. Когда речь ведется о предметах важных, все спят, зевают и томятся. Но лишь только оратель (я обмолвилась, я хотела сказать – оратор) позволит себе рассказать какую-нибудь дурацкую, смешную историйку (а это случается нередко), все оживляются, подбадриваются, навостряют уши. Равным образом, чем больше поэтических выдумок вокруг святого, как, например, вокруг Георгия, Христофора или Варвары, тем усерднее ему поклоняются, не то что Петру, Павлу или даже самому Христу. Впрочем, здесь не место говорить об этом. Итак, счастье зависит не от самих вещей, но от того мнения, которое мы о них составили. К вещам доступ труден, даже к самым легким, вроде грамматики, а мнения усваиваются легко и просто, и их одних – с избытком хватает для достижения счастья. Поглядите-ка на этого обжору, уписывающего гнилую солонину; иной запаха ее не стерпел бы, а ему она представляется амброзией – так чего же недостает ему для полного блаженства? И напротив, ежели кого тошнит от осетра, то что ему за радость в этом ястве? Если супруга до крайности безобразна, но мужу своему кажется достойной соперницей Венеры, то не все ли это равно, как если бы она была воистину красавицей? Ежели кто, любуясь картиною, написанной негодным маляром, дивится ей, считая созданием Зевксида или Апеллеса, не блаженнее ли он того, кто, купив за дорогую цену творения этих мастеров, быть может, гораздо меньше будет наслаждаться их созерцанием? Знаю я одного человека моего соименника, который подарил своей*

*молодой жене поддельные дорогие камни, но при этом сумел уверить ее, будто они настоящие, подлинные, воистину единственные в своем роде, так что даже цены не имеют. Спрашивается: не все ли равно было этой девчонке – тешить глаза свои и душу стекляшками или хранить в ларце под замком действительно несравненное сокровище? А супруг между тем и расходов избег и жене своей обманутой угодил не меньше, чем если бы преподнес ей богатый подарок. Что скажете вы об узниках Платоновой пещеры, дивящихся теням и подобиям вещей и довольствующихся этим зрелищем? Не счастливее ли они того мудреца, который, выйдя из пещеры, созерцает самые вещи? Лукианов Микилл, видевший себя во сне богачом, не пожелал бы себе иного блаженства, если б дано ему было вечно грезить. Итак, либо нет никакой разницы между мудрецами и дураками, либо положение дураков не в пример выгоднее. Во-первых, их счастье, покоящееся на обмане или самообмане, достается им гораздо дешевле. А во-вторых, они могут разделить свое счастье с большинством других людей. А никакие житейские блага не будут нам приятны, ежели мы пользуемся ими одни, без товарищей. (Эразм Ратэрдамскі, "Пахвала дурасці")*

Гільдыя прадрымальнікаў рэгіёну займала дыхтоўны асабняк, які ўтварыўся ў выніку мадэрнізацыі тыповага двухпавярховага дзіцячага садка, ад якога адмовіўся нейкі завод, бо не меў сродкаў на яго ўтрыманне. Праўда, адмовіцца ён такі адмовіўся, але ўсё роўна вымушаны быў трымаць на сваім балансе і аплочваць усе выдаткі, бо так вырашыла якраз гільдыя ці нехта яшчэ, невядома. Карацей кажучы, была дасканала вырашана класічная праблема, рэалізацыі якой не шкодзілі ні змены ў кіраўніцтве, ні пертурбацыі ў грамадстве.

Старшыня гільдыі быў чалавек адметны: заўсёды апранаўся ў адмысловы гарнітур, меў вусы і бародку, быў, адным словам, гжэчны і элегантны. Ягоную шляхетнасць добра падкрэслівала і ўнутраная стрыманасць, што праяўлялася найперш у схільнасці да маўклівасці. Апошняе і надавала асобе адпаведны імідж – *Nulli tacuisse nocet, nocet esse locitum – Нікому не пашкодзіць, што прамаўчаў, але можа пашкодзіць тое, што ён сказаў.* Векавая мудрасць заўсёды спрыяе разумнаму. Згадаем рымскага імператара Веспасіяна, у прыватнасці цікавую гісторыю пра яго. Адзін з любімых прыслужнікаў імператара прасіў вялікую пасаду для чалавека, якога выдаваў за свайго брата. Веспасіян загадаў таму пачакаць, выклікаў да сябе гэтага чалавека, сам узяў з яго грошы, запатрабаваныя за хадайніцтва, і адразу


© PDF: Камунікат.org, 2015

прызначыў таго на шуканае месца, а калі ізноў умяшаўся прыслужнік, сказаў таму: “Шукай сабе іншага брата, бо гэта цяпер мой брат”. Так было заўсёды: *частные воры влачат жизни в колодках и узах, общественные – в золоте и пурпуре.*

У сваёй канторы меў невялічкі апарат, якім падшываліся ўсе паперкі, аб’яўляліся конкурсы, падводзіліся вынікі спаборніцтва, карацей кажучы, падтрымлівалася і развівалася кіпучая дзейнасць. Ён памятаў, што ў калгасе больш за ўсіх працуе конь, але яго ніколі не прызначаць старшынёй. А ўрэшце рэшт, кіраваць – значыць не перашкаджаць працаваць добрым людзям. Старшыня, як чалавек разумны, здольны глянуць далёка наперад, ніколі не дазваляў сабе мець адметныя думкі і погляды, не кажучы пра ідэі. Нідзе не вылучаўся, толькі засядаў на розных мерапрыемствах, асабліва любіў прэзентацыі і банкеты, на якіх панаваў, выклікаючы захапленне чароўнага полу элеганцкімі манерамі. За гады сваёй дзейнасці ён сустракаўся з безліччу апантаных людзей, разумных і проста дурняў, што імкнуліся ператварыць ці асобна ўзяты рэгіён або і ўсю краіну ў квітнеючае Эльдарада, таму сардэчна адносіўся да ўсіх бажэвільных, стомлена выслухоўваючы геніяльныя ідэі і самыя разнастайныя пражэкты як нам абладкаваць краіну.

Да многіх высноў старшыня прыходзіў самастойна. Так, ён заўважыў, як вопытны чалавек, што можа колькасць дурняў і не павялічваецца, але яны становяцца больш актыўнымі. Тым больш, што нядаўна быў аб’яўлены конкурс на лепшы праект па стварэнні дробнага бізнесу, на які нейкі замежны мецэнат адвальваў неблагую суму ў цвёрдай валюце. Праекты паступалі самыя розныя, нават сам старшыня, што прывык да ўсяго гэтага, крыху здзіўляўся актыўнасці жадаючых ухапіць ад пірага. Ён цалкам пагаджаўся з выслоўем, што можа і сваіх Неўтонаў зямелька родная раджаць, асабліва калі яе паліць срэбным, не гаворачы больш, дажджом. Таму верыў, што знойдуцца і тут таленавітыя камерсанты і бізнесмены. Разам з тым цвёрда трымаўся прынцыпу: хай лепш цябе просяць, чым дзякуюць. Нельга мяняць нізкую ўдзячнасць на шляхецкую надзею, бо першая настолькі забыўлівая, наколькі другая памятлівая. Той, хто залежыць ад цябе, лепшы, бо той, хто напіўся вады, адыходзіць ад калодзежа, выпіўшы сок з выціснутага яблычка, жым аддаюць карове, скончылася патрэба – завяршаецца і сяброўства. Трэба падтрымліваць патрэбу ў табе, але не задавальняць яе да канца, хай да цябе звяртаюцца пастаянна. Тым болей, што ён не мог сказаць свайму нашчадку тыя словы, што адрасаваў свайму сыну, будучаму

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

імператару Аляксандру II цар Мікалай I: *Во всей России только ты да я не воруем.*

У прынцыпе ён хацеў падтрымліваць праект Кузьмы Пруткова *“О введении единомыслия в России”*, але ўрэшце рэшт палічыў, як чалавек разумны, што гэта нішто іншае як *de asini umbra disceptura – спрачацца пра цень асла,* г.зн. пра дробязі, зусім не вартыя ўвагі. Вось чаму на Зяця 2 ён глядзеў паблажліва, што ж, *nobody perfect.* Спрыяла таму і тое, што і пра яго гаварылі: ён не сядзеў у турме, а чаму не сядзеў – невядома. Акрамя таго, літаральна ўчора даведаўся: ягоная каханка спіць з дырэктарам аднаго з заводаў, а таму напружана думаў, што той можа яму даць у якасці кампенсацыі, каб толькі не разгарэўся скандал. У думках пахваліў за высакародны ўчынак сваю былую, бо яна ўжо яму абрыдла і ён не ведаў, як ад яе пазбавіцца, а тут такая нагода. Таму і слухаў наведвальніка даволі няўважліва. Сам Зяць 2 быў не той, як на пачаку гісторыі, бо ўжо прыкметна змяніўся, засвоіўшы ўрокі Натарыуса і Філосафа. Яго было даволі цяжка пазнаць: бейсболка, красоўкі *Adidas*, шырокія штаны.

“Як ты апрануты, так цябе і слухаюць”, – успомніў ён словы выхавальніка добрых манераў, у якога браў урокі. Праўда, добра памятаў афарызм: жанчына, якая збіраецца на важную сустрэчу, думае, што яна апране. Мужчына – што ён скажа. Таму, каб не забыцца прамовы, якую доўга вучыў па загадзя напісанаму сябрам тэксту, адразу прыступіў да справы:

– Вітаю Вас, – голасна прамовіў ён, узрадаваны тым, што старшыня ўстаў з-за шыкоўнага стала і падаўся да яго, трымаючы шырока ракрытую руку. Некалі яго ўразілі словы генерала Лебедзя з праграмы “Куклы”: *“Начальник должен быть силен и свиреп, тогда это – начальник. Если же он уговаривает, пытается убеждать, то это очень скверный, ненадежный начальник. Может быть, даже не начальник вообще”.* Сустракаючыся галоўным чынам з падобнымі прадстаўнікамі кіраўніцтва, Зяць 2 здзівіўся ласкавым манерам прадстаўніка дзелавых колаў. На жаль, ён не ведаў славутага Фаддзея Бенедзіктавіча Булгарына, які *имел странное средство, предохраняющее его от робости и благоговения перед «великими мира сего»,* якое пераняў ў славутага еўрапейскага авантурыста XVIII стагоддзя графа Валіцкага: *«когда вы находитесь перед таким лицом, – говорил он, – то стоит только вообразить себе, что вы видите го голым. Тогда улетучится весь престиж, и вы будете созерцать не вельможу или сановника, а простого смертного.*

– І я рады вітаць Вас, дарагі калега, – радасна сустрэў наведвальніка Старшыня, жэстам запрашаючы яго сесці ў раскошнае крэсла.

– Дзякуй-дзякуй, – адказаў той, з задавальненнем падаючы ў фатэль, аднак пры гэтым сказаў фразу, ад якой выраз твару гаспадара выразна змяніўся:

– Няма часу расседжвацца. *Время подобно железу горящему, которое ежели остынет, неудобно к кованию будет.* – І быў вельмі задаволены, што выслоўе Пятра І на гэты раз вымавіў правільна, голасна і, галоўнае, без памылак і заікання. Бо і трэніраваўся доўга.

– Угу! – яшчэ раз узняў дагледжаныя броўкі Старшыня. – Тым болей, тым болей. Слухаю вас уважліва. Працягвайце. – А сам, крыху вагаючыся, вырашыў прысесці.

Узрадаваны зяць выцягнуў ногі і ўжо амаль па-свойску заявіў:

– Хачу, калега, каб ваша шаноўная арганізацыя павялічылася на яшчэ аднаго прыстойнага члена.

– Гэта значыць, на вас, – даволі крытычна кінуў позірк старшыня на еўрапейскае ўбранне зяця, што таму не вельмі спадабалася. А каму падабаецца, калі цябе разгладваюць, як карову на выставе?

– Не зусім, ці, дакладней, зусім не. Я проста прадстаўляю інтарэсы адной сур'ёзнай асобы.

Відаць, у гэтую хвіліну трэба згадаць вядомы анекдот пра пасланніка, які гучыць так: разумных да разумных, а мяне да цябе. Аднак ён заўсёды памятаў выслоўе Плутарха, якое потым крыху мадэрнізаваў А. Чэхаў: *Тот же, кто изобличает подобного рода невоспитанность, сам невоспитан.* Таму быў лагодным. Хаця гэта, як заўсёды, значна раней сказалі разумныя рымляне: *Pares cum paribus maxi me congregantur – Роўныя часцей за ўсё сыходзяцца з роўнымі.* Гэта і змяніла сітуацыю кардынальна. Старшыня падумаў, што варта паказаць рожкі, каб гэтая недалёкая асоба ведала сваё месца. А то дай волю. Тым болей, як сказаў Карл Клаўдзевіц, абарона мацнейшая за атаку.

– Цікава-цікава. Скажыце, а які ў нашага будучага калегі капітал? Калі вы загаварылі на стараруская мове (аддаю належнае вашай эрудыцыі), то павінны ведаць, што да першай гільдыі адносіліся купцы з тагачасным абаротам мільён рублёў, па цяперашніх цэнах болей чым мільён эўра. Ваш шаноўны давярыцель зможа ўявіць падобныя лічбы?

– Максім? – думалася Зяцю. – Наўрад. Ды ён і капейкі не ўяўляе.

А ўголас ён толькі сказаў:

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

– Мне цяжка сказаць наконт ягонай фантазіі. Здаецца, што ягоныя ўяўленні далей смачных сардэлек, пухавіка і марца месяца зусім не ідуць.

Зяць сказаў вельмі шчыра. І ў гэтым была ягоная памылка (ніколі не трэба гаворыць праўду). Тым болей ва ўстановах. Праўду можна казаць толькі каханцы і міліцыянту. Старшыня пачаў страчваць нават рэшткі цікавасці да кліента, а таму дазволіў дробныя саркастычныя ноткі ў адказе-развазе:

– Я так і думаў..., – пры гэтым даволі бесцырымонна пастукаўшы пальцамі па стале, намякаючы на занятасць.

Зяць зразумеў, што трэба браць лейцы ў свае рукі. Заўсёды існуе дылема: можна прасіць або грошы, або спачуванне, разам гэтыя істоты не ходзяць. Смела напружыніўшы цела, ён проста ў вочы сказаў франту:

– А навошта яму ўяўляць, калі падобны скарб ужо ёсць у яго на яве, а не ў мроях, і ён да іх можа дакрануцца лапамі, памацаць, пагладзіць.

Падобная ўпэўненасць моцна паўплывала на ягонага візаві, які адразу стаўся ўважлівым і далікатным. Тым болей, ён лічыў, што кіраўніку трэба трымаць сябе ў руках, бо добра памятаў выслоўе Грасіяна:

*Никогда не раздражаться. Важное правило благоразумия – не выходить из себя. Большое самообладание говорит о большом сердце – душу великую нелегко стронуть с места. Страсти – гуморы духа; их избыток причиняет недуги благоразумия, и ежели недуг выходит чрез уста, в опасности добрая слава. Итак, умей владеть собой, дабы ни в счастье, ни в несчастье тебя не осудили за несдержанность, но дивились бы высоте духа.*

– Вы гаворыце, можа дакрануцца да такіх грошай? Цудоўненька. Цудоўненька. Гэта кардынальна мяняе справу. Але пра лапы, – ён паморшчыўся, – мы не будзем. Навошта нам нізкі стыль пры такіх вялікіх грошах? Давайце спакайней і цішэй, без эмоцый. Усе вялікія справы робяцца ў цішыні, паглядзіце, як планеты рухаюцца ціхенька. Так і грошы, гэтая загадка Галактыкі. – Пачуўшы пра грошы, Старшыня заўсёды станавіўся паэтам. – Таму я ўвесь слухаю.

– Ага, пачуў смажанае, закруціўся як уюн на патэльні, – падумаў Зяць 2, на вачах якога старшыня ператварыўся з гаспадара ў лёкая. А таму біў далей мэтанакіравана і метадычна:

– Мой давярыцель атрымаў спадчыну, – ён некалі чуў, што казалі пра паўзу Ельцына і яе ролю ва ўздзеянні на слухачоў, таму замоўкнуў, уважліва гледзячы ў вочы будучаму калегу. – Вялікую. А па

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

нашых мерках – выключную, таму зараз разважае, куды ўкласці грошы, каб іх паболела.

– Гэта вельмі разумна. Грошы заўсёды ідуць толькі да грошай, таму бедныя – бяднеюць, багатыя – багацеюць. Што зробіш, закон прыроды.

Зяць 2 ніколі не чуў пра падобны закон, але па-змоўніцку кіўнуў галавою. – Абсалютна з вамі згодны.

Узрадаваны падтрымкай, старшыня доказна выкладаў асноўны тэзіс прадпрымальніцтва:

– Гэта ўсё роўна, што марскую ваду піць: чым болей п’еш, тым болей хочацца. А смагу ніколі не спатоліш.

Бедны зяць ніколі не быў на моры, таму заўвагу пра салёную ваду прапусціў міма вушэй. А словы гэтага прайдзісвета згадалі яму чамусьці гарэлку, якую, сапраўды, чым болей п’еш, тым болей хочацца. Ён аблізнуўся, глянуўшы на міні-бар, што стаяў на маленькім століку. Старшыня перахапіў ягоны погляд, таму Зяць 2 ўзнёсла пачаў разважаць далей:

– Можна, канешне, грошы пакласці і ў банк. Але цяперашнія часы… Усялякія МММ, Хапёр-інвест, піраміды, фірмы-аднаднеўкі… Адным словам, дурням заўсёды рады.

– Чаму вы так, пане, рэзка? Поле цудаў да гэтага часу ніхто не адмяняў, ліса Аліса і кот Базіліо заўсёды чакаюць сваіх кліентаў. Ва ўсе часы ёсць тысячы жадаючых знайсці грошы на дрэвах, тым болей не садзячы іх. Але гэта для рызыкантаў. – Ён пастукаў пальцамі па стале. – Значыць, ваш пратэжэ іграць на біржы адмаўляецца.

– Катэгарычна! – усклікаў Зяць 2, сілаю адводзячы позірк ад зграбных бутэлечак і графінаў. Ён успомніў, як бухгалтарка з іхняй канторы прадала легкавік і кватэру і па блату купіла акцыі МММ. А потым, калі мроя загінула, ад гора пасівела і звар’яцела. Але, слава Богу, доўга не мучылася, хутка памерла. – Нам трэба нешта такое, каб мы змаглі патрымаць у лапах. І ўпэўненасць, што гэта ніхто з іх не вырве.

– Фі, вы ізноў пра лапы, – не залюбіў франт. Ён ведаў, што ў люстэрку мовы вельмі часта адлюстроўваюцца голыя дзетародныя органы, але трымаў марку. – Паслухайце, пане, я і сам люблю крэпкае слоўца… Але ў нашай паважанай установе…

Старшыня моўчкі згадаў Вальтэра: *Когда быдло берется рассуждать – все пропало.*

– Прабачце, нешта прымроілася… Усё ж такія грошы.

– Нічога, нічога. Вы, відаць, хацелі проста падкрэсліць характар свайго давярыцеля, ягоную ўчэпістасць. Думалі вобразна-

метафарычна сказаць, што з ягоных лапаў, цьфу на вас, з рук ягоных не вырвецца нічога, калі ўжо патрапілася?

– Не трэба нам метафар… Так і гаворыцца: папаўся жучку ў папоўскую ручку. А што вы можаце прапанаваць? Якую сферу дзейнасці? Куды яму ўкласці грошы, энергію?

– Трэба тут спалучаць аб’ектыўны і суб’ектыўны пачаткі. Да чаго сэрца ляжыць, душа схіляецца. І ўлічваць кан’юктуру, – убачыўшы, як Зяць 2 узняў брыво, паўтарыў. – Кан’юнктуру. Рынку. Каштоўнасцей. Інтарэсаў. Грамадства. Супольнасці. Асобы, – убіваў ён цвікі ў дамавіну спадзяванняў. Глянуўшы яшчэ раз, замоўкнуў і потым спытаў: – Што вы так засяродзіліся?

– Дзіўлюся, што тут, у гэтых сценах, гаворыцца пра сэрца. Дзіўна такое бачыць у жорсткім кодле варожасці і канкурэнцыі, – загаварыў і Зяць высокім стылем.

Старшыня расплыўся ва ўсмешцы:

– Ну што вы, мы жа не на дзікім Захадзе эпохі першапачатковага накаплення капіталаў. У нас сяброўства, спагада дамінуюць. Можаце самі пераканацца.

– Ага, – прачмоўкнуў Зяць 2, – з дапамогаю містэра *Кольта*: – там знішчаюць адкрыта, а тут ласкава і сардэчна…

– Прыстойнасць і высакароднасць – аснова і падмурак нашай гільдыі, пра што і сказана ў статуце, – ён памахаў зялёнай кніжыцай.

– Чаму зялёная, нібы ў Каддафі? – насцярожана падумалася Зяцю: у іх на рабоце апошнюю даўно ўжо, праўда, распаўсюджвалі, але нічога не спытаў, буркнуўшы: – З’ядуць і не абліжуцца, бо рот вытруць сурвэткай. Як у свеце жывёл, толькі там не выціраюць, бо трэба лавіць новую ахвяру.

– Прыкладна так, – згадзіўся візаві. – А давайце вып’ем па кропельцы. А то мы ўжо доўга засядаем. Вы чаму аддаяце перавагу ў гэтую пару?

Зяць 2 падзівіўся з тактычнасці Старшыні, бо згадаў аповед аднаго таварыша, які ў савецкія часы ляцеў з Масквы ў Лондан у творчую камандзіроўку. Туды быў савецкі ТУ-134 разам з роднаю абслугай, адзін з якой спытаў у пасажыра:

– Піць будзеце?

Спалоханы пасажыр адмовіўся катэгарычна, не ведаючы, што за гэтым паследуе. Калі ляцелі назад, брытанскі сцюард паказаў яму тры маленькія бутэлечкі (віскі, гарэлка, віно) і ласкава спытаў па-руску*: Какой из этих напитков вы предпочитаете?* Узрадаваны і расслаблены турыст за час палёту *предпочел все.*

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

– Вы не падумайце, што я багата п'ю. Я гадзінамі магу абыходзіцца без гэтай гары, – Зяць 2 ізноў дапусціў памылку. Калі чалавек гаворыць такое, ён тым самым падкрэслівае сваю пэўную залежнасць. Не трэба апраўдвацца. Ніколі. Але было позна.

– Мне віскі, – ласкава папрасіў ён, гледзячы адкрытымі чэснымі вачыма ў вочы гаспадару пакоя. І сапраўды, за гэты час прывык да гэтай шатландскай самагонкі. Праўда, ён спалохана ўбачыў, што той наліў на самае дно некалькі кропляў White horse, а таму згадзіўся, каб у стакан далілі содавай і кінулі некалькі кубікаў лёду. Закускі на стале не было; шукальнік шчасця звык, што звычайна яе замянялі папяльнічкай. За пітвом вярнуліся да справы.

– Дык чым бы вы хацелі заняцца? Што вы ад нас урэшце хочаце? Чым мы маглі б вам дапамагчы? Якія ў вас планы на перспектыву? Папярэджваю, што пасрэдніцтва, офісны гандаль нас зусім не цікавіць. Гэта для дробных камерсантаў, – ужо не так афіцыйна працягнуў размову Старшыня.

– Я хачу заняцца развядзеннем кракадзілаў, – ціха, але ўпэўнена пачаў Зяць 2. Віскі спрыяла шчырасці і палёту фантазіі.

Выраз твару Старшыні гільдыі зусім не змяніўся, нібы ён кожны дзень ці прынамсі раз на тыдзень чуў падобнае.

– Ну і вытрымка, – мільганула ў галаве Зяця, а таму ён яшчэ болей упэўнена і рашуча працягваў:

– Памятаеце, было такое кіно, дзе дурнаваты прафесар заказаў яйкі для нейкіх эксперыментаў, а яму прывезлі іншыя, велізарныя, з якіх вылупіліся вужы. Таксама велізарныя. Зусім не такія, як нашы. Нашыя маленькія, ведаеце, метраў на два, максімум на тры. І таўшчынёй з руку, – Зяць агаліў сваю здаравенную правую руку. – А там разоў у дзесяць большыя. Як асіны, бо над чаротам над возерам галовы іх хісталіся нібы ў Змея Гарыныча. – Зяць не вельмі добра разгледзеў у кіне пачвару, бо і тэлек глядзеў, як заўсёды, на падпітку, а таму болей углядаўся ў голую распусную кабету, якую павінен быў схапіць мужык, што цікаваў за ёй праз зараснік. Але замест таго яе схапіў велізарны гад. Так ёй і трэба, лена падумалася тады, але не вельмі шчыра, бо хай бы яе лепш памучыў ваенны, у цэлым неблагі, як аказалася, мужык.

– Дык вось, вяртаючыся да пачатку, надумаў і я завесці ўласнае дзела. Закажу яйкі кракадзілаў, праўда, праверу як мае быць, а то тыя праклятыя капіталісты падсунуць што хочаш, нібы мая цешча яйкі качыныя для дурной куры. Закапаю ў цёплы пясок, зверху насыплю трухі і гною (я па тэлеку бачыў, люблю глядзець прыроду) і вывядуцца кракадзіляняткі. Жывуць жа ў балотах Палесся

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

чарапахі, а яны родзічы паміж сабою. Гаварылі, што вясною іх (чарапах) выпаўзала пагрэцца столькі, што гара здавалася здавалася меднай, так блішчэла ад іх панцыраў.

Як добра ўсе гэтыя вар'яты прадумваюць свае справы і лагічна іх выкладаюць, успомніў Старшыня лекцыю псіхіятра. Дурнем нельга прыкінуцца, пра гэта яшчэ пісалася да нашай эры ў кнізе "Узнясенне дурняў", дзе згадваўся імператар Клаўдзій. І гэта назаўжды. П'яны працвярэзіцца, а вар'ят – не. Адкуль жа яны бяруцца? Праўда, адзін разумнік сцвярджаў, што іх не становіцца болей, але яны ўсё болей актыўнічаюць, таму становяцца прыкметнымі. З адным дурнем як з адной саранчой справіцца лёгка. Страшна, калі яны ўсе разам нападуць. Яшчэ Плутарх пісаў, што цар Філіп сабраў самых дурных і паганых людзей, якіх толькі змог расшукаць, і пасяліў іх у спецыяльна збудаваным для іх горадзе, які назваў адпаведна – Панераполіс. Усё змянялася ў свядомасці кіраўніка бізнесменаў. Але вырашыў пацярпець, пабачыць іх, што будзе далей, бо людзі вельмі аўтарытэтныя рэкамендавалі гэтую асобу.

А тая натхнёна працягвала:

– У дзікай прыродзе кракадзільчыкаў ядуць усе, а яны не могуць, бо яшчэ зусім маленькія. Таму я буду іх берагчы…

– У роце насіць, – згадаўшы маму-кракадзіліху, не вытрымаў Старшыня, які таксама глядзеў перадачы "Nature". Але спахапіўся, бо згадаў Сакрата: *Калі цябе лягнуў асёл, не адказвалі яму гэтак жа*, і зрабіў зацікаўлены выгляд. – Слухаю. Слухаю.

– Буду іх даглядаць, карміць жабкамі, апалонікамі і яны хутка вырастуць, – узнёсла працягваў патэнцыяльны кракадзілавод. Калі чалавек валодае прадметам – словы знаходзяцца самі.

– А зімою куды дзенуцца? – ізноў не вытрымаў франт.

– Зімою будуць спаць, як жабы і чарапахі. Зімаваць будуць у ямах, там, дзе самы жывуць. У іх жа кроў халодная, не такая, як у людзей. Вясной ажывуць, і зноў пачнуць есці і расці, нагульваць кандыцыю. А пасля настане перыяд адстрэлу. Поруч фабрыку арганізуем, дзе будзем шыць боты, чаравікі, чамаданы, сумачкі. Паколькі яны, г.зн. кракадзілы, будуць жыць у натуральных умовах, то і скура ў іх будзе адпаведная, натурпрадукт адным словам. Без усялякіх генных мадыфікацый. Вось на гэта звярніце асаблівую ўвагу. Два ў адным – гэта значыць двайная выгода. Турысты палююць на хвастатых драпежнікаў, і тут адразу са скуры здабытых уласнымі рукамі гадаў для іх робяць трафеі. Паляўнічыя пакуль сядзяць у бары, п'юць віскі і тэкілу і ўсім хваляцца здабычай. А мяса кракадзілаў будзем прадаваць люду паспалітаму. Яно вельмі карыснае, у ім шмат

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

пратэінаў і вітаміну B-12 і зусім няма халестэрыну. Па смаку нешта сярэдняе паміж курацінай і кальмарамі. Можна жарыць, але трошкі цвёрдае артымліваецца. Таму добра рабіць фарш, а з яго дранікі, калдуны, галубцы. Уяўляеце, перцы з мясам кракадзіла. Гэта табе не страўсавыя баўтуны. А што? Некалі аўтар трэцяга пачатку тэрмадынамікі Вальтэр Нернст разводзіў карпаў, бо лічыў, што трэба гадаваць такіх істот, якія знаходзяцца ў тэрмадынамічнай раўнавазе з акаляючым асяроддзем. Гадаваць цеплакроўных – гэта значыць абаграваць за свае грошы сусветную прастору.

– А дзе ж вы жыць будзеце? – Старшыня зніякавеў, убачыўшы маляўнічую карціну.

– А поруч з імі. Зраблю домік на сваях, каб у святліцу не лезлі без дазволу. Я ж іх не кіну.

– А не з’ядуць яны вас? – бліснула надзея ў вачах элеганта.

– Ды не! Першае пакаленне можа і будзе агрэсіўным, а другое і наступныя – не, яны стануць рахманымі, як і ўсё, што жыве на гэтай зямлі. Тут усе становяцца талерантнымі, нават ваўкі. Ёду не хапае, бо мора няма. А гэтыя пачвары будуць жыць у натуральных умовах і пладзіцца, і размнажацца. Я і вам чучала прывязу, павесіце ля ўвахода. У Тайландзе адзін турыст пераехаў алігатара, думаў, ляжыць паліцэйскі, дык таго аштрафавалі, а чучала аддалі паліцыі.

– Крый Божа. Але хто ж вам дазволіць іх гадаваць? Вы ж парушаеце ўсю экалогію. Гэтыя ж зубасцікі, калі выжывуць…

– Выжывуць, выжывуць. Я ж жыву, – Зяць нагадваў Галілея, які сцвярджаў, што Зямля круціцца.

– …з’ядуць усё, што поўзае, лятае, бегае. Вунь у Аўстраліі, дзе я нядаўна быў, завезлі трусоў, дык тыя так распладзіліся, спасу няма. Зжэрлі ўсю траву і дрэвы. Завезлі сабак, каб паганялі вушастых, дык яны замест трусікаў з’елі ўсіх кенгуру. А цяпер гойсаюць па зялёным кантыненце зграі трусоў і зграі дзікіх сабак дзінга. Ды вы хочаце, каб гэтыя вашы драпежнікі і людзей зжэрлі. Гэта ўсё не проста экалагічнае невуцтва, а нешта іншае. Злачынства, не пабаюся гэтага слова, эколагі вам не дазволяць.

– Глупства. Я ўжо ўсё вырашыў і ўзгодніў. Мне дазволілі правесці маленькі эксперымент. А для ўціхамірвання неслухаў завязем гіпапатамаў, яны таксама некалі жылі на Палессі. У нас ёсць такая рэчка, называецца Іпа. Чуеце – Іпа, гіпапатам. Яскравае сведчанне прысутнасці бегемотаў у акваторыі Беларусі. І будуць тоўстыя сцерагчы зубастых. Адзін падарожнік пісаў, што каровы, якія пераплываюць Прыпяць, нагадваюць гіпапатамаў у Егіпце. Нашы

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

родныя буслы ляцяць на зіму ў Егіпет. Летам тут, зімой там. Чаму нільскія кракадзілы не могуць жыць у Прыпяці?

Яшчэ і ў філалогію падаўся, спужаўся Старшыня. І згадаў, як паэт М. Святлоў падтрымаў вучонага, які на аснове слоў *Афродита* і *родить* даказваў сувязь грэцкай мовы з рускай, бо ў грэцкім тэрміне *палитра* аўтар "Гранады" бачыў спрадвечнае рускае *поллитра.*

– Глупства гэта, канешне, дар Божы. Але злоўжываць ім не варта, – падумалася яму і вырашыў спыніць палёт фантазіі, бо яшчэ прамудры Саламон гаварыў: *Не отвечай глупому на глупости его, чтоб и тебе не сделаться подобным ему.*

– Не, ведаеце, гэта ўсё занадта радыкальна, як бы пазбегнуць гэтага вар'яцтва. Ды і не наша гэта парафія. Давайце што-небудзь іншае.

– Можа і так. Некалі ўсе дзіваваліся, адкуль на Беларусі з'явіліся суслікі. Нават дысертацыю напісалі пра вандраванні грызуноў з Сярэдняй Азіі. Аказалася значна прасцей. Адзін з Радзівілаў прывёз у Нясвіжскі заапарк гэтых звяркоў з падарожжа ў Егіпет. А гэтыя праныры выкарысталі нядбальства служак, што забыліся зачыніць вальеры, ды і ўцяклі на прыроду. Там распладзіліся да такой ступені, што цэлыя гарады збудавалі пад зямлёю.

– Вось, вось. А што як і ад вас ўцячэ нейкая пачвара, хто будзе вінен? Давай што-небудзь іншае. Той жа агратурызм, але без кракадзілаў.

– Ды не, трэба рызынка. Ізюмінка. Без яе нельга. На кракадзіла паедуць паляўнічыя, а на фазанаў – не. Давайце так. Зробім дарогу ў балота. Дыснейлэнд аформім. З пачварамі і звярамі.Хто выжыве, той выжыве, як у Афрыцы.

– А калі не выжыве?

– Кракадзілы вырастуць.

Ён згадаў прыём людзей разумных – трэба выслізнуць. З дапамогай дасканалага жарту яны знаходзяць выхад з самага заблытанага лабірынту. З усмешкай могуць выйсці цэлымі і непашкоджанымі з самай паганай спрэчкі. Самы дасканалы спосаб не адмаўляць наўпрост – змяніць тэму размовы або прытварыцца, што нічога не разумееш. А то гэты яшчэ раскажа і пра мумію, якую вёз той Радзівіл з таго ж падарожжа, і адкрые цэх бальзамавання тубыльцаў. Таму, смела гледзячы настырнаму даследчыку проста ў вочы, заявіў мужна:

– Давайце вернемся да нашых баранаў. Мы можам разважаць доўгі час. Я магу падтрымліваць любыя вашы ідэі, але мне трэба ўпэўніцца, што ваш пратэжэ, а наш будучы калега, мае сродкі для

задавальнення сваіх, гм, гм, адметных інтарэсаў. Інакш гаворка будзе без сэнсу.

Зяць 2 моўчкі падсунуў паперы старшыні. Той, глянуўшы скоса, раптам занурыўся ў паперы, стрымаў вокліч "Ого", які хацеў вырвацца з ягонай душы, і выразна хацеў змяніць тон гаворкі:

– У сэнсе добра. Вось цяпер, дарагі калега, вернемся да справы. У якой сферы вы хацелі б раскрыцца? А тое, што вы сказалі, застанецца хобі, пражэктам на будучыню. На ваш прыярытэт ніхто не замахваецца. Аўтарскае права за вамі. *Jus utendi et abutendi* – *Право пользования и использования.* Рымскае права дазваляе карыстацца рэччу як хочаш.

– Я, – сціпла сказаў Зяць 2, – марыў заняцца аўтамабілямі. Маю да іх інтарэс з дзяцінства. Але гаворка, на жаль, ідзе не пра мяне. Раз нельга кракадзілаў…

– Ну, чаму нельга, дарагі калега. Jus primae occuputiones – *Права першага захопу.* Проста мы іх пазней выгадуем. Лепш абмяркуем усе рызыкі, перспектывы.

– Ну тады давайце што-небудзь блізкае. Рыба і наогул морапрадукты. Вось да іх ён мае шалёны імпэт. Найперш рыба. Прычым у любым выглядзе. Давайце рыбу. З яе і пачынаў ягоны сябра. Паколькі мы навічкі ў гэтай справе, то хацелася б знайсці партнёраў. Надзейных, зразумела. Мы можам укласці ў справу грошы, абы толькі быў брэнд, бо трэба афіцыйнае прызнанне.

– Пра гэта не турбуйцеся. Гэта якраз наш профіль: падрыхтаваць усё як належыць. Брэнд, рэкламу, неабходныя паперы і рэквізіты. Каб усе адразу адчулі, што на рынку паслуг з'явілася новая магутная і перспектыўная фірма.

– Дык што ў нас з дзелавымі партнёрамі? – усё такі спытаў Зяць 2, які хваляваўся пра прызнанне. Ён не верыў, што нехта яму дапаможа Sine prece, sine pretio, sine poculo – *Без просьбы, без подкупа, без попойки* – Нам трэба, каб будучыя супрацоўнікі былі сумленныя і надзейныя, каб не кінулі нас, а толькі спрыялі нашаму бізнесу. Іх цяжка знайсці ў наш час.

– Яшчэ раз сцвярджаю – не хвалюйцеся. Знойдзем, тым болей на нашай зямлі. У час перабудовы ні ў адным з марскіх партоў, ні ў Рызе, ні ў Хабараўску, ні ў Мурманску шпротаў не было, а ў Бабруйску і Адэсе яны былі. На Палессі гэта не праблема. Разумных людзей у нас багата.

– Зразумела, – усміхнуўся Зяць 2. – А скажыце, да рыбы адносіцца ўсё, што плавае ў вадзе?

Здзіўлены Старшыня яшчэ раз глянуў на яго і моўчкі, адным рухам брыва агучыў пытанне, што вісела ў паветры:

– Я чуў, што французскія манахі лічылі баброў рыбамі.

– Чаму? – адважыўся спытаць элегант.

– Каб можна было яго з’есці без граху ў пост.

– Лагічна, – згадзіўся Старшыня. – Бабёр не толькі жыве ў вадзе сярод рыбаў, але і мае хвост. Прычым такі, што любая рыбіна пазайздросціць. Можа, трошкі іншы, як у нутрыі, якую таксама можна варыць, а сапраўдны, вялікі, магутны. Праўда, на бераг выходзіць. Але ж з кісцяпёрай рыбы, якая выйшла на бераг і дайшла да чалавека, усё і пачалося.

– Вось і цудоўненька, – усклікнуў Зяць і глытнуў карычневай вадкасці з фужэра. – Таму мы будзем лавіць на Палессі не толькі карпа, але і селядца, і палтуса, і ласося. Робяць жа крабавае мяса з хека і мойвы. А баброў будзем прадаваць нібы кенгуру, за якімі вы так плакаліся. А то іх, баброў, развялося столькі, што ўжо добра шкоднічаюць: дамбу разбурылі, сваю плаціну паставілі, паўраёна затапілі. А замест амараў і лобстэраў будзем пастаўляць нашых родных ракаў, якія выраслі да такіх памераў, што на качак палююць, гусям выплыць на возера не дазваляюць, ланцугі перакусваюць клешнямі. Можна новы фільм жахаў здымаць.

– А вы ведаеце, дзе ракі зімуюць? – старшыня прыкметна стаміўся.

– Дзе не зліваюць адыходы хімічнай прамысловасці. Рак – індыкатар чысціні вады і вадаёма. Адзін трактарыст заехаў з бочкай аміяку ў возера. Дык яны ўсе на бераг вылезлі і папаўзлі ў іншую раку, – зрабіў выснову субяседнік.

Старшыня зрабіў выгляд, што не зразумеў, але заўсміхаўся, баючыся, што той і за вугроў возьмецца, якія любяць у навальнічную ноч ласавацца гарохам.

– Як добра, што на свеце яшчэ трапляюцца разумныя і высакародныя людзі. Як назавём фірму з такімі вялікімі перспектывамі, што хутка стане міжнароднай карпарацыяй? І чаму сам гаспадар не прыйшоў на перамовы?

Зяць пачухаў галаву:

– Як назваць? Як назваць? Проста і класічна: “Хвост і кляшня”. Не, жартую. Паколькі мы выходзім на еўрапейскі ўзровень, то і назва павінна быць адпаведнай – “Maksim and company”, “Мэксім унд сябры”, “Максім Глінскі фіш”. Ён любіць фаршаваную рыбу, – па-сяброўску падзяліўся сакрэтам. – А гаспадар робіць рэвізію спадчыны,

накідвае перспектыўныя планы. Заняты вельмі. Тэхнічныя справы даручае памочнікам.

– Добра, добра. Тым болей, *Lucri bonus est odor ex re qualibet* – *Запах прибыли приятен откуда он бы ни исходил*, – зноў успомніў Старшыня Веспасіяна. – Мы ўлічым вашы пажаданні, паглядзім па рэестру, каб не паўтаралася назва. Заплаціце ў касу расходы на афармленне папераў, падайце сакратарам звесткі пра асноўнага трымальніка капіталу, паведаміце, дзе і калі вам ўручыць пасведчанне аб рэгістрацыі фірмы.

– Мы праводзім сімпозіум з нагоды адкрыцця нашай дзейнасці, вось вам запрашэнне. Менавіта там, ва ўрачыстай абстаноўцы і ўручыце ўсе паперы нашаму прадстаўніку, – зусім паддзелавому загаварыў Зяць 2, падаючы таму вялікі і малы канверты. І сустрэў толькі ўдзячнасць. Што ж, грашам усё падпарадкоўваецца – *Pecumiae oboediunt omnia.*

Старшыня падхапіўся, узяў дзвюма рукамі шыкоўны канверт, маленькі прыкрыў кніжкай, усміхнуўся і схіліўся ў паклоне:

– Абавязкова буду. Абавязкова. Перадайце мае шчырыя запэўненні ў вялікай павазе і любові нашаму новаму ганаровому члену.

Потым правёў незвычайнага кліента да дзвярэй і стомлена рухнуў у крэсла. Яшчэ некалькі такіх візітаў, і можна будзе самому падавацца да дзвярэй, абабітых мяккім чырвоным дэрманцінам з надпісам “Псіхіятр”.

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

### *XVIII Miltum interest utrum peccare aliquis nolit aut nesciat – Вялікая розніца – не хацець ці не ўмець саграшыць.*

*Приправа глупости нужна повсюду*

*Но уже настало для нас время, по примеру Гомерову, покинув небеса, спуститься на землю, где мы не найдем ни веселья, ни счастья, которые не были бы моими дарами. Во-первых, увидите вы, с какой прозорливостью чадолюбивая и благосклонная к человеку природа хлопочет о том, чтобы нигде не было недостатка в приправе Глупости. Согласно определению стоиков, мудрость есть не что иное, как жизнь по разуму. Глупость, напротив, жизнь по внушению чувств. И вот, дабы существование людей не было вконец унылым и печальным, Юпитер в гораздо большей мере одарил их чувством, нежели разумом. Можно сказать, что первое относится ко второму, как унция к грану. Сверх того, он заточил разум в тесном уголке черепа, а все остальное тело обрек волнению страстей. Далее, он подчинил разум двум жесточайшим тиранам: гневу, засевшему, словно в крепости, в груди человека, по соседству с сердцем, источником жизни, – и похоти, чья безраздельная власть распространяется на все нижние части. Повседневная жизнь достаточно показует, насколько силен разум против этих двух ворогов. Пусть его вопит до хрипоты, провозглашая правила чести и добродетели. Бунтовщики накидывают своему царю петлю на шею и поднимают такой ужасный шум, что он сдается и на все изъявляет свое согласие.*

*Да и между самими науками превыше всего ценятся те, которые ближе стоят к здравому смыслу, иначе говоря, к Глупости. Голодают богословы, мерзнут физики, терпят посмеяние астрологи, живут в пренебрежении диалектики. Только муж-врачеватель чтится за многих, по слову Гомерову. Но и среди врачей – кто невежественнее, нахальнее, самонадеяннее остальных, тому и цена выше даже у венчанных государей. Да и сама медицина, в том виде, в каком многие ею теперь занимаются, не что иное, как искусство морочить людей, совершенно так же, как и риторика. (Эразм Ратэрдмаскі, “Пахвала Дурасці)*

На гэты раз будынак ветклінікі нельга было пазнаць. Бліжэй за два кварталы ўсё патанула ў вялікім рушэнні, не было нідзе ніякай магчымасці прыпаркавацца, а пра тое, каб ушчаміцца ў дзверы, не

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

было і гаворкі. Натоўп стаяў каменны. Тут былі і мундзіры, і сурдуты, і каўбойкі, і гарнітуры, і джынсы. Былі заўважаны слынныя асобы горада, двойчы мільгала аблічча Натарыуса, але доказаў матэрыяльны, таму не захавалася. Люд стаяў на ганку, у вітальні, вісеў на вокнах, якія, слава Богу, былі закратаваныя. Зяць 1 толькі дзякуючы нахабству і спецыяльнаму пасведчанню, велізарнаму тэрмометру і сосцы для цялят, а таксама сіняму халату, які ён прадбачліва скраў раней, здолеў прабіцца праз натоўп наведвальнікаў, што ледзь не змялі кветкі і шампанскае з цукеркамі з ягоных рук. Стаяў нечуваны гармідар, шум, крыкі:

– Куды прэшся? – пагрозліва бурчэў качок, якога ўсе абыходзілі.

– Трымайце яго, – дзядок спрабаваў схапіць маладзёна, што спрытна абыходзіў старасць на віражах.

– Нагу аддавілі! – лямантаваў худзенькі акулярнік.

– Не пушчаць! – салідна адгукаліся некалькі прыстойных мужчын у гарнітурах з гальштукамі.

– Я ветэран, і то стаю ў чарзе, – казыраў пасведчаннем мужчына з юбілейнымі медалямі.

– Гусак здыхае! – насілася жанчына з птушкай, якая трапілася сюды зусім выпадкова.

– Казёл-наркаман табакі просіць, – верашчаў даўгавалосік, адкрыта правакуючы публіку. Ля дзвярэй кабінета Апякункі стаяў здаравенны прадстаўнік службы аховы, які нікога не пускаў у кабінет, але чамусьці зрабіў выключэнне для Зяця 1. Можа таму, што згадаў чырвонае віно і запляснелы сыр, выкінуты на сметнік.

Нядоўга думаючы, жаніх у перспектыве ізноў кінуўся да Пульхерыі Фемістоклаўны:

– Маё жыццё ў вашых руках. Без вас, без вашай чароўнай усмешкі я не хачу і не магу жыць. Скажыце: “Так”, і я стану самым шчаслівым чалавекам на свеце. Адмовіце, пайду павешуся. Не, утаплюся.

Апякунка радасна, як здалося Казанову, адгукнулася:

– А, гэта вы. Дык вы яшчэ на мінулым тыдні абяцалі скончыць жыццё самагубствам.

Зяцю сталася пагана. Самае страшнае на свеце, гэта калі вас успрымаюць іранічна, з усмешкай пагарды, асабліва калі гэта робіць жанчына. Але, на жаль, старога мядзведзя цяжка навучыць новым трукам. Таму ён у чарговы раз не знайшоў адпаведных слоў:

– То была рэпетыцыя. А цяпер я вырашыў канчаткова. Ратуйце няшчаснага. Не бярыце грэх на душу. Злітуйцеся.

Пачуўшы, што нельга ратаваць тое, чаго зусім няма і ніколі не існавала, Заяц 1 змяніў тактыку – і ў чарговы раз упаў на калені:

– Прашу вашай рукі і сэрца. – Праўда, ён яшчэ не ведаў, як адрэагуе на гэта ягоная жонка, але то былі дробязі ў параўнанні з марай жыцця. Надзеі мужоў усіх эпох і народаў некалі ўвасобіў рымскі паэт Марцыял: *Всех до одной, Фабиан, схоронила подруг Ликорида: вот бы с моею женою ей подружиться теперь!*

– На руках буду насіць. Ногі мыць і ваду піць. Буду, нібы каток – залаты лабок, выконваць усе вашыя жаданні і хаценні.

Аднак велічны маналог растаў у хвалях усеагульнай абыякавасці і раўнадушша. Апякунка зняважліва глянула на прэтэндэнта і засмяялася:

– Ты ў мяне на сённяшні дзень мабыць ужо пяцідзесяты.

Ахоўнік узяў на сябе смеласць папправіць гаспадыню і заявіў, што пяцьдзесят чацвёрты: самыя прыгожыя і не вельмі мужчыны ад 18 да 88 гадоў з ранку да вечара прапаноўваюць свае кандыдатуры на вакантную пасаду мужа Пульхерыі Фемістоклаўны і кожны абяцае ашчасліваць абранніцу:

– За мае ж грошы. За маё жыта мяне і пабіта, – адрэзала Апякунка. – І кожны крычыць, што памрэ, калі я не стану ягонай законнай жонкай. І колькі да гэтага часу памерла адвергнутых каханкаў? – спыталася яна ў ахоўніка.

Пачуўшы ў адказ, што ўсе пакуль жывыя, сказала:

– Я так і думала. Гэта ж трэба, да сарака гадоў жыцця на гэтым свеце ніводнага мужыка ці хлопца не зацікавіла, нікому не была патрэбна, а тут за няпоўны тыдзень паўсотні кавалераў. Пугачова пазайздросціць ці нават Семяновіч з яе цыцкамі.

Заяц 1 зразумеў, што доля дае яму шанец, апошні. А жанчыну можна спакусіць, толькі падпусціўшы лёстачкі:

– Ды вы што? Вы ў сто разоў прыгажэйшая за гэты сілікон, бо ў вас усё жывое, натуральнае. А ўсе жаніхі, што набіліся сюды – мярзотнікі, сцярвятнікі, што зляцеліся на пір. Гэта махляры, бандыты, прайдзісветы. Нам на культурных курсах расказвалі пра Пенелопу, якую атакавалі жаніхі, калі тая чакала свайго адзінага.

Нешта заблішчэла ў вачах жанчыны:

– А ты, значыць, Адысей, якога замест сабакі пазнаў стары кот? Вярнуўся якраз у той момант, калі нахабныя прэтэндэнты патрабуюць ад няшчаснай царыцы зрабіць свой выбар? Будзеш мяне ратаваць і пастраляеш тым часам усіх жаніхоў з лука? А дзе твая зброя?

– Мне не трэба лук, не трэба зброя, бо я сапраўдны Адысей. Усіх канкурэнтаў разганю і так, бо я вас люблю і хачу ажаніцца з вамі…

Аднак усё рухнула ў наступную хвіліну. У кабінет без стуку ўваліліся пенсіянеры з марской свінкай і хамяком у руках, якія збянтэжана ўставіліся на *коленопреклонного* жаніха.

Апякунка абярнулася:

– А гэта што за цырк? Што за пудзілы? Сваты ці жаніхі?

Першы зяць ускочыў з падлогі:

– Не-не! Я не ведаю іх. Гэта не са мною. Гэта нейкія самазванцы. Я сам па сабе. Ганіце іх прэч.

Ён кінуўся да прышэльцаў, ахоўнік намерыўся яму дапамагаць.

– Вы да ўрача ці таксама вырашылі ажаніцца? – губляла цярпенне Апякунка.

Пенсіянеры разгубіліся, бо і самі добра не ведалі, чаго прыперліся:

– А што скажаце, тое і зробім. Мы яшчэ ого-го. А за такія перспектывы згодныя на ўсё.

На гэтым скончылася цярпенне Пульхерыі Фемістоклаўны:

– Вон! Усе вон адгэтуль. І венікі свае забярыце. – Яна шпурнула букет, усе спалохана разбегліся. – Вымятайцеся! Разам са скацінай і віскасам. Кіна больш не будзе.

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

## *XIX Nil mortalibus ardui est –*
## *Няма нічога недаступнага для смяротных.*

*Фортуна благоприятствует глупости*

*Да и может ли быть иначе, ежели сама Рамнузия, управительница всех человеческих дел, до того единодушна со мною, что вечно пылает враждой к мудрецам, а дураков, напротив, даже во сне привыкла осыпать благодеяниями. Слыхали вы про афинского полководца Тимофея, прозванного Счастливым, о котором сложили пословицу: счастье валит к нему и во сне. Напротив, о мудрецах говорится, что родятся они на ущербе, ездят на Сеяновом коне и имеют в карманах тулузское золото. Но хватит с меня пословиц, а то, пожалуй, подумают, будто я украла их из сборника, составленного моим другом Эразмом. Итак, к делу! Фортуна любит людей не особенно благоразумных, но зато отважных, таких, которые привыкли повторять: «Будь что будет». А мудрость делает людей робкими. Поэтому повсеместно увидишь мудрецов, живущих в бедности, в голоде, в грязи и в небрежении, презираемых и ненавистных. К дуракам же плывут деньги, они держат в своих руках кормило государственного правления и вообще всячески процветают. Если счастье состоит в том, чтобы угождать государям и блистать в нарядной толпе придворных, то что может быть бесполезнее мудрости, что губительнее ее для рода человеческого? Если речь зайдет о накоплении богатств, – какого прибытка дождется купец, следующий внушениям мудрости? Ведь он избегает ложных клятв, краснеет, когда его уличат во лжи, придает великое значение всем тем пустякам, которые мудрецы нагородили относительно воровства и ростовщичества. Если церковные почести и доходы прельщают тебя, то знай, что осел или буйвол скорей достигнут их, нежели мудрец. Если манит тебя сладострастие, то помни, что молодые женщины, о которых мы так много говорили сегодня, всем сердцем преданы дуракам, мудреца же боятся и избегают, словно скорпиона. Наконец, все желающие пожить хоть немного приятнее и веселее первым долгом спешат изгнать мудреца и готовы допустить любого скота на его место. Коротко говоря, к кому ты ни обратишься, – к первосвященникам, монархам, судьям, чиновникам, друзьям или врагам, к великим или малым мира сего, – повсюду требуются наличные деньги. А поскольку мудрец презирает деньги, то все дружно от него отвращаются. Но если похвалам, подобающим мне, не может быть ни меры, ни предела, то всякая речь по необходимости должна иметь свой конец.*

*Поэтому я кончаю и лишь предварительно укажу в нескольких словах, что многие изрядные авторы прославили меня и в своих писаниях, и на деле. Не то вы, чего доброго, подумаете, что я одна, словно дура, восхищаюсь собою, и какие-нибудь жалкие законники станут распространять клевету, будто мне не кого сослаться. Итак, последую их примеру, иначе говоря, буду цитировать вкривь и вкось. (Эразм Ратэрдамскі, “Пахвала Дурасці”)*

Раніцай мы складаем планы, а днём робім глупства. Што зробіш, шукальнікі шчасця падобны да п’яніцы, які ніяк не можа знайсці свой дом, хаця добра ведае, што ён у яго ёсць.

Не заўсёды кату масленіца, будзе і суровы пост, – згадалася старая прымаўка, калі Зяць 2 пасля трыумфальнага вырашэння справы з уладкаваннем Максіма ў студэнты філіяла Лондана-Маскоўскага прыватнага інстытута бізнесу і турызму зусім неспадзявана зведаў і шок абломy. Марыш пра вясёлку, будзь гатовы патрапіць пад дождж. А пачыналася ўсё нібыта надзвычай гладка. Ён даведаўся, што аднавяскавец ягонага зменшчыка працуе ў мясцовым ДАІ, выпісвае нейкія паперкі для рэгістрацыі аўтамабіляў ці проста вартуе іх. Пра гэта напарнік не ведаў дакладна, але абяцаў пеpазваніць і бажыўся, што невядомы хлопец самы важны ў гэтай фірме, а для яго зробіць усё, бо з яго бацькам у гады далёкага дзяцінства пасвілі свіней. Зяць 2 доўга дазваньваўся таму, тлумачыў, хто ён такі, ад каго звоніць і ўрэшце рэшт напрасіўся на сустрэчу. Аднак усё атрымалася зусім не так, як распісваў напарнік. У рэгістратара, зразумела, не было часу, каб выслухоўваць усялякіх падазроных асобаў, што прыйшлі прасіць невядома што.

Зяць 2, пачынаючы раз за разам, усё не мог дакладна сфармуляваць мэту свайго прыходу, і таму амаль беспeрапынна мямліў нешта: паперы, дакументы, фатаграфіі. Гэтым вельмі разгневаў свайго субяседніка, які ва ўсіх памкненнях нечаканага візіцёра бачыў таемныя спробы суразмоўніка ўтапіць яго, падставіць пад спакусу. Таму рэгістратар рэзка абарваў:

– Што, машына крадзеная?! Нічога не выйдзе.

Зяць абурыўся, пачаў у чарговы раз тасаваць даведкі і дакументы:

– Вы што, толькі з салону. Вось пячаткі, а вось чэкі. І подпіс дыстрыб’ютара…

Рэгістратар кінуў грэблівы позірк на стос папераў, нібы гідуючыся ўзяць іх у рукі:

– Якраз з гэткіх офісаў і паступае большасць левых аўтамабіляў. Дык афармляйце, раз усё ў парадку.

Зяць 2 агледзеўся па баках і таямніча прашаптаў:

– Нам правы трэба.

І спалохана замахаў рукамі, калі Рэгістратар павысіў голас:

– Што? Не зразумеў.

Зяць без энтузіязму паўтарыў:

– Ну, *pravo jazdy, permis de condiure*, вадзіцельскае пасведчанне.

Рэгістратара ўжо было не стрымаць:

– А што, там, у салоне, дзе бралі аўтамабіль, не маглі купіць?

Зяць зноў замуліўся, адводзячы вочы, хоць разумеў што так нельга:

– Там і купляць не трэба. Вы ж чулі іх слоган: “Кожнаму, хто купіць “Mersedes” – правы бясплатна!”

– Дык у чым жа справа? – усё ніяк не змог зразумець Рэгістратар.

Зяць доўга распавядаў, што ім не спадабалася фатаграфія. Падобнага яны ніколі не рабілі і таму, баючыся за аўтарытэт фірмы, параілі звярнуцца да іх. Рэгістратара гэта адразу не вельмі здзівіла, бо за час сваёй дзейнасці ён не раз сустракаўся з выпадкамі, калі жанчыны адмаўляліся ад вадзіцельскага пасведчання або нават спецыяльна гублялі яго з-за фатаграфіі, якая ім не падабалася зусім. І параіў выкарыстаць мажлівасці фаташопа, які творыць цуд, ператвараючы васьмідзесяцігадовых бабулек у васямнаццацігадовых дзяўчат. Можна зняць аўтаматам хеджаб, акуляры або, наадварот, дамаляваць бараду, вусы. Машынальна ківаючы галавою, Зяць 2 з жалем пацвердзіў, што вусы якраз і ёсць і з-за гэтага ўзніклі ўсе праблемы. Ды і справы зусім у іншым, бо ўсё выглядае значна больш складаным. На што атрымаў філасофскі адказ:

– Няма на свеце нічога, што б не пакарылася савецкім людзям. Дзярзайце, адным словам.

Аднак славуты заклік ніяк не надаў настрою беднаму змагару за шчасце іншых. Таму ён вырашыў заявіць адкрыта:

– Нам трэба вадзіцельскае пасведчанне. Можна без здымка. Проста так. Ну, не зусім проста так. Наадварот, зусім не так, г.зн. не задарма.

Аднак Рэгістратара гэта чамусьці ўзарвала:

– Грамадзянін, перастаньце галаву дурыць. Вы што, звар’яцелі? А ну, дыхніце.

– Нас тут не разумеюць, – пакрыўдзіўся Зяць 2. – А яшчэ савецкія людзі. Пойдзем у пераход, там вырашым усе праблемы. – І

голасна заспяваў: – *Ухарь-купец тряханул серебром: Нет? И не надо! Другую найдем!*

Рэгістратар паспрабаваў яго спыніць:

– Не спяшайцеся. Пачакайце. Давайце пагаворым яшчэ раз.

Але пакрыўджаны Зяць пайшоў шукаць праўды ў падземны пераход, дзе на яго глядзелі як на правакатара, які сам не ведае, чаго хоча. Урэшце рэшт усё завяршылася кампрамісам, ён заказаў фальшывыя правы з фатаграфіяй, на якой было нейкае стварэнне, падобнае адначасова на ката і чалавека. На заўвагі Зяця 2 прадавец ілюзій ні кропелькі не збянтэжыўся, павіншаваў заказчыка з бліскучай ідэяй. Бо, што мы раней бачылі, філасофстваваў ён. Чалавека-павука, чалавека-муху, брыдота нейкая. Чалавек – вянец прыроды і раптам нейкае насякомае, членістаногае. Такі сімбіёз зусім не выклікае ніякай павагі, што тут можа спалучацца – толькі інтэлект і грубая сіла. Спалучэнне ж ката з чалавекам адчыняе зусім іншыя перспектывы, бо яны амаль што родзічы (і той, і іншы прадстаўнікі сямейства сасуноў), а за доўгую эвалюцыю яны зусім парадніліся. І цяпер, калі адбудзецца скрыжаванне прадстаўніка сямейства кашачых і прыматаў, – нас чакае выключны эфект, бо істота, што з'явіцца ў выніку эксперыменту, будзе валодаць лепшымі якасцямі кожнага індывіду: розум, элегантнасць, цярпенне, незалежнасць. На заўвагі, што могуць узмацніцца непажаданыя якасці (лянота, няўменне клапаціцца пра іншых, абыякавасць да нашчадкаў), аўтар новай ідэі заявіў, што гэта ўсё лухта і *происки* прадстаўнікоў ворагаў чалавецтва, якія ўсялякімі спосабамі шкодзяць працэсу ўлівання новай крыві ў стомленыя арганізмы. Гавораць, што калі б звычайны кот меў памеры льва, ён у адзіночку змог бы паляваць на слана: дужы гэты звер у прапорцыях да масы цела. А так уявіце сабе істоту на чатырох лапах, з хвастом і галавою чалавека. Новы сфінкс, які задае загадку ўсяму жывому на зямлі.

Праўда, Зяць 2 быў у душы катэгарычна супраць настроены на ўсялякія эксперыменты. Ён чуў, што ўся пошасць ідзе ад гэтых фізікаў-ядзершчыкаў, што разбудзілі атам, і вейсманістаў-марганістаў, што лезуць туды, куды ім забаронена. Таму адвяргаў заваёвы цывілізацыі: лепш жыць у хацінцы і піць празрыстую вадзіцу з рэчкі, чым у шпакоўні з бетону, дзе булькае іржавае падабенства $H_2 0$. Калі б Зяць 2 жыў у XIX стагоддзі, ён ахвотна знішчаў бы дактароў, што ваююць з халерай, бо лічыў бы іх першымі разносчыкамі заразы. Як цяпер з Эболай у Афрыцы.

Яго, па сутнасці, можна было назваць *dilvinii testes* (сведка патопу), як зняважліва клічуць людзей састарэлых поглядаў. Аднойчы,

калі ён распавядаў, што памятае часы, калі праводзілі на Палессі электрычнасць, нехта з дзетак наіўна-шчыра ці з іроніяй запытаў яго: “А дыназаўраў вы не бачылі?”

А можа, ён быў проста рамантыкам і так хацеў бачыць ля сябе звычайнага коціка, цялятка, казу, а не нейкае пачварнае стварэнне, што з’явілася ў выніку генетычных эксперыентаў. Вось чаму з запалам падтрымаў бы Ул. Высоцкага, які спяваў яшчэ паўвека таму назад, папярэджваючы так званых вучоных: *Собак ножами режете, а это – бандитизм.*

Як бы там ні было, сам Заяц 2 вырашыў прыехаць на аўтамабілі, зарэгістраваным на Максіма Глінскага-Папялінскага, праўда, хаваючы яго дакументы. Але пачатак быў зроблены. Хай і не вельмі ўдалы.

На сонца ў зеніце не глядзіць ніхто, але як толькі свяціла прыкрыцца воблачкам, дзіўляцца ўсе. Удачы чалавека лічацца, але не вельмі старанна, а вось няўдачы бачыць кожны. Паганых людзей добра ведаюць і шмат пра іх гавораць. Вось чаму адна няўдача і сотні ўдач пераважыць. Няшчасце, беднасць, памылкі – заразная хвароба, іх трэба пазбягаць, каб яшчэ болей не заразіцца і не нашкодзіць самому сабе.

Не вельмі пашанцавала Зяцю 2 і ў Загсе, дзе ён адчуваў сябе амаль гаспадаром, бо завязаў добрыя адносіны з жаночым калектывам і яго кіраўніком, маладой і абаяльнай жанчынай. Яе збіў з панталыку адметным пытаннем: “Ці праўда, што ў яе супрацоўніц алергія на шампанскае?” На такі нечаканы зварот абураная кіраўніца адказала, што гэта ўсё плёткі, брахня, а яе дзяўчаты любяць гэты напой, асабліва калі застаецца ад удзячных маладых. Потым яна ўдакладніла, што яны не даюць ганьбы і іншым узорам айчыннай і замежнай алкагольнай прадукцыі. Праўда, калі ён загаварыў пра метрыкі для свайго сябра, то сустрэў нечаканы адпор, і яму з дзясятак разоў паўтарылі, што падобныя заявы кліенты падаюць толькі асабіста. Згадка пра маладзенькі ўзрост патэнцыяльнага збіральніка афіцыйных папераў толькі выклікала чарговую спасылку на інструкцыю:

– Няхай тады бацькі звяртаюцца.

– Ды няма іх, – спрабаваў бараніцца каціны заступнік.

– Памерлі?

– А хто іх ведае? Можа, бадзяюцца дзе па свеце, – з сумам канстатаваў справы наш герой.

Тады спыталі пра апекуна. На гэта Заяц 2 з радасцю паведаміў, што Апякунка ёсць, і вельмі энергічная і жывая:


© PDF: Камунікат.org, 2015

– Тады няхай яна і звяртаецца, – сурова сказала кіраўніца. – Тым болей, паколькі хлопчык маленькі, то можна і пачакаць, а ў школу і дзіцячы садок могуць узяць і з даведкамі.

Зяць 2 ледзь не сапсаваў усю справу, заявіўшы, што хлопцу трэба не ў школу, а ў інстытут, а потым яго чакае войска і жаніцьба. Аднак абаяльная жанчына ўспрыняла гэта як недарэчны жарт і запатрабавала пасведчанне аб нараджэнні, на аснове якога (можна проста даць агульныя звесткі) будзе зроблены запыт, які і пашлюць па месцы нараджэння, каб знайсці першасныя метрыкі. Калі Зяць 2 пачаў гаворку пра тое, што і прыйшоў ён да іх, каб здабыць апошняе, то спыталі, у якіх раддоме той хлопчык нарадзіўся.

– У хлеўным ці крапівінскім, – ніякавата адказаў Зяць 2.

– Дзе ж такія раддомы, – доўга спрабавала высветліць кіраўнічка.

Зяць 2 не адказаў, а звярнуў увагу на тое, што ў аддзеле вельмі мала аргтэхнікі, а супрацоўніцы ўсе паперы запаўняюць уручную: увесь час, нейкія карткі пішуць і пішуць, нібы ў мінулым стагоддзі. У адказ на скаргі на слабое фінансаванне, ён паабяцаў заўтра жа прыцягнуць некалькі кампутараў, устанавіць ім спецыяльныя праграмы, каб айподы і іншая тэхнічная нечысць шукала раддомы, і хлеўныя, і крапівінскія, а супрацоўніцы толькі атрымлівалі б гатовыя даведкі: першасныя, праўдзівыя і без усялякай валакіты. На гэта ўсе згадзіліся. А ў канцы Зяць 2, нібы між іншым, спытаў, ці можна ўступаць у шлюб па даведцы, заверанай натарыўсам, без прысутнасці самога жаніха. На гэта атрымаў даволі суцяшальны адказ:

– Падумаем.

Рэпартаж павінен быў друкавацца ў падвале нядзельнай газеты з працягам. Затое атрымалася найлепш у іншых арганізацыях і ўстановах.

За дзень Максім стаў сябрам таварыства ратавання на вадзе, ганаровым донарам, салістам хору ветэранаў працы, сябрам саюза мастакоў і тэатральных крытыкаў, ганаровым членам аб'яднання "Тавіз" (таварыства аматараў выпіць і закусіць). На тэлебачанні быў запланаваны цыкл перадач пра ката і ягоную выключную ролю ў грамадстве. Што ж, як казаў класік, *пока народ безграмотен, из всех искусств жля нас важнейшим является кино.* Разам з таварыствам аховы прыроды, куды ўступіў Максім, усе выязджалі на паляванне, а Зяць 2 нават тройчы выстраліў у паветра. Сакратар зрабіў адпаведную фотасесію. У яго сабраўся тузін пасведчанняў, прыгожых і раскошных.

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

Максім станавіўся папулярнай публічнай асобай, без якой ужо цяжка уявіць культурнае жыццё горада.

Не ўступаў толькі ў навуковыя таварыствы, баяўся стаць такім, як персанаж Мантэня: *харкающий, с гноящимися глазами, неумытый и нечесаный, он покидает далеко за полночь свой рабочий кабинет: думаешь ли ты, он роется в книгах, чтобы стать добродетельнее, счастливее и мудрее? Ничуть не бывало. Он готов замучить себя до смерти, лишь бы поведать потомству, каким размером писал свои стихи. Или как правильнее пишется такое-то латинское слово.* Баяўся, што навукі заразныя, і гэта паўплывае на здароўе Максіма і ягонай Апякункі.

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

## *XX Is fecit cui prodest –*
## *Зрабіў той, каму выгода.*

*Связь всякого человеческого общества*

*В общем, без меня никакое общество и никакая житейская связь не были бы приятными и прочными. Народ не мог бы долго сносить своего государя, господин – служителя, служанка – госпожу, учитель – ученика, друг – своего друга, жена – мужа, наниматель – домохозяина, сожитель – сожителя, товарищ – товарища, ежели бы они взаимно не заблуждались, не прибегали к лести, не щадили чужих слабостей, не потчевали друг друга медом глупости. (Эразм Ратэрдамскі, "Пахвала Дурасці")*

*Кто шляпу спер, тот и тетку укокошил.*
*Бернард Шоу*

*Калі не можаш зрабіць сам, то хоць перашкодзь іншаму.*
*Філосаф*

Бяда ніколі не прыходзіць адна: беды, як радасці, ходзяць гуртом. Шчасце і няшчасце, самотна і разам, мкнуць туды, дзе атабарыліся іх родзічы. Ад няўдалага ўсе ўцякаюць, да шчаслівага ўсе ліпнуць: нават галубы на самую высокую званіцу садзяцца ці на помнікі прызямляюцца. Гаротнаму ўсе здраджваюць: і Багі, і людзі, і здаровы глузд, і самое суцяшэнне, і нават у дачыненні да самога сябе ён непастаянны. *Бедный повержен везде,* пісаў яшчэ прамудры Саламон.

У самую поўнач, наводзячы жах на рэдкіх мінакоў, над местам разносіўся плач. І па самых слынных і пачварных мясцінах горада соўгалася нейкае дзіўнае стварэнне. *Истинно горюет тот, кто горюет без свидетелей.* Апалагеты рамантызму сказалі б, што гэта чарговы прывід шукаў спагады ў жорсткіх людскіх сэрцах і спрабаваў распавесці пра ўласную трагедыю. Але гора было настолькі вялікім, што неабходных слоў не знаходзілася. І толькі пад раніцу здарылася чаканае: *Et via vix tandem voc laxata dolore est – И с трудом, наконец, горе открыло путь голосу,* і тады ў здані пазналі Зяця 1, які галасіў:

– Усё прапала, усё прапала. *Все расхищено, предано, продано.* Не дапамаглі ні грошы, ні мой прыроджаны розум, ні мая прыгажосць, ні варожка, ні сваха. Усё ляснула: і фунты, і пентхауз, і дача з відам на пачвару. І што мне за радасць засталася?! Пайду ў свет белы, тым болей, што туды мяне ўжо пасылалі.

На яго са спагадай глядзела сонная варона на суку, якая магла б сказаць, калі б гэта была містэрыя, не анекдот: *Qualis artifex pereo – Які артыст гіне*. Да пачварнай птушкі прысуседзіўся нейкі сабака, што прыняў нашага героя за п’янага, ад якога чакаў не толькі маналога, але і гасцінца.

Фінал трагедыі, як і ўсё велічнае, падкраўся цішком. Сёння днём Філасаф расказаў пра тастамент свінні, якую звалі Грунія Каракота, пра што згадваў св. Геранім, і прачытаў “Тастамент парасючка”. І гэта яго канчаткова дабіла. Ананімны твор IV стагоддзя настолькі ўзрушыў Зяця 1, што ён амаль вывучыў яго на памяць, бо ўсюды насіўся з раздрукаванай копіяй. І таму яшчэ раз прачытаў сабаку і вароне, прычым голасна, прыгожа, з інтанацыяй:

*Сим начинается завещание поросенка.*

*Марк Визгуний Хрюкалон, поросенок, составил нижеследующее духовное завещание: поелику же собственноручно начертать не мог, с голосу моего писано.*

*Кухарций-повар промолвил:*

*– Подойди-ка сюда, доморазрушитель, землеразрыватель, беглый подсвинок: нынче я пресеку твою жизнь.*

*Хрюкалон-поросенок отвечал:*

*– Ежели я худое что совершил, либо в чем-нибудь провинился, либо какую ни на есть посудину ногами своими покрутил, то прошу, господин повар, даровать мне жизнь. Пощади молящего.*

*Кухарций-повар молвил:*

*– Ступай-ка, малый, и принеси мне из поварни ножик, чтобы мог я пустить кровь такому-растакому поросенку.*

*И был поросенок слугами схвачен и отведен на убоище за шестнадцать дней до календ месяца Луцерния, когда наливаются почки, в консульство Недосолил и Переперция. И, видя неминучую свою погибель, попросил отсрочки на малый час и вымолил у повара дозволение составить духовную. Призвал он к себе всю родню, дабы завещать каждому от харчей своих. И молвил так:*

*– Родителю моему Свиносалию-Пожиралию отказываю и завещаю желудей тридцать модиев, и родительнице моей Хавронии-Хрюшке отказываю и завещаю лакедемонского жита сорок модиев, и сестрице моей, при чьем заклании мне уже не придется присутствовать, отказываю и завещаю ячменя тридцать модиев. А из останков моих оставляю и завещаю: башмачникам – щетину, задирам – макушку, глухим – ушки, стряпчим и болтунам – язык, колбасникам – кишки, мясникам – окорока, женщинам – ляжки,*


© PDF: Камунікат.org, 2015

*мальчишкам – пузырь, девчонкам – хвостик, кинедам – мышцы, скороходам и охотникам – бабки, разбойникам – копытца. А повару, коего имени и называть не стоит, завещаю пузо и пестик, которые принес с собою в хозяйство; и пусть его от Тебесты до Тергесты на веревке протащат в известное место. И приказываю воздвигнуть мне монумент и на оном золотыми литерами начертать:*

*МАРК ВИЗГУНИЙ ХРЮКАЛОН ПОРОСЕНОК*
*ПРОЖИЛ CMXCIX ЛЕТ С ПОЛОВИНОЙ*
*ЕЖИЛИ БЫ ЕЩЕ ПОЛГОДИКА ПРОТЯНУЛ*
*ТО ВСЮ БЫ ТЫСЯЧУ ОТМАХАЛ*

*Вас же, отменные особы моей любители и жизни моей почитатели, молю с телом моим хорошо поступить, добрым фаршем из орехов, перца и меда хорошо начинить, дабы имя мое вовеки не забылось.*

*Господа и родичи мои, при составлении завещания моего присутствовавшие, прошу вас, повелите оное скрепить.*

*Свиносалий скрепил. Мясон скрепил. Тминношпиг скрепил. Колбасин скрепил. Окорокон скрепил. Сосисон скрепил. Супоросий скрепил.*

*Сим завершается завещание поросенка.*

Варона і сабака высока ацанілі аратарскі талент артыста. Таму і маўчалі.

– Што ж рабіць? – няймелася Зяцю 1. *Все скоро кончится, но раньше кончусь я.* Значыць, усё прапала. Усё застанецца гэтаму дурню, Зяцю 2. Ён ужо і канферэнцыю навуковую запланаваў, вучоных з усяго свету сабраў, дзеячоў культуры наняў: Кабзон з Валерыяй прыедуць, ды і Газманаў прыляціць. Можа, і Галкін падскочыць, цёзкі ж. Усе разам будуць прызнаваць Максіма чалавекам. А пасля кручкатвор зробіць завяшчанне ад Ката. А чаму і не? Ёсць жа завяшчанне ад парасяці. Было ад свінні. Хто наступны?

Беднаму начному артысту яскрава ўбачылася самазадаволенае аблічча швагра, які пералічвае фунты стэрлінгаў. Ён амаль рэальна ўбачыў, як *настоящая жизнь пролетела мимо, радостно трубя и сверкая лаковыми крыльями.* Злосць прымусіла Зяця 1 ускочыць, прычым так рэзка, што перапуджаная варона ледзь не звалілася на сабаку і толькі ў апошняе імгненне спікіравала ў куст, дзе з прарочым карканнем знікла.

– Не бываць гэтаму ніколі. Як сказалі ў кіне, *не доставайся же ты никому. Nec sibi, nec alteri – Ні сабе, ні іншым.* І ў гэтым ён быў

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

шчыры: *ведь чувство и помышление сердца человеческого склонно к злу от юности его* (Быт. 8, с. 21)

Ён знайшоў у кішэні ключы ад ветлякарні і ціхенькімі крокамі падаўся да рэзідэнцыі Максіма. Варты ён не баяўся, бо ў яго быў асобны службовы ўваход. А Максім да яго за гэты час прывык, ці, ва ўсялякім разе, адмоўна не адносіўся, як і не рэагаваў на ўсіх візіцёраў. Тым болей, што на ўсялякі выпадак меў у сумцы валяр'янку і жараную мойву. Нягледзячы на вялікую спадчыну, густ ката не змяніўся, і мяса крабаў яго больш не спакушала. Хаця ён чуў скаргі аховы, што кот жарэ "Рагу з трусіка ў грыбным соўсе", а мы – кітайскую лапшу хуткай варкі з таннымі сасіскамі. Нават аднаго са службы аховы звольнілі за тое, што еў кашэчыя кансервы на пасту. Ды і самому яму здавалася, што Максім глядзеў на яго зрэдку са знявагай: "Вось я кот. А ты чаго дасягнуў у сваім жыцці?".

І сапраўды. Некалі гусянятка Мантэня сцвярджала пра сабе:

*Внимание вселенной устремлено на меня; земля служит мне, чтобы я мог ходить по ней; солнце – чтобы мне светить; звезды – чтобы оказывать на меня свое влияние; ветры приносят мне одни блага, воды – другие; небосвод ни на кого не взирает с большей благосклонностью, чем на меня; я любимец природы. Разве человек не ухаживает за мной, не дает мне убежище и не служит мне? Для меня сеет и мелет он зерно. Если он съедает меня, то ведь то же самое делает он и со своими сотоварищами – людьми, а я поедаю червей, которые точат и пожирают его.*

А што ж тады гаворыць пра ката, велічнага і вялікага звера. Тут, канешне, і ўзнікае комплекс непаўнавартасці. Вунь, у суседняй канторы начальнік прагнаў офіснага ката, які сквапна і пагрозліва ўглядаўся ў ягонае крэсла.

У глыбокай цішыні хутка пачулася:

– Максім, *Мы чужие с тобой на этом празднике жизни,* кіць-кіць-кіць.

– Потым нехта мяўкнуў, і ўсё заціхла.

Згадваючы эвалюцыю чалавецтва, не заўсёды, на жаль, простую і станоўчую, адно ўсцешвае: *Какую поддержку в горестях приносят хорошие природные качества и воспитание, ибо добродетель часто бессильная предохранить себя от посылаемых судьбой бедствий, не теряет способности разумно переносить несчастья, когда они ее постигли.*

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

## *XXI Vulgus vuit decipi, ergo decipiatur – Натоўп хоча быць падманутым, дык няхай падманваецца.*

*Какой комедиант, какой скоморох сравнится с ними, когда они разглагольствуют с кафедры, забавно подражая ухваткам древних риторов? Боже бессмертный, как они кривляются, как кстати повышают голос, как бахвалятся, какие рожи строят, как воют на разные лады! Это ораторское искусство с великой таинственностью передается от одного братца-монаха к другому. Об этом и мне самой не дано знать, я могу говорить здесь только на основании готовых результатов. Прежде всего взывают они к божеству, по обычаю, заимствованному у поэтов. Засим, собираясь говорить о милосердии, заводят речь о Ниле, реке египетской, или, проповедуя о таинстве креста, весьма кстати поминают Бэла, дракона вавилонского. Начав диспут о посте, они перечисляют двенадцать знаков Зодиака и, рассуждая о вере, принимаются толковать о квадратуре круга. Я сама слыхала одного изрядного глупца, – прошу прощения за обмолвку, – одного ученого, который в прославленной проповеди, посвященной толкованию таинства святой троицы, желая дать выгодное понятие о своей начитанности и польстить слуху богословов, прибег к совершенно новому способу, а именно завел речь сперва о буквах, потом о слогах, образующих слова, потом о словах, составляющих речь, наконец о согласовании имен и глаголов, существительных и прилагательных. (Эразм Ратэрдамскі, “Пахвала Дурасці”)*

Да гэтага дня рыхтавалася ўсё прагрэсіўнае чалавецтва. Ну, калі не ўсё, то большая частка. Ва ўсялякім разе, уся грамадскасць рэгіёна. Была арэндавана зала ГКЦ (грамадска-культурнага цэнтра, самая вялікая і прыдатная для правядзення падобных мерапрыемстваў); на вуліцах і плошчах з велізарных бігбордаў усміхаўся кот у адзенні патрыцыя з кубкам у руках і вянком з лаўравымі лісточкамі на галаве; газеты надрукавалі прэс-рэліз аб грандыёзнай падзеі ў духоўным жыцці горада; усе каналы тэлебачання круцілі рэкламныя ролікі, на якіх маладыя кабеты, сталыя мужчыны і сівыя прафесары запрашалі кожнага прыняць удзел у вялікім сімпозіуме. *И сказал господин рабу: пойди вдоль улиц и изгородей и заставляй выйти, чтобы наполнился дом мой.* Вось чаму у дзень правядзення чытанняў сабраліся прадстаўнікі рабочых калектываў, вучоныя, творчая інтэлігенцыя.

Ад сафітаў тэлекамераў паплылі румяны на ланітах і туш на вейках жанчын усіх узростаў і сацыяльных станаў. Каты ўсіх пародаў з усіх краін, сабраныя на выставу, мяўкалі на ўсіх мовах свету. Сям-там чуліся спрэчкі з-за месцаў бліжэй да прэзідыума, які налічваў з паўсотні шчаслівўчыкаў. Сярод знаёмых твараў свяціліся ўсхвалявана-ўрачыстыя аблічча Сакратара, Старшыні, Лідара, Свахі, Філосафа, гаварылі, што бачылі і Натарыуса, але паколькі яго не было ў прэзідыуме, то значыць, што не было наогул. Пульхерыя Фемістоклаўна, хоць і была афіцыйна і не аднойчы запрошана і на канферэнцыю, і ў прэзідыум, а затым і на неафіцыйную частку, дэманстратыўна праігнаравала гэтыя сімпозіумы, уклаўшы у гэтае слова першароднае значэнне – п’янка. Старшыня гільдыі прадпрымальнікаў сышоў з дыстанцыі датэрмінова. Нягледзячы на свой прызнаны розум і ўхваленую і зразумелую асцярожнасць, ён усё-такі дапусціў памылку: у інтэрв’ю на тэлебачанні расказаў пра перспектывы гадоўлі катоў і кракадзілаў у прамысловых маштабах, пасля чаго яго перасталі зваць афіцыйна, таму ён быў прадстаўлены як незалежны ўдзельнік. Старшынстваваў на пасяджэнні Рэктар філіялу маскоўска-лонданскай прыватнай ВНУ, які ўрачыста і велічна выступіў з прывітальным словам. Ён добра ведаў, што прамова павінна мець добры зачын і не менш эфектны фінал. Галоўнае, каб гэтыя дзве часткі былі як мага бліжэй адна да другой. Таму гаварыў узнёсла і велічна:

– Шаноўныя калегі! Сябры! Лэдзі і джэнтльмены! Господа! Панове! На маю долю выпаў вялікі гонар – мне пашчасціла адкрыць навуковую канферэнцыю “Кот і чалавек: праблемы і перспектывы ўзаемадзеяння”. Мы рады вітаць вучоных з усёй Еўропы, але асабліва прадстаўнікоў Егіпта і Індыі, краін, адкуль паходзіць герой нашага сённяшняга кангрэсу.

Дазвольце сардэчна і ад усёй душы прывітаць ганаровага ўдзельніка канферэнцыі, нашага дарагога спонсара… Імя не пачулі, бо ўсё патанула ў шквале апладысментаў.

Работа нашага паважанага і аўтырытэтнага сімпозіума будзе весціся традыцыйна: спачатку пленарнае пасяджэнне, затым работы ў секцыях. Па выніках канферэнцыі будзе прынята адпаведнае заключэнне, таму ўжо цяпер можна падаваць свае прапановы. Усе пададзеныя матэрыялы будуць надрукаваны ў асобным зборніку, прычым зусім бясплатна, як абяцаў нам паважаны спонсар.

Ізноўку раздаліся апладысменты, якія перайшлі ў авацыю, бо аб’явілі, што падчас перапынку будзе фуршэт. Пасля абеду, бясплатнага, зразумела – экскурсія на пераходзе, а вечарам – банкет.

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

Усе былі вельмі задаволеныя, кажуць, што гучалі нават віваты. Калі эмоцыі крыху заціхлі, Рэктар працягваў:

– Гісторыя гэтай дзіўнай істоты, ката, *Felis domestica* па латыні, *cat* па-англійску, пачынаецца з далёкіх часоў, калі па зямной кулі бадзяліся дыназаўры і маманты. Аднак яны аказаліся вельмі слабымі супернікамі для нашага героя, які валодаў не столькі сілай, колькі вялікім розумам. Менавіта таму больш магутныя, але недалёкія ў інтэлектуальным развіцці істоты і вымерлі. Можна сказаць, выкарыстоўваючы лексіку спартоўцаў, былі дыназаўры і каты. Засталіся апошнія. Былі маманты і каты, хто перамог, вядома ўсім.

Ён вытрымаў паўзу, абвёў залу натхнёным позіркам і ўрачыста завяіў:

– Цяпер засталіся людзі і каты. Я нічога не хачу сказаць, толькі падкрэсліваю той факт, што наш далікатны і разумны звер выйшаў у фінал. Цяпер папрашу ўсіх кіраўнікоў секцый абазначыць тэзісна асноўныя напрамкі будучых дыскусій.

Першымі выскачылі на сцэну дзве скручаныя і зморшчаныя бабулькі, якія ўрачыста заявілі, што хоць іх і не запрашалі на канферэнцыю, але яны не маглі застацца ў баку ад вырашэння такой складанейшай праблемы і таму прабіліся самастойна і стварылі ўласную секцыю, дзе будзе разглядацца найактуальная тэма – “Вобраз ката ў святле традыцыйнай культуры”.

– Заяўленая праблема, гнусава даводзілі яны, перабіваючы адна адну, бо так хацелася быць першай, – мае выключнае значэнне для эканамічнага развіцця не толькі нашай краіны, але і ўсіх суверэнных дзяржаў, што знаходзяцца на стыку ўзаемадзеяння і эвалюцыі культуралагічных уплываў розных цывілізацый і тым самым вызначае вектар далейшага развіцця грамадства.

Публіка адразу звар’яцела ад перспектыў уплыву кацінай культуры на эвалюцыю чалавецтва і заціхла, чакаючы новых азарэнняў, не сумняваючыся, што яны пацягнуць на шнобелеўскую прэмію.

Каб пераканаць усіх у сваёй вучонасці, дакладчыцы, якіх адразу назвалі *браты Грым*, зрабілі роўна дваццаць пяць спасылак на аўтарытэтнейшых вучоных з розных краін, што склала роўна 95% тэксту выступу, як палічыў Краязнаўца. Ён жа адразу пусціў па радах эпіграмку: *Платон усеўся на Сакрата // І Цыцэронам паганяе.*

Філасаф добра ведаў практыку дзейнасці *братоў Грым*, таму згадаў Эразма, які такіх вучоных апісаў яшчэ пяцьсот гадоў таму: *Но еще хитрее те, которые под видом своего издают чужое, присваивая себе славу чужих трудов, в той надежде, что если и уличат их когда-нибудь в литературном воровстве, то все же в течение некоторого*

*времени они смогут пользоваться выгодами от своей проделки. Стоит посмотреть, с каким самодовольством они выступают, когда слышат похвалы себе и когда в толпе на них указывают пальцами – это, мол, такой-то, знаменитость, когда видят они свои книги в книжных лавках и читают на каждой странице свое имя, сопровождаемое двумя или тремя прозвищами, по большей части чужеземными или заимствованными из старинных книг. Так, один тщеславится именем Телемаха, другой – Стелена или Лаэрта, этот – Поликрата, тот – Тразимаха. С равным успехом иной мог бы назваться Хамелеоном или Тыквой либо обозначить свои книги по обычаю философов буквами альфа, бета и т. д. Но всего забавнее, когда глупцы начинают восхвалять глупцов, невежды – невежд, когда они взаимно прославляют друг друга в льстивых посланиях, стихах и панегириках. Один производит своего приятеля в Алкея, другой – в Каллимаха, это возвышеннее Цицерона, этот ученее Платона. Иные ищут себе соперников, дабы соревнованием умножить собственную славу. Мудрецы смеются над этим, как над великой глупостью. Нет спора, это воистину глупо. Но зато, по моей милости, живут эти люди в свое удовольствие и не променяют мнимого своего торжества даже на Сципионовы триумфы.*

Але *браты* не сунімаліся. Захапляючыся ўласнай рыторыкай, яны суладна дудзелі:

– Мы імкнемся паказаць вобраз Ката, гэтай паэтычнай і загадкавай істоты, амбівалентна, бо ў ёй спалучаны арганічна і непадзельна, вялікі гуманістычны пачатак.

Тыя, што сядзелі далёка ад трыбуны, чулі толькі воклічы захаплення: Ух, кот! Ах, кот! Эх, кот!

А прэзідыум слухаў узнёслую лухту далей.

– Як сказаў вялікі вучоны, – праз шум не пачулася прозвішча, – якраз каты прыдумалі сваім мурканнем калыханку для дзяцей (глядзі запісы экспертызы 1204 года ў Аравійскай пустэльні). Разам з тым яны звязаны і з сусветным злом, пра што гаварыў яшчэ Фрэзер, згадаем ролю, якую адыгрывае кот як спадарожнік ведзьмы або Бабы-Ягі.

*Simian quat similis, turpissima bestia, nobis – Как похожа на вас обезьяна, безобразнейшее животное,* – узнікалі самыя дзіўныя асацыяцыі ў свядомасці найбольш адукаванай часткі форуму. Многія слухачы дзівіліся, а некаторыя паўтаралі верш Гарацыя: *Эта дремучая чушь какое имеет значение?*

– Самі вы браты па розуму, – сонна падумалася прысутным, якія ў выступоўцах на самой справе разгледзелі рысы легендарнай

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

уладаркі царства мёртвых. А кот сапраўды сваім муркатаннем, згадаем хоць Ката Баюна, наводзіць сон на падарожных, а потым іх паядае.

– Яны самі каго хочаш з'ядуць, паралізаваўшы сваім муркатаннем свядомасць чалавека. І хто гэтых жанчын пускае ў навуку? А я ледзь не адкрыў спецыялізацыю "Гадаванне коткаў у рэгіянальнай традыцыі". Бог зміласцівіўся. – Рэктар філіяла прыватнай ВНУ манатонна ўслухоўваўся ў траскучыя фразы. Жанчына-вучоны падобная да марской свінкі. Як апошняя не мае ніякіх адносін ні да свіней, ні да мора, так і першая не мае ніякай повязі ні з жанчынамі, ні з навукай. Аднак узбуджаныя *вучоныя* не суніміліся. Звычайна яны сядзелі ў сваіх лабараторыях, нібы змеі ў норах, і выпаўзалі зрэдку, спрабуючы каго-небудзь укусіць, а здабычу, знойдзеную, супернікамі, зацягнуць у логава. Невыпадкова сярод начальства хадзіла папярэджанне – калі будзеш здымаць штаны, каб с…у лізалі, беражы яйцы, адкусяць. Зараз яны крычалі, каб роднага ката зрабіць аб'ектам нематэрыяльнай культуры пад эгідай Юнеска. Многія засмяяліся з гэтай прапановы, бо адчулі, што дунькі збіраюццарвануць у Парыж, у Еўропу. Аднак усе актыўна паляскалі вучоным *братам Грым*, якія добра пацешылі публіку. Пад гэты шумок да трыбуны падскочыў яшчэ адзін вучоны, які хацеў асвятліць праблему і гендэрным аспекце, бо тут схавана яўная несправядлівасць: з'есць ваўчыца каня, а кажуць воўк з'еў; нашкодзіць зайчыха ў садзе, а гавораць – заяц пагрыз шчэпы. Дзеля гэтага папрасіў вялікія грошы на правядзенне глабальнага эксперыменту: завесці нашых катоў у Кітай і доследным шляхам праверыць, ці змогуць яны паразумецца з мясцовымі кошачкамі. Вынікі эксперыменту будуць мець выключнае значэнне для сусветнага мовазнаўства. Каб хутчэй прагнаць дакладчыка, прапанову паабяцалі разгледзець.

Вельмі ўсцешыла навуковую грамадскасць заяўка Архіварыуса і Геральдыка ў адной асобе. Ён натхнёна і ўзнёсла, з выкарыстаннем слайдаў і іншых тэхнічных сродкаў, расказваў пра раскопкі, якія правяла ягоная фірма ля славутага замка Печ, што быў схаваны ад вока сусветнай цывілізацыі, нібы Анкорн у Кампучыі. Там, праўда, бамбукам усё зарасло, а тут занесла торфам і зорным пылам. Аднак адважным далакопам удалося вярнуць згубленае ў акіяне часу і вярнуць, нібы легендарную Атлантыду, людству. Тым самым было даказана, што тут яшчэ да нашай эры жыў магутны князь з гербам, на якім значыліся выявы печы, тыгра і мышкі. І гэта ў сваю чаргу сведчыла пра высакаразвітую цывілізацыю на Палессі, дзе і быў цэнтр культуры, які не саступаў агменям цывілізацыі ў іншых

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

рэгіёнах свету. Адтуль і паходзяць продкі славутага роду Глінскіх-Папялінскіх.

Каб узмацніць уражанне, двухаблічны Янус паказаў усім паперы, якія ён знайшоў у архівах суседніх сталіц, трос імі перад прэзідыумам і залам. Публіка аж стагнала, калі ён паклікаў да сябе спонсара і ўрачыста заявіў:

– І таму я хачу на гэтым высокім форуме ўручыць стылізаваны герб нашаму герою.

Пасля авацый слова далі Сакратару:

– А цяпер я прэзентую тэму “Вобраз ката ў мастацкай літаратуры, кіно і масавай песні”. Тут вам не фальклорныя дрындушкі, а вялікае мастацтва: згадаем дзённікі, г.зн. споведзь вялікай душы ката Мурра з твора Гофмана, а таксама ролю ката ў стварэнні сацыяльных адносін паводле казкі Кіплінга. Уславім і подзвіг ката на Ноевым каўчэгу, калі наш герой абараніў харчы ад мышэй і тым самым выратаваў свет.

А цяпер хачу з усімі падзяліцца вялікай радасцю. Мы знайшлі верш, напісаны нашым героем:

Пераплыўшы мора лоўка,
Кот Мурлыкавіч з’еў воўка.
Скуру вывесіў сушыць,
Каб кажух сабе пашыць.

Гэта сведчыць, што каты былі адважнымі мараходамі, і яны ваявалі з дужымі супернікамі, якіх здолелі перамагчы. Мы адкрылі гераічны эпас, напісаны нашым вялікім земляком Максімам Глінскім-Папялінскім. Гэта сапраўдная з’ява ў сусветнай культуры. Матэрыялы выключнай навуковай і эстэтычнай вартасці мы выдадзім асобнай кнігай з ілюстрацыямі і фатаграфіямі славутых мясцін. Менавіта таму мы ўрачыста прымаем выдатнага паэта ў творчы саюз.

Апошнія словы патанулі ў шквале апладысментаў.

Зараз наш саюз завяршае кнігу пра гераічны лёс гэтай выбітнай асобы. Няма сумнення, што кніга стане ўзорам для тых, хто збіраецца рабіць жыццё з вялікіх. Выходзіць і манаграфія, прысвечаная генезісу і значнасці верша.

Лідар партыі Мур-Мур быў, як і яго патрон, лапідарным і афарыстычным:

– Я прадстаўляю тэзіс аб выключнай ролі гэтай адметнай істоты ў развіцці сусветнай цывілізацыі, бо менавіта кот быў сімвалам свабоды і незалежнасці, да якой дарэмна імкнулася чалавецтва за апошнія пяць тысяч гадоў. Невыпадкова ягоная выява была на сцягах паўстанцаў Спартака, а славутае “Я гуляю сам па сваіх

Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015 © PDF: Камунікат.org, 2015

сцяжынках” назаўсёды стане сімвалам пошукаў чалавекам кацінага шчасця. Як казаў нобелеўскі лаўрэат Пётр Капіца, *собрать стадо из баранов легко, трудно собрать стадо из кошек.* У сённяшняй газеце надрукавана ілюстраваная біяграфія героя. Запрашаю ўсіх азнаёміцца з *этапами большого пути Максима.*

Лідэр раздаў экземпляры газеты, таму і яго віталі цёпла.

– Якое глупства гэтая слава, – падумаў Філосаф, згадаўшы сваіх вялікіх настаўнікаў, найперш Мантэня.

Аднак народ у думках ужо ляцеў на параход, хацеў прыроды і цыганоў. Што зробіш, такая натура чалавечая: *Panem et circenses*, – сумна падумалася Рэктару. – Плебсу трэба толькі хлеб і цырк. Таму ён вырашыў зрабіць перапынак:

– Добра, на першы дзень хопіць. Заўтра мы рагледзім уклад нашага героя ў дэмаграфію, жывапіс, фізіку і хімію, а таксама малекулярную біялогію і генетыку. Увечары ў рамках нашай канферэнцыі адбудзецца абарона дысертацыі “Спецыфіка афарбоўкі катоў ва ўмовах мінімальных дозаў радыяцыі”. А сёння прапаную падумаць аб тым, як увекавечыць памяць ката. Можа стварыць яму помнік, назваць вуліцы і праспекты?! Ёсць жа горад Катоўск, вёска Котава. Аляксандр Македонскі назваў горад у гонар свайго каня, а чым наш герой горшы? Давайце падумаем разам і вырашым гэтую найскладаную навуковую праблему.

Раздаліся апладысменты. Рэктар прыватнай вну хацеў аб’явіць далейшы парадак чытанняў, але раптам да Зяця 2 падбег узбуджаны сакратар канферэнцыі і перадаў таму лісток паперы. Прабегшы яго вачыма, Зяць 2 спалохана ўсклікнуў:

– Кот прапаў! Максім знік! Божа, што ж рабіць? Гэй, вучоны! – крыкнуў ён старшыні пасяджэння. – Закрывай гэты бедлам. Дзе Натарыус? Папярэджваў гэты даўгарукі заграбальнік грошаў, родзіч д’ябла, што ўсё можа так трагічна скончыцца. Дзе ж ён, дарагі Максім?!..

Усё паплыло, нібы ў тумане…


© PDF: Камунікат.org, 2015

## *Epilogos –*
## *Эпілог*

Усё ж гісторыя паўтараецца двойчы. Спачатку як камедыя, затым саступае месца трагедыі. Назаўтра паўтарылася карціна з пралогу. Да хат зяцёў пад’ехаў шыкоўны лімузін. З яго выйшаў чалавек у чорным сурдуце, які ўручыў кожнаму з іх шыкоўны канверт з залатымі вензелямі; дзе паведамлялася, што глыбокапаважаная Адэля Збароўская вярнулася з паездкі за мяжу і адмяняе свой папярэдні тастамент. Яна зычыць здароўя ўсім героям і поспехаў у асабістым жыцці. Асабліва яе ўсцешыла прадпрымальніцкая хватка і нечаканая крэатыўнасць некаторых асоб. Таму ўсё гэта будзе ўлічана ў новым тастаменце. А кот Максім знайшоўся і пайшоў на заслужаны адпачынак.

© Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015

© PDF: Камунікат.org, 2015